СЭРЫЯ

# ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ІНСТЫТУТУ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ ПАРТАКТЫВУ пры ЦК КП(б)Б

КУРС ПАДРЫХТОЎЧЫ

І ПЕРШЫ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

№ 6

ІНСТЫТУТ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ
ПАРТАКТЫВУ пры ЦК КП(б)Б

# ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ



С Э Р Ы Я

## ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

КУРС ПАДРЫХТОЎЧЫ І ПЕРШЫ

№ 6
ЧЭРВЕНЬ

МЕНСК
БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА 1931

# Беларуская Мова

**Аддзяленьні падрыхтоўчыя.**
*Курс вядзе* І. Ю. МІЦКЕВІЧ.

## ЗАДАНЬНЕ ШОСТАЕ.

## А. З МОРФОЛЁГІІ.

### ЧАСЬЦІНЫ МОВЫ І ІХ ПАДЗЕЛ.

### § 86 Агульнае разуменьне пра часьціны мовы.

Мы знаёмы з часьцінамі сказу. Мы ведаем, што ня ўсе словы могуць быць часьцінамі сказу (глядзі заданьне 2, § 7 „Заўвага“). Мы ведаем, што часьцінамі сказу ня могуць быць і ня бываюць словы дапаможныя; што часьцінамі сказу могуць быць толькі словы называльныя, г. зн. такія словы, якія даюць нам тое ці іншае ўяўленьне пра прадмет (*стол, чалавек, расьліна*), пра прадметнае разуменьне (*страх, вяселасьць, сьпевы*), пра дзеяньне ці стан прадметаў (*кашу, возіць, нясе, думаю, сядзіць*), аб розных прадметных прыметах (*чырвоны, вяселая*) ці розных акалічнасьцях (*тут, скора, сьмешна*).

Але, з другога боку, мы дасканала ведаем, што ў мове нельга абыйціся бяз слоў дапаможных (глядзі той-жа § 7), што яны ў мове маюць часта такое-ж важнае значэньне, як і словы называльныя. Вось таму і дапаможныя словы, не зьяўляючыся членамі сказу, будуць зьяўляцца членамі, ці часьцінамі мовы, бо бяз іх, як і бяз слоў называльных, абыйціся ў мове нельга.

Такім чынам, **часьцінаю мовы** называецца ўсякае слова і н а з ы в а л ь н а е і д а п а м о ж н а е, якое мае ў мове пэўнае значэньне, адыгрывае пэўную толькі яму ўласьцівую роль.

Адгэтуль, у кожным сказе членаў сказу будзе столькі, колькі ў ім называльных слоў, а слоў, якія зьяўляюцца часьцінамі мовы, столькі, колькі ў ім слоў наогул.

> І над гаем, рэчкай, кручай,
> дзе спрадвеку пыл ды мох,
> бляск электрыкі гаручай
> праімчыцца ў правадох.
>
> Лявонны.

У даным складаным сказе членаў сказу адзінаццаць, а слоў часьцін мовы 16 (праверце).

## § 87. Часьціны мовы зьменныя і нязьменныя.

Пераважная большасьць слоў, г. зн. часьцін мовы, маюць здольнасьць мяняць сваю форму і значэньне ў мове, мяняючы свае канчаткі—флексіі (глядзі заданьне 5-е, § 73).

Тыя часьціны мовы, якія маюць уласьцівасьць мяняць сваю форму праз зьмену канчаткаў-флексій, называюцца **зьменнымі часьцінамі мовы.**

Да зьменных часьцін мовы належыць пераважная большасьць слоў называльных, якія зьяўляюцца і членамі сказу, напрыклад:

| I. сястр-а, | акн-о | сад-ы | пол-е |
|---|---|---|---|
| сястр-ы | акн-а | сад-оў | пол-ем |
| сестр-амі | акн-ом | сад-амі | пол-ямі і г. д. |

| II. Добр-ы | сін-і | III. глядж-у | малю-ю |
|---|---|---|---|
| добр-ага | сін-яга | глядз-іш | малю-еш |
| добр-ымі | сін-імі | глядз-іць | малю-е і г. д. |
| і г. д. | | | |

Зьмена формы слова праз зьмену канчаткаў неабходна, як нам вядома, для правільнае пабудовы сказаў, для ўстанаўленьня ў іх рознага роду граматычных і лёгічных слоўных сувязяй (гл. заданьне 2-е, § 8, вывад 2 і заданьне 5-е, § 73).

Але поруч з зьменнымі часьцінамі мовы мы маем часьціны мовы нязьменныя, г. зн. такія часьціны мовы, якія пры ўсякай пабудове сказаў, пры ўсіх бяз выключэньня словазлучэньнях застаюцца нязьменнымі.

Да гэтай другой групы часьцін мовы, да групы слоў нязьменных перш за ўсё адносяцца словы бясформеныя, якія ў сказе служаць толькі словамі дапаможнымі, напрыклад:

*над, пад, каля, дзеля* (*для*), *без* (*бяз*), *але, к, да, і, ці, вось, ой, эх* і др.

Аднак, да нязьменных-жа часьцін мовы адносіцца яшчэ цэлая група слоў форменных, якія маюць усе прызнакі канчаткаў (*добра—добр-а далёка—дал-ёк-а*) і іншых форменых частак слова (*уверх—у-верх, наўмысьля—на-ў-мысьл-я*), але якія ня маюць здольнасьці мяняць сваіх канчаткаў і застаюцца ў сілу гэтага застылымі, закасьцянелымі ў сваёй форме. Да гэтае групы нязьменных слоў адносяцца ўсе называльныя словы, якія ў сказе служаць акалічнасьцямі:

*сёньня, пасьля, слаўна, хараша, уверх, уніз, далёка, глыбока, вярхом, пяшком, улетку* і г. д.

Да групы слоў нязьменных адносяцца яшчэ і некаторыя іншыя катэгорыі слоў форменых, з якімі мы сустрэнемся пры вывучэньні кожнае паасобнае зьменнае часьціны мовы.

Абагульняючы ўсё сказанае пра зьменныя і нязьменныя часьціны мовы, мы прыходзім да наступнага вываду:

З а ў в а ж ц е:

1. Па формальных прызнаках, г. зн. па прызнаку зьменнасьці ці нязьменнасьці канчаткаў-флексій, часьціны мовы перш за ўсё падзяляюцца на дзьве асноўныя групы: **часьціны мовы зьменныя і часьціны мовы нязьменныя.**

2. Да зьменных часьцін мовы належаць такія формены слова, якія маюць канчатак-флексію ці могуць яе далучаць да сябе (*брат, брат-а, брат-ам*), але-ж пры ўмове, што іх канчатак-флексія ня страціла ўласьцівасьці пры розных словазлучэньнях зьмяняцца на іншыя канчаткі-флексіі.

П р ы к л а д:

*Сядз-яць знаём-ыя людз-і.*

*Знаём-ых людз-ей,* што тут *сядз-елі,* зараз ня бачна.

Такім чынам, усе словы першага сказу—словы зьменныя, бо іх канчаткі пры іншай комбінацыі слоў у другім сказе сталі зусім іншымі па форме: *сядз-яць—сядз-елі, людз-і—людз-ей, знаём-ыя—знаём-ых.*

3. Да нязьменных часьцін мовы належаць, па-першае, усе словы бясформеныя, якія служаць у сказе словамі дапаможнымі, і, па-другое, тыя з форменых называльных слоў, канчаткі-флексіі якіх утрацілі ўласьцівасьць „згінацца“, г. зн. замяняцца пры словазлучэньнях у сказе на іншыя канчаткі-флексіі.

П р ы к л а д ы:

*Там зараз* нас няма, *дзе* былі мы *раней.*

*Там, дзе раней* расьцілаліся адны гіблыя балоты, *зараз* разлягліся колгасныя культурныя палі.

У кожным сказе вылучаныя намі словы (*там, зараз, дзе, раней*) знаходзяцца ў сваясаблівым словазлучэньні, а тым часам форма іх, іх выгляд застаецца ўсюды нязьменным. І ў якія-б словазлучэньні мы іх ні ўключалі, яны застануцца ўсюды ў той застылай, закасьцянелай форме, у якой яны знаходзяцца ў прыведзеных вышэй прыкладах. Значыць, словы: *там, зараз, дзе, раней*—словы бязумоўна нязьменныя.

*ЗАДАЧА 121:*

Сьпісаць ніжэй паданы верш, падкрэсьліваючы часьціны мовы зьменныя простаю рыскаю, а нязьменныя пакручастаю.

I.

Дзын.... дзын.... дзын....  
Без пятнаццаці сем гадзін.  
Роўна а восьмай збор —  
ведае кожны двор.

Учора колгасны сход
абмеркаваў паход.

II.

Сонца рупліва
уздымаецца ўгору;
промні цымбаляць
у вокны дамоў.
Чуецца лёскат
спружынавых боран
ядраны звон лемяшоў.
Скрыгаюць—цыгаюць
дзьверы, вароты,—
набліжаецца час работы.

III.

Дзын.... дзын.... дзын....
Без пятнаццаці восем гадзін
Роўна а восьмай збор —
ведае кожны двор.—
А восьмай, не пазьней,
для коняй і людзей.

**Ракіта.**

## § 88. Падзел зьменных часьцін мовы.

Возьмем рад форменых зьменных аднакарэнных слоў, але з рознымі формальнымі часткамі, і прасочым, у якім сэнсе і ад якіх прычын адбываецца ў іх зьмена флексій.

Возьмем, напрыклад, карэннае слова *„говар“*, і ўтворым ад яго такі рад слоў:

*гавар-у, гавар-ліў-ы, гавор-к-а.*

Дзякуючы розным формальным часткам, мы ад аднаго кораню *„говар“* атрымалі тры віды слоў, якія адказваюць на розныя пытаньні і выклікаюць у нашай сьвядомасьці тры зусім розныя прадстаўленьні, тры зусім розныя разуменьні.

Першае форменнае слова *„гавару“* адказвае на пытаньне, што раблю? і адбываецца ў нашай сьвядомасьці, як слова дзеяньня, слова пэўнае чыннасьці. Другое слова *„гаварлівы“* адказвае на пытаньне які? і ўяўляецца намі, як пэўная прымета. Нарэшце, трэцяе слова *„гаворка“* адказвае на пытаньне х т о—ш т о? і ўяўляецца намі, як пэўная зьява, што выклікае пэўнае прадметнае разуменьне, падобнае, прыкладна, да таго разуменьня, якое выклікаецца такімі словамі, як: *шапк-а, сьценк-а, вішаньк-а, дарог-а, вад-а, галав-а* і г. д.

І трэба тут-жа адзначыць, што ад любога кораню мы можам утвараць толькі тры віды з ь м е н н ы х слоў: словы дзеяньня ці стану,

якія будуць адказваць на пытаньне што рабіць? што робіць? што рабілі? і г. д.; потым словы—прыметы, якія будуць адказваць на пытаньне які? якая? якое? каторы? і г. д.; нарэшце, словы прадметных разуменьняў, што будуць адказваць на пытаньне хто—што? каго—чаго? кім—чым? і г. д.

Іншых відаў форменых зьменных слоў у нашай мове ня існуе.

Пасьля гэтага дасьледуем, якую форму могуць прымаць узятыя намі словы пры кожнай зьмене іх канчатку-флексіі і якія моўныя фактары выклікаюць самую зьмену канчаткаў кожнага данага слова.

## § 89. Зьмена слоў ў асобах. Дзеяслоў.

Возьмем слова *„гавару“*. Як слова форменае, яно, зьмяняючы сваю флексію, можна набываць у жывой гутарцы такія формы:

Я — (што *раблю?*)—гавар-*у*
Ты— (што *робіш?*)—гавор-*ыш*
ён, яна, яно — (што *робіць?*)—гавор-*ыць*

Мы—(што *робім?*)—гавар-*ым*
Вы—(што *робіце?*)—гавор-*ыце*
Яны—(што *робяць?*)—гавор-*аць*

Такую форму зьменнасьці слова называюць **зьменаю ў асобах** і таму іменна, што кожная новая форма слова зьяўляецца ўсякі раз, як толькі мы яго злучым граматычна з новаю асобаю.

Асоб-жа ў нашым разуменьні тры:

Першая асоба—*я—мы*—абазначае таго, хто сам гаворыць; *я жартую, маўчу*; *мы жартуем, маўчым.*

Другая асоба—*ты—вы.* Яна абазначае таго, каму непасрэдна гавораць пра яго-ж: *ты жартуеш, маўчыш, вы жартуеце, маўчыце.*

Трэцяя асоба—**ён** (*яна—яно*)—яны. Гэтая асоба абазначае таго ці тое, пра каго ці пра што гаворыцца: **ён** (*яна—яно*) жартуе, маўчыць; **яны** жартуюць, маўчаць.

Такім чынам, узятае намі слова *„гавару“* мае ўласьцівасьць зьмяняць свае канчаткі ў залежнасьці ад асобы, пры чым у сказе яно будзе заўсёды граматычна злучана так: 1) пры форме першае асобы з *я* ці *мы*, 2) пры форме другое асобы з *ты*, ці *вы*, 3) пры форме трэцяе асобы ці з словам *ён* (*яна—яно*)—*яны*, або з такімі рознымі словамі, якія лёгка падмяняюцца займеньнікамі—ён (яна—яно)—яны.

Прыклад:

1) *Я гавару, мы гаворым*, 2) *ты гаворыш, вы гаворыце*, 3) *чалавек* (*ён*) *гаворыць, людзі* (*яны*) *гавораць.*

Разумеецца, слова *гавару* ня ёсьць выключнае па сваёй форме слова ў нашай мове, якое зьмяняецца ў залежнасьці ад асобы. Наад-

варот, гэтае слова зьяўляецца тыповым прадстаўніком вельмі вялікае, як мы потым пабачым, групы зьменных слоў, якія, як і слова *гавару*, зьмяняюць сваю форму ў залежнасьці ад граматычнага злучэньня з тою ці іншаю асобаю.

**Заўважце:**

1. Зьмена слова ў асобах называецца **спражэньнем**, а самыя словы, што спрагаюцца, г. зн. зьмяняюцца ў асобах, называюцца **спрагальнымі словамі, ці дзеясловамі.**

2. Значыць, слова *гавару*, як і ўсе падобныя яму словы, мае ўласьцівасьць зьмяняцца ў асобах, значыць, яно ёсьць спрагальнае слова, яно ёсьць дзеяслоў.

3. Дзеясловы, такім чынам, будуць складаць у нас першую групу форменых зьменных слоў, асноўная адзнака якіх—зьмена ў асобах, іх спрагальнасьць.

*ЗАДАЧА 122:*

Выпісаць з верша дзеясловы, разьмяркоўваючы іх па асобах.

Узор:

Дзеясловы 1-е асобы (я—мы): думаю, бачу, водзім, носім і г. д.

Дзеясловы 2-е асобы (ты—вы): сьмяешся, працуеш, чытаеце, маўчыце і г. д.

Дзеясловы 3-е асобы (ён—яна—яно, яны): ляціць, вязе, жывуць, штурмуюць і г. д.

Я чую крок жыцьця:
комуны гэта гімны
ў мільённых шэрагах
згуртованых людзей.
Як сымбаль перамог,
як шчырасьць успамінаў,
павабным поступам
яна да нас ідзе.
Няхай гарыць запал!
Гартуйце волю і сілу!
З маленькай іскаркі
разьдзьмуць вятры агонь.
Наперад, партыя —
магутнейшы асілак!
Яшчэ наперад,
Крок за рубікон!
Мы верым ў будучнасьць
і ў нашу перамогу

Хто слабы ў нас, -
пакінь паходны строй.
Ніколі мы
ня станем з паўдарогі
прад новаю
Нязвыклаю гарой.

Федаровіч.

## § 90. Зьмена часьціны мовы ў родзе. Прыметнікі.

Цяпер зьвернемся да другога ўтворанага намі ад кораня *„говар“* слова—*„гаварлівы“*, што адказвае на пытаньне—які?

Дасьледуйце ці мае гэтае слова ўласьціваськ зьмяняць сваю форму ў залежнасьці ад асобы, падобна таму, як зьмяняюць сваю форму дзеясловы? Ці спрагаецца гэтае слова?

| | | |
|---|---|---|
| 1 асоба—*Я* (які?) гаварлів-*ы* | | *мы*—гаварлів-*ыя* |
| 2 „ —*ты* (які?) гаварлів-*ы* | | *вы*—гаварлів-*ыя* |
| 3 „ —*ён* (які?) гаварлів-*ы* | | *яны*—гаварлів-*ыя* |
| —*яна* (якая?) гаварлів-*ая* | | |
| —*яно* (якое?) гаварлів-*ае* | | |

Разгледжваючы табліцу, мы бачым, што ва ўсіх асобах канчаткі слова *гаварлівы* аднолькавыя, нязьменныя. Гэта значыць, што прыналежнасьць данага слова да тае ці іншае асобы ня мае ніякага ўплыву на зьмену формы данага слова. Гэта значыць, што слова *гаварлівы*—слова неспрагальнае, чаму яно і ня можа быць аднесена да групы спрагальных слоў—да дзеясловаў.

Цяпер зьвярнеце ўвагу на канчаткі слова *гаварлівы*, пры трэцяй асобе адзіночнага ліку (першы слупок).

Усякае спрагальнае слова, ці дапасуецца яно да слова *ён* (мужчынскі род), ці да слова *яна* (жаночы род), ці да слова *яно* (ніякі род), будзе ў трэцяй асобе мець толькі адзін канчатак, уласьцівы іменна т р э ц я й, а ня другой ці першай асобе.

*Ён* (мужчын. род) чыта-*е*, сядз-*іць*

*Яна* (жаноч. род) чыта-*е*, сядз-*іць*

*Яно* (ніякага роду) чыта-*е*, сядз*іць*.

Як бачыце, дзеяслоўная форма данае асобы, як і ўсякае іншае, заўсёды будзе аднолькавая, незалежна ад таго, да якога роду да мужчынскага, жаночага ці ніякага—будзе адносіцца дзеяслоў. (Глядзі яшчэ табліцу спражэньня дзеяслова *гавару*).

Іншую справу мы назіраем з словам *гаварлівы*. Зусім не мяняючы сваіх канчаткаў пры граматычным злучэньні з рознымі асобамі (у межах, разумеецца, аднаго якога-небудзь ліку) гэтае слова мяняе і ня

можа не мяняць свае канчаткі ў залежнасьці ад таго, да якога роду яно адносіцца: ці да мужчынскага (*мой, гэты, ён*), ці да жаночага (*мая, гэтая, яна*), ці да ніякага роду (*маё, гэтае, яно*)...

Увага: Зьмена канчаткаў ў залежнасьці ад роду адбываецца толькі ў адзіночным ліку. У множным-жа ліку, як можна бачыць з прыведзенае вышэй табліцы, родавыя канчаткі не вызначаюцца.

Так, пры злучэньні з словам *ён* (муж. род) мы маем гаварлів-*ы*
„ „ „ „ „ *яна* (жан. роду) „ „ гаварлів-*ая*
„ „ „ „ „ *яно* (ніяк. роду) „ „ гаварлів-*ае*.

Ці маем мы права канчаткі *ы, ая, ае* ад слова *гаварлівы* назваць канчаткамі асабовымі, дзеяслоўнымі канчаткамі?

Разумеецца не, бо кожная асоба, як мы зараз пабачым, далучаючыся да данага слова, будзе мець адны і тыя-жа канчаткі, розныя зноў такі толькі для розных родаў. Так,

*пры першай асобе:*

Мужчына скажа—*я* гаварлів-*ы*
Жанчына „ —*я* гаварлів-*ая*
Дзіця „ —*я* гаварлів-*ае*

*пры другой асобе:*

Мужчыне мы скажам—*ты* гаварлів-*ы*
Жанчыне „ „ —*ты* гаварлів-*ая*
Дзіцяці „ „ —*ты* гаварлів-*ае*
*Тое-ж, што і ў першай асобе.*

*Тое-ж, як мы ўжо бачылі, і ў трэцяй асобе:*

*Ён* (мужчына)—гаварлів-*ы*
*Яна* (жанчына)—гаварлів-*ая*
*Яно* (дзіця) —гаварлів-*ае*
*Тое-ж, што ў першай і другой асобе.*

Такім чынам, канчаткі *ы, ая, ое* слова *гаварлівы*—канчаткі не асабовыя, канчаткі не дзеяслоўныя. Гэтымі канчаткамі, як мы толькі што бачылі, вызначыць асобу нельга, бо яны ўласьцівы ў аднолькавай меры ўсім тром асобам.

Гэтымі канчаткамі, як сьведчыць досьлед, можна вызначыць толькі род тае асобы, да якое адносіцца слова *гаварлівы*.

А слова *гаварлівы*, як і ўсе яму падобныя словы, могуць адносіцца да аднаго з трох родаў, што ведае наша мова: ці да мужчынскага, ці да жаночага, ці да ніякага роду. Яно можа пераходзіць ад аднаго роду да другога, усякі раз мяняючы сваю ро-

давую форму ў адпаведнасьці ад роду тае асобы, ад роду таго прадметнага разуменьня, з якім яно будзе граматычна злучацца ў сказе:

| | | |
|---|---|---|
| слаўн-*ы*, | сін-*і*, | капот (*муж. р.*) |
| слаўн-*ая*, | сін-*яя* | кофта (*жаноч. р.*) |
| слаўн-*ае* | сін-*яе* | сукна (*ніяк. р.*) |

Значыць, слова „*гаварлівы*", як і ўсе на яго падобныя словы, ня мае ўласьцівасьці мяняць свайго канчатку ў залежнасьці ад асобы, а мае здольнасьць мяняць яго ў залежнасьці ад роду тае асобы таго аб'екту, да якога яно адносіцца.

Уласьцівасьць зьмяняць сваю форму (канчаткі) у залежнасьці ад роду належыць таксама вельмі пашыранай у мове групе слоў. Гэтыя словы звычайна выяўляюць прымету, чаму ў граматыцы і называюцца **прыметнікамі**.

Прыметнікі, такім чынам, складаюць другую групу зьменных слоў, характэрная асаблівасьць якіх—зьмена формы ў залежнасьці ад роду.

У сказе прыметнікі адказваюць на пытаньні—які? якая? якое? чый? чыя? чыё? каторы? каторая? каторае? і служаць там, як нам ужо вядома, азначэньнямі (*глядзі заданьне 2-е, § 11*).

Заўважце:

1. Да другой групы зьменных часьцін мовы належаць словы, якія маюць уласьцівасьць зьмяняць сваю форму (канчаткі) у залежнасьці ад роду:

*Выдатны*, *энэргічны*, *залаты* (які?)
*Выдатная*, *энэргічная*, *залатая* (якая?)
*Выдатнае*, *энэргічнае*, *залатое* (якое?)

2. Гэта група слоў звычайна выяўляе якую-небудзь прымету, чаму яна і завецца **прыметнікам.**

Значыць, прыметнік—слова, якое мае ўласьцівасьць зьмяняць сваю форму (канчатак) у залежнасьці ад роду.

Зьмена ў родзе прыналежнасьць іменна прыметнікаў, іх найхарактэрная адзнака.

3. Прыметнікі адказваюць у сказе на пытаньні—які? чый? каторы? і служаць там азначэньнем.

*ЗАДАЧА 123:*

Выпісаць з ніжэй падананага тэксту прыметнікі, разьмяркоўваючы іх па родавых адзнаках:

1. Мужчынскага роду.
2. Жаночага роду.
3. Ніякага роду.

## УДАРНІЦА:

*(Урывак).*

У мяне
ня слоў прыгожых гарнец
аднатуе сёньня сакавік:
Слухайце пра лепшую
з ударніц
фабрыкі папернай „Бальшавік“.
Домна Струкава
працуе ў нізе
ў анучным,
скрозь жаночым цэху.
Аддаецца многасільны
дызель
ледзь улоўным
і рытмічным рэхам...
Пыл і пах,
і кволы вэнтылятар
прадувае
просьценькі варштат.
Першай з першых
З першых дэлегатак,
Домна мосьціць
сёнешнюю гатку,
каб сьпяваў
па-новаму варштат.

Лявонны. „Штурм“.

Увага: 1. Прыметнікі—зьменныя ў родзе словы. Яны маюць форму для вызначэньня мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

Аднак, тут-жа трэба адзначыць, што далей мы спаткнемся з цэлаю групаю зьменных слоў, якія самі належаць да таго ці іншага роду, але-ж зьмяняюцца ў родзе, набываць, значыць, розныя родавыя формы яны ня могуць. Словы: *дом, чалавек, лес, прынцып, уздым*—усе належаць да мужчынскага роду, але-ж стаць у родзе жаночым, ці ніякім яны ніяк ня могуць: яны заўсёды, пры ўсякіх словазлучэньнях, будуць належаць толькі да мужчынскага роду; словы: *зямля, сястра, вада, дабрата, пекната* і ім падобныя—усе належаць да жаночага роду, але-ж набыць форму мужчынскага ці ніякага роду яны таксама ня могуць. Тое-ж і з словамі: *поле, вядро, пытаньне, здарэньне, акно, плячо, дзіця* і г. д.—усе яны ніякага роду, і перайсьці ў род мужчынскі ці жаночы ня могуць, бо ў родах яны не зьмяняюцца.

2. Ёсьць яшчэ зьменныя словы, якія не належаць ні да якога роду: *я, ты, вы, пяць, дваццаць*, а ёсьць словы, якія могуць належаць аднолькава да любога роду: *сірата, калека, скупеньдзя* і г. д.

3. Род нязьменных у радзе слоў пазнаецца звычайна дапасаваньнем іх да слоў, што маюць родавыя формы, напрыклад, *мой* (муж. р.), *мая* (жан. р.), *мае* (ніякага роду)

мой *самавар, прынцып, конь, чай*
мая *шапка, сумленнасьць, парада*
мае *поле, дабро, вока, імкненьне.*

## § 91. Зьмена часьцін мовы па склонах.

Нарэшце, пранялізуем характар зьменнасьці трэцяга слова—„*гаворка*“, якое мы ўтварылі ад кораню *говар*.

Прыкіньце, ці ня можа гэтае слова спрагацца, г. зн. зьмяняцца ў залежнасьці ад асобы:

я гаворк-*а*
ты гаворк-*а*
ён, яна, яно } гаворк-*а*

Як можна бачыць, пры дапасаваньні з асабовымі словамі ніякае зьмены канчаткаў-флексій мы атрымаць не змаглі. Значыць, данае слова спрагацца ня можа; значыць, яно ня можа быць аднесена да групы спрагальных слоў; значыць, гэтае слова не дзеяслоў.

Прыкіньце далей, ці не зьмяняе данае слова свой канчатак у залежнасьці ад роду?

ён гаворк-*а*
яна гаворк-*а*
яно гаворк-*а*

І тут тое-ж самае: дапасоўваючы да слоў з родавымі формамі, мы ад слова *гаворка* зьмены канчаткаў таксама дабіцца не змаглі. Што гэта значыць? А гэта значыць тое, што данае слова—слова *гаворка* зьмяняцца ў залежнасьці ад роду таксама ня можа, хоць само яно і належыць да жаночага роду. Значыць, данае і ўсякае слова, яму падобнае, не зьяўляецца і прыметнікам.

Цяпер прачытайце ніжэй паданыя фразы, прасачэце формы зьменнасьці слова *гаворка*, і вы выкрыеце тыя прычыны, якія вымагаюць і ад слова *гаворка* зьмяняць сваю форму—свае канчаткі.

У хаце была (хто—што?) *гаворка*. Зараз ня чутна (каго—чаго?) *гаворк-і*. Нарэшце мы чуем (каго—што?) *гаворк-у*. Мы ўзрадаваліся (каму—чаму?) *гаворц-ы*. Мы здаволены (кім—чым?) *гаворк-аю*. Ён супакоіўся пры (кім—чым?) *гавор-цы*.

Як бачыце, у даных прыкладах слова *гаворка* не засталося пасыўным нязьменным. Наадварот, у даных прыкладах мы налічваем цэлых шэсьць форм слова гаворка, цэлых шэсьць канчаткаў яго: *а, і, у, ы аю, ы.*

Чым-ж вымагаецца тут зьмена аднаго канчатку другім канчаткам. Няцяжка заўважыць, што гэтая зьмена выклікаецца выключна чарганьнем тых слоў, з якімі данае слова лёгічна і граматычна ўвязана ў сказе.

1. Пры слове *„была“* мы маем — *гаворк-а*
2. „ „ *„ня чутна“* „ „ гаворк-*і*
3. „ „ *„слухаем“* „ „ гаворк-*у*
4. „ „ *„ўзрадаваліся“* „ „ гаворц-*ы*
5. „ „ *„задаволены“* „ „ гаворк-*аю*
6. „ „ *„супакоіўся“* „ „ *(пры)* гаворц-*ы.*

Увага: Аднолькавасьць 4-е, 6-е формы бывае часта, але далёка не заўсёды, што мы ўбачым далей.

Як бачыце, зьмена канчатку гэтага трэцяга слова з нашага раду нічым не падобна да зьмены першых двух слоў. Гэтая зьмена не залежыць ні ад асобы, ні ад роду, а залежыць толькі ад розных слов, з якімі данае і яму падобнае слова (*галава, вада, хата, шапка і г. д.*) будзе злучацца ў сказе. Пры злучэньні з адным пэўным словам мы будзем мець канчатак *а*, пры злучэньні з другім *і*, з трэцім *у* і гэтак да шасьці раз, да шасьці зьмен, да шасьці розных форм.

Заўважце:

1. Зьмена канчаткаў слова ў залежнасьці ад іншых слоў сказу, ад тых іменна слоў, з якімі данае слова граматычна і лёгічна злучана ў сказе, называецца ў граматыцы скланеньнем, а кожная форма скланяльнага слова называецца склонам.

2. Значыць, такія словы, як *гаворка*, вызначаюцца тым іменна, што яны не спрагаюцца, што яны не зьмяняюцца па родах, а скланяюцца, г. зн. зьмяняюць свае канчаткі і форму толькі ў залежнасьці ад розных іншых слоў, з якімі яны злучаюцца ў сказе.

3. Усіх склонавых форм налічваецца шэсьць.

4. Кожная з гэтых склонавых форм у граматыцы носіць асобную назву, а ў сказе адказвае на пэўнае пытаньне, на тое іменна пытаньне, якое вымагаецца іншым словам, з якім данае скланяльнае слова лёгічна злучана.

5. Назвы скланяльных форм і пытаньні, на якія яны адказваюць у сказе наступныя:

Назоўны—*хто-што?* *гаворк-а*, сьцян-*а*, *зямл-я*, *брат*, *дом.*
Вінавальны—*каго-што* (бачу?) гаворк-*у*, сьцян-*у*, зямл-*ю*, брат-*а*, дом.

Родны—*каго-чаго* (няма?) гаворк-і, сьцян-*ы*, зямл-*і*, брат-*а*, дом-*а*.

Давальны—*каму-чаму?* гаворц-*ы*, сьцян-*е*, зямл-*і*, брат-*у*, дом-*у*.

Месны—*пры кім—пры чым?* (пры) гаворц-*ы*, сьцян-*е*, зямл-*і*, брац-*е*, дом-*е*.

Творны—*кім-чым?* гаворк-*аю*, сьцян-*ою*, зямл-*ею*, брат-*ам*, дом-*ам*.

6. Усе зьменныя словы, што складаюцца, але не зьмяняюцца ні ў родзе, ні па асобах складаюць трэцюю і апошнюю групу зьменных часьцін мовы. Гэтая група слоў звычайна абазначае назву прадметаў, зьяў, лікаў і таму падобнае і носіць агульную назву **назоўнікі**.

Значыць, назоўнік—такая часьціна мовы, якая зьмяняецца па склонах, але не зьмяняецца ў родзе.

7. Назоўнікі належаць да аднаго з трох вядомых нам родаў:

1) да мужчынскага (*чалавек, дом, пень*),

2) да жаночага (*сястра, галава*),

3) да ніякага (*акно, поле, дзіця*).

Але-ж, яшчэ раз падкрэсьлім, у родах не зьмяняецца: *дом, чалавек*,—назоўнікі заўсёды мужчынскага роду; *сястра, шапка, каса*—заўсёды жаночага роду; *поле, вядро*—заўсёды ніякага роду.

8. Пытаньні, на якія адказваюць склоны, нам добра вядомы: мы іх ужо сустракалі і пры вывучэньні членаў сказу. На пытаньне назоўнага склону *хто, што?* адказвае ў сказе дзейнік, а часам і выказьнік—хто ёсьць? *што ёсьць?* (глядзі заданьне 2-е, § 9). На пытаньні вінавальнага, роднага, давальнага, меснага і творнага склону адказваюць дапаўненьні (гл. заданьне 2-е, § 11, заўвага 2-я).

Адгэтуль бачна, што назоўнікі ў сказе бываюць: 1) дзейнікам, калі яны маюць форму назоўнага склону, 2) дапаўненьнем, калі маюць форму іншых склонаў і 3) выказьнікам, калі яны будуць стаяць у назоўным-жа склоне і адказваць на пытаньне—хто ёсьць? што ёсьць?

Увага: Трэба адзначыць, што зьмена ў склонах не зьяўляецца выключнаю ўласьцівасьцю назоўнікаў. Поруч з назоўнікамі, разам іменна з імі, скланяюцца і прыметнікі, якія ў сказе за рэдкім выключэньнем заўсёды граматычна злучаны з назоўнікамі.

Прыклад 1.

Назоўны—*хто—што? зялён-ы квяціст-ы луг*

Вінавальны—*каго—што?* (бачу)—зялён-*ы* квяціст-*ы* луг

Родны—*каго—чаго?* (няма)—зялён-*ага*, квяціст-*ага* луг-*у*

Давальны—*каму—чаму?*—зялён-*аму*, квяціст-*аму* луг-*у*
Месны—*пры кім, чым? пры* зялён-*ым*, квяціст-*ым* луз-*е*
Творны—*кім—чым?*—зялён-*ым*, квяціст-*ым* луг-*ам*.

Прыклад 2.

Назоўны—*хто—што?—зялёная, квяціст-ая сенажаць*
Вінав.—*каго—што?* (*бачу?*)—зялён-*ую*, квяціст-*ую* сенажаць
Родны—*каго—чаго?* (*няма*)—зялён-*ае*, квяціст-*ае* сенажац-*і*
Давальны—*каму, чаму?*—зялён-*ай*, квяціст-*ай* сенажац-*і*
Месны—*пры кім, чым?* (*пры*)—зялён-*ай*, квяціст-*ай* сенажац-*і*
Творны—*кім, чым?*—зялён-*аю*, квяціст-*аю*, сенажаць-*цю*

Прыклад 3.

Назоўны—*хто—што?—зялёнае, квяцістае поле*
Вінав.—*каго—што?* (*бачу*)—зялён-*ае*, квяціст-*ае* пол-*е*
Родны—*каго—чаго?* (*няма*)—зялён-*ага*, квяціст-*ага* пол-*я*
Давальны—*каму—чаму?*—зялён-*аму*, квяціст-*аму* пол-*ю*
Месны—*пры кім, чым?* (*пры*) зялён-*ым*, квяціст*ым* пол-*і*
Творны—*кім, чым?*—зялён-*ым*, квяціст-*ым* пол-*ем*.

Прыведзеныя прыклады выразна сьведчаць пра прыроду і характар зьменнасьці прыметнікаў. Дзякуючы таму, што прыметнікі зьяўляюцца ў сказе звычайна спадарожнікамі назоўнікаў, як іх азначэньні (гл. прыклады), яны павінны, па-першае, зьмяняцца ў родзе, бо кожны назоўнік за малым выключэньнем, абавязкова належыць аднаго з трох родаў. Прыметнік у сілу гэтага прымушан мяняць сваю родавую форму, пераходзячы ад назоўніка аднаго роду да назоўніка другога роду (гл. прыклад 1, 2, 3); па-другое, яны павінны скланяцца спадарожнічаючы назоўнікам пры іх склонавых зьменах.

Выходзячы з папярэдняга назіраньня і разважаньня, мы павінны сказаць, што прыметнікі маюць падвойную форму зьменнасьці: па родах (гэта іх выключная прыналежнасьць) і па склонах. Назоўнікі-ж зьмяняюцца толькі па склонах. У гэтым фармальная розьніца між назоўнікамі і прыметнікамі.

**Агульны вывад пра зьменныя часьціны мовы.**

Заўважце:

I.

1. Усіх зьменных часьцін мовы мы маем тры групы:
1) дзеясловы, 2) назоўнікі і 3) прыметнікі.
2. Іншых зьменных часьцін мовы ў нашай мове няма.

Увага: Кожная з гэтых груп мае яшчэ свае ўласныя больш дробныя падзелы, пра што будзе гутарка далей пры дэтальным іх разглядзе.

II.

1) **Дзеясловам** называецца ўсякае спрагальнае слова, г. зн. такое слова, якое мае ўласьцівасьць зьмяняць свае канчаткі-флексіі ў залежнасьці ад асобы:

1 асоба *я* чыта-*ю*, гавар-*у*, сьмя-*юся*.
2 „ *ты* чыта-*еш*, гавор-*ыш*, сьмя-*ешся*.
3 „ *ён* / *яна* / *яно* — чыт-*ае*, гавор-*ыць*, сьмя-*ецца*.

2) Дзеяслоў мае, як мы пабачым у сваім месцы, і іншыя формы зьменнасьці, але-ж зьмена па асобах зьяўляецца яго выключнаю прыналежнасьцю, што і вылучае яго з раду іншых зьменных часьцін мовы.

3) У сказе дзеяслоў зьяўляецца выказьнікам (гл. заданьне 2-е § 9 першы від выказьніка). Граматычна ён там зьвязан непасрэдна з дзейнікам, якім зьяўляецца звычайна назоўнік у назоўным склоне.

*Мы жывём* ня толькі для красы...
Кожны крок *мы дасягаем* боем...
І *ня сум*, як восень каласы,
*Точыць* сэрца нам запоем.

Кляшторны.

У даным урыўку тры дзеясловы, а значыць і тры выказьнікі *жывём, дасягаем, точыць*. Яны граматычна злучаны з назоўнікамі *мы, сум*, якія стаяць у назоўным склоне і зьяўляюцца дзейнікамі: *хто?—мы, што?—сум*.

III.

1. Назоўнікам зьяўляецца ўсякае скланяльнае слова, якое належыць звычайна да аднаго з вядомых нам родаў (муж., жан., ніякі), але якое ні ў якім разе не зьмяняецца па родах. Адгэтуль, назоўнік мужчынскага роду *вол, гай* толькі і можа належыць да мужчынскага роду, назоўнік жаночага *галіна, трава* толькі да жаночага роду і назоўнікі сярэдняга роду *яйцо, цялявэучаня* толькі да назоўнікаў ніякага роду.

2. Зьмена назоўнікаў залежыць выключна ад тых слоў, з якімі яны злучаюцца ў сказе. Самая зьмена гэтая называецца **скланеньнем**, а кожная даная форма назоўніка называецца **склонам**.

3. Усіх склонавых форм шэсьць, а для некаторых назоўнікаў нават сем. Кожны склон, за выключэньнем сёмага, маючы ўласьцівую яму форму, адказвае ў сказе на пэўнае, толькі

яму ўласьцівае пытаньне. У граматыцы кожны склон мае сваю асабістую назву:

1. Назоўны *хто, што?*
2. Вінавальны *каго, што?*
3. Родны *каго, чаго* няма?
4. Давальны *каму, чаму?*
5. Месны (*пры*) *кім, чым?*
6. Творны *кім, чым?*
7. Клічны склон часьцей падобен да назоўнага.

Увага: пытаньні: хто? каго? каму? пры кім? кім? ужываюцца ў адносінах да назвы людзей, а пытаньні: што? чаго? чаму? пры чым? чым?—да назвы ўсіх іншых прадметаў у тым ліку і да назвы жывёл, якія ў даным выпадку прыроўніваюцца да няжывых прадметаў.

4. У сказе назоўнікі бываюць:

а) Дзейнікам, калі яны маюць форму назоўнага склону, г. зн. адказваюць на пытаньне—*хто, што?* (гл. 2 зад., § 9).

б) Выказьнікам, калі яны зьяўляюцца другім назоўным склонам у сказе, да якога заўсёды можна дапасаваць пытаньне—*хто ёсьць? што ёсьць?* і далучыць дзеяслоў *ёсьць*, калі яго няма ў наяўнасьці (глядзі § 9, трэці тып выказьніка—што ёсьць?).

в) Дапаўненьнем, калі назоўнік мае форму ўсякага іншага склону, апрача назоўнага і клічнага. На пытаньні гэтых і іншых склонаў, як нам вядома, і адказвае ўсякае дапаўненьне ў сказе (гл. зад. 2-е, § 11, заўвага 2-я).

На хутарох мігнуць агні
У колгасе зьзяе сноп электры;
Пасьля вячэры селянін
У клюб сьпяшае за газэту.

Ананьнеў.

У даным урыўку такія члены сказу, выражаныя адпаведнымі часьцінамі мовы:

1. Выказьнікі *мігнуць, зьзяе, сьпяшае*—усе дзеясловы.
2. Дзейнікі: *агні, сноп, селянін*—усе назоўнікі ў назоўным склоне (*хто—што?*).

3) Дапаўненьні:

а) *На хутарох, у колгасе,*—назоўнікі ў месным склоне (*на кім—чым? у кім—чым?*);

б) *электры, вячэры*—назоўнікі ў родным склоне (*каго—чаго?*);

в) *у клюб, за газэту*—назоўнікі ў вінавальным склоне (*у каго што? за каго—што*)?

IV.

1) **Прыметнікам** завецца ўсякае скланяльнае-ж слова, якое адначасова мае ўласьцівасьць зьмякчацца яшчэ ў залежнасьці ад роду:

*сьмелы, сьмелая, сьмелае, стары, старая, старое.*

2) Прыметнікі ў сказе знаходзяцца ў непасрэдным злучэньні з назоўнікамі, зьяўляючыся да іх азначэньнямі *(гл. 2-е заданьне, § 11, заўвага 1-я.*

Ночь і дзень. Расквечаныя зоры.
Дзень і ноч. Прывабныя агні.
Зацьвітаюць ружамі прасторы,
дзе-б, здавалася,
магчыма толькі гнісьць.
І таму —
настрой такі бадзёры
і ў змаганьні палкая душа,
і ў далях—вобліск пурпуровы,
і тугой ня поўніцца абшар!

**Лявонны. „Штурм“.**

Падкрэсьленыя ва ўрыўку пакручастаю рысаю прыметнікі-азначэньні граматычна злучаны ў сказах з бліжэйшымі назоўнікамі, падкрэсьленымі простаю рысаю.

## § 92. Зьмена часьцін мовы ў ліках.

1. Усе зьменныя часьціны мовы і спрагальныя, і скланяльныя, і зьменныя ў родзе—маюць уласьцівасьць зьмяняць свае канчаткі яшчэ ў залежнасьці ад ліку, г. зн., што ўсе яны маюць яшчэ і лікавую форму, лікавыя канчаткі.

2. У сучаснай нам мове адрозьніваюцца толькі два лікі: адзіночны *іду, рэчка, глыбокі* і множны *ідзём, рэчкі, глыбокія.*

3. Пераважная большасьць зьменных слоў ў любой асобе, родзе, склоне можа выражацца і ў адзіночным і ў множным ліку: *нага—ногі, піша—пішуць, белага—белых.*

Але-ж сярод назоўнікаў ёсьць такія, якія могуць ужывацца толькі ў адзіночным ліку: *золата, срэбра, жалеза, кроў, мука, малако, характво, я, ты, мяне, цябе* і др. З другога-ж боку, ёсьць назоўнікі, што маюць форму толькі множнага ліку: *дровы, сані, дзьвер[illegible], грудзі, калёсы, лесьніцы, вароты* і г. д.

Нарэшце, трэба мець на ўвазе такія назоўнікі, форма якіх мае від адзіночнага ліку, але-ж самі яны мысьляцца, як назоўнікі многіх та[illegible]

званых зборных прадметаў: *каменьне, паленьне, суччо, бярвеньне* і шмат іншых.

*ЗАДАЧА 124:*

Выбраць з кніжкі і запісаць па пяці слоў кожнае зьменнае часьціны мовы і кожнага ліку.

## § 93. Граматычнае злучэньне зьменных часьцін мовы. У сказе.

Пры вывучэньні сказу і яго членаў, а таксама пры знаёмстве з зьменнымі часьцінамі мовы, мы пры ўсякім зручным выпадку гаварылі, што адно слова ў сказе граматычна злучаецца па пэўных моўных законах з другімі словамі сказу, напрыклад: дзеяслоў—выказьнік з дзейнікам-назоўнікам, усякі назоўнік, які можа быць ці дзейнікам, ці дапаўненьнем, злучаецца граматычна з любым прыметнікам, што зьяўляецца ў сказе азначэньнем да гэтага назоўніка і г. д.

Зараз пасьля знаёмства з членамі сказу і з часьцінамі мовы будзе сваячасова і мэтазгодна пазнаёміцца і з тымі моўнымі законамі, якія носяць агульную назву—**граматычнае злучэньне слоў, ці часьцін мовы ў сказе.**

### I. Дапасаваньне.

1. Мы ўжо ведаем, што дзеяслоў-выказьнік граматычна злучаецца ў сказе з назоўнікам-дзейнікам, што яны д а п а с у ю ц ц а адзін да другога.

У чым-жа заключаецца гэта граматычнае злучэньне, гэтае д а п а с а в а н ь н е? Што іменна павінна адбыцца з дзеясловам і назоўнікам, каб яны граматычна злучыліся ў сказе, як асноўныя яго члены, як дзейнік і выказьнік?

Для высьненьня гэтага пытаньня возьмем сказ, адзначым у ім дзейнік і выказьнік і прааналізуем тыя элементы, якія іменна дапасуюць іх адзін да аднаго.

*Мы* разам з табою
*нясём* у грудзёх
вялікую палкую радасьць.

Ракіта.

*Мы*—дзейнік, *нясём*—выказьнік.

Цяпер адкажэце, ці складна было-б калі-б мы сказалі так:

М ы разам з табою
Н я с у ў грудзёх
Вялікую палкую радасьць.

Разумеецца, нескладна, і таму іменна, што тут парушан закон граматычнага злучэньня дзейніка і выказьніка: дзейнік—„*мы*“ пастаў-

лен у множным ліку, а выказьнік „*нясу*“ ў адзіночным. Адгэтуль і тая дысгармонія, тая няскладнасьць, якую мы адчуваем пры чытаньні другое фразы.

Які-ж адсюль вывад?

Заўважце:

1. Каб граматычна злучыць у сказе дзейнік і выказьнік, патрэбна дзеяслоў, якім выражаецца выказьнік, паставіць у адным ліку з назоўнікам, якім выражаецца дзейнік.

2. Гэта называецца дапасаваньнем у ліку. Значыць, дзейнік і выказьнік пры правільным граматычным злучэньні ў сказе павінны быць абавязкова дапасаванымі ў ліку. Гэта значыць, што яны абодва павінны стаяць ці ў адзіночным, ці ў множным ліку.

Прачытайце далей тую-ж фразу і дасьледуйце, у чым яе загана.

*Я* разам з табою
*Нясеш* у грудзёх
Вялікую палкую радасьць.

Зноў, як мы бачым, разлад між дзейнікам і выказьнікам, ня гледзячы на тое, што на гэты раз у ліку яны і дапасаваны. **(Праверце).**

У чым-жа тут справа?

А ў тым тут справа, што дзейнік—першая асоба адзіночнага ліку (я), а выказьнік?

А выказьнік якраз у форме другое асобы, хоць і адзіночнага-ж ліку—*я нясеш.*

Значыць, каб правільна з граматычнага боку ўвязаць у сказе дзейнік і выказьнік, неабходна дзеяслоў, якім выражаецца выказьнік, ужыць ня толькі ў аднолькавым ліку з назоўнікам, якім выражаецца дзейнік, але дапасаваць яго да назоўніка яшчэ і ў асобе.

Вось у гэтым і заключаецца закон граматычнага злучэньня ў сказе дзейніка і выказьніка.

Заўважце:

1. Ён заключаецца ў тым, што дзеяслоў, якім выражаецца выказьнік, становіцца ў аднолькавым ліку, асобе, а часта і ў родзе з назоўнікам, якім выражаецца дзейнік: *я нясу, мы нясем, ты нясеш, яна несла, ён нёс* і г. д.

2. Такое граматычнае злучэньне двух слоў, пры якім адно з іх становіцца ў тым-жа ліку, асобе ці родзе, у якім знаходзіцца другое, называецца дапасаваньнем.

Мы далей ведаем, што і прыметнікі заўсёды граматычна злучаны ў сказе з назоўнікамі, зьяўляючыся да апошніх азначэньнямі

(прыметамі). Дасьледуйма і тут, у чым іменна заключаецца гэтае граматычнае злучэньне, якая яе тут існасьць.

Возьмем зноў прыклад-сказ:

*У сінім мараве вясеньнім*
слоў няма—
„маё, тваё“:
*абагуленым насеньнем*
шыр палеткаў засяём!

Лявонны „Бальшавіцкі сеў“.

У сказе тры прыметнікі, граматычна ўвязаныя кожны з адпаведным назоўнікам: „*сінім*“, „*вясеньнім*“ з назоўн. „*мараве*“; „*абагуленым*“ з назоўн. „*насеньнем*“.

У чым-жа тут выяўляецца граматычнае злучэньне?

Яно выяўляецца, па-першае, у тым, што назоўнікі і іх прыметнікі-азначэньні стаяць у аднолькавым ліку, значыць дапасаваны ў ліку. Парушце гэтае дапасаваньне, і вы зараз-жа ўнесяце ў сказ дысгармонію і незразумеласьць:

*У сініх мараве вясеньніх*
слоў няма—
„маё“, тваё:
*абагуленымі насеньнем*
шыр палеткаў засяём!

Поўная бессансоўнасьць і таму іменна, што ўсе прыметнікі-азначэньні мы паставілі ў множным ліку (асеньніх, вясеньніх, абагуленымі) у той час, як іх назоўнікі (мараве, насеньнем) пакінулі ў адзіночным.

Цяпер прачытайце далей узяты намі сказ і вызначце прычыну новай у ім няўвязкі.

*У сіняй мараве вясеньняй*
слоў няма—
„маё“, тваё:
*абагуленаю насеньнем*
шыр палеткаў засяём!

Што мы тут учынілі з прыметнікамі-азначэньнямі?

Мы перавялі іх з стану н і я к а г а р о д у ў стан ж а н о ч а г а і толькі. Паглядзеце ў прыклад першы, і вы ў гэтым упэўніцеся: там усе прыметнікі-азначэньні маюць форму н і я к а г а р о д у, а ў апошнім прыкладзе яны ўсе пастаўлены ў форме ж а н о ч а г а р о д у: *сіняй, вясеньняй, абагуленаю.*

Вось у чым прычына тае няўвязкі, тае незразумеласьці, якую мы назіраем у апошнім нашым прыкладзе. Яна заключаецца ў тым іменна, што мы парушылі закон граматычнае сувязі між прыметнікамі-азначэньнямі і іх назоўнікамі, паставіўшы прыметнікі-азначэньні ў

форме жаночага роду, у той час, як іх назоўнікі зьяўляюцца ніякага роду. Мы іменна парушылі тут дапасаваньне ў родзе.

Заўважце:

> Закон граматычнага злучэньня прыметнікаў-азначэньняў з іх назоўнікамі заключаецца ў тым, па-першае, што тыя і другія павінны заўсёды быць у аднолькавым ліку (у адзіночным, ці множным) і, па-другое, у аднолькавым родзе—мужчынскім, жаночым ці ніякім. Адным словам, яны павінны па закону граматычнага злучэньня дапасавацца ў ліку і родзе.

Далей яшчэ раз прачытайце ўзяты намі для экспэрымэнтаў сказ і вызначце, у чым тут яго загана?

У *сіняга мараве вясеньняга*
слоў няма—
„маё", тваё:
*абагуленага* насеньнем
шыр палеткаў засяём!

Дапасаваньне між прыметнікамі-азначэньнямі і іх назоўнікамі ў ліку і родзе тут поўнае: і тыя і другія тут стаяць у адзіночным ліку і ў ніякім родзе. Між тым сказ зусім бесталковы.

У чым-жа тут справа?

Вызначце, у якім склоне знаходзяцца нашы назоўнікі?

Першы ў месным склоне (слоў няма—*у кім-чым?*—у мараве), а другі назоўнік у форме творнага склону (засяём—*кім-чым?*—насеньнем).

А ў якім склоне стаяць іх прыметнікі-азначэньні ў апошнім прыкладзе?

Усе яны тут пастаўлены ў форме роднага склону. Значыць, у апошнім прыкладзе мы выкрываем поўныя разыходжаньні прыметнікаў-азначэньняў з іх назоўнікамі толькі ў склоне. Відавочна, гэтыя разыходжаньні ўносяць тыя непаладкі, якія мы заўважаем у апошнім прыкладзе.

Пастаўце прыметнікі-азначэньні ў тых самых склонах, у якіх стаяць іх назоўнікі, і вы ў гэтым зараз-жа ўпэўніцеся.

*У сінім мараве вясеньнім*
слоў няма—
„маё, тваё":
*абагуленым насеньнем*
шыр палеткаў засяём!

Усё ясна, усё на сваім месцы і таму іменна, што мы прыметнікі-азначэньні паставілі тут ня толькі ў аднолькавым ліку, ня толькі ў аднолькавым родзе, а яшчэ і ў аднолькавым **склоне.**

**Заўважце:**

> Закон граматычнага злучэньня прыметнікаў-азначэньняў з іх назоўнікамі заключаецца ў тым, што яны дапасуюцца да сваіх назоўнікаў у **ліку, родзе і склоне.**

Азнаёміўшыся з дапасаваньнем у сказе дзеяслова-выказьніка з назоўнікам-дзейнікам і прыметнікаў-азначэньняў з іх назоўнікамі, пастарайцеся вызначыць, што мы наогул называем у граматыцы дапасаваньнем?

**Заўважце:**

> 1. Дапасаваньнем у граматыцы называецца такі закон граматычнага злучэньня слоў у сказе, пры якім адно ці некалькі слоў ставяцца ў тым-жа ліку, родзе і склоне, або ў тым-жа ліку і асобе, што і другое слова, граматычна злучанае з першымі.
> 2. Дзеясловы-выказьнікі і назоўнікі-дзейнікі па гэтым законе павінны дапасавацца заўсёды ў ліку і асобе, а часам і ў родзе, калі дзеяслоў набывае ў мове родавую форму (брат *ішоў*, сястра *ішла*, дзіцянё *ішло*).
> 3. Прыметнікі-азначэньні і назоўнікі, да якіх прыметнікі-азначэньні адносяцца ў сказе, павінны заўсёды дапасоўвацца ў ліку, родзе і склоне.

## II. Кіраваньне.

Вылучце ў тым-жа самым сказе назоўнікі-дапаўненьні і вызначце іх склоны

У сінім *мараве* вясеньнім
*слоў* няма—
„маё, тваё“:
абагуленым *насеньнем*
*шыр палеткаў* засяём!

Назоўнікі-дапаўненьні тут наступныя: „*мараве*“, „*слоў*“, „*насеньнем*“, „*шыр*“, „*палёў*“.

Назоўнікі-дапаўненьні *слоў, палеткаў*—роднага склону (*каго-чаго?*); *насеньнем*—творнага склону (*кім-чым?*); нарэшце (у) *мараве*—меснага склону (*у кім-чым?*).

Цяпер адкажэце, якія моўныя фактары прымусілі гэтыя ўсе назоўнікі-дапаўненьні стаць у пэўны для кожнага іх склон?

На гэтае пытаньне ня цяжка адказаць, калі прыпомніць, што мы называем склонам наогул.

А склонам мы называем залежнасьць аднаго слова, скланяльнага іменна слова, г. зн. назоўніка-дапаўненьня, ад другога якога-небудзь слова, з якім гэтае скланяльнае слова, гэты назоўнік-дапаўненьне граматычна злучаны ў сказе.

Назоўнік-дапаўненьне „*слоў*“ таму іменна і знаходзіцца ў форме роднага склону, што таго патрабуе слова „*няма*“, з якім слова „*слоў*“ граматычна злучаны ў сказе: няма—*чаго?*—слоў.

Назоўнік-дапаўненьне „палеткаў“ таму іменна стаіць у родным склоне, а ня ў іншым якім-небудзь, што таго патрабуе слова „шыр“, з якім назоўнік „палеткаў“ граматычна злучана: шыр—*чаго?*—палеткаў.

Сам назоўнік-дапаўненьне „шыр“ таму іменна і стаіць у вінавальным склоне, што таго патрабуе слова „засяём“ (у даным выпадку выказьнік), з якім слова „шыр“ граматычна злучаны: засеем—*каго што?*—шыр.

Ня можа ісьці—*пад чым?*—(пад) небам.

Так і астатнія назоўнікі-дапаўненьні таму іменна маюць форму адпаведнага склону, што таго патрабуе пэўнае слова, з якім даны назоўнік-дапаўненьне граматычна злучаны ў сказе (самі вызначце граматычную сувязь назоўнікаў (у) „мараве“ і „насеньнем“).

Заўважце:

1. Калі адно слова ў сказе патрабуе, каб другое слова стаяла ў тым ці іншым склоне, апроч назоўнага склону, дык такое граматычнае злучэньне называецца **кіраваньнем**.

2. Назоўнікі-дапаўненьні граматычна злучаюцца ў сказе з іншымі словамі іменна спосабам **кіраваньня**.

3. Словы, якія кіруюць склонам назоўнікаў-дапаўненьняў, называюцца кіруючымі словамі, а тыя словы, якія кіруюцца, якія, значыць, злучаюцца з першымі па спосабу кіраваньня, называюцца словамі кіраванымі.

4. Склонавая форма кожнага кіраванага слова сьведчыць пра пэўную залежнасьць гэтага слова ад слова кіруючага. На гэтай падставе і склоны, у якіх стаяць назоўнікі-дапаўненьні, называюцца залежнымі склонамі ў той час, як склон назоўны, у форме якога знаходзіцца назоўнік-дзейнік, завецца склонам незалежным.

Падагульваючы ўсё выказанае пра граматычную сувязь зьменных часьцін мовы ў сказе, мы прыходзім да наступных агульных вывадаў.

Заўважце:

1. Зьменныя часьціны мовы злучаюцца ў сказе двума спосабамі граматычнае сувязі:

а) спосабам дапасаваньня і спосабам кіраваньня.

2. Спосаб дапасаваньня выяўляецца ў тым, што адно ці некалькі слоў ставяцца ў сказе ў адным ліку, родзе і склоне, або ў адным ліку і асобе, што і другое слова, з якім першае слова граматычна злучана.

3. Спосаб-жа кіраваньня выяўляецца ў тым, што адно слова прымушае другое, з ім граматычна злучанае, стаць у пэўны залежны склон (вінавальны, родны, давальны, творны, месны).

4. Дапасаваньню падпарадкуюцца:

а) дзеясловы-выказьнікі з назоўнікамі-дзейнікамі ў ліку і асобе, а часам і ў родзе, калі дзеяслоў-выказьнік набывае форму роду (*нес, несла, несло*).

б) Прыметнікі-азначэньні, якія дапасуюцца да назоўнікаў у ліку, родзе і склоне.

5. Кіраваньню-ж падпарадкуюцца назоўнікі-дапаўненьні, якія пад прымусам іншых слоў сказу заўсёды стаяць у адным з залежных склонаў: вінавальным, родным, давальным, месным, творным.

6. Іншых спосабаў граматычнае сувязі ў сказе зьменныя часьціны мовы ня маюць.

*ЗАДАЧА 125*:

Выбраць з кніжкі тры разьвітыя сказы і даць схэму граматычнае сувязі зьменных часьцін мовы ў іх, адзначаючы словы дапасаваныя і словы кіраваныя. Паўтарыць для гэтага з 2 зад. § 10—„Як будуюць разьвітыя сказы“. Узор схэмы там-жа.

*ЗАДАЧА 126*:

Выпісаць з верша назоўнікі, разьмяркоўваючы іх па склонах, а разам з імі і прыметнікі-азначэньні, калі яны ёсьць пры назоўніку. Узор глядзі за вершам.

Вырас цень ад камяніцы доўгі
На панэлі плямаю густой...
У страі сьцен стромкіх пабудовы,
Ліпне вапна, цэмэнт і бэтон!
Я падношу цэглу на насілках
Па прыступках лесьвіцы наверх...
Не пакіну гэтую дасылку,
Пакуль апошні вывядзем паверх!
Цагельны груз нясу тварцом-рабочым,
Рукам мазольным дужых муляроў...
Хады свае не прыпыню ў паўкрока,
На паўдарозе ня спыню мой крок!
Я знаю—
Кожны баявы вучастак
Адмеран, выстаўлены плянаваю вехай...
Таму й працую я,—
Сталёвых будняў творчую уцеху!

**Пруднікоў.**

| Наз. | Він. | Родн. | Дав. | Месн. | Творн. |
|---|---|---|---|---|---|
| Цень доўгі | — | — | — | На панэлі | Плямаю густой |

## § 94. Падзел нязьменных слоў на часьціны мовы.

Да нязьменных слоў, як мы адзначылі ў § 87, перш за ўсё адносяцца словы бясформеныя, большасьць якіх служаць у сказе словамі дапаможнымі. Да нязьменных-жа слоў адносіцца некаторая частка слоў форменых, слоў называльных, якія толькі страцілі здольнасьць зьмяняць свае канчаткі, а адгэтуль і сваю форму. З гэтага бачна, што група нязьменных слоў не зьяўляецца аднароднаю групаю, што яна таксама, як і група зьменных слоў, падлягае падзелу на больш дробныя групы—часьціны мовы, з якіх кожная вызначаецца толькі ёй уласьцівымі асаблівасьцямі.

У аснову падзелу нязьменных слоў на часьціны мовы кладуцца, разумеецца, не формальныя іх асаблівасьці, а тое значэньне, якое нязьменнае слова мае ў сказе.

На аснове вось гэтага прынцыпу ўсе нязьменныя словы падзяляюцца на пяць груп, на пяць часьцін мовы: 1) **прыслоўі**, 2) **прыназоўнікі**, 3) **злучнікі**, 4) **дапаможнікі** і 5) **выклічнікі**.

## § 95. Прыслоўе.

Разгледзьце паданы ніжэй рад слоў з боку іх граматычнага складу і вызначце, якая форма зьменнасьці ім ўласьціва?

*Весела, слаўна, зраньня, улетку, недалёка, дадому.*

Кожнае з паданых слоў мы можам раскласьці на граматычныя часткі: *весел*-а, *слаў*-н-а, у-*лет*-к-у, не-*дал*-ёк-а, да-*дом*-у.

Як бачыце, усе яны маюць канчатак (*а*, *у*), некаторыя з іх маюць суфікс (слаў-*н*-а, улет-*к*-у, недал-*ёк*-а); некаторыя маюць пристаўку (*у*-летку, *не*-далёка, *да*-дому). Па ўсіх даных—гэта словы форменыя і нават словы называльныя, бо кожнае з іх дае нам пэўнае ўяўленьне пра тое, што іменна хочам мы сказаць кожным даным словам.

Цяпер прыкіньце, ці могуць зьмяняць сваю форму гэтыя словы, ці могуць яны, напрыклад, спрагацца, скланяцца, зьмяняцца ў родзе (абавязкова зараз-жа спрабуйце іх зьмяняць).

Усе даныя словы па сваім асноўным зьмесьце вельмі блізкі да слоў зьменных. Некаторыя з іх напамінаюць, напрыклад, н а з о ў н і к (слаўна-*слава*, улетку-*лета*) ці падобны да прыметніка (весела-*вясёлы* (*ая*), слаўна-*слаўная* (*ае*). Сярод нязьменных-жа слоў спатыкаюцца такія, што падобны да дзеясловаў (*Ішоўшы* з гораду мы спаткалі знаёмых. *Ідучы* ў горад, яны весела гаманілі).

Тым часам ні тыя словы, што напамінаюць нам назоўнікі ці прыметнікі (*весела, слаўна, улетку, дадому, недалёка і г. д.*), ні тыя словы, што напамінаюць дзеясловы (*ішоўшы, ідучы, гуляючы, працуючы, раздумаўшы, разышоўшыся і г. д.*), зьмяняцца ня могуць: яны ня могуць ні скланяцца, ні спрагацца, ні зьмяняцца у родзе, бо яны словы нязьменныя.

Яшчэ раз прыкіньце да склонаў, роду і асоб прыведзеныя вышэй словы і вы ўпэўніцеся, што яны сапраўды словы нязьменныя.

А што азначаюць у мове ўсе гэтыя словы? Кожная з іх выразна азначае якую-небудзь акалічнасьць, бо кожнае з іх адказвае ў сказе на пытаньні якое-небудзь акалічнасьці (*гл. заданьне 2-е, § 11, заўвага 3-е*).

Прыклад:

*Слаўна* (*як*) сьвеціць сонца *ўлетку* (*калі?*) *Недалёка* (*дзе*) ад лесу, *ідучы* (*як?*) *дадому* (*куды?*), мы ўздумалі зрабіць прывал. *Разьлегшыся* (*як?*) на зялёнай травіцы, мы *весела* (*як?*) засьпявалі сваю любімую песьню.

Дык вось чым характарызуюцца разгледжаныя намі словы:

1) Усе яны—словы форменыя, называльныя і па сваім асноўным зьмесьце вельмі нагадваюць зьменныя часьціны мовы: ці назоўнік, (*улетку, дадому*), ці прыметнік (*весела, слаўна*), ці дзеяслоў (*ідучы, разьлёгшыся*), але самі зьмяняцца яны ня могуць: гэта, значыць, словы нязьменныя.

2) Усе гэтыя словы азначаюць у сказе якую-небудзь акалічнасьць: месца, часу, спосабу дзеяньня і г. д.

Заўважце.

1) Нязьменныя словы, што азначаюць у мове якую-небудзь акалічнасьць, складаюць асобную часьціну мовы, якая называецца ў граматыцы **прыслоўем**.

2) Прыслоўі ўтвараюцца ад карэньняў і асноў зьменных часьцін мовы, чаму большасьць з іх, па-першае, мае форму і, па-другое, нагадвае тую зьменную часьціну мовы, ад якое яно ўтворана.

Так, прыслоўі—*цікава, блізка, па-новаму, па-таварыскі*—утвораны ад прыметнікаў *цікавы, блізкі, новы, таварыскі* і ў значнай меры падобны да гэтых прыметнікаў;

прыслоўі—*улетку, увечары, дадому*—утвораны ад назоўнікаў—*лета, вечар, дом* і таксама падобны да гэтых назоўнікаў;

прыслоўі—*разьлегшыся, сьмяючыся, гукаючы* паходзяць ад дзеясловаў і падобны на дзеясловы—*разьлягуся, сьмяюся, гукае*.

3) Спатыкаюцца прыслоўі, паходжаньне якіх відавочна ад зьменных часьцін мовы, але-ж якія к сучаснаму моманту зусім страцілі свае формальныя адзнакі, чаму і прылучаюцца ўжо да слоў бясформеных: зараз, разам, наўгад, спрасоньня, зноў, уверх, зьлева, ззаду і г. д.

4) Нарэшце, ёсьць прыслоўі, супастаўленьне якіх з зьменнымі часьцінамі мовы зьяўляецца зараз немагчымым: *учора, цяпер, так, заўсёды, насьцеж, дзе, як, куды, колькі, ніколі і г. д.*

5) Ня гледзячы на разнастайнасьць прыслоўяў з боку іх формы ўсе яны, як сказана ў п. 1, азначаюць у мове якую-небудзь акалічнасьць, што складае іх выключную асаблівасьць і аб'ядноае ў адну групу нязьменных слоў—прыслоўяў.

6) У сказе прыслоўі ня могуць ні дапасавацца, ні кіравацца (чаму?) Тым часам, як словы называльныя, як самастойныя члены сказу (акалічнасьці), яны граматычна абавязкова злучаюцца з іншымі называльнымі словамі, галоўным чынам з дзеясловамі, чаму і называюцца прыслоўямі.

Я *часта* ў высі залятаў,
Я быў на вымудры багаты
І *няпрыкметна* нарушаў
Наш цьвёрды комсамольскі статут.
*Тады* я йшоў у белы дом...
І ці з усьмешкаю, ці *строга*
*Усё-ж* накіроўваў наш райком
Мяне на верную дарогу.

У даным урыўку пяць прыслоўяў і ўсе яны граматычна злучаны з дзеясловамі:

залятаў (*як?*) часта
парушаў (*як?*) няпрыкметна
ішоў (*калі?*) тады,
накіроўваў (*як?*) строга, усё-ж.

7) Граматычнае злучэньне прыслоўяў з дзеясловамі называецца **прымыканьнем**.

8) Прымыканьне трэці і апошні спосаб граматычнага злучэньня называльных слоў у сказе: першыя два—дапасаваньне і кіраваньне, а трэцяе—**прымыканьне**.

*ЗАДАЧА 127*:

Сьпісаць урывак, прыслоўі падкрэсьліць простаю рысаю, а словы, з якімі яны граматычна злучаны (дзеясловы), пакручастаю.

### АГАНЬКІ.

Калісьці даўно, цёмным асеньнім вечарам, выпала мне плысьці па змрачнай сібірскай рацэ. Раптам на паваротцы ракі, сьпераду пад цёмнымі горамі, замігацеў аганёк.

Замігацеў ярка, выразна, зусім блізка.

— Вось шчасьце—сказаў я радасна,—блізка начлег.

Грабец павярнуўся, паглядзеў цераз плячо на аганёк і зноў апатычна налёг на вёслы.

— Далёка.

Я не паверыў: аганёк так і стаяў, выступаючы наўперад з неазначальнае цемнаты. Але грабец быў правы: аказалася сапраўды далёка.

Уласьцівасьць гэтых начных агнёў—набліжаецца, перамагаючы цемру, і мігацець, і абяцаць, і вабіць сваёю блізкасьцю. Здаецца, вось-вось яшчэ два-тры ўзмахі вяслом і шлях скончан... А тым часам—далёка.

Караленка.

Чуеце:
гучна
гудуць гудкі,
заводы;
ударным ходам
цьвёрда дыктуюць
машыны, станкі:
— Кадры
Патрэбны заводам!
Чуеце:
Сэрца краіны—
Днобас—
пругка,
ўстрывожана б'ецца:
— Дайце капальням
(ня церпіць час)
сотні савецкіх
спэцаў!
Чуеце:
крыкі колгасных гоняў.
Там—
пераможная праца;
без трактарыстых і аграномаў
з посьпехам
нельга змагацца!
Чуеце:
Голасам
цьвёрдым
краіна
дыктуе суровыя загады:
— Мінімум—
тэрмін,
максімум—
вынік—
кадраў
будоўлі
атрады!

Ракіта.

## ІДУ.

Іду да хаты ў вечар цёмны—
вакол жыты . . . вакол жыты . . .
У плячох ад працы слодыч стомы.
Іду—вакол жыты . . . жыты . . .
. . . Халодна—цёмнае калосьсе
у твар мне прышча кроплі рос,

і звоняць сонныя лады
аб шчасьці вечна маладым.
Іду. З нябёс глядзіцца месяц;
ў прасторы—ноч і ціхі сон;
палынны водыр нікне дзесьці
у моры срэбраных аўсоў.
Пшаніца сонна хіліць пасмы,
ў расе бульбовыя кусты.
Іду стамлены да колгасу—
Вакол жыты . . . Вакол жыты . . .

Астапенка.

## § 96. Прыназоўнікі.

Другую нязьменную часьціну мовы складаюць прыназоўнікі. Што-ж гэта за часьціна мовы—**прыназоўнік?** Чаму яна так называецца і якое значэньне мае ў мове?

З прыназоўнікамі, як з паасобнымі словамі, мы ўжо сустракаліся. Вазьмеце з другога заданьня, з § 7 задачу 15-ю. Якую працу мы там выконвалі? Замест шматкроп'я мы ў тэкст верша ўстаўлялі дапаможныя словы, без якіх увесь тэкст ня меў-бы ніякага сэнсу.

Сярод гэтых дапаможных слоў толькі два словы—*і*, *а*—злучнікі, што ўжываюцца ў зьлітых і складаных сказах, усе-ж астатнія дапаможныя словы ня што іншае, як п р ы н а з о ў н і к і.

Выпішма з тэй-жа задачы (верш „Грэшнік“) прыназоўнікі з тымі словамі, да якіх непасрэдна мы іх далучалі, і дасьледуйма, па-першае, якія іменна часьціны мовы патрабуюць прыназоўнікаў, і, па-другое, для чаго гэтым часьцінам мовы патрэбны прыназоўнікі. Гэтым мы выкрыем як тое, чаму прыназоўнікі называюцца прыназоўнікамі, так і тое, якую дапаможную ролю яны адыгрываюць у мове.

Разьмяркуем мы словы ў альфабэтным парадку прыназоўнікаў. Атрымаем такія групы слоў:

I.

1) *З* **году**—*Родны склон*
2) *З* **Міколам—сынам** } *тв. скл.*
3) *З* **вёскай** (ю) } *тв. скл.*
4) *З* **сястрою** (ю) } *тв. скл.*
5) *З* (*пролетарскай*) **дапамогай** } *тв. скл.*

II.

6) *За* **сахой** (ю) } *тв. склон.*
7) *За* **годам** } *тв. склон.*

III.

8) *На* **дарогу** } *вінав. склон.*
9) *На* **трохпольле** } *вінав. склон.*

IV.

10) *У* **сэрцы** } *месн. скл.*
11) *У* **барацьбе** } *месн. скл.*

V.

12) *У* **год** } *вінав. склон.*
13) *У* **сьвята** } *вінав. склон.*
14) *У* **„ачко“** } *вінав. склон.*
15) *У* (*той*) **час** } *вінав. склон.*
16) *У* **колгасы** } *вінав. склон.*

VI.

17) *Пад* **кіраўніцтвам** } *тв. скл.*
18) *Прад* **намі** } *тв. скл.*

Да цэлых 18 слоў мы павінны былі дадаць прыназоўнікі, каб тэкст верша „Грэшнік“ стаў зразумелым. Праўда, для гэтага нам не патрабавалася 18 прыназоўнікаў, а толькі сем (палічэце), бо да розных слоў, як бачна з прыкладаў, часта дадаецца адзін і той-жа прыназоўнік, што тлумачыцца, як мы пабачым далей, пэўнымі, агульнымі для данае групы слоў прычынамі.

Цяпер разгледзьце, якім гэта словам, якім іменна часьцінам мовы патрэбны былі прыназоўнікі, як дапаможныя словы? (Падкрэсьленае курсывам і ўзятае ў дужкі пакуль-што не разглядайце).

Як бачыце, словы, да якіх мы дадавалі прыназоўнікі, ёсьць назоўнікі, пастаўленыя ў розных залежных склонах: родным, творным, вінавальным і інш. (разгледзьце гэтыя склоны, праверце іх).

Ужо адзін гэты досьлед можа падказаць, чаму прыназоўнікі называюцца прыназоўнікамі? Таму, відавочна, што яны ўжываюцца толькі пры назоўніках.

А вось, разглядаючы № 6 і 15 нашага раду слоў з прыназоўнікам, мы бачым, што прыназоўнік *„з“* і прыназоўнік *„у“* стаяць ня поруч з назоўнікам, значыць, ня пры назоўніку, а якраз пры прыметніку: *„з“*—пры прыметніку *„пролетарскай“* (*з* пролетарскай), а *„у“*—пры прыметніку *„той“* (*у* той).

Што гэта значыць? Ці ня ёсьць тут нейкае выключэньне з таго агульнага правілу, што прыназоўнікі павінны ў мове належаць да назоўніку?

Аказваецца, што ніякага і ў гэтым выпадку выключэньня з агульнага правіла няма. І ў гэтым выпадку, як і ўсюды, прыназоўнікі адносяцца не да якіх-небудзь іншых часьцін мовы, а толькі да назоўнікаў, хоць фактычна па месцы яны могуць стаяць і перад іншымі часьцінамі мовы, галоўным чынам перад прыметнікамі. Каб упэўніцца ў гэтым, варта толькі прачытаць сказ спачатку, напрыклад, бяз прыметніка, а потым, наадварот, без назоўніка, дасьледваючы, як адсутнасьць тае ці іншае часьціны мовы адбіваецца на агульным сэнсе сказу.

1. І з *дапамогай*, пад кіраўніцтвам КП(б)Б...
   ідзём бадзёра ў колгасы.
2. І з *пролетарскай*, пад кіраўніцтвам КП(б)Б...
   ідзём бадзёра ў колгасы.

Бачыце, у той час, калі агульны сэнс сказу ў першым прыкладзе нічым не парушан, хоць мы прыметнік і выкінулі, дык у другім прыкладзе першая частка сказу зьяўляецца зусім цьмянаю, незразумелаю (прачытайце 1-ю частку), бо там няма таго слова, таго назоўніка, да якога патрэбна далучыць граматычна прыназоўнік *„з“*, хоць прыметнік, пры якім прыназоўнік *„з“* знаходзіцца ў тэксьце, стаіць на сваім месцы.

Апроч таго, даную фразу мы можам пабудаваць, перанёсшы прыметнік за назоўнік.

І з дапамогай *пролетарскай,* пад кіраўніцтвам КП(б)Б і г. д.

Ясна, калі-б прыназоўнік „*з*" належаў непасрэдна да прыметніка, дык, пераносячы прыметнік, мы павінны-б былі перанесьці разам і яго прыназоўнік. Перанесьці-ж прыназоўнік „*з*" за назоўнік „дапамогай" мы ніяк ня можам, бо атрымаецца поўная бяссэнсіца:

*І дапамогай з пролетарскай, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і г. д.*

Усё гэта з поўнаю відавочнасьцю гаворыць, што прыназоўнік заўсёды належыць да назоўніка, граматычна злучаецца з назоўнікам нават і ў тым выпадку, калі між ім і яго назоўнікам знаходзіцца прыметнік, ці якая іншая часьціна мовы, што таксама часам бывае.

Агаварыцца, аднак, патрэбна, што прыназоўнік можа часам злучацца непасрэдна і з прыметнікам, але гэта бывае толькі тады, калі прыметнік замяняе сабою назоўнік, калі прыметнік зьяўляецца прыметнікам недапасаваным, калі, значыць, няма таго назоўніка, да якога дапасоўваецца прыметнік.

Прыклад 1:

*Пра маладое, пра дужае* ідзе ў нас гаворка.

У даным прыкладзе прыметнікі „*маладое*" „*дужае*" ўжо ня мысьляцца намі, як прыметнікі, а як назоўнікі, чаму прыназоўнік „*пра*" тут адносіцца непасрэдна да прыметніка.

Прыклад 2:

*Пра маладое* стварэньне, *пра дужае* стварэньне ідзе ў нас размова.

У апошнім прыкладзе прыназоўнік „*пра*" мае дачыненьне ўжо не да прыметнікаў, а да назоўніка „*стварэньне*", да якога дапасуецца і самі прыметнікі.

Чым-жа, аднак, можна растлумачыць, што паміж прыназоўнікам і назоўнікам могуць зьмяшчацца і іншыя словы, галоўным чынам, іменна прыназоўнікі?

А выключна законамі пабудовы сказаў, пра якую ў нас была гутарка ў заданьні 2, § 12. Паводле гэтага закону, азначэньне, якім у сказе служыць прыметнік, звычайна становіцца непасрэдна перад тым словам, з якім яно граматычна злучана, г. зн. непасрэдна перад назоўнікам:

*Чырвоная армія, жалезны закон* рэволюцыі, *Комуністычная грамада* і г. д.

Калі-ж назоўнік мае пры сабе прыназоўнік, дык прыметнік, дапасуючыся да назоўніка, становіцца звычайна якраз паміж прыназоўнікам і назоўнікам, разумеецца, калі па закону інвэрсыі (гл. заданьне 2, § 12, стар. 20) ён не падлягае вынасцы далей, за назоўнік. З прыназоўнікамі, такім чынам, вышэй паданыя прыклады могуць мець такую конструкцыю:

*У Чырвонай арміі* я атрымаў сталую вайсковую і політычную асьвету.

*Пад жалезным законам* рэволюцыі ўсё старое гіне.

*Пры комуністычнай грамадзе* ня можа быць прыватнай уласнасьці.

І тут, як і ў двух выпадках узятага намі верша, прыназоўнікі стаяць непасрэдна перад прыметнікамі, але-ж заўсёды цьвёрда трэба разумець, што прыназоўнікамі пры наяўнасьці назоўнікаў маюць дачыненьне толькі да назоўнікаў.

Пры ўсіх іншых часьцінах мовы, як асобнае дапаможнае слова, прыназоўнік можа існаваць толькі тады, калі гэтыя часьціны мовы падмяняюць сабою назоўнік, калі яны і мысьляцца, як назоўнікі.

Прыняўшы пад увагу ўсё выказанае, мы можам тут даць такое вызначэньне прыназоўніку, як часьціне мовы:

**Заўважце 1-е:**

1. Прыназоўнік ёсьць такая дапаможная часьціна мовы, якая ў сказе мае непасрэднае дачыненьне толькі да назоўнікаў. Толькі з назоўнікамі яны граматычна і злучаецца ў сказе, хоць на справе між пры назоўнікам і яго назоўнікам могуць стаяць у сказе і прыметнікі, а таксама і некаторыя іншыя часьціны мовы.

2. Прыназоўнікі могуць непасрэдна адносіцца і да прыметніка і да іншых часьцін мовы, але толькі ў тым выпадку, калі яны замяняюць сабою назоўнікі і мысьляцца, як назоўнікі.

Сваімі папярэднімі разважаньнямі і апошнім вызначэньнем мы адказалі на першыя два пытаньні, пастаўленыя з пачатку данага параграфу, а іменна: што за часьціна мовы—прыназоўнік, і чаму яна так, а ня інакш называецца.

Застаецца адказаць на трэцяе пытаньне: якое значэньне мае прыназоўнік у мове?

Для гэтага вернемся зноў да табліцы выпісаных намі прыназоўнікаў з іх назоўнікамі і прааналізуем, ці аднолькавыя склонавыя формы назоўнікаў, што маюць пры сабе розныя прыназоўнікі?

Разгледжваючы табліцу, зьлічваючы, з аднаго боку, прыназоўнікі, а з другога—склонавыя формы назоўнікаў, мы выкрываем наступнае:

1) Бясспрэчную сувязь прыназоўніка з склонаваю формаю назоўніка, а іменна: поўную залежнасьць склонавае формы ад пэўнага прыназоўніка.

Так, мы можам казаць і кажам:

*З* Міколам—сынам, *з* вёскай (ю), з сястрою.

Гэта значыць, з творным склонам назоўнікаў мы можам злучаць і злучаем прыназоўнік „*з*“. А вось сказаць: *у* Міколам—сынам у вёскаю *у* сястрою, гэта значыць, зьвязаць той-жа творны склон назоўнікаў з прыназоўнікам „*у*“, мы ніяк ня можам, бо выйдзе бессэнсіца.

Тое-ж атрымаецца, калі, наадварот, да назоўнікаў з прыназоўнікам „*У*“—*у* сэрцы, *у* барацьбе,—мы далучым прыназоўнік „*З*“: *з* сэрцы *з* барацьбы. Тая-ж бяссэнсіца.

Што гэта значыць? А гэта значыць тое, што ад пэўнага прыназоўніка часта залежыць і пэўная форма склону назоўніка. Гэта значыць, што прыназоўнікі прымаюць чынны ўдзел у кіраваньні склонам.

Кіруюць склонам, як нам вядома з § 93, р. II, іншыя называльныя словы—дзеяслоў, назоўнік і інш. Часьцей усяго гэтае кіраваньне зноў такі, як мы бачылі, адбываецца непасрэдна, непасрэдным узьдзейнічаньнем кіруючага слова на кіроўнае:

Людзі ходзяць (*кім-чым?*) нагамі.

Мы будуем (*каго-што?*) социялізм.

Тут, як бычыце, дзеяслоў ходзяць непасрэдна ставіць назоўнік „нагамі“ у творным склоне, а дзеяслоў „будуем“ ставіць назоўнік „соцыялізм“ непасрэдна-ж у вінавальным склоне.

Такое кіраваньне залежным склонам так і называецца непасрэдным кіраваньнем.

Мае суседзі—Янка, Цішка
У *сьвята* рэжуць у „*ачко*“.
Я сяджу ў той *час* за *кніжкай*
З *Міколам—сынам і дачкой.*

У залежным склоне тут стаяць наступныя назоўнікі: *сьвята*, „*ачко*“, *час* у вінавальным склоне (*чаму?*); *кніжкай, Міколам—сынам, дачкой*—у творным склоне (*чаму?*) Ад якіх-жа слоў сказу залежыць склон вызначаных намі назоўнікаў? Таксама, як і пры непасрэдным кіраваньні, склон іх залежыць ад слова называльнага, якое зьяўляецца для іх словам кіруючым.

Так, вінавальным склонам першых двух назоўнікаў „*сьвята*“, „*ачко*“ кіруе слова „*рэжуць*“. Але, як кіруе? Не непасрэдна, а ўжо пры дапамозе прыназоўніка „*У*“.

1) Рэжуць—*у каго-што?—У* сьвята; 2) Рэжуць—*у каго-што?—У* „ачко“ ( *глядзі тэкст прыкладу*).

Залежнымі склонамі астатніх вызначаных намі назоўнікаў кіруе другое называльнае слова „*сяджу*“ і зноў-жа не непасрэдна, а пры дапамозе прыназоўнікаў „*у*“, „*за*“ „*з*“

сяджу (*у каго-што?*) *у* час (*вінавальны склон*)
сяджу (*за кім-чым?*) *за* кніжкай (*творны склон*)
сяджу (*з кім, чым?*) *з* Міколам-сынам і *з* дачкой (*тв. склон*)
(*глядзі тэкст прыкладу*).

Такое кіраваньне залежным склонам назоўнікаў так і называецца пасрэдным кіраваньнем і ажыцьцяўляецца яно, як мы бачым, пры дапамозе прыназоўнікаў.

Адгэтуль ясна, для чаго ў мове існуюць дапаможныя словы прыназоўнікі, якую роль яны там адыгрываюць.

**Заўважце 2-е:**

1) Прыназоўнікі існуюць у мове для таго, каб дапамагаць кіруючаму слову ставіць кіраванае слова (г. зн. назоўнік-дапаўненьне) у залежны склон, служыць, значыць, пасрэднікам між гэтымі двума словамі, чаму і кіраваньне пры ўдзеле прыназоўнікаў называецца пасрэдным кіраваньнем.

2) Адгэтуль ясна, чаму прыназоўнікі адносяцца ў сказе выключна да назоўнікаў, або да тых іншых часьцін мовы, якія падмяняюць сабою назоўнікі, якія і мысьляцца ў сказе, як назоўнікі. Таму іменна, што падлягаць кіраваньню могуць толькі назоўнікі і ніякія іншыя часьціны мовы.

Але-ж адною дапаможна-кіраўнічаю рольлю значэньне прыназоўнікаў у мове не абмяжоўваецца.

Зьлічваючы тыя-ж самыя прыназоўнікі з склонавымі формамі назоўнікаў, мы заўважваем, паміж іншым, што адны і тыя-ж прыназоўнікі кіруюць рознымі склонамі, а з другога боку, што адны і тыя-ж склоны маюць розныя прыназоўнікі.

Так прыназоўнік „з" па нашай табліцы кіруе і творным і родным склонам (*гл. таб. № I*); потым прыназоўнік *„у"* кіруе і месным і вінавальным склонам (*гл.* IV, V). З другога-ж боку—назоўнікі творнага склону маюць пры сабе прыназоўнікі *„з"*, *„за"*, *„пад"* *„прад"* (*глядзі табл. №* 1, II, VI), а назоўнікі вінавальнага—прыназоўнікі *„на"* *„у"* (гл. табл. III, V).

Разумеецца, калі-б значэньне ў мове прыназоўнікаў абмяжоўвалася адною іх дапаможна-кіраўнічаю роляю, дык нам, па-першае, досыць было-б толькі якіх-небудзь пяць прыназоўнікаў—па ліку залежных склонаў, а, па-другое, было-б мэтазгодным да кожнага пэўнага склону прымацаваць адзін які-небудзь пэўны прыназоўнік. Для мэт выключна кіравальных гэтага было-б бязумоўна досыць.

Калі-ж, аднак, мы маем у наяўнасьці ня пяць, а значна большы лік прыназоўнікаў; калі-ж мы маем, што адзін прыназоўнік можа мець месца пры розных склонах, і, наадварот, пры адным склоне могуць мець месца некалькі розных прыназоўнікаў, дык гэта сьведчыць аб тым, што роль прыназоўнікаў, відавочна, шырэй, што яны не абмяжоўваюцца аднэй кіравальна-дапаможнаю рольлю.

І сапраўды, возьмем прыклад, калі пры аднолькавым склоне будзе мець месца розныя прыназоўнікі:

Мы прышлі ў *хату* (*вінавальны*)
Ма падлезьлі пад *хату* (*вінавальны*)
Мы залезьлі на *хату* (*вінавальны*)
Мы схаваліся за *хату* (*вінавальны*)

Як бачыце, кіруючае слова *„хату“* ва ўсіх чатырох прыкладах— у вінавальным склоне, а тым часам у кожным прыкладзе пры аднэй і тэй-жа склонавай форме стаяць розныя прыназоўнікі: *„у“*, *„пад“*, *„на“*, *„за“*, *„з-за“*.

Чым гэта тлумачыцца? А тым, што роль прыназоўнікаў сапраўды ня вычэрпваецца аднэю дапаможна-кіравальнаю функцыяй; што, апроч гэтага, яны ўносяць з сабою ў сказ яшчэ і пэўны сэнсавы, лёгічны момант.

Гэтым лёгічным момантам можа быць вызначэньне месца, як напрыклад, у прыведзеных вышэй прыкладах, часу (*калена* ад *роду*), прычыны (*усхваляваўся* ад *радасьці*), мэты (*абарона* ад *пажару і г. д.*).

Гэтыя адценьні лёгічных момантаў уласьцівы, разумеецца, ня толькі аднаму і таму-ж прыназоўніку, а і розным прыназоўнікам, як гэта бачна з прыведзенага вышэй прыкладу *(у, пад, на, за, з-за, з-пад, па-над і г. д.)*.

Вось гэтая акалічнасьць і выклікае тую зьяву, што мы маем, з аднаго боку, значна большы лік прыназоўнікаў, чым залежных склонаў, а з другога—тое, што часта адзін прыназоўнік мае месца пры некалькіх склонавых формах і, наадварот, адзін залежны склон мае некалькі прыназоўнікаў.

Падагульваючы ўсё выказанае пра прыназоўнікі, мы ў якасьці канчатковага вываду можам сказаць пра іх наступнае:

Заўважце 3:

1. Прыназоўнік нязьменная часьціна мовы, якая мае ў сказе непасрэднае дачыненьне толькі да назоўнікаў, што стаяць у форме залежных склонаў, ці да тых іншых часьцін мовы, галоўным чынам да прыметнікаў, якія падмяняюць сабою ў сказе назоўнікі і мысьляцца, як назоўнікі.

Прыклад:

а) Слухай, братка, у саламяных стрэх *да сьятла* імкненьне завялося (прыназоўнік з назоўнікам).

б) Слухай, братка, у саламяных стрэх *да сьветлага* імкненьне завялося (прыназоўнік пры прыметніку, што замяняе сабою назоўнік).

2. Асноўнае прызначэньне прыназоўнікаў—прымаць удзел у кіраваньні залежным склонам назоўнікаў, а іменна: быць пасрэднікам між словам кіруючым і кіраўным, чаму і самы спосаб такога кіраваньня цераз прыназоўнік—называецца пасрэдным кіраваньнем:

> І новы колгас на *прасторы* прышоў
> *Цьвісьці, будаваць* і *змагацца*
> На *славу* вячыстую сьветлых гадоў
> Пад *песьні* колгаснае працы — **Астапенка.**

Увага: Кіраваньне, што адбываецца ў сказе бяз удзелу прыназоўнікаў, называецца непасрэдным кіраваньнем.

Прыклад:

*Агнямі гарэў* разуквечаны клюб
І сэрцы *агнямі гарэлі.*

3. Прыназоўнікі, зьяўляючыся ў сказе пасрэднікамі між словам кіруючым і кіраўным, адначасова выконваюць і яшчэ адну ролю: яны вызначаюць ўзаемаадносіны паміж прадметамі нашае гаворкі— прасторавыя, часоўныя, прычынныя і г. д.

Гэтым значэньнем прыназоўнікаў у мове тлумачыцца і тая зьява, што адзін прыназоўнік можа злучацца з некалькімі залежнымі склонамі і, наадварот, некалькі розных прыназоўнікаў злучацца з адным пэўным залежным склонам (*гл. далей табл. прыназоўнікаў і іх склонавыя злучэньні*).

4. Між прыназоўнікам і яго назоўнікам часам знаходзяцца іншыя часьціны мовы, часьцей прыметнікі, дапасаваныя да таго-ж назоўніка. Такім чынам, прыназоўнік можа непасрэдна знаходзіцца не пры сваім назоўніку, а пры прыметніку, напрыклад. Але-ж трэба памятаць, што і такі прыназоўнік адносіцца не да прыметніка, а толькі да назоўніка, і што падобныя прыметнікі можна як устаўляць між прыназоўнікам і яго назоўнікам, так і выносіць за назоўнік, пакідаючы прыназоўнік у непасрэдным суседзтве з назоўнікам.

Прыклад:

Сёньня зрана
будуюць шляхі
У *нязнаную вабную* **далеч**.

**Ліхадзіеўскі.**

Паміж прыназоўнікам „*У*“ і яго назоўнікам „*далеч*“ знаходзіцца тут не адзін, а нават два прыметнікі, дапасаваныя да назоўніка-ж „*далеч*“, якія аднак можна паставіць у сказе і так, што прыназоўнік будзе непасрэдна прылучацца да свайго назоўніка.

Сёньня зрана
Будуюць шляхі
**У далеч** *нязнаную вабную.*

Увага: На магчымасьць устаўкі прыметніка між прыназоўнікам і назоўнікам варта зьвярнуць увагу таму, што гэта дапаможа лёгка практычна аўладаць правіламі правапісу прыназоўнікаў і прыставак, пра якіх будзе гутарка крыху далей.

## § 97. Табліца

### некаторых прыназоўнікаў і іх склонавых злучэньняў.

А) Прыназоўнікі, якія злучаюцца з некалькімі склонавымі формамі:

З.

1. З вінавальным: Велічынёю *з дом, з гору, з палец.*
2. З родным: Выехаў *з дому, з лесу, з вёскі, з гораду.*
3. З творным: Ушлі *з братам, з песьнямі, з сьцягамі.*

За.

1. З вінавальным: Узяўся *за кніжку, за навуку, за розум.*
2. З творным: Прылеглі *за садам, за стогам, за кустамі.*

На.

1. З вінавальным: Селі *на дзеравяку, на сена,* паехалі *на адпачынак.*
2. З месным: Сядзяць *на лаве,* жывуць *на лузе, на полі.*

Па

1. З вінавальным: Іду *па кніжку, па дровы, па воду, па ягады.*
2. З месным: Іду *па дарозе, па пяску, па лесе.*

Пад

1. З вінавальным: Падкаціўся *пад стол, пад хату,* падышоў *пад лес, пад мястэчка.*
2. З творным: Сеў *пад ёлкаю, пад дрэвам,* знаходзіцца *пад наглядам, пад абаронаю.*

Б) Групы прыназоўнікаў, якія належаць да аднаго і таго-ж склону.

1. Родны склон:

Ад, да: Вышаў *ад таварыша* і пашоў *да школы.* Працуе *ад зары да зары.*
Для (дзеля): Усё *для рэволюцыі.* Усё *дзеля шчасьця* працоўных.
Без (бяз): *Без падпалы* дровы не гараць. Няма агню *бяз дыму.*
Каля: *Каля вады* ходзячы, абмочышся.
З-за: *З-за хмары* бліснула сонейка. *З-за гаю* паказалася чырвоная коньніца.
З-пад: *З-пад куста* выскачыў заяц. *З-пад калоды* выпаўзла зьмяя.

2. Вінавальны склон.

За: Вядзём барацьбу *за соцыялізм.*
На: Наскочылі *на шкоднікаў, на кулакоў.*
Пад: Пад'ехалі *пад школу.*

Пра: Ідзе гутарка *пра рэволюцыю, пра правадыра.*
Праз: *Праз барацьбу* да лепшага жыцьця.
Цераз: Прыеду сюды *цераз год.*

3. Давальны склон.

К: Рыхтуемся *к вясьне, к сяўбе,* іду *к таварышу, к сястры.*

4. Месны склон.

На: *На лузе* касьба, *на полі* жніво.
Пры: *Пры комунізьме* ня будзе прыватнай уласнасьці.
Ў: *У хаце* чыста. *У лесе* грыбы.

5. Творны склон.

Над: *Над галавою* блакітнае неба
Перад: *Перад намі* дні долі шчасьлівай.
Між: *Між таварышамі* згода.
Па-за: *Па-за межамі* Саюзу пануе капітал.
Па-над: *Па-над берагам* густы туман.

*ЗАДАЧА 128:*

Сьпісаць тэкст; прыназоўнікі адзначыць дзьвюма рысамі, слова кіруючае аднэю простаю рысаю, а кіраванае пакручастаю.

Узор: Я чую грукат малаткоў і сьпеў жалеза на заводзе. Жыцьцё інакшае.

* * *

Па вечарох зьвіняць лады
пра шчасьце песень веснавое,
і як будуе колектыў
жыцьцё інакшае, другое;

як адчыніў чырвоны май
ў разьлёт гадоў тугія дзьверы,
як у комуне ўраджай
прыняў нябачныя памеры.
І песьні слухаюць дзяды
ля новых ліпавых павецяў,
успамінаючы гады
мінулай цемры ліхалецьцяў

Зыходзіць вечар.
На зямлю
Спадаюць ліпеньскія росы;
гарыць агнямі новы клюб,
у зорках сінія нябёсы.

Зямля цьвіце праз ціхі сон
жытнёвым шчасьцем урадлівым
і ніжуць ласкавы трызвон
аўсоў зялёныя спавівы

Астапенка.

*ЗАДАЧА 129:*

Сьпісаць тэкст, замест кропак уставіць прыназоўнік, а поруч з ім у дужках пытаньне, якога патрабуе даны прыназоўнік.

Узор: Прамяняў зязюлю на (*каго-што?*) ястраба.
Няма дыму без (*каго-чаго?*) агню.

I.

Ну, здаецца, усё гатова.
Раптам Дар'я просіць слова.
— Што, мужчыны, ці ня час
Нам успомніць . . . . колгас?
Ці дарэмныя . . . тры мілі
. . . . дэлегацыяй хадзілі
мы і . . . Блонь, і . . . Кавалі,—
дзе мы толька ня былі?
Наглядзеліся . . . . лета
Як прывольна там кабетам
Возьмем вас . . . . свой уплыў
і запішам . . . . . колектыў.
А ня пойдзе мой Януся—
Далібог . . . . ім расьпішуся.

II.

. . . . . аблозе—шпілі соснаў,
моцна сьпіць дзядуля-бор.
. . . . палямі . . . злую ростань
сьвішча вецер . . . . вупор.

. . . . дарозе—рып . . . санкаў
бомы звоняць . . . . гаі
. . . . санках едуць . . . бацькам Янка
. . . . . саламцы удваіх.

Сёньня Янка . . . белым доме
. . . кніжкай сядзе . . . першы раз,
. . . . ім настаўнік загамоніць,
запытаньню дасьць адказ.

А . . . . годзік матцы Янка
так напіша (ясна—сам):
— Вёска Ніжняя-Туманка,
Прывітаньне тату, Вам.

Лявонны.

*ЗАДАЧА 130:*

Выпісаць з тэксту пары слоў, зьвязаныя пасрэдным кіраваньнем, вызначаючы: 1) часьціну мовы слоў кіруючых і 2) склон слоў кіраваных.

**Узор**—глядзі ў канцы верша.

Я часта ўраньні
выходжу за горад...
Гудкамі абуджан спакой...
Ляжаць прад вачыма
балотаў прасторы,
і вербы шумяць над ракой.

А скора
пад музыку звонкае сталі
прачнецца вільготная рань
З рыдлёўкамі прыдуць
упартыя людзі...
Прадсьмертна праплача верба.

І будзе
між ніваў
расквечаных пожань
Гудзець электрычны мотор
Будынкі, будынкі—
тут вырасьце горад,
Спавіты у сталь правадоў.

Заграюць гудкі
У бяскрайным прасторы
на розныя струны—лады.
А крыху паводдаль—
на гонях шырокіх—
Заводы, заводы
пад неба, увысь...

Стаю ля балота,
і сэрца бунтарыць
шматсільным дынамо
ў грудзях маладых
Краіна! Краіна!
Паўсталі абшары
на бойку за новыя дні!!

Ракіта.

Узор выкананьня работы:

Стаю (дзеяслоў) *ля балота* (родны склон).
Сэрца бунтарыць (*дзеяслоў*) *у грудзёх* (месны).

## § 98. Асаблівасьці некаторых прыназоўнікаў.

### АБ (а).

1. Розьніцы ў сэнсе між прыназоўнікамі „*аб*“ і „*а*“ ніякае няма, абодвы з аднолькавым значэньнем ужываюцца пры вінавальным і пры месным склоне:

а) Пры вінавальным: Палец *аб* палец ня вытне. Палец *а* палец ня вытне,

б) пры месным: Песьня *аб* вясьне. Песьня *а* вясьне.

2. Пры слове „мне“ прыназоўнік „*аб*“ заўсёды стаіць у форме „*аба*“. Ты *аба мне* не клапаціся. Вам *аба мне* ня варта гаварыць.

3. Пры назоўніку „*што*“ часта ставіцца складаны прыназоўнік *аб*+*во*, пры чым часта „*ва*“ пішацца разам з „*што*“, чаму атрымоўваецца такая форма слова: „*аб вошта*“: *Аб вошта* тут спрэчка? *Аб вошта* ты так выцяўся? *За вошта* ні возьмецца—усё зробіць. *На вошта* патрэбна нам вопратка?

### ДА.

Прыназоўнік „*Да*“ злучаецца звычайна з родным склонам. Ён у даным выпадку цікавы тым, што часта можа ўжывацца замест прыназоўніка „*к*“, які зьвязан з давальным склонам. Такім чынам, пры дапамозе прыназоўніка „*ДА*“ мы можам замяніць форму давальнага склону на форму роднага.

Пайду *к* загадчыку, *к* таварышу. Пайду *да* загадчыка, *да* таварыша

### Дзеля, для, ‘ля.

Усе тры прыназоўнікі злучаюцца толькі з *родным* склонам. „*Дзеля*“ і *для*—вельмі блізкі па лёгічнай сутнасьці сваёй, чаму вельмі часта ўжываецца адзін замест другога, „*‘Ля*“—скарочанае „*для*“; „*‘ля*“ замест „*дзеля*“ ужывацца ня можа.

### З, з-за, з-пад, са.

1. Прыназоўнік „*З*“ злучаецца з родным, вінавальным і творным склонамі. Пры злучэньні з родным склонам ён можа рабіцца падвойным „*з-за*“, „*з-пад*“: Выскачыў *з-за* хаты, *з-пад* куста.

2. Прыназоўнік „*З*“ перад назоўнікам, што пачынаецца з злучэньня некалькіх зычных, прымае да сябе гук „*А*“ ды абарачаецца ў „*са*“:

*Са* мною, *са* страху, *са* скідкаю і г. д.

## „К".

Прыназоўнік *„К"* злучаецца выключна з давальным склонам. Ён часта падмяняецца прыназоўнікам *„да"*, пры чым назоўнік прымае тады форму роднага склону. Перад словам *„мне"* прымае да сябе гук *„а"*: *Ка* мне прышлі. Ты *ка* мне, ці к брату? Ты *да* мяне ці *да* брата?

## Каля ('ля).

Прыназоўнік *„каля"* злучаецца з родным склонам і таксама, як прыназоўнік *„для"*, скарачаецца і вымаўляецца *„ля"*.

*„Каля"* лесу, *„'ля"* лесу, *„Каля"* дому, *„'ля"* дому і г. д.

## Праз і цераз.

Абодвы прыназоўнікі кіруюць вінавальным склонам і часта адзін замяняе другі. Але-ж варта трымацца тут такога прынцыпу: Калі прыназоўнік вызначае рух, што прасякае якое-небудзь асяродзьдзе, дык мэтазгодней ужыць прыназоўнік *„праз"*, а калі рух мае месца паверх чаго-небудзь, дык лепш ужыць прыназоўнік *„цераз"*.

Дарога цягнецца ўвесь час *праз* лес. Аэроплян ўзьняўся і *цераз* лес паляцеў на поўдзень.

*Праз* цябе і мне добра. *Цераз* цябе я падам вестку сястры.

Крок за крокам пераможам *праз* магутную вытворчасьць.

## У, ў, ва, ува.

Прыназоўнік *„у"* мае месца пры родным (*у* мамы, у мяне), вінавальным (*у* хату) і месным склоне (*у* хаце).

Пасьля галосных прыназоўнік *„у"* дае *„ў"*. Пасьля зычных перад словам, што пачынаецца гукам *„у"* ці *„в"* дае *„ува"*: Глянь *ува* ўсе бакі.

Пасьля галосных у тым-жа выпадку *„у"* дае *„ва"*: Глянула ва ўсе бакі.

## Па-над.

Складаны прыназоўнік *па-над* злучаецца з творным склонам і вызначае рух уздоўж і над чым-небудзь:

*Па-над* берагам туман сьцелецца.

Увага: Усе складаныя прыназоўнікі пішуцца цераз злучок: з-за, з-пад, па-над.

## Паўз.

Прыназоўнік *паўз* вінавальнага склону. Ён выражае рух *паўз* край чаго-небудзь: *Паўз* лес, *паўз* балота.

Сонца зранку жарам пыша, ветрык лісьце чуць калыша, вее чуць *паўз* верх зямлі.

## § 99. Прыназоўнікі і прыстаўкі.

Амаль усе прыназоўнікі могуць быць прыстаўкамі.

*Наляцеў* тапор *на* сук. *Пагладзіў па* галоўцы. *Пад*кінулі *пад* куст. *Зрэзалі з* дрэва галіну. *Даклады* цянуліся *да* паўночы. *Пры*ладзіўся жыць *пры* комуне. *Адбіліся ад* ворага. *Без*дараж прымусіла застацца *бяз* дроў. Статак *загналі за* рэчку.

У кожным прыкладзе, як бачыце, кожны прыназоўнік, што зьяўляецца асобным словам пры залежным склоне назоўніка, лёгка зьліваецца з асноваю другога слова, лёгка робіцца яго прыстаўкаю, утвараючы новае слова, робячыся граматычнаю часткаю гэтага новага слова.

Мы ведаем, што прыназоўнік можа існаваць, як асобнае слова толькі пры назоўніках, якія стаяць у адным з залежных склонаў; прыстаўку-ж, як пэўную граматычную частку, можа мець кожнае форменае слова як зьменнае (д з е я с л о ў, н а з о ў н і к, п р ы м е т н і к), так і нязьменнае форменае слона (п р ы с л о ў е).

Прыназоўнік, як асобнае слова і на пісьме перадаецца асобным словам: пішацца, як кажуць, асобна, разьдзельна ад іншых слоў. Прыстаўкі-ж, як часткі пэўнага слова, пісацца асобна ніяк ня могуць. Яны заўсёды пішуцца зьлітна з тым словам, да якога належаць.

Але-ж на практыцы пры пісьме вельмі часта прыназоўнік няправільна залічаюць за прыстаўку і, наадварот, прыстаўку за прыназоўнік, дзякуючы, разумеецца, поўнаму гукавому іх падабенству.

І вось, каб ухіліцца ад падобных памылак, патрэбна заўсёды мець на ўвазе наступнае:

З а ў в а ж ц е:

1. Прыназоўнік можа належаць т о л ь к і д а н а з о ў н і к а. Ніякая іншая часьціна мовы мець пры сабе прыназоўнік, як асобнае дапаможнае слова, ня можа.

Прыстаўку-ж можа мець кожнае называльнае форменае слова, як сваю граматычную формальную частку.

2. Паміж прыназоўнікам і назоўнікам, як мы бачылі ў § 96, заўвазе 3 як паміж паасобных слоў, заўсёды можна ўставіць, не парушаючы сэнсу сказу, якое-небудзь іншае слова (лепш усяго прыметнік).

П р ы к л а д ы:

Мы ішлі *па беразе крутым.*

Мы ішлі *па крутым беразе.*

Мы ішлі па (кім, чым?) беразе.

Уставіць-жа іншае слова між прыстаўкаю і астатняю часткаю слова, разумеецца, нельга без парушэньня сэнсу ўсяго сказу.

*Пад медны крант пад*ставілі вядро.

*Пад* (каго—што?) крант падставілі вядро.

*Пад* (крант)—прыназоўнік; *пад*(ставілі)—прыстаўка. Першае „пад“ пішацца асобна, другое-ж—разам, зьлітна.

3. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на правапіс прыставак з дзеясловамі і прыслоўямі. Трэба цьвёрда помніць, што гэтыя дзьве часьціны мовы ніколі ня могуць мець поруч перад сабою прыназоўніка. Значыць, калі поруч з дзеясловамі, ці поруч з прыслоўем мы заўважым частку, падобную на прыназоўнік, дык мы павінны заўсёды быць упэўненымі, што гэта не прыназоўнік, а прыстаўка, і пісаць яе, як прыстаўку, зьлітна. Прыклады:

Вецер *нагнаў на* дарогу сьнегу. *З* ліпы *зьдзіралі* кару.

*Пры* нас *прынесьлі* ў бібліётэку кнігі.

Падкрэсьленыя дзеясловы—усе з прыстаўкамі. Гэтыя прыстаўкі зусім нагадваюць тыя прыназоўнікі, што знаходзяцца тут-жа, толькі поруч з назоўнікамі (глядзі *„на“*, *„з“*, *„пры“*).

Прыклады:

*У* пору зімнюю ўсякая аўчынка будзе *ўпару*. Мы рушыліся *наўдалую*. *Улетку* сонца зранку жарам пыша. *Увосень* уся прырода пачынае заміраць. *Мы пасьпяхоўна* скончылі сяўбу. *Усьлед* думкам неспакойна вецер пасьпявае.

Падкрэсьленыя прыслоўі ўсе таксама з прыстаўкамі, якія зусім нагадваюць прыназоўнікі *„у“*, *„на“*, *„з“*.

У даным выпадку тым цяжэй бывае адрозьніць прыстаўку ад прыназоўніка, што прыслоўі самі бываюць часта падобны да назоўнікаў:

*У*летку, *у*зімку, *у*гору, *на*ўдалую, *у*сьлед і г. дал.

Толькі прыём уставак прыметнікаў ці пытаньняў склону можа належна разьвязаць пытаньне, з чым мы маем справу: з прыстаўкаю, ці з прыназоўнікам:

*У* пору зімнюю = *у* зімнюю пору.

*На* галовушку ўдалую=*на* ўдалую галовушку.

А вось уставіць прыметнік ці якое-небудзь іншае слова ў наступныя прыслоўі, што з прыстаўкамі, ніяк ня можна.

Мне шапка якраз *упору* (*як?*)

Мы рушыліся *наўдалую* (*як*).

*Улетку* (*калі?*) сонца жарам пыша.

*Усьлед* (*як?*) думкам вецер падпявае.

4. Калі прыстаўка канчаецца на зычны гук і стане перад гукам *„і“*, дык вытвараецца гук *„ы“*, які і перадаецца на пісьме:

пад+ішоў=пад*ы*шоў, з+ішоў=з*ы*шоў, спад+іспаду=спад*ы*спаду.

Калі-ж перад *„і“* стане прыстаўка з галосным у канцы, дык *і* скарачаецца ў *„й“*, што таксама перадаецца на пісьме:

за+ісьці=за*й*сьці, вы+ісьці=вы*й*сьці, за+іменьнік=за*й*меньнік. Адгэтуль пры*й*шоў, за*й*шоў, вы*й*шоў і г. д.

5. Складаныя прыназоўнікі, як было ўжо адзначана раней, пішуцца з злучком: *з-за, з-пад, па-над.*

*ЗАДАЧА 131:*

1) Прачытаць верш.

2) Вып саць прыназоўнікі разам з іх назоўнікамі, разьмеркаваўшы іх паводле склонаў між адпаведных граф табліцы № 1 (глядзі ў канцы задачы).

3) Выпісаць словы з прыстаўкамі, разьмяркоўваючы іх па часьцінах мовы, згодна табліцы № 2 (глядзі ў канцы задачы).

## ПЯЦІГОДКА

Яна падышла да мяне і сказала:
„Таварыш, паслухай сягоньня мяне,
за долам зялёным, за чорным вакзалам
прасторы бязьмежныя сьняць аб вясьне.

І я зразумеў, ап'янеў ад уздыму,
рашучыя словы ад мэты вялі . . .
Прасмалены стальлю, пракопчаны дымам,
я зноў на знаёмыя ехаў палі . . .

І ў працы напорнай, і ў працы магутнай
праплыў па-над полем над вёскаю час —
і вырас на ніве, як волат чыгунны,
як дзень,—пераможны колгас . . .

Сябры!
У будаўнічых рашучых паходах,
дзе сэрцы палаюць любімай зарой,
на карце вялікіх жывых пяцігодак
мы творчыя справы акрэсьлім мяжой . . .

Хай новыя людзі назаўтра пабачаць,
як сэрцы імкнуліся край будаваць —
Праз золь, праз мяцелі,
паволі, па частках
гады ўслаўляла магутная раць . . .

Пачуюць вялікую песьню заводаў,
убачаць няведаны росквіт зямлі,
і разам на карце жывых пяцігодак,
пазнаюць, чым нашыя сэрцы жылі.

А дні прабягуць, а дні прамінуць,
а дні пераходзяць у творчы наступ, —
і з кожнай камунай, станком і трамваем
імклівыя сэрцы агнісьцей цьвітуць.

Адзінай комунай, ячэйкай адзінай,
пад крок пяцігодак, пад грукат гадзін
уздымем краіну, услаўім краіну,
у творчай, вялікай красе адрадзім!

Куляшоў.

Табліца № 1

| Родны склон | Вінавальны | Давальны | Месвы | Творны |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Табліца № 2

| Дзеяслоў | Назоўнік | Прыметнік | Прыслоўе |
|---|---|---|---|
| | | | |

*ЗАДАЧА 132:*

Сьпісаць прыклады з правільным напісаньнем прыназоўнікаў і приставак, пастаўленых у дужках.

Увага: Дужак, разумеецца, ставіць ня трэба, прыназоўнікі пісаць асобна, а прыстаўкі зьлітна.

1. (На) перад, партыя—магутнейшы асілак. Яшчэ (на) перад крок (за) рубікон.

2. Кроўю і потам (з) дабыткі (да) сягнуты, сілай агульнай (з)лажылі фундаманты; цьвёрдыя мускулы (за) раз (на)прагнуты: хто (з)нас (з)рыдлёўкаю, хто (з)нас (з) атрамантам. Федаровіч.

3. Працоўную радасьць ня зьмерыць, бунтоўны (па)рыў ня суняць. Трэ' (у) (з) могу вялікую верыць, трэ' (з)вераю жыць будаваць. Мы сьцежкі жыцьця (ад)шукалі — вялікае заўтра тварыць, таму так і песьня (ў) (ад)далях высока і горда зьвініць. Ракіта.

4. (Над)стрэхамі слаўся туманным (за)сьцілам (ад) скварак (пад)смажаных дым. Ракіта.

5. Ганебнаму ўчора (пра)клёны, шчасьліваму сёньня (пры)вет. (У)працы (зь)яднаем калёны, (на) ноў (пера)робім (су)сьвет. Ракіта.

6. (У) нас (у) жылах творчы сок; мы (ў)перад (на) стагодзьдзі бачым. Таўбін.

7. (У)сюды чутны нашы песьні (пера) мог... (За)рунелі пашы (ў)сініх паплавох і (ў) інакшай славе буйна (за)цьвілі. Мы гады (у)славім (рос)квітам зямлі. Куляшоў.

8. Сягоньня (з)ноў (пры)хаджу маладым я (на)палі радзімы каласістай, каб звонка (пра)сьпяваць (пра)наліўны і (пра) ураджайны колас. Куляшоў.

## § 100. Злучнікі.

З злучнікамі мы ўжо знаёмы. Злучнік—гэта нязьменная часьціна мовы, якая ўжываецца спэцыяльна для злучэньня паўторных аднародных членаў зьлітнага сказу і простых сказаў у сказе складаным.

Спэцыяльна злучнікамі зьяўляюцца такія бясформеныя словы:

1) *і, а, але, ды, да, ці і друг.*

Гэтыя злучнікі зьлітых і складана-злучаных злучнікавых сказаў (*гл. зад. 2-е § 24, п. 4 і заданьке 4-е § 67, заўвага).*

2) *Калі* (*злучнік умоўнасьці*), *хоць, каб, што, бо, чым, і др.* (*гл. заданьне 5-е § 83*). Гэтыя злучнікі выключна складана-залежных сказаў. Яны знаходзяцца заўсёды пры сказе залежным, падпарадкаваным і служаць граматычнаю адзнакаю яго залежнасьці.

Апроч таго, у ролі злучнікаў сустракаюцца і іншыя часьціны мовы: некаторыя прыслоўі, некаторыя назоўнікі і прыметнікі, а таксама і цэлыя злучніковыя словазлучэньні.

1) Злучнікі-прыслоўі: *як, дзе, куды, адкуль, колькі, калі* (апошні пры выражэньні часоўнасьці, а ня умоўнасьці).

2) Злучнікі скланяльн. часьціны мовы: *што, хто, які, каторы, чый.*

3) Злучнікав. словазлучэньні: *таму што, ня гледзячы на тое, што, ад таго што, як толькі і інш.*

Усе гэтыя злучнікавыя словы і словазлучэньні таксама маюць месца толькі ў складана-злучаных сказах.

## § 101. Дапаможнікі.

Ёсьць невялічкая група дапаможных бясформеных слоў, якімі дапамагаецца выражаць розныя нашы адносіны да тых ці іншых фактаў і зьяў, напрыклад:

1) Запытаньне: *Ці* ты ня чуеш? *Хіба* ты ня бачыш? *Няўжо-ж* так і трэба рабіць?

2) Адмаўленьне: *Не, ня* так трэба рабіць. *Ні* я, *ні* ты, *ні* нашы таварышы *не* павінны сядзець, злажыўшы рукі, калі йдзе баявая пасеўная кампанія.

3) Згоду: *Так, так,* і я з табою згодзен. *Але,* кожны павінен адказваць за свае ўчынкі.

4) Пажаданьне: *Няхай* жыве саюз рабочых і сялян. *Няхай* зазвоняць звонка косы.

5) Памацненьне: *Нават* камень *і* той маўчаць ня стане. *І* ты быў у тэатры?

Пералічаныя і ім падобныя словы складаюць асобную групу, асобную часьціну мовы, якая завецца проста **дапаможнікам.**

З усіх дапаможнікаў асаблівае ўвагі заслугоўваюць адмоўныя дапаможнікі, ці проста адмоўі—*не* (*ня*) і *ні* і тым іменна, што на практыцы, асабліва пры пісьме, з імі спатыкаюцца досыць частыя непаразуменьні.

Тут трэба цьвёрда ўяўляць сабе наступнае:

1) У якім значэньні і калі іменна трэба ўжываць „*не*“ (*ня*) і „*ні*“.

2) Калі *не* і *ні* зьяўляюцца прыстаўкамі і пішуцца зьлітна, а калі яны зьяўляюцца часьцінаю мовы (дапаможнікам) і пішуцца асобна.

### Ні

1) Дапаможнік „*ні*“ зьяўляецца адмоўем толькі ў такіх выражэньнях *ні* разу, *ні* адзін, *ні* з месца, *ні* на ёту, *ні* пфэніга, *ні* згі і г. д.

2) У іншых выпадках дапаможнік *ні* служыць не адмаўленьнем, а памацненьнем выражэньня, г. зн. зьяўляецца дапаможнікам памацненьня.

У такім сэнсе ён ужываецца перад дзеясловамі ў наступных словазлучэньнях.

Хто-б *ні* сказаў, а праўдзе верыць трэба.

Што-б *ні* гаварылі пра нас клясавыя ворагі, а мы будзем будаваць соцыялізм.

Як-бы *ні* стараліся шкоднікі, што-б яны *ні* рабілі, а падарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва яны бясьсільны.

Куды-б мы *ні* пайшлі, усюды будзе сонца.

Калі-б я *ні* прыйшоў, ты заўсёды за работаю.

Колькі-б яму *ні* талкавалі, ён усё сваё вярзе.

Злучнікі, што знаходзяцца перад памацняльным дапаможнікам *ні*, могуць быць і бяз *бы* (*б*), і адпаведныя выражэньні могуць тады прымаць такі выгляд:

Хто *ні* ідзе, усяк шчыпне (загадка).

Што *ні* дзень, усё бліжэй к перамозе.

Куды *ні* глянь, усюды зелень і г. д.

Ва ўсіх прыведзеных прыкладах выразна выступае не адмаўленьне, а якраз адваротнае—узмоцненае сьцьверджаньне факту:

Куды ні глянь, г. зн. калі будзем абавязкова глядзець, пры чым глядзець ва ўсе бакі.

Што ні дзень, г. зн. кожны бяз выключэньня дзень і г. д.

У тых-жа выпадках, калі ў падобных выражэньнях мы будзем мець справу з яўным адмаўленьнем, патрэбна, разумеецца, ужыць ня *ні*, а *не* (*ня*), напрыклад:

Хто *ні* зьявіцца на сход, усіх зарэгістраваць.

Хто *не* зьявіцца на сход, усіх зарэгістраваць.

Сказы па слоўным складзе розьняцца толькі дапаможнікамі *ні—не*, сэнс-жа іх зусім супроцьлеглы. Па сэнсу першага сказу патрэбна рэгістраваць тых асоб, што зьявяцца на сход, пры тым усіх бяз выключэньня (*палажэньне станоўнае, памацняльнае*), а па сэнсу другога, якраз наадварот, рэгістраваць толькі тых, хто ня зьявіцца (*палажэньне проста адмоўнае*).

3) „*Ні*" ўжываеццца яшчэ, як злучнік, у сказах, галоўным чынам, з элемэнтамі пералічэньня, калі ў іх ужо ёсьць адмоўнае *не* (таксама *няма*).

*Ні* адзін дэлегат *ня* выказаўся ў абарону антыпартыйнае опозыцыі.

*Ні* травінка ўнізе, *ні* лісток на верхняй галінцы *не* зварухнуліся.

*Ні* лёгкая прамысловасьць, *ні* транспарт, *ні* сельская гаспадарка, *ня* могуць быць пастаўлены на ногі без магутнага разьвіцьця мэталёвае прамысловасьці.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе наступнае:

а) замест *ні* ў падобных сказах заўсёды можна паставіць памацняльнае „*і*" ці „*нават*":

*І* адзін дэлегат ня выказаўся. *Нават* адзін дэлегат ня выказаўся;

б) Адмоўе „*не*" ў сказе часом можа і ня быць, але яго лёгка падставіць. Звычайна гэта бывае ў такіх выразах.

*Ні* кала, *ні* двара (*разумеецца няма*). *Ні* ўцяць, *ні* ўзяць (*разумеецца нельга*). *Ні* жывы, ні мёртвы. *Ні* рыба, *ні* мяса (*не разьбярэш*).

4) „*Ні*" сустракаецца яшчэ ў якасьці прыстаўкі пры так званых займеньніках (назоўных і прыметных), а таксама пры прыслоўях.

| | |
|---|---|
| Ніхто-нішто | нідзе |
| Ніякі | нікольк |
| Нічый | ніколі і г. д. |

5) „*Ні*" ў пераважнай большасьці пішыцца асобна, зьяўляючыся звычайна ці адмоўем (*гл. п. 1*), ці дапаможнікам памацненьня (*гл. п. п. 2, 3*), ці злучнікам у зьлітым сказе (*гл. п.* 3).

Толькі з адмоўнымі займеньнікамі і прыслоўямі *ні* пішацца злучна (*гл. п. 4*). Але-ж, калі між *ні* і самым займеньнікам стане прыназоўнік, што часом бывае, дык і *ні* і прыназоўнік, разумеецца, пішуцца асобна ад займеньніка.

*Ні* ў кім, *ні* ў чым, *ні* пры якім выпадку, *ні* за якую справу, *ні* за што, *ні* пра што, *ні* дзеля забавы і г. дал.

## Не (ня)

1. *Не* (*ня*), напісанае асобна, зьяўляецца заўсёды толькі адмоўем. У гэтым выпадку зараз-жа за адмаўленьнем ідзе якое-небудзь устанаўленьне:

Гэта *ня* праўда, а чыстая хлусьня.

Гэта *ня* праца, а толькі дарэмная трата часу.

Бачу *не* бяду, а толькі сьмех адзін.

Часам у такіх выпадках між *не* і далейшым словам можна ўставіць іншае слова, напрыклад, быў (ла-ло):

Прычыны гэтае зьявы яшчэ *ня* выяўлены (*ня былі* выяўлены).

Вашы доказы *не* перакананьны (*ня былі* перакананьны).

Нарэшце, у падобных выпадках—часам робіцца асобны націск на *не* (*ня*):

Хвароба майго таварыша ня цяжкая.

Правіла правапісу мной ўсвоена не дастаткова.

2. *Не* (*ня*), напісанае ў аналёгічных выразах (*глядзі папярэдні пункт*) зьлітна, як прыстаўка, у пераважнай большасьці зьяўляецца не адмаўленьнем, а ўстанаўленьнем якіх-небудзь адмоўных зьяў, якасьцяй і г. д.

Прыклады:

| | |
|---|---|
| непарадак | — хаос, беспарадак |
| нядбайнасьць | — дрэнныя адносіны да абавязкаў, да справы і г. д. |
| непрыяцель | — вораг |
| нясьмелы | — баязьлівы |
| няпраўда | — абман, хлусьня |
| нягодны | — благі |
| няшчасьце | — гора |
| неахайны | — брудны. |

У такіх выпадках, як бачыце, амаль заўсёды слова з адмоўем *не* (*глядзі першы слупок*) можна замяніць аднасэнсавым словам, але без адмоўя (*глядзі другі слупок*).

3. „*Не*“ (*ня*) пішыцца зьлітна ў такіх выпадках:

а) Калі слова бяз *не* зусім ня ўжываецца: *немач, недасол, нягода, нябожчык, небарака.*

б) Калі слова з адмоўем можна замяніць другім падобным па значэньні словам (*глядзі папярэдні пункт*).

в) З неазначальнымі займеньнікамі (назоўнымі і прыметнымі) і з некаторымі месnымі і часоўнымі прыслоўямі.

Займеньнікі: *нехта, нешта, нечы, неякі, некаторы, неякісь, нечага.*

Прыслоўі: *некалі, недзе, некуды, неадкуль.*

Ва ўсіх такіх выпадках звычайна на *не* прыпадае націск.

4. *Не* (*ня*) пішацца асобна:

а) З дзеясловамі і іншымі дзеясло̆унымі формамі: *ня* знойдзем; *не* пайду, *не* чакаючы, і г. д. за выключэньнем нямногіх дзеясловаў, якія бяз *не* (*ня*) ня ўжываюцца: *недамагаць, ненавідзець, няволіць, няможацца.*

б) Калі за сказам з адмоўем ідзе сказ з адваротным, супраціўным значэньнем, ці калі пасьля адмоўя можна ўставіць якое-небудзь новае слова: *быў* (*ла-ло*), *ёсьць* (*глядзі п. 1*).

в) Калі, нарэшце, пры адмоўным займеньніку між *не* і самым займеньнікам скажацца прыназоўнік: *не дзеля* каго, *не з* чаго, *ня пры* чым і г. дал.

*ЗАДАЧА 133:*

Сьпісаць тэкст, *не (ня)*, падкрэсьліць адною рысаю, а *ні* дзьвюма і растлумачыць сабе іх правапіс, кіруючыся папярэднімі правіламі.

Неўраджаі часта залежаць ад непагоды. Ні адзін чалавек ні за што ня згодзіцца ісьці ў такую цемрадзь. Нічога ня відаць: ні берагу, ні лесу. Тоўстымі нягнуткімі пальцамі, непадатлівымі, няуклюднымі, ён перабіраў груду папер. У гэтыя незабыўныя дні нязвычайнага ажыўленьня ў горадзе не давала ніякае магчымасьці сядзець дома. Некаторыя старыкі, што не хацелі здраджваць старыне, ні за што не згаджаліся выпісваць трактар.

Такая несваячасовасьць работы зусім незразумела і недапушчальна.

Як-бы ні хацелі нашы ворагі, як-бы ні стараліся, якія-б захады ні рабілі, прычыніць нам непапраўімую шкоду яны ня змогуць.

То не бяда, што ў жыце лебяда, але няма горш бяды, калі ні жыта, ні лебяды. Выяжджаць у такую непагоду нікуды ня варта, і мы ні за што не паедзем. Нам не ў каго бываць, і мы ні ў кога ня бываем.

*ЗАДАЧА 134:*

Сьпісаць тэкст, замест шматкроп'я устанавіць *не (ня)* ці *ні;* сачыць за правільным зьлітным ці разьдзельным іх напісаньні.

Колькі . . . ежджу я па нашых стэпах, як . . . цёмны бываюць часам бязьмесячныя ночы, мне . . . разу . . . выпадала зьбіцца з дарогі і перажыць стан чалавека, што заблудзіцца. Затое раз я перажыў другое . . . шчасьце: мяне засьціг у стэпу буран, і я пазнаёміўся з усімі яго жахлівасьцямі. Няма . . . чаго жахлівей гэтага стэпавога страшыдлы, ад якога . . . усякі можа ўцячы цэлым . . . пашкоджаным, бо ён душыць усё, што яму . . . пападаецца. Сэрца падае ў самага . . . пужлівага чалавека, што прывык да ўсякіх . . . год; кроў мімавольна спыняецца ў жылах; і . . . мароз, а страх выклікае такое адчуваньне, бо сьцюжа у час буранаў . . . колі . . . бывае вельмі значнаю. І сапраўды, як . . . сьмел падарожны, але страшна яму становіцца, калі пачынае лютаваць разьюшаны . . . чым . . . стрыманы вецер, калі сьнег сьлепіць вочы, калі ўсё вакол на . . . абсяжным

прасторы апранецца белым змрокам, скрозь які . . . чога . . . бачна; калі няма яму дарогі . . . узад, . . . наперад, бо ўсё замецена сьнежнаю парошаю. А кругом . . . душы, . . . гуку чалавечага голасу.

## § 102. Выклічнікі.

Выклічнікі—невялічкая група бясформеных слоў, пры дапамозе якіх мы выяўляем розныя нашы душэўныя пачуцьці: гора, радасьць, абурэньне, страх і г. д., ці патураем розным гукам прыроды: *Ох, ах, эх, гэй, ой, ай, ха-ха-ха, і-го-го, дзын-бом* і г. д.

Гэтыя часьціны мовы, прыдаючы сказу тую ці іншую афарбоўку, самі членамі сказу не зьяўляюцца і ні з якімі членамі сказу ў граматычнае злучэньне ня ўступаюць. Яны зьяўляюцца адасобленымі ў сказе словамі і заўсёды з прычыны гэтага выдзяляюцца са сказу часьцей коскаю, а то клічнікам.

Ах, жыцьцё!.. Шляхі твае хто зьмерыць?

Ой, разьвейся, сум, у ветравеях!

Ой, завіся ў радасьць, любы край!

**Звонак.**

Ай!.. І кроў запляміла паркет.
Алё!! Алё!! Прыгналі палонных?

**Кляшторны.**

---

# РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ.

(Праца над кнігаю).

## § 103. Складаны плян.

У заданьні чацьвертым мы ўжо гаварылі, што такое плян, для чаго ён патрэбен і якія бываюць пляны. У заданьні 4—5 мы ўкладалі просты плян, г. зн. вызначалі толькі асноўныя палажэньні артыкулаў, даючы ім формулёўку ці ў выглядзе пытаньняў, ці ў выглядзе звычайных загалоўкаў-фраз бяз выказьніка. Зараз мы прыпынім сваю ўвагу на пляне складаным.

Складаны плян, як і было ўжо намі адзначана (гл. зад. 4-е), розьніцца ад пляну простага толькі тым, што ў ім вызначаюцца ня толькі асноўныя, а і другарадныя палажэньні артыкулу, г. зн., што ў ім знаходзяць сабе адбітак усе складаныя часткі кожнага абзацу: і асноўнае палажэньне, і довад і ілюстрацыйны і іншы матар'ял, раз ён мае месца ў самым артыкуле.

Само сабою разумеецца, што кожнае з гэтых палажэньняў павінна быць зьмешчана пад асобным пунктам і зноў-жа строга ў той пасьлядоўнасьці, у якой яны знаходзяцца ў артыкуле. Пры гэтым трэба адзначыць, што і ў складаным пляне, як і ў пляне простым, на першым месцы будуць стаяць пункты асноўных палажэньняў, а вакол іх у выглядзе пунктаў другога парадку, а часам трэцяга і г. д. будуць групавацца палажэньні другарадныя, якія служаць, як нам вядома, толькі для разьвіцьця і ўдасканаленьня палажэньняў асноўных.

Сама нумарацыя пунктаў у складаным пляне мае звычайна такі выгляд: асноўныя палажэньні нумаруюцца рымскімі цыфрамі: I II, III і г. д.; палажэньні другога парадку цыфрамі звычайнымі (арабскімі): 1, 2, 3, 4 і г. д.; палажэньні трэцяга парадку, калі яны ёсьць, літарамі: а), б), в) і г. д. Словам, палажэньню пэўнага парадку адпавядае і пэўная нумарацыя, чаму па складаным пляне заўсёды можна ўлічыць ня толькі колькасьць палажэньняў, а іх значымасьць у артыкуле і іх узаемную сувязь там.

Для яснага ўяўленьня, што прадстаўляе сабою складаны плян і як ён будуецца, прывядзем тут складаны плян артыкулаў, простыя пляны якіх нам ужо вядомы; а іменна: 1) да артыкулу „Барацьба за навуковы сьветапогляд" і 2) да артыкулу „Стыль у рабоце". *Глядзі заданьне 4-е, § 70).*

Узор I.

„Барацьба за навуковы сьветапогляд"—Рычын.

### Плян складаны.

I. Біблійнае тлумачэньне пра зьяўленьне жывёл, расьлін і пра іх разьвіцьцё на зямлі.

1) Тэорыя тварэньня закончаных форм жывое прыроды.

2) Нязьменнасьць і пастаянства гэтых форм.

II. Тэорыя Дарвіна і яе карэнная розьніца ад тэорыі біблійнае.

1) Нясупынная зьменнасьць форм жывое прыроды, натуральнасьць і эволюцыйнасьць гэтае зьменнасьці.

2) Натуральнасьць паходжаньня чалавека і натуральнасьць разьвіцьця яго з стану жывёлы.

III. Уплыў тэорыі Дарвіна на людзкі сьветапогляд і ўзьнікненьне вакол яе барацьбы.

1) Дарвінізм і царква.

2) Дарвінізм, навуковыя, літаратурныя і палітычныя колы.

3) Дарвінізм у сучасных нам буржуазнага-капіталістычных краінах.

IV. Фундаманталізм і яго адносіны да тэорыі Дарвіна.

V. Формы змаганьня фундаманталізму з дарвінізмам.

Разгледжваючы даны складаны плян, мы бачым наступнае:

1) Усе пяць пунктаў простага пляну і ў пляне складаным зьяўляюцца выразьнікамі асноўных палажэньняў артыкулу.

Яны ўсе тут, як роўназначныя члены, адзначаны рымскімі цыфрамі I, II, III і г. д.

2) Другарадныя палажэньні ёсьць толькі пры першых трох пунктах палажэньняў асноўных, пры чым у першых двух асноўных палажэньнях па два падпункты, а ў трэцім—тры. Усе падпункты пранумараваны арабскімі цыфрамі 1, 2, 3, і ў межах кожнага асноўнага пункту свая самастойная для іх нумарацыя.

3) Пункты асноўных палажэньняў прадстаўляюць сабою, як мы ўжо адзначылі і ў 4 заданьні, асноўныя тэмы, на якія можна раскласьці артыкул, а падпункты—падтэмы, на якія распадаецца кожная з тэм асноўных.

4) IV і V пункты-тэмы ня маюць падпунктаў-падтэм. Гэта значыць, што далёка не заўсёды кожны асноўны пункт складанага пляну патрэбна і можна разьбіваць на больш дробныя часткі. Такая разьбіўка патрэбна і магчыма толькі ў тым выпадку, калі асноўная тэма прадстаўляе сабою складаную адзінку, якую можна раскласьці на яе складаныя часткі.

> Увага: Пры аналізе гатовага складанага пляну абавязкова патрэбна мець перад вачыма адпаведны артыкул і рабіць параўнаньне тэм і падтэм пляну з адпаведнымі ім месцамі тэксту.

Узор II.

„Стыль у рабоце“—І. Сталін.

### Складаны плян.

I. Ленінскі стыль у рабоце і яго характэрныя асаблівасьці (уступная частка).

II. Характэрныя асаблівасьці рускага рэволюцыйнага размаху.

1) Істота рускага рэволюцыцыйнага размаху і яго жыцьцёвая значнасьць.

2) Небясьпека выраджэньня яго ў „рэволюцыйную“ манілаўшчыну.

3) Адносіны Леніна да фактаў такога выраджэньня:

а) Комуністычная чванлівасьць і яе зьмест.

б) Комуністычная чванлівасьць і жывыя факты комуністычнага будаўніцтва.

III. Характэрныя асаблівасьці амэрыканскае дзелавітасьці.

1) Істота амэрыканскае дзелавітасьці і яе значэньне ў жыцьці.

2) Небясьпека выраджэньня яе ў вузкае і бяспрынцыпнае дзяляцтва.

3) Адносіны Леніна да фактаў такога выраджэньня.

IV. Вынікі сынтэзу (аб'яднаньня) расійскага рэволюцыйнага размаху і амэрыканскае дзелавітасьці (заключная частка).

> Увага: 1) Адменнасьць данага складанага пляну ад пляну папярэдняга толькі тая, што п. II мае ня толькі падтэмы наогул, а і падтэмы 2-га парадку, якія адзначаны ў пляне ўжо ня цыфрамі, а літарамі а), б).

2) Пры разглядзе гэтага пляну, як і папярэдняга, абавязкова зьвярайце пункты з адпаведнымі месцамі артыкулу.

*ЗАДАЧА 135:*

Уклясьці складаны плян ніжэйпаданага артыкулу.

**„Партыя, як вышэйшая форма клясавае арганізацыі пролетарыяту". І. Сталін.**

Партыя ёсьць арганізаваны атрад рабочае клясы. Але партыя ня ёсьць адзіная арганізацыя рабочае клясы. У пролетарыяту ёсьць яшчэ цэлы рад іншых арганізацый, без якіх ён ня можа весьці правільную барацьбу з капіталам: профэсыйныя саюзы, коопэратывы, фабрычна-заводзкія арганізацыі, парлямэнцкія фракцыі, беспартыйныя аб'яднаньні жанчын, друк, культурна-асьветныя арганізацыі, саюзы моладзі, рэволюцыйна-баявыя арганізацыі (у час адкрытых рэволюцыйных выступленьняў), саветы дэпутатаў, дзяржаўныя формы арганізацыі (калі пролетарыят трымае ўладу) і г. д. Вялізарная большасьць гэтых арганізацый зьяўляецца беспартыйнымі, і толькі некаторая частка з іх прымыкае проста да партыі ці складае яе разгаліненьне. Усе гэтыя арганізацыі пры вядомых умовах абсалютна неабходны рабочай клясе, бо бяз іх нельга замацаваць клясавыя позыцыі пролетарыяту ў разнастайных сфэрах барацьбы, бо бяз іх нельга загартаваць пролетарыят, як сілу, якая прызначана замяніць буржуазныя парадкі парадкамі соцыялістычнымі.

Але як зьдзейсьніць адзінае кіраўніцтва пры такім багацьці арганізацый? Дзе гарантыя, што наяўнасьць мноства арганізацый не павядзе да разнабою ў кіраўніцтве? Могуць сказаць, што кожная з гэтых арганізацый вядзе работу ў сваёй абасобленай сфэры, і што яны ня могуць з прычыны гэтага перашкаджаць адна другой. Гэта, разумеецца, справядліва. Але справядліва і тое, што ўсе гэтыя арганізацыі павінны весьці работу ў адным кірунку, бо яны абслугоўваюць адну клясу—клясу пролетараў. Цяпер пытаньне: хто вызначае тую лінію, той агульны кірунак, па якім павінны весьці сваю работу ўсе гэтыя арганізацыі? Дзе тая цэнтральная арганізацыя, якая ня толькі здольна, дзякуючы наяўнасьці неабходнага вопыту, выпрацаваць гэтую агульную лінію, але мае яшчэ магчымасьць, дзякуючы наяўнасьці выстарчальнага для гэтага аўторытэту, падштурхнуць усе гэтыя арганізацыі правесьці ў жыцьцё гэтую лінію для таго, каб дамагчыся адзінства ў кіраўніцтве і адхіліць магчымасьць перабоеў?

Такою арганізацыяй зьяўляецца партыя пролетарыяту.

Партыя мае для гэтага ўсе даныя таму, па-першых, што партыя ёсьць зборны пункт лепшых элемэнтаў клясы, якія маюць простую сувязь з беспартыйнымі арганізацыямі пролетарыяту і вельмі часта кіруюць імі; таму, па-другое, што партыя, як зборны пункт лепшых людзей рабочае клясы, зьяўляецца лепшаю школаю выпрацоўкі лідэ-

раў рабочае клясы, здольных кіраваць усімі формамі організацыі свае клясы; таму, па-трэцяе, што партыя, як лепшая школа лідэраў рабочае клясы, зьяўляецца па сваім вопыце і аўтарытэце адзінай організацыяй, здольнай цэнтралізаваць кіраўніцтва барацьбою пролетарыяту і ператварыць, такім чынам, усе і ўсялякія беспартыйныя організацыі рабочае клясы ў органы абслугоўваньня і ў прыводныя раменьні, што зьвязваюць яе з клясаю. Партыя ёсьць вышэйшая форма клясавае організацыі пролетарыяту.

Гэта ня значыць, разумеецца, што беспартыйная організацыя, профсаюзы, коопэратывы і г. д. павінны быць формальна падпарадкаваны партыйнаму кіраўніцтву. Справа ідзе толькі пра тое, каб члены партыі, што ўваходзяць у склад гэтых організацый, як людзі, бязумоўна, уплывовыя, прымалі ўсе меры перакананьня для таго, каб беспартыйныя організацыі збліжаліся ў сваёй працы з партыяй пролетарыяту і добравольна прымалі яе палітычнае кіраўніцтва.

Вось чаму гаворыць Ленін, што „партыя ёсьць вышэйшая форма клясавага аб'яднаньня пролетараў", політычнае кіраўніцтва якой павінна быць пашырана на ўсе іншыя формы організацыі пролетарыяту (гл. „Дзіцячая хвароба").

Вось чаму опортуністычная тэорыя „незалежнасьці" і „нейтральнасьці" беспартыйных організацый, што плодзяць незалежных парлямэнтараў і адарваных ад партыі дзеячоў друку, вузкалобых профэсыяналістаў і абмяшчаненых коопэратараў,—зьяўляецца абсалютна несумяшчальнаю з тэорыяй і практыкаю ленінізму.

(„Аб асновах Ленінізму", выд. 1925 г. стар. 110).

**Кантрольная праца № 6.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| § 87. | Задача 121. | § 97. | Задача 129, 130. |
| § 89. | „ 122. | § 99. | „ 131, 132. |
| § 90. | „ 123. | § 101. | „ 134. |
| § 93. | „ 126. | § 103. | „ 135. |
| § 95. | „ 127. | | |




# ГІСТОРЫЯ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ

## У ЗАХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ, НА ЎСХОДЗЕ І ПАЎНОЧНА-АМЭРЫКАНСКІХ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ.

**Аддзяленьні завочна-курсавыя.**

*Курс вядзе В. А. ВАСЮЦІНСКІ.*

## ЗАДАНЬНЕ ШОСТАЕ.

### 1. Тэма: Рэволюцыя 1848 г. ў Францыі і Германіі.

### II. Папярэднія заўвагі.

Рэволюцыя 1848 г. аказала ў свой час вялікі ўплыў на разьвіцьцё эўропэйскай гісторыі, немалую ролю адыграла яна і ў разьвіцьці рабочага руху. З рэволюцыяй 1848 г. мы ўступаем у пэрыод рэволюцый эпохі прамысловага капіталізму, і ў гэтых адносінах азнаямленьне з ёю мае для нас вялікі практычны інтарэс. І сапраўды ў гэты час упяршыню рабочая кляса выходзіць на палітычную арэну, як пэўная сіла, высоўвае свае асобныя клясавыя патрабаваньні, рэзка процілеглыя інтарэсам кіруючых клясаў. „Так званыя рэволюцыі 1848 г., гаварыў на юбілеі аднэй рабочай газэты К. Маркс, выявілі пад сабою бязьдоньне. Пад знадворна нярухомай паверхняй выкрыўся неабсяжны акіян, якому досыць узварушыцца, каб раскідаць у брызкі цэлыя матэрыкі. Шумна і бязладна прарочылі падзеі гэтага году вызваленьне пролетарыяту—гэтую тайну XIX стагодзьдзя і яго рэволюцыі". Паколькі вызваленьне пролетарыяту абумоўлівае гібель буржуазнага ладу, мы можам сказаць, што рэволюцыі 1848 г. зьявіліся першым сыгналам, які прарочыў хуткае зьнішчэньне ладу эксплёатацыі і нявольніцтва. З гэтага пункту гледжаньня мы і паспрабуем падыйсьці да нашага заданьня. У ім мы разгледзім рэволюцыю толькі ў двух краінах—Францыі і Германіі, бо тут падзеі прынялі найбольш арыгінальны зварот, з большай чым дзе-небудзь яскравасьцю паказалі ўсе супярэчнасьці прамыслова-капіталістычнага грамадзтва. У адносінах францускай рэволюцыі мы павінны будзем дасьледваць тры проблемы: 1) прычыны лю-

таўскае рэволюцыі і характар клясавых боек, якія падрыхтавалі чэрвеньскае паўстаньне рабочае клясы ў Парыжы; 2) социяльную сутнасьць, значэньне і вынікі гэтага паўстаньня; 3) клясавы характар пэрыоду рэакцыі, які надыйшоў сьледам адразу за чэрвеньскімі падзеямі, і клясавыя прадпасылкі банапартызму.

У адносінах германскай рэволюцыі наша задача будзе зьмяшчацца ў тым, каб дасьледваць: 1) социяльныя прычыны, ход і клясавы характар рэволюцыі. 2) Ролю буржуазіі ў рэволюцыі і прычыны таго, чаму гэтая рэволюцыя скончылася неудачай. 3) Тактыку Маркса і Энгельса і тыя ўрокі, якія дае нам уся іх рэволюцыйная дзейнасьць у той час.

---

А.

Мы разглядзім спачатку пытаньні, якія датычацца Францускае рэволюцыі.

Увесь ход клясавых узаемаадносін у гэты пэрыод гісторыі Францыі, уся яе экономічная эволюцыя рабілі нямінучым рэволюцыйны выбух. Зьяўляючыся ўрадам фінансавай алігархіі,—як дасьціпна заўважыў Маркс,—акцыйнай кампаніяй эксплёатацыі францускага нацыянальнага багацьця,—як казаў Маркс,—монархія Луі-Філіпа пабуджала нездавальненьне амаль усіх кляс грамадзтва. Прамысловая буржуазія, якая экономічна ўзмацнілася за час прамысловага перавароту 30—40 г.г., марыла цяпер пра захоп політычнае ўлады, імкнулася паўтарыць на францускай глебе падзеі 1832 г., каб лепш прыстасаваць урадавую машыну для ажыцьцяўленьня сваіх інтарэсаў.

Дробная буржуазія гораду і сялянства ненавідзелі ліпнёўскую манархію за яе цяжкія падаткі і політыку ахвяр і спэкуляцый—характэрная рыса гэтага пэрыоду,—якая давала ім няўпэўненасьць у заўтрашнім дні, разбурала іх і пагражала галотай. Яны жадалі рэволюцыі ў мэтах устанаўленьня дэмократычных рэформаў і рэспубліканскага ладу. Нарэшце, пролетарыят, які больш за ўсіх пакутваў з-за жахаў прамысловага перавароту, эксплёатацыі буржуазіі і поўнага беспраўя, больш за ўсіх быў зацікаўлены у рэволюцыі і актыўна рыхтаваўся да яе, для таго, каб устанавіць такі социяльны лад, пры якім не існавалі-б эксплёатацыя капіталістых, палітычнае прыгнечанасьці, а рабочы меў бы права карыстацца прадуктам сваёй працы, такія былі супярэчнасьці *паміж клясамі напярэдадні рэволюцыі.*

Лютаўскі выбух толькі абвастрыў іх і зрабіў яшчэ больш няпрымірымымі.

Зрынуцьцё манархіі было справай рук парыскіх пролетараў і рамесьнікаў, але новы ўрад, хоць і ўключыў у сябе прадстаўнікоў усіх партый, варожых старому ладу, тым ня менш быў у большасьці сваёй буржуазным і імкнуўся правесьці клясавыя інтарэсы буржуазіі. Уся

політыка Часовага Ўраду была накіравана на тое, каб вызваліцца ад уплыву рабочых мас. Яна абвясьціла рэспубліку пад ціскам гэтым мас, але рэспубліку буржуазную, толькі абстаўленую, як сказаў Маркс, соцыяльнымі ўстановамі. Аднак і гэтыя „соцыяльныя ўстановы“ зьяўляліся фальсыфікацыяй патрабаваньняў пролетарыяту: замест міністэрства працы яму далі бяспраўную Люксэмбургскую камісію, куды буржуазія пастаралася сьпіхнуць „рабочых міністраў“ і такім чынам адхіліць іх ад удзелу ва ўрадзе, замест організацыі працы рабочыя атрымалі нацыянальныя майстэрні, мізэрную пародыю на проэкты Луі Блана. Але пролетарыят не разумеў яшчэ, што ніякія „соцыяльныя ўстановы“ рэальна невыканальны, пакуль пануе капіталістычны лад, і марыў дамагчыся сваіх ідэалаў, не закранаючы ў корані асноў буржуазнага грамадзтва. Умацаваньне гэтых дробна-буржуазных ілюзій сярод рабочае клясы спрыяла ў вялікай меры пропагандзе соцыялістаў тыпу Луі Блана: „яна,—пісаў тав. Ленін,—перайшла на пазыцыі дробна-буржуазных ілюзій, прыкрашаных фразэолёгіяй нібы „соцыялізму, якія ў сапраўднасьці служылі толькі ўзмацненьню ўплыва буржуазіі на пролетарыят“ (Ленін, збор твораў XX). Луіблянаўшчына загубіла справу рэволюцыі, прароцтвам згодніцтва адцягвала рабочых ад рашучай барацьбы супроць капіталізму, паслабляючы тым самым іх сілы, комэдыяй клясавага супрацоўніцтва, закрываючы ім вочы на небясьпеку контр-рэволюцыі, якая насоўвалася. Пакуль рабочая кляса марыла пра палепшаньне соцыяльнага ладу, буржуазія організавалася і паступова павяла атаку. У гэтай справе „яна знайшла, кажа Маркс, нечаканае падтрыманьне з боку масы нацыі—сялян і дробных буржуа, якія кінуліся раптам на палітычную арэну, як толькі палі бар‘еры ліпнёўскай манархіі“ (Маркс, 18 брумэра Луі-Наполеона). Сялянства, раззлаванае новым 45-сантымавым падаткам на яго, бачыла ў рэволюцыі пагрозу сваёй уласнасьці, „ваганьні-ж дробнае буржуазіі, якую напалохалі чырвонай зданьню і якая падупала крыкам супроць анархістаў, адхілілі яе ад ролі актыўнага дзеяча, і, скарыстаўшы яе боязьнь даверыцца пролетарам, французскі генэрал Кавеньняк пайшоў на разбраеньне парыскіх рабочых, на масавы расстрэл іх“ (Ленін, збор твораў XX). Устаноўчы сойм, які сабраўся 4 мая 1848 г., у большасьці сваёй складаўся з прадстаўнікоў буржуазнае рэакцыі. Ён адкрыта павёў наступ на ўсе заваёвы рабочае клясы. Апошняя зразумела сутнасьць сойму, але было позна, паўстаньне, прадпрынятае з мэтай разагнаць Устаноўчы сойм, скончылася няўдачай, і рабочая кляса была толькі абяскроўлена: яе самыя энэргічныя правадыры былі арыштаваны. Рад пасьлядоўных udaraў у далейшым упала на нацыянальныя майстэрні і так пагоршыў іх становішча, што рабочым „заставалася абраць галодную сьмерць ці ўступіць у бойку“ (Маркс, „Барацьба клясаў у Францыі“). Такія былі прычыны чэрвеньскага паўстаньня.

Высьветліўшы сэнс гэтага апошняга, мы вырашым другую нашу проблему. Тут трэба перш за ўсё адзначыць два істотных факты: дробная буржуазія, напалоханая за сваю ўласнасьць, апынулася на тым

баку барыкад; рабочая кляса была справакавана на паўстаньне буржуазіяй: яна выступіла, ня маючы ні пляну, ні правадыроў і амаль бяз зброі. Пяць дзён яна супраціўлялася войскам буржуазіі, але нарэшце павінна была пацярпець паражэньне—занадта няроўныя былі сілы. „У чэрвеньскія дні, кажа Маркс, усе клясы і партыі злучыліся ў партыю парадку супроць пролетарскае клясы... Лёзунгі старога грамадзтва: *уласнасьць, сям'я, рэлігія, парадак*—яны зрабілі паролем сваёй арміі" (Маркс, 18 брумэра Луі-Наполеона). Такім чынам мы ясна бачым тут першае выступленьне пролетарыяту супроць улады буржуазіі, супроць капіталістычнага ладу. Папярэднія рэволюцыі пакідалі недатыкальным клясавае панаваньне, кажа Маркс, усе яны пакідалі недатыкальным нявольніцтва рабочага, усе яны пакідалі недатыкальным буржуазны лад... Чэрвень зрабіў замах на гэты парадак"... (Маркс, „Барацьба клясаў у Францыі").

Ня гледзячы на паражэньне чэрвеньскага паўстаньня, вынікі яго былі вялізарныя: яно расплюшчыла вочы пролетарыяту на сутнасьць буржуазнае рэспублікі, як панаваньне капіталу і нявольніцтва працы; яно паказала, што задачаю будучае пролетарскае рэволюцыі зьяўляецца не палепшаньне дзяржаўнае машыны, а разбурэньне, зьнішчэньне яе".

Тут мы прыступаем да разгляду трэцяе проблемы нашага заданьня. Вузлавымі момантамі ў даным выпадку будуць крушэньне партыі дробнае буржуазіі, паступовы распад і крушэньне партыі парадку, перамога банапартызму.

## Б.

Рэволюцыя 1848 г. у Германіі прыняла іншыя формы, чым у Францыі, бо, гаворыць Энгельс,—„злучэньне розных клясаў, якія становяць сабою аснову політычнае організацыі, у Германіі было больш складаным, чым у якой-небудзь іншай краіне.

Германія яшчэ не перажыла свайго 1789 г.; у капіталістычных адносінах яна значна адставала ад Англіі і Францыі; нямецкая сельская гаспадарка аплуталася цэлым радам фэўдальных перажыткаў, а прамысловасьць па большай частцы мела мануфактурны ці рамесьніцкі характар; прамысловы пераварот пачаўся ў Германіі толькі ў 40 г. г. і рэзультаты яго яшчэ не маглі выявіцца. Нарэшце політычны лад яе сільна перашкаджаў далейшаму экономічнаму разьвіцьцю: Германія была раздроблена на рад дробных дзяржаў; у большасьці з іх каралеўская ўлада была неабмежаванай; дваранства зьяўлялася „першым станам" у краіне і мела рашаючае значэньне ва ўсіх справах. Што датычыцца іншых клясаў германскага грамадзтва, то буржуазія не станавіла сабою такое сілы, як кажам, у Англіі ці ў Францыі; праўда, пасьля разгрому Наполеона яе экономічнае значэньне, а часткова і політычнае, узрасло. Яна разумела цяпер, што ў такіх умовах разьвіцьцё яе інтарэсаў будзе заўсёды тармазіцца. Буржуазія імкнулася да нацыя-

нальнага аб'яднаньня, да абмежаваньня абсолютызму (констытуцыя) і эканомічнае свабоды. Аднак, у адрозьненьне ад буржуазіі Вялікай Францускай Рэволюцыі буржуазія нямецкая змаганьне за свае патрабаваньні вяла баязьліва і нерашуча. „Нямецкая буржуазія разьвівалася так вяла, боязьліва і марудна, што ў той момант, калі яна варожа супроцьстояла фэўдалізму і абсолютызму, яна ўбачыла сябе варожа супроцьстаячаю пролетарыяту і ўсім слаём гарадзкога насельніцтва, інтарэсы і ідэі якіх былі блізкі пролетарыяту. Яна бачыла варожым сабе ня толькі клясу пазаду сябе, але ўсю Эўропу перад сабою", (Маркс). Сапраўды, мы бачым, што з посьпехамі прамысловасьці расла і рабочая кляса, яна была яшчэ малалікая і слабая; вялізарную масу яе складалі падмайстры і саматужнікі, але супярэчнасьці паміж працаю і капіталам ужо рэзка выявіліся: успыхвалі стыхійныя паўстаньні (сілескія ткачы і богэмскія набойшчыкі ў 1844 г.), галодныя бунты зараджаліся профэсыянальныя і рэволюцыйныя організацыі, а разам з імі комуністычныя ідэі пранікалі ў рабочыя масы.

Нам застаецца яшчэ сказаць некалькі слоў пра гарадзкую дробную буржуазію і сялянства. Першая ў Германіі была вельмі шматлікая. Політычныя настроі дробнае буржуазіі вызначаліся прамежным яе становішчам паміж буржуазіяй, да становішча якое дробны буржуа імкнуўся падняцца, і пролетарыятам, у рады якога разьвіцьцё капіталізму выкідвала рамесьнікаў, якія разбураліся, і дробных гандляроў. „Яна, як гаворыць Энгельс, ахватываецца пароксызмам дэмократызму калі буржуазія заваявала для сябе панаваньне і ўпадае ў самую жалкую трусасьць, калі... пролетарыят адважваецца на самастойны рух" (Энгельс—Рэволюцыя і контр-рэволюцыя ў Германіі). Што датычыцца нямецкага сялянства, то паводле закону 1807 г. яна атрымала асабістую свабоду цаною страты зямельнае ўласнасьці. Толькі вузкі слой кулацкага сялянства змог з вялікімі матэрыяльнымі стратамі атрымаць зямлю.

Усё гэта паказвае, што ўсе клясы нямецкага грамадзтва за выключэньнем дваранства, былі нездаволены сваім становішчам; гэтая нездаволенасьць абвастрылася з прычыны эканомічнага крызіса 1847 г. і рэакцыйнай політыкі ўраду, не хапала толькі штуршка, каб успыхнула рэволюцыя: гэтую задачу і выканалі лютаўскія падзеі ў Франныі. Мы гаварылі вышэй, што Германія чакала свайго 1789 г.; гэты момант зараз надышоў, але абстаноўка, у якой адбывалася рэволюцыя, сільна адрозьнівалася ад францускае. Перш за ўсё была розьніца ў суадносінах клясавых сіл: у Германіі, як пэўная вялічыня, існаваў пролетарыят; іменна рабочыя дамагліся перамогі над абсолютызмам; выступіўшы такім парадкам на першы плян, яны прад'явілі рад патрабаваньняў, як усеагульнае выбарчае права, свабода сходаў, друку і г. д. Яшчэ раней, напалоханая роляю пролетарыяту ў францускай рэволюцыі, буржуазія цяпер пачала баяцца як-бы ненавісныя прынцыпы комунізму ня ўдарылі па яе ўласнасьці. „Супроць неперамажнага рабочага, хоць ён яшчэ не выставіў асобнага патрабаваньня ў сваіх улас-

ных інтарэсах, аб'ядналіся старыя сябры і ворагі. Гэты саюз паміж буржуазіяй і прыхільнікам нізрынутае сыстэмы быў заключаны яшчэ на барыкадах Бэрліну",—гаворыць Энгельс. Вынесены рэволюцыйнаю хваляю новы буржуазны ўрад здрадзіў цяпер тым, хто памог захваціць уладу. Ён пачаў усякімі спосабамі затушоўваць рэволюцыю, каб зьвесьці на нішто. Аб'яднаны ляндтаг, які быў сабраны, нічога не зрабіў для сялян і адхіліў патрабаваньне ўсеагульнага выбарчага права; старая бюрократыя і ваеншчына засталася ўся на сваіх мясцох; буржуазныя міністры, — як гаворыць Энгельс, — пачалі карыстацца ўсім старым дзяржаўным мэханізмам, каб зноў увесьці „парадак"... У Прусіі нічога не зьмянілася, апроч асобы міністраў (Рэволюцыя і контр-рэволюцыя ў Германіі). У скліканым праз некаторы час Устаноўчым Сабраньні буржуазія адмовілася самастойна бяз згоды з каралём вырашаць усе пытаньні, аб'явіла сябе, так сказаць, пагаджальнаю палатаю. Яе нянавісьць да рэволюцыі выявілася ў адмоўным адказе на прапанову прызнаць заслугі рэволюцыйных змагароў *18 сакавіка. Буржуазія высунула новы грамадзкі дагавор, згодна якому* „карона ахвяруе дваранства для буржуазіі, а буржуазія ахвяруе народ для кароны" (Маркс).

Адначасна ў Германіі пачаўся новы рух—змаганьне за яе аб'яднаньне. Але і тут, пры правядзеньні ў жыцьцё гэтае задачы, буржуазія імкнулася ўжыць самыя мірныя сродкі. Для гэтае мэты ў Франкфурце-на-Майне было склікана нацыянальнае сабраньне (так зван. Франкфурцкі парлямант), але замест таго, каб заняцца неадкладнымі пытаньнямі—стварыць часовы ўрад, даць яму вайсковую сілу, якая магла-б зламаць сабатаж галоў асобных дзяржаў, якія трымаліся за сваю ўладу—сабраньне занялося абмеркаваньнем конституцыі. У той час, як дэпутаты бясконца займаліся спрэчкамі пра пункты будучае конституцыі, нямецкія каралі і князі аднаўлялі „парадак": разганялі Ўстаноўчае Сабраньне, зьнішчалі заваёвы рэволюцыі. Замест таго, каб сілаю правесьці ў жыцьцё справу аб'яднаньня Германіі, Франкфурцкі парлямант зьвярнуўся за падтрыманьнем да каралёў і, вядома, атрымала адмову. Майскае паўстаньне на карысьць аб'яднаньня не спаткала ніякае дапамогі ад Франкфурцкіх гаваруноў, яны баязьліва адышлі у бок, хоць іх аўторытэт быў сільны і яны многа маглі-б зрабіць у сэнсе посьпеху паўстаньня. Майскае паўстаньне, у якім актыўны ўдзел прыняла рабочая кляса, было прыдушана, галоўным чынам з прычыны нерашучасьці і баязьлівасьці, якая была праяўлена дробнаю буржуазіяй. Ганебна пачаўшы, Франкфурцкі парлямант у скорым часе ганебна і скончыў: ён дазволіў разагнаць сябе прускай ваеншчыне. Прашло нямнога часу і рэакцыя перамагла ўсюды, рэволюцыя закончылася.

Яна станавіла сабою клясычны прыклад няскончанае буржуазнае рэволюцыі. Прычына яе няўдачы ў тым, што германская буржуазія разарвала неабходны для рэволюцыі саюз з сялянамі, якія зьяўляліся, паводле слоў Маркса, „самым натуральным саюзьнікам буржуазіі, імена дэмократычнай буржуазіі, без якіх яна „бясьсільна" супроць

рэакцыі“. Сабраньні 1848 г. у Германіі паказалі, што, пры наяўнасьці пролетарыяту, буржуазія няздольна давесьці сваю рэволюцыю да канца. Гэта можа зрабіць толькі рабочая кляса, якая толькі адна здольна павесьці сялянства на змаганьне з фэўдалізмам. Урокі германскае рэволюцыі ляглі ў аснову тактыкі бальшавізму ў 1905 г. Ленін, супярэчачы баязьліваму ляманту меншавікоў, давёў на прыкладзе 48 г. у Германіі, што толькі рабочая кляса ў саюзе з сялянствам можа давесьці да канца буржуазную рэволюцыю. Опыт рэволюцыі 1848 г. нам важны яшчэ і паводле іншых прычын: вывучаючы яе, мы вывучаем тактыку Маркса і Энгельса ў рэволюцыйным руху. Абодва яны прынялі ў ім самы дзейны ўдзел. Пры чым Маркс у сваіх выдатных артыкулах у „Новай Рэйнскай газэце“ вызначыў плян дзеяньняў пролетарыяту. Ён гаварыў, што пролетарыят павінен прыняць самы непасрэдны ўдзел у буржуазнай рэволюцыі, падтрымліваючы ўсялякі дэмократычны рух, здольны штурхаць рэволюцыю ўперад. Пролетарыят павінен, паводле яго слоў, імкнуцца давесьці рэволюцыю да канца, бо з яе перамогаю паскараецца рост капіталізму, а разам з тым набліжаецца соцыялістычная рэволюцыя. Перамога буржуазіі паскарае, паводле думкі Маркса, разьвіцьцё клясавае самасьвядомасьці рабочае клясы, а дэмократычны лад дае магчымасьць стварыць палітычную рабочую партыю. Ён рэзка выступаў супроць усякіх адмаўленьняў ад рэволюцыйных спосабаў змаганьня. У гэтых адносінах ён рэзка асуджваў „экономізм“ рабочага саюзу, які кіраваўся Борнам і адкідаў неабходнасьць палітычнай работы.

Марксу можа быць кінуты дакор, што ён не стварыў самастойнай палітычнай партыі рабочае клясы, але гэта тлумачыцца ў значнай меры слабасьцю пролетарыяту ў Германіі таго часу. У артыкулах у „Новай Рэйнскай газэце“ і адозьве „саюзу камуністаў“ палажыў пачатак вучэньню аб ролі пролетарыяту буржуазнай рэволюцыі, вучэньню, якое было дасканала распрацавана Ў. І. Леніным.

## III. Мэта заданьня.

Мэтаю гэтага заданьня зьяўляецца: 1) Высьвятленьне прычын і прадпасылак рэволюцыі 1848 г., з аднаго боку, у Францыі, з другога— у Германіі; 2) вызначэньне рухаючых сіл гэтых рэволюцый (роля буйной і дробнай буржуазіі, роля пролетарыяту) на фоне вывучэньня клясавай барацьбы ў той час; 3) устанаўленьне прычын крушэньня рэволюцыйнага руху ў абедзьвюх краінах і яго соцыяльных вынікаў; 4) характарыстыка рэволюцыі 1848 г. у Францыі і Германіі, высьвятленьне іх розьніц, іх гістарычнага значэньня і тых урокаў, якія мы можам атрымаць ад знаёмства з ёю.

## IV. Мэтад прапрацоўкі заданьня.

### А.

Прыступаючы да прапрацоўкі гэтага заданьня, мы перш за ўсё пазнаёмімся з рэволюцыйнымі падзеямі ў Францыі.

1) Для гэтага трэба раней успомніць усё тое, што адносіцца да эпохі ліпнёўскай манархіі: якая была экономічная структура Францыі ў гэты пэрыод, які характар мелі тады клясавыя супярэчнасьці, у чым зьмяшчаліся патрабаваньні паасобных соцыяльных груповак і якія былі асаблівасьці палітычнага ладу манархіі Луі-Філіпа. Для гэтага трэба прачытаць з С. Монасава „История революционных движений“ (ст. 98—106 да § „Кризис 1847-48 г. г.), з кнігі Н. Лукіна „Новейшая история Зап. Европы“ §§ 73, 74 і 76, а ў выпадку яе адсутнасьці з кнігі Арк. А—на „История Зап. Европы и САСШ“ ст. 292—317.

2) Перайсьці да высьвятленьня непасрэдных прадпасылак лютаўскае рэволюцыі неўраджай бульбы і экономічны крызіс 1847 г.—для чаго прачытайце з паказанай кнігі С. Монасава ст. 106—107 (да „Рэволюцыя 1848 г.“), а апроч таго, з Маркса і Энгельса „Исторические работы“, ст. 27—32 да слоў „Временное правительство...“ (для прапагандыстаў), а з навучальна-дапаможнага матар'ялу да гэтага заданьня № № 1—2.

3) Адносна Лютаўскае рэволюцыі, ролі рабочае клясы ў гэты час і палітыкі часовага ўраду, прачытайце з паказанай кнігі С. Монасава ст. 107—111 (да парагр. „Учредительное Собрание“), апроч таго з Арк. А—на пак. твор. ст. 413—424 (да парагр. „Национальное Учредительное Собрание“), з Маркса і Энгельса, пак. тв. ст. 32—46 да слоў „4 мая“ (для прапагандыстаў), а з навучальна-дапаможнага матар'ялу да гэтага заданьня № № 3—4. Прапрацоўваючы гэты разьдзел, зьвярніце ўвагу на наступныя моманты: тактыка рабочае клясы ў яе ўзаемаадносінах з Часовым Урадам, палітычная роля Луі Блана, характар мерапрыемства буржуазіі ў адносінах да працоўных мас за гэты час.

4) Адносна Устаноўчага Сойму, папераджаўшага чэрвеньскія дні, уважліва разьбярэцеся ва ўсіх мерапрыемствах Устаноўчага Сойму, яго настроях і складзе, паспрабуйце зразумець няўдачу выступленьняў рэволюцыйных партый у гэты час і вызначыць повады да ўзьняцьця рабочага паўстаньня ў чэрвеньскія дні. Прачытайце ў сувязі з гэтымі пытаньнямі Монасава, пак. твор ст. 111—112, з Арк. А—на пак. твор ст. 424—25, апроч таго для пропагандыстаў з Маркса і Энгельса— пак. твор. ст. 46—49 да слоў: „Рабочим не оставалось выбора“... а з Леніна, збор твораў т. XIV артыкулы: „что такое Луиблановщина“? „Из какого классового источника приходят Ковеньяки“. Апроч гэтага, абавязкова для ўсіх навучальна-дапаможны матар'ял з гэтага заданьня № № 5—7.

5) Паказаны матар'ял тлумачыць прычыны чэрвеньскага паўстаньня парыскага пролетарыяту. Таму ўважліва прапрацаваўшы яго, перайдзіце да азнаямленьня з самім паўстаньнем: вызначыце яго характэрныя рысы, яго програму, прычыны няўдачы і значэньне. Па гэтым пытаньні прачытайце Монасава, пак. тв. ст. 113—115 да парагр. „Реакция после разгрома рабочих“, з кнігі Арк. А—на, ст. 425—428, а з навучальна-дапаможнага матар'ялу да гэтага заданьня № 8. Апроч гэтага,

для пропагандыстаў Маркс і Энгельс, пак. твор, ст. 49—52 да разьдзелу II.

6) Адносна пэрыоду рэакцыі, які наступіў пасьля чэрвеньскіх дзён, прачытайце асабліва ўважліва пра ролю дробнае буржуазіі ў гэты час, уявеце сабе, чаму ўнутраныя супярэчнасьці сярод паасобных заможных груп прымушалі іх усё-ж трымацца за рэспубліку, прасачэце далейшыя вынікі гэтай політыкі, разьбярэцеся ўважліва ў прычынах і прадпасылках перавароту 2 сьнежня 1851 г., устанавіўшы соцыяльную сутнасьць бонапартызму і, нарэшце, паспрабуйце ўявіць сабе рухаючыя сілы францускай рэволюцыі 1848 г., яе клясавы характар і прычыны гібелі. Матар'ялам для прапрацоўкі гэтага разьдзелу служаць: Монасаў—пак. тв. ст. 115—120 да разьдз. V, Арк. А—н, пак. тв. ст. 428—434 да § 2, навучальна-дапаможны матар'ял да гэтага заданьня № 19. Апроч таго, для пропагандыстаў—Маркс і Энгельс, пак. тв. ст. 199—232, Ленін „Государство и Революция“ разьдз. II.

В.

Пазнаёміўшыся з рэволюцыйнымі здарэньнямі ў Францыі, трэба зьвярнуцца да вывучэньня рэволюцыі 1848 г. у Германіі.

1) Тут перш за ўсё трэба разглядзець соцыяльна-экономічны стан гэтай краіны ў першай палове XIX ст., прасачыць за зрухамі і зьменамі, якія адбыліся ў яе гаспадарцы (так званае „вызваленьне сялян“, пранікненьне машынізму ў прамысловасьць, разбурэньне рамесьнікаў, стварэньне рабочае клясы, рост капіталаў і экономічнай моцы буржуазіі). Адначасова з гэтым трэба заняцца характарам клясавых супярэчнасьцяй, якія існавалі ў Германіі, высьвятліць, чым адрозьніваўся яе політычны лад ад іншых краін і ў чым зьмяшчаліся яго недахопы для капіталістычнага разьвіцьця. У сувязі з гэтымі пытаньнямі прачытайце С. Монасава „История рэволюционных движений“, ст. 120—124 да парагр. „Революционное движение“, Лукін „Новейшая история Зап. Европы“ §§ 84—87 ці ў выпадку яе адсутнічаньня кнігу Арк. А—на „История Зап. Европы и САСШ ст. 188—194 і 374—381 да разьдзелу „Молодая Германия“, апроч таго з навучальна-дапаможнага матар'ялу да гэтага заданьня № № 10—11. Для пропагандыстаў звыш таго Маркс і Энгельс—пак. твор ст. 238—245.

2) Па пытаньні пра політычны і соцыяльна-рэволюцыйны рух у Германіі, а таксама непасрэдных прадпасылак рэволюцыі прачытайце С. Монасава, пак. тв. ст. 124—130 да парагр. „Дні сакавіка ў Бэрліне“, Акр. А—на, пак. тв. ст. 381—392 да „Австрия“ ці ў выпадку яе адсутнасьці, Лукін пак. тв. п. 88 да канца кнігі, з навучальна-дапаможнага матар'ялу №№ 12—14. Для пропагандыстаў звыш таго, Маркс і Энгельс, пак. твор, ст. 245—248 да разьд. IV. (Увага: Пры прапрацоўцы гэтага разьдзелу зьвярнеце сур'ёзную увагу на дзейнасьць Саюзу Комуністаў, уявеце ролю К. Маркса і характар яго політычнай тактыкі, па гэтым апошнім пытаньні жадаючыя з проп. аддз. могуць прачытаць яшчэ Мэрынга—Карл Маркс.

3) Па пытаньні праход рэволюцыі ў Германіі, высьвятліце, якую позыцыю займалі ў руху і ходзе рэволюцыі буржуазія (буйная і дробная), вызначыце прычыны рэакцыйнасьці буйной буржуазіі і, нарэшце, добра азнаёмцеся з выступленьнем пролетарыяту ў рэволюцыі і іх значэньнем; разьбярэцеся ў заключэньне з прычынамі паражэньня рэволюцыі ў Прусіі. Для гэтай мэты прачытайце С. Монасава, пак. тв. ст. 131—134 да парагр. „Поведение Франкфуртского Собрания“, з Арк. А—на пак. тв. ст. 446—458 (да „Конец Франкфуртского парламента“), з на вучальна-дапаможнага матар'ялу да гэтага заданьня №№ 15—17 звыш таго для пропагандыстаў—Карл Маркс і Ф. Энгельс, пак. тв. ст. 268—277 (да разьд. 8) і 302—306 (да разьд. 14).

4) Па пытаньні пра барацьбу за адзінства Германіі і дзейнасьць Франкфурцкага парляманту, ролі „дэмократаў“ і канчатковым зруйнаваньні рэволюцыі (паўстаньні на поўдні Германіі і іх паражэньне сьвята рэакцыі) прачытайце Монасава, пак. тв. ст. 134—136 да парагр. „рабочае брацтва А. Борн“, Арк. А—на, пак. тв. ст. 458—467 да парагр. „Маркс и Энгельс в эпоху германской революции“ навучальна-дапаможны матар'ял да гэтага заданьня № 18. Звыш таго для пропагандыстаў—Маркс і Энгельс, пак. твор, ст. 311—332.

5) Для сканчэньня прапрацоўкі гэтай часткі заданьня пазнаёмцеся з двума тыпамі рабочага руху ў эпоху рэволюцыі, уважліва прачытайце пра ролю Маркса і Энгельса ў Германскай рэволюцыі 1848 г., нарэшце, уявеце сабе агульны характар Германскай рэволюцыі, яе ўрокі і значэньне. У якасьці матар'ялу па гэтым разьдзеле можна прачытаць С. Монасава, пак. твор. ст. 136—143 да разьд. VI, Арк. А-н пак. тв. ст. 467—474, да разьд. VII і навучальна-дапаможны матар'ял да гэтага заданьня № 19.

Увага: Па разьдзеле А слухачы пропагандысцкага аддзяленьня павінны прачытаць яшчэ кнігу Ю. Стеклова „Революция 1848 г. во Франции“ ў такім парадку: пытаньне 1—разьдзел 1, пытаньне 2—разьд. 2, пытаньне 3—разьд. 3 і 4, пытаньне 4—разьд. 5, пытаньне 5—разьдзел 6, пытаньне 6—разьдзел 7. Слухачы аддзяленьня партбудаўніцтва павінны прачытаць гэту кнігу (у тым самым парадку) пры ўмове, калі ня знойдуць кнігу Арк. А—на.

Па разьдзеле В слухачы пропагандысцкага аддзяленьня павінны прачытаць яшчэ кнігу Я. Захера „Революция 1848 г. в Германии“ у наступным парадку: па пытаньні 1 і 2—разьдзелы 1—3, па пытаньні 3—разьдзелы 4—5, па пытаньні 4—разьдзелы 7—8 (апроч стар. 74—76 да слоў „Французскі парлямант“), 10 і 11, па пытаньні 5 — разьдзелы 12 і 13, а, апроч таго, пазнаёміцца (не абавязкова) з дакумантамі ў канцы кнігі. Слухачы парт. будаўніцтва чытаюць гэту кнігу ў выпадку адсутнасьці Арк. А—на.

## V. Пытаньні для самакантролю.

1. Якія былі прычыны і прадпасылкі Лютаўскае рэволюцыі ў Францыі?
2. Якую ролю адыгрывала рабочая кляса ў Лютаўскай рэволюцыі?
3. У чым быў клясавы характар часовага ўраду?
4. Чаму сялянства аднеслася варожа да лютаўскае рэволюцыі?
5. Што такое Луібланаўшчына?
6. Якая была дзейнасьць Люксэмбургскай камісіі?
7. Што ўяўлялі з сябе Нацыянальныя майстэрні?
8. Які быў склад і дзейнасьць Устаноўчага Сойму?
9. Якое было значэньне выступленьня 15 мая 1848 г.?
10. Якія былі прычыны, клясавы сэнс і значэньне чэрвеньскага паўстаньня?
11. Якая была роля дробнае буржуазіі ў чэрвеньскім паўстаньні?
12. Прычыны перамогі Бонапарта на прэзыдэнцкіх выбарах?
13. Чаму рэакцыйныя партыі падтрымлівалі рэспубліку?
14. З якое клясавае крыніцы выйшоў бонапартызм?
15. Якая кляса зьяўлялася рухаючай сілай рэволюцыі ў Францыі?
16. Які характар мела рэволюцыя 1848 г. у Францыі?
17. Якое было эканамічнае становішча Германіі ў першай палове XIX стагодзьдзя?
18. У чым быў сапраўдны сэнс вызваленьня сялян у Прусіі?
19. Чым тлумачылася паўстаньне сілескіх ткачоў і якое яго значэньне?
20. Якія былі характэрныя рысы соцыяльна-політычнага ладу Германіі, якое было становішча паасобных грамадзкіх кляс.
21. Якую ролю адыгрывала раздробленасьць Германіі ў яе эканамічным разьвіцьці?
22. Якія мэты ставіў саюз комуністаў і ў чым выяўлялася яго дзейнасьць?
23. Якую ролю адыграла буржуазія ў Германскай рэволюцыі?
24. Якую ролю адыграла дробная буржуазія ў Германскай рэволюцыі?
25. Якой была тактыка буржуазіі ў Франкфурцкім парляманце і ў чым прычыны яго банкруцтва?
26. Ці мелі рабочыя сваю політычную програму ў Германскай рэволюцыі?
27. Якая была дзейнасьць Саюзу Комуністаў у Германскай рэволюцыі?
28. Якую ролю адыгралі Маркс і Энгельс у Германскай рэволюцыі?
29. У чым заключаліся об'ектыўныя задачы Германскай рэволюцыі?
30. Якая кляса была рухаючай сілай у Германскай рэволюцыі?
31. Чаму рэволюцыя 1848 г. у Германіі скончылася няўдачай і чаму яе завуць няскончанай буржуазнай рэволюцыяй?
32. Якія погляды Маркса і Леніна на рэволюцыю 1848 г.?

## VI. Тэмы для пісьмовай працы.

### 1. Рабочая кляса ў эпоху Лютаўскае рэволюцыі?

ПЛЯН:

1. Становішча пролетарыяту і характар рабочага руху напярэдадні Лютаўскай рэволюцыі.
2. Буржуазія і пролетарыят у рэволюцыі 1848 году.
3. Роля Луі-Бляна ў гэтай рэволюцыі.
4. Чэрвеньскія дні.

### II. Рабочая кляса ў Германскай рэволюцыі,

ПЛЯН:

1. Становішча рабочае клясы напярэдадні Рэволюцыі, характар рабочага руху ў гэты час.
2. Узаемаадносіны буржуазіі і пролетарыяту ў рэволюцыі.
3. Маркс і Энгельс і Германская рэволюцыя.

Можна ўзяць любую тэму на выбар.

## НАВУЧАЛЬНА-ДАПАМОЖНЫ МАТАР'ЯЛ ДА ШОСТАГА ЗАДАНЬНЯ

### 1. Патрабаваньні лібэральнае буржуазіі напярэдадні рэволюцыі 1848 г.

„Мы прапануем падаць абвінавачаньне міністэрству, як вінаватаму:

1. У здрадніцтве чужаземцам чэсьці і інтарэсаў Францыі.

2. У скажэньні прынцыпаў констытуцыі, парушэньні гарантый свабоды і замаху на правы грамадзян.

3. У спробах шляхам сыстэматычнага подкупу падмяніць вольнае выяўленьне грамадзкае думкі нізкімі разьлікамі прыватнага інтарэсу і ў скажэньні, такім чынам, прадстаўнічай формы кіраваньня.

4. У продажы, для чыста міністэрскай карысьці, грамадзкіх пасад, а роўна і ўсіх атрыбутаў і пераваг улады.

5. У разбурэньні ў тых самых інтарэсах дзяржаўных фінансаў і ў кампрамэтаваньні такім чынам нацыянальных сіл і вялікасьці.

6. У прымусовым пазбаўленьні грамадзян правоў, якія непарыўна зьвязаны з кожнай вольнай констытуцыяй і карыстаньне якімі было гарантавана хартыяй.

7. Нарэшце, у супярэчаньні, шляхам адкрытай контррэволюцыйнай політыкі, супроць усяго таго, што было заваёвана нашымі дзьвума рэволюцыямі, чым было выклікана ў краіне глыбокае замяшаньне".

(Фрыдлянд і Слуцкі, „История рев. движения Зап. Европы" стар. 356).

### 2. Програма газэты „Рэформа".

„Усе людзі—браты. Там, дзе няма роўнасьці, свабода—хлусьня.

Грамадзтва існуе, дзякуючы няроўнасьці здольнасьцяй і розьніцы функцый; але вышэйшыя здольнасьці не павінны быць зьвязаны з вялікімі правамі; яны адпавядаюць вялікім абавязкам.

У гэтым зьмяшчаецца прынцып роўнасьці: асоцыяцыя—неабходная яе форма.

Канчатковай мэтай асоцыяцыі зьяўляецца задавальненьне разумовых, маральных і матар'яльных патрэб усіх праз прыкладаньне і спаборніцтва розных сіл і здольнасьцяй.

Рабочыя былі нявольнікамі, ці прыгоньнікамі, цяпер яны—наёмнікі, неабходна іх давесьці да становішча членаў асоцыяцыі.

Гэты вынік можа быць дасягнуты толькі дзейнічаньнем дэмократычнае ўлады.

Сапраўды дэмократычнаю ўладаю зьяўляецца тая, якая мае сваім прынцыпам верхаводзтва народу, сваёю крыніцаю ўсеагульную падачу галасоў і мэтаю—ажыцьцяўленьне формулы: Свабода, Роўнасьць і Брацтва.

Кіраўнікі ў сапраўднай дэмократыі зьяўляюцца толькі ўпаўнаважанымі народу: яны павінны быць адказнымі і зьмяняцца.

Грамадзкія функцыі ня маюць адзнак; яны не павінны даваць прывілей; яны зьяўляюцца абавязкамі.

Усе грамадзяне маюць роўнае права ўдзельнічаць у выбары ўпаўнаважаных народу і ў законадаўчай працы, але для таго, каб гэта роўнасьць права ня была зданьнёвай, усякая грамадзкая пасада павінна аплачвацца.

Закон ёсьць воля народу, формуляваная яго ўпаўнаважанымі. Усе павінны падпарадкавацца закону, але ўсе маюць права адкрыта абмяркоўваць закон з мэтаю зьмяніць яго ў тым выпадку, калі ён аказваецца кепскім.

Свабода друку павінна ахоўвацца і падтрымлівацца, як гарантыя супроць магчымых памылак большасьці і як прылада прогрэсу чалавечага розуму.

Адукацыя грамадзян павінна быць агульнай і бясплатнай. Клопаты пра гэта ляжаць на дзяржаве.

Кожны грамадзянін павінен прайсьці школу салдата. Ніхто ня можа складаць з сябе, адкупляючыся грашыма, абавязак садзейнічаць абароне сваёй краіны.

Дзяржава павінна ўзяць на сябе ініцыятыву прамысловых рэформ, якія спрыяюць правядзеньню такой організацыі працы, якая вывяла-б рабочых са становішча наёмнікаў і прывяла-б да становішча членаў асоцыяцыі.

Крэдыт прыватных асоб павінен быць заменены дзяржаўным крэдытам. Да вызваленьня пролетарыяту дзяржава павінна служыць банкірам для бедных.

Рабочы мае такое-ж права, як і салдат, на ўдзячнасьць дзяржавы. Моцнаму і здароваму грамадзяніну дзяржава павінна даць працу, старому і слабому—дапамогу і абарону.

(Фрыдлянд і Слуцкі, „История рев. движения Зап. Европы", стар. 356—357).

### 3. Першыя крокі Часовага Ураду.

#### *а) „Права на працу"*.

„Часовы Ўрад Французскай рэспублікі абавязуецца забясьпечыць існаваньне рабочага працай.

Ён абавязуецца забясьпечыць працай усіх грамадзян. Ён прызнае, што рабочыя павінны аб'ядначацца паміж сабою ў саюзы, каб карыстацца прыбыткамі сваёй працы.

Часовы Ўрад зьвяртае рабочым па прыналежнасьці мільён, які павінен застацца ад цывільнага ліста“.

*б) Люксэмбургская Камісія.*

„Прымаючы пад увагу, што рэволюцыя, створаная народам, павінна быць створана для яго;

што час палажыць канец доўгім і несправядлівым пакутам працаўнікоў;

што рабочае пытаньне—пытаньне найбольш важнае з усіх;

што няма пытаньня больш высокага і больш дастойнага клапот рэспубліканскага ўраду; што асабліва Францыі належыць уважліва заняцца вывучэньнем і вырашэньнем задачы, якая пастаўлена цяпер перад усімі індустрыяльнымі нацыямі Эўропы;

што трэба без малейшага маруджаньня ўжыць захады, неабходныя для таго, каб гарантаваць народу законныя плады яго працы,—

Часовы Ўрад рэспублікі ўхваляе:

Будзе прызначана сталая камісія, якая будзе звацца Ўрадавай Камісіяй пра рабочых, са спэцыяльнай і пэўнай задачай займацца іх становішчам.

Каб паказаць, якое значэньне Часовы Ўрад надае вырашэньню гэтай вялікай задачы, ён прызначае прэзыдэнтам Урадавай Камісіі пра рабочых—аднаго з сваіх членаў, г-на Луі Блана, віцэ-прэзыдэнтам—другога свайго члена, г-на Альбэра, рабочага.

Рабочыя будуць закліканы ў камісіі.

Камісія будзе засядаць у Люксэмбургскім палацы“.

*в) Дэкрэт пра ўстанаўленьне нацыянальных майстэрань лютага 28-га*

ФРАНЦУСКАЯ РЭСПУБЛІКА.

Свабода, роўнасьць, брацтва.

„Рабочыя.

Пастановаю ад 28-га гэтага лютага 1848 г. міністар грамадзкіх прац загадаў безадкладна скончыць тыя грамадзкія працы, якія ўжо распачаліся.

З серады, 1-га сакавіка, будуць організаваны ў розных мясцох работы вялікай важнасьці.

Усе рабочыя, якія жадаюць прыняць у іх удзел, павінны зьявіцца да аднаго з мэраў Парыжу, які прыме іх заяву і безадкладна накіруе ў майстэрні.

Рабочыя Парыжу.

Вы жадаеце дамагчыся працай добрага існаваньня.

Будзьце ўпэўнены, што ўсе патугі Часовага Ўраду накіраваны на дапамогу Вам у гэтым напрамку.

Рэспубліка чакае, Рэспубліка мае права чакаць, што патрыётызм усіх грамадзян прымусіць іх пасьледваць яе прыкладу. Такім чынам павялічыцца колькасьць карыснае працы.

Такім чынам, няхай работы будуць адноўлены ўсюды. Рабочыя, пасьля перамогі—праца. Вось яшчэ адзін добры прыклад, які вы можаце даць сьвету, і вы яго дасьцё.

Міністар Грамадзкіх Прац Мары".

(Фрыдлянд і Слуцкі, „История рев. движения Зап. Европы", стар. 358—360).

### 4. Люксэмбургская камісія і яе проэкт.

„Меры, якія прапанованы Люксэмбургскай Камісіяй, каротка зьмяшчаюцца ў наступным:

Пункт 1: Неабходна арганізаваць міністэрства працы, спэцыяльная задача якога заключалася ў падрыхтоўцы социяльнае рэволюцыі і паступовае, мірнае, бясшкоднае ліквідацыі капіталістычнага ладу.

Пункт 2: Міністэрству працы належыць даручыць: 1) пры дапамозе выпуска дзяржаўнай рэнты скупіць чыгункі і руднікі; 2) францускі банк ператварыць у дзяржаўны банк; 3) устанавіць дзяржаўнае страхаваньне; 4) арганізаваць вялікія таварныя склады, якія знаходзяцца пад наглядам адказных чыноўнікаў, куды фабрыканты і вытворцы маглі-б зьмяшчаць свае тавары; атрыманыя замест іх дакуманты павінны мець моц папяровых грошай; апошнія будуць бязумоўна забясьпечаны, бо пад іх заклад ляжаць тавары, ацэненыя кампэтэнтнымі асобамі; нарэшце, у 5) адкрыць базары, якія для дробнага гандлю павінны адыгрываць тую самую ролю, як таварныя склады для буйной.

Пункт 3: З чыстага прыбытку, які ў сучасны момант даюць прыватным прадпрыемцам чыгункі, руднікі, страхаваньне і банкі, і які пры новай сыстэме пяройдзе да дзяржавы, і з дзяржаўных збораў з таварных складаў міністэрства працы павінна скласьці свой асобны рабочы бюджэт.

Пункт 4: З яго павінны пакрывацца выдаткі на ўплату процантаў і на пагашэньне даўгавых абавязацельстваў, якія вынікаюць з узятых урадам у свае рукі прадпрыемстваў. Рэшта павінна ісьці: 1) на субсыдаваньне рабочых таварыстваў і 2) на сельска-гаспадарчыя колёніі.

Пункт 5: Рабочыя таварыствы, якія атрымліваюць субсыдыю ад дзяржавы і грунтуюцца на прынцыпе брацкае салідарнасьці, павінны мець магчымасьць намнажаць неадчужальны і, які бязупынна ўзрастае, колектыўны капітал. Толькі пры гэтай ўмове зьнішчыцца буйное і дробнае квотніцтва; капітал перастане быць сродкам эксплёатацыі; прылады вытворчасьці ня будуць уласнасьцю прывілейных асоб, крэдыт ня будзе прадметам гандлю, і бязьдзейнасьць і багацьце—выключным правам выбраных.

Пункт 6: Рабочае таварыства, якое карыстаецца дзяржаўнай субсыдыяй, павінна палажыць у аснову свайго існаваньня наступныя прынцыпы: за вылікам узнагароды за працу, процантаў на капітал і ўсіх выдаткаў на вытворчасьць і матар'ял, чысты прыбытак разьмяркоўваецца так: адна чвэрць ідзе на пагашэньне капіталу, які належыць уласьнікам адчужанага дзяржаваю ўладаньня; з другой чвэрці складаецца фонд для дапамогі старым рабочым; трэцяя—разьмяркоўваецца паміж рабочымі ў выглядзе дадатковай узнагароды; апошняя чвэрць ідзе на складаньне рэзэрвовага фонду. Так арганізуюцца таварыствы паасобных профэсій. Для стварэньня паміж імі салідарнасьці належыць арганізаваць таварыства розных галін вытворчасьці".

(Фрыдлянд і Слуцкі, „История рев. движения Зап. Европы", стар. 365—366).

## 5. Паўстаньне 15 мая 1848 г.

### *А. Часовы ўрад.*

Распайль, Блянкі, Луі Блан, Барбэс, Ледру Ролен, Косыд'ер, Собрые, Гюбэр, Кабэ.

Б) Імем народу, заснавальніка рэспублікі ў лютым і маі 1848 г., Комітэт Грамадзкага Збавеньня абвяшчае:

што нацыянальны Сойм, які складаецца ў большасьці з рэакцыянэраў, парушыў свае поўнамоцтвы;

што ён траціў дарагі час тады, як наша гаротнасьць патрабавала пасьпяховых захадаў;

што ён адмовіўся стварыць міністэрства працы;

што ён захапіў апарат прыдушэньня, пакінуўшы войскі ў Парыжы і даўшы права прэзыдэнту заклікаць як іх, так і ўсю Нацыянальную Гвардыю ў Парыжы;

што ён зрабіў напад на волю і сувэрэнітэт народу, якія былі агалошаны ў лютым на барыкадах, забараняўшы законам народу падаваць пэтыцыі непасрэдна;

што ён, нарэшце, страляў у народ, які мірна прыйшоў падаць пэтыцыю на карысьць палякаў.

У выніку чаго:

Народ Парыжу, наш авангард і вартавы, узяў на сябе нагляд за ажыцьцяўленьнем поўнамоцтваў, даных яго прадстаўніком, і выявіўшы, што яны парушаны, абвяшчае іх пазбаўленымі ўсякай улады і прызначае Комітэт Грамадзкага Збавеньня з 9 членаў, а іменна грамадзян...

Гэтаму Комітэту надаецца неабмежаваная ўлада для правядзеньня мерапрыемстваў па ўстанаўленьні і арганізацыі сапраўды дэмакратычнае рэспублікі і самаму рашучаму прыдушэньню рэакцыі, калі яна адважыцца зноў зьявіцца.

В) Комітэт Грамадзкага Збавеньня пастанаўляе, што:

1) Капіталісты, якія вядомы ў якасьці гэтакіх муніцыпальнаму комітэту, павінны заплаціць на працягу пяці дзён са дня паведамленьня,

якое будзе паслана ім, суму ў 200 франкаў з кожнай 1.000 франкаў іх устаноўленага прыбытку—звыш 1.500 франкаў прыбытку кожнага члена сям'і звыш 15 год—да сумы 3.500 франкаў. З 3.500 да 5.000 франкаў—плаціцца 250 франкаў, і падобнае прогрэсыўнае падвышэньне павінна працягвацца да паловы прыбытку.

2) На працягу таго-ж тэрміну кожны зямельны ўласьнік, які плаціць звыш 100 франкаў і менш 250 франкаў пазямельнага падатку, павінен заплаціць дадаткова 25 франкаў з кожных 50 франкаў пазямельнага падатку. З 250 франкаў і да 1000 ён павінен плаціць 100 з кожных 50 франкаў; 1000 да 5.000—150 з 50 франкаў; звыш 5.000—200 з 50 франкаў.

3 і 4) Паказаньні пра парадак іх спагнаньня.

5) Па атрыманьні першых узносаў павінна быць зроблена безадкладнае разьмеркаваньне сярод тых, хто мае патрэбу, у 3 франка на сям'ю з 3-х асоб і ў 3 франкі на сям'ю з 6 асоб.

6) Рабочай Гвардыі даручаецца падтрыманьне парадку.

7) Усякі грамадзянін, знойдзены ў п'яным выглядзе, будзе заключаны пад варту і будзе атрымліваць для стравы толькі суп, хлеб і ваду.

(Фрыдлянд і Слуцкі, „История рев. движения Зап. Европы", стар. 372—373).

### 6. Два пэрыоды ў гісторыі нацыянальных майстэрань.

„У першы пэрыод яны адыгрываюць ролю палітычную і ролю экономічную. У адносінах палітычных яны зьяўляюцца зброяй у руках памяркоўнай партыі. З іх батальёнаў робяць консэрватыўную сілу. Імі карыстаюцца, каб унесьці раскол у асяродзьдзе парыскага пролетарыяту, каб змагацца з народам пры дапамозе народу, каб нэйтралізаваць рабочых соцыялістаў рабочымі ўступчывымі і пакорлівымі. Довадаў гэтаму мноства. Э. Тома быў ва ўладзе Мары і Марасата. Ён атрымліваў ад іх кожны дзень інструкцыі і Ламарцін мог пісаць, не баючыся супярэчнасьцяй. Гэтыя майстэрні, якія знаходзіліся пад начальствам, кіраваліся і стрымліваліся начальнікамі, якія падзялялі таемныя думкі антысоцыялістычнай урадавай партыі, аж да скліканьня Нацыянальнага Сойму, былі процівагаю рабочых сэкцыянэрам Люксэмбурга і бунтаўскім рабочым з клубаў. Яны мазолілі сваёй колькасьцю і бескарыснасьцю сваіх работ вочы Парыжу; але яны абаранялі і ратавалі шмат разоў Парыж без яго ведама. Яны зусім ня былі, як гэта гаварылі, на пэнсіі ў Луі-Блана; насупроць, яны былі настроены ў духу яго супраціўнікаў. Калі Эміль Тома 23 сакавіка выказаў свае небясьпекі з прычыны іх бязупыннага росту, Мары яму адказаў: „Ня турбуйцеся накант колькасьці, калі вы маеце яе на ўвазе; яна ніколі ня будзе занадта вялікай; але шукайце сродкаў, каб рабочыя шчыра да вас прывязаліся. Не шкадуйце грошай; у выпадку патрэбы вам дадуць іх з сакрэтных фондаў".

І калі можна ў гэтым паверыць Э. Тома, міністар быццам бы дадаў, каб растлумачыць свае парады: „Магчыма недалёкі той дзень, калі трэба будзе іх пасланць на вуліцу“.

Але паступова рабочыя вызваляліся ад консэрватыўнага ўплыву, пад якім знаходзіліся. Ужо некаторыя з іх былі нахільны вітаць Ламартына, які не захацеў ахвяраваць Ледру-Роленам; хоць 15 мая яшчэ ня было відаць ніводнага сьцягу ў перапоўненай палаце, аднак, у дэмонстрацыі ўдзельнічала 14 тысяч. Эміль Тома, у часе агляду майстэрань, быў сустрэны крыкамі: „Няхай жыве Луі Блан“, крыкамі, якія мучылі яго сэрца. Але большасьць рабочых з рэестравых яшчэ вагаліся выказвацца за соцыяльную рэспубліку; яны гэта выявілі, калі не далучыліся ў часе сьвяткаваньня 21 мая да тых, хто яе аглашаў. Але паступова бяз шуму ўжо адбылося частковае зблізжэньне з прадстаўнікамі Люксэмбургу. Адзінства рабочае клясы імкнулася аднавіцца. Дзьве галіны, на якія яе так старанна разьядналі, пачынаюць заўважваць, што інтарэсы іх агульныя. Бясспрэчна ў гэтым позьнім замірэньні „чырвоных“ з „жоўтымі“, як мы сказалі-б цяпер, ляжыць аснаваньне тэй упартай легенды, якая прыпісвае соцыялістам тое, што адбывалася бяз іх і насупераць ім. Больш ці менш несьвядома зьмяшалі дзьве рэчы, якія ня маюць паміж сабою нічога агульнага; соцыяльныя майстэрні, якія хацеў стварыць Луі Блан, і нацыянальныя майстэрні, якія ён ахрысьціў „эпічным глупствам“. З гэтага-ж часу памяркоўныя члены ўраду ахаладзелі да гэтых майстэрань, якія страцілі пасьля выбараў усякі сэнс для іх, і якія з гэтага часу пачалі ім здавацца, разам з іх дырэктарам цяжкой і небясьпечнай арганізацыяй. Палата таксама натуральна схілялася да гэтае думкі. Яна знаходзіла неабходным скасаваць гэтую часовую і разбуральную меру...“

(Фрыдлянд і Слуцкі, стар. 240—241).

### 7. Роспуск нацыянальных майстэрань.

1) Нежанатыя рабочыя ва ўзросьце ад 18-ці да 28-ці год запрашаюцца запісацца ў Армію Рэспублікі для папаўненьня розных палкоў.

Імёны тых, хто адмаўляецца запісацца добраахвотна, будуць безадкладна выкрэсьлены са сьпісаў нацыянальных майстэрань.

2) Безадкладна павінен быць зроблен перапіс рабочых Парыжу. Ён павінен быць зроблены па згодзе з мэрыямі і служачымі нац. майстэрань, якія дэлегуюцца для гэтае мэты.

Усе рабочыя, якія ня могуць фармальна давесьці сваё прабываньне ў Парыжы на працягу 6-ці месяцаў, да 24 мая павінны быць разьлічаны, і ім спыняецца выдача пэнсіі і дапамогі.

3) Сьпісы рабочых, разьмеркаваных па месцы жыхарства і па профэсіі павінны быць прадастаўлены ў бюро, якое знаходзіцца па магчымасьці бліжэй да цэнтру Парыжа, дзе з іх зьместам пазнаёмяць гаспадароў служачыя адміністрацыі. Гаспадары могуць запатрабаваць

любую колькасьць рабочых, якую яны прызнаюць патрэбнай для аднаўленьня ці прадаўжэньня сваіх прадпрыемстваў. Рабочыя, якія адмаўляюцца пайсьці на работу, безадкладна выкрэсьліваюцца з агульнага сьпісу нацыянальных майстэрань.

4) Рабочыя, якія ня будуць выключаны са сьпісаў згодна папярэдніх параграфаў і якія ў даны момант будуць па ранейшаму складаць частку нацыянальных майстэрань, будуць аплачвацца зьдзельна, а не падзенна.

5) У магчыма больш кароткі тэрмін будуць організаваны брыгады рабочых і накіраваны на работы па выкананьні буйных грамадзкіх пабудоў пад кіраўніцтвам інжынэраў шляхоў зносін.

Па даручэньні міністра грамадзкіх работ,
у парадку загаду: Буланж, генэральны сакратар.

(Фрыдлянд і Слуцкі, „История революционного движения Западной Европы“, стар. 376—377).

## 8. Чэрвеньскія дні.

### *а) Проклямацыя паўстанцаў.*

ІМЕМ СУВЭРЭННАГА НАРОДУ.

Грамадзяне!

На лютаўскіх барыкадах людзі, якім вы далі тытул членаў Часовага Ураду, абяцалі нам социяльную і дэмократычную рэспубліку; яны абяцалі, а вы, паверыўшы ім на слова, пакінулі нашы барыкады. За чатыры месяцы што яны зрабілі? Яны зьмянілі свайму слову і ня выканалі свайго абяцаньня.

Мы, грамадзяне, якія абараняюць Мэрыю 8-ае акругі, патрабуем:

Социяльнай і дэмократычнай рэспублікі; вольнай асоцыяцыі працы пры садзейнічаньні дзяржавы;

суда над народнымі прадстаўнікамі і міністрамі і безадкладнага арышту Выканаўчай Камісіі;

мы патрабуем адводу войск з Парыжа.

Грамадзяне! Памятайце, што вы сувэрэнны; памятайце наш лёзунг: Свабода, Роўнасьць, Братэрства.

Па даручэньні грамадзян, ахоўваючых Мэрыю 8-ае акругі.

Ж. Ж. Жыльле.

### *б) Проклямацыя 26 чэрвеня.*

ДА ЗБРОІ!

Мы патрабуем дэмократычнай і социяльнай рэспублікі!

Мы патрабуем верхаводзтва народу!

Ніхто з грамадзян рэспублікі ня можа і не павінен жадаць нічога іншага.

Для абароны гэтай рэспублікі патрэбна дапамога ўсіх. Многія дэмократы, якія усьвядомілі гэту неабходнасьць, выйшлі два дні таму назад на вуліцу.

Сьвятая справа мае ўжо шмат ахвяр: мы ўсе парашылі адпомсьціць за благародных мучанікаў ці памерці. Паўстаньце! Грамадзяне! Няхай ніводзін з вас не адказвае маўчаньнем на заклік!

Абараняючы рэспубліку, мы абараняем уласнасьць!

Калі сьляпая ўпартасьць дазволіць вам застацца абыякімі пры відзе падобнага крывапраліцьця, вы ўсе загінеце ў дымных развалінах Сэнт-Антуанскага прадмесьця.

Падумайце пра вашых жон і дзяцей, і вы прыдзеце да нас!

*в) Расправа буржуазіі з рабочымі.*

Каля тысячы палоньнікаў зьмяшчалася ў вузкім падземным праходзе пад тэрасай ля вады... Атрутлівае і нявыноснае паветра гэтае пячоры прымушала арыштантаў падыходзіць да аддушын, каб схапіць хоць крыху паветры. Тады вартавыя стралялі ў іх праз дзіркі.. Мёртвыя і параненыя падалі ў крывавае і зачумленае балота, якое дасягала арыштаваным да костачкі. Да іх прывялі старыка, які плакаў і запэўняў, што ён не паўстанец, а прыехаў у Парыж, каб пабачыць сына. Адзін нацыянальны гвардзеец прастрэліў яму потым плячо, другі паваліў яго другім стрэлам, а трэці забіў яго трэцяй куляй, прыгаварваючы: „Нарэшце, я магу пахваліцца, што забіў вераб'я ў клетцы". Цела ляжала на сходках цэлых дзьве гадзіны.

У другім сутарэньні арыштаваных награмадзілі адзін на аднаго ў задушлівай пякоце бяз хлеба і вады. Яны скардзіліся: афіцэр, які хадзіў каля аддушыны, чуў іх. „Хто скардзіцца?" запытаўся ён. „Мы галодны, дайце хоць крыху хлеба". „Пачакайце хвіліну".

Ён узяў стрэльбу ў аднаго з сваіх прыхільнікаў і выпаліў у аддушыну. Арыштаваны ўпаў. „Яшчэ хто галодны?", запытаў афіцэр, зьдзекуючыся. „Ці не магу каму-небудзь служыць.

Луі Менар.

Рабочыя і ўсе, хто яшчэ 25 чэрвеня са зброяй у руках стаіць супроць рэспублікі, у апошні раз заклікаю вас у імя ўсяго, што ўшаноўваецца і сьвята для чалавека, складзьці зброю! Нацыянальны Сойм, уся нацыя просіць вас аб гэтым!

Вам гаварылі, што вас чакае жудасная помста. Толькі вашы і нашы ворагі так кажуць! Вам гаварылі, што вас з халодным сэрцам прынясуць у ахвяру. Явецеся да нас, прыдзеце, як браты, якія раскаяліся і падпарадкуюцца закону: абдымкі рэспублікі адкрыты, каб прыняць вас!

Галава Выканаўчай Улады Э. Кавеньяк.

Старшыня Нацыянальнага Сойму Сэнар.

26 чэрвеня.

ГРАМАДЗЯНЕ САЛДАТЫ!

Справа рэспублікі перамагла: ваша лёяльнасьць і нязрушная мужнасьць разбурылі злачынныя замыслы, аддалі належнае прызначаным памылкам. Ад імя бацькаўшчыны, ад імя ўсяго чалавецтва вам прыносіцца падзяка за вашы патугі, вас бласлаўляюць за гэту неабходную перамогу.

Сёньня раніцою пачуцьцё барацьбы было натуральным і няўхільным. Зараз вы павінны быць такія-ж вялікадушныя ў часе міра, як вы былі справядлівы ў вайне. Я бачу ў Парыжы пераможцаў і пераможаных. Няхай будзе праклята маё імя, калі я калі-небудзь згаджуся бачыць тут ахвяры. У свае правы павінна ўступіць справядлівасьць: дайце ёй месца. Вось і мая і ваша думка.

Рыхтуючыся зьвярнуцца ў рады простых грамадзян, я ўнашу патрыётычную памяць пра тое, што на працягу ўсяго часу гэтых вялікіх іспытаў я ня браў ад свабоды больш таго, што патрабавала сапраўднае збавеньне рэспублікі, і пакідаю прыклад для ўсякага, хто можа быць у сваю чаргу заклікань для выкананьня такой сур'ёзнай задачы.

Глава Выканаўчай Улады Кавеньяк.

Палонных расстрэльвалі на Гренельскай раўніне, на Монпарнаскіх могілках, на Монмартрскім скакавым полі. Палонных расстрэльвалі на пляцы Пантэона. Палонных расстрэльвалі каля манастыра сьвятога Бэнэдыкта і на двары Hotel de Cluny. Паранены паўстанец ляжаў на саломе. Некалькі пачвар выстрэлілі ў яго і спалілі паміраючага чалавека яшчэ жывым.

Луі Блан.

(Гордон, „Материалы по истории рев. движения на Западе", стр. 42—45).

### 9. Што перашкаджала разьвіцьцю Лютаўскай рэвалюцыі.

Паколькі часовы ўрад быў прымушан абвясьціць рэспубліку, ён з свайго боку зрабіў усё магчымае, каб зрабіць яе прыймальнай для буржуазіі і правінцый. Крывавыя жахі першай францускай рэспублікі былі адхілены зьнішчэньнем сьмяротнай кары за палітычныя злачынствы; друк усіх напрамкаў атрымаў свабоду; армія, суды, адміністрацыя, за нямногімі выключэньнямі, засталіся ў руках ранейшых саноўнікаў; ніхто з асоб, якія сур'ёзна правініліся ў часы ліпнёўскае монархіі, ня быў прыцягнуты да адказнасьці. Буржуазныя рэспубліканцы газэты „National" забаўляліся тым, што замянялі манархічныя імёны і адзеньне на імёны і адзеньне стара-рэспубліканскае. Для іх рэспубліка была ня чым іншым, як новым балёвым адзеньнем усё для таго-ж старога буржуазнага грамадзтва. Сваю галоўную заслугу маладая рэспубліка бачыла ня ў тым, каб наводзіць жах, а хутчэй у тым, каб

самой быць у вечным страху. Палахлівай падатлівасьцю і безабароннасьцю яна імкнулася забясьпечыць сабе існаваньне і абарону, разьлічваючы такім чынам абяззброіць супроцьдзеяньне. Прывілейным клясам унутры краіны, дэспотычным дзяржавам за яе межамі голасна абвясьцілі, што рэспубліка ціхамірная па сваім нораве. Жыць і даваць іншым жыць—вось яе дэвіз. Да таго-ж здарылася так, што хутка пасьля лютаўскае рэволюцыі немцы, палякі, аўстрыйцы, вэнгры, італьянцы таксама паўсталі, кожны народ адпаведна свайму непасрэднаму становішчу. Што датычыцца Расіі і Англіі, дык апошняя сама была захоплена рухам, а першая занадта перапалохана, каб што-небудзь прадпрыняць. Значыцца, перад рэспублікай ня было ніводнага нацыянальнага ворага, а таму і ніякіх захапляючых міжнародных ускладненьняў, якія былі-б здольны запаліць энэргію, паскорыць рэволюцыйны процэс, штурхаць наперад часовы ўрад ці выкінуць яго за борт. Парыскі пролетарыят, які прызнаваў у рэспубліцы сваё ўласнае стварэньне, зразумела, вітаў кожны крок часовага ўраду, які ўзмацняў становішча апошняга ў буржуазным грамадзтве. Стаўшы на абарону ўласнасьці ў Парыжы, пролетарыят лёгка дапусьціў Косыдзьера карыстацца ім для поліцэйскіх паслуг, таксама як і Луі Блану дазволіў вырашаць спрэчкі, якія ўзьнікалі паміж рабочымі і гаспадарамі з-за ўмоў працы. Яго point d'honneur зьмяшчаўся ў тым, каб у вачох Эўропы захаваць бяз плямы буржуазную чэсьць рэспублікі.

Рэспубліка ня сустрэла ні знадворнага, ні ўнутранага супроцьдзеяньня. Гэта яе абяззброіла. Сваю задачу яна бачыла ўжо ня ў тым каб рэволюцыянізаваць сьвет, а выключна ў тым, каб прыстасавацца да адносін буржуазнага грамадзтва.

(К. Маркс і Ф. Энгельс, „Исторические работы“, стар. 38—39)

## 10. Вызваленьне сялян у Прусіі.

*Закон 9 кастрычніка 1807 г.*

1. Кожны жыхар нашае дзяржавы атрымлівае права бяз усякіх абмежаваньняў на ўласную ці арэндаваную нярухомую ўласнасьць усякага роду.

Дваранін таксама атрымлівае права ня толькі на дваранскія, але і бюргерскае і сялянскае ўсякага роду ўладаньні, а бюргер ці селянін атрымлівае права ўладаньня ня толькі бюргерскай, сялянскай, і ўсякага роду недваранскай зямлёй, але таксама і дваранскай, ня выпрашваючы якога-небудзь дазволу на атрыманыя прыбыткі з тых і іншых сядзіб, калі толькі ён заяўляе перад ці пасьля таго пра кожную такую перамену ўладаньня законнай уладзе...

6. Калі абшарнік лічыць, што ня можа аднавіць ці захаваць усе паасобныя сялянскія сядзібы ці зямельныя ўладаньні, якія існуюць у яго маёнтку і не зьяўляюцца ні спадчыннымі, ні арэндаванымі, ні чыншавымі, дык ён абавязан зьвяртацца наконт гэтага ў правінцыяльную па-

лату. Са згоды гэтай апошняй павінна быць вырашана як злучэньне многіх сядзіб у адно сялянскае ўладаньне, гэтак і выдзяленьне на фальваркі, як толькі ў маёнтку спадчыннае падданства ня мае больш месца.

7. Але, калі сялянскія сядзібы складаюць спадчыннае, арэндаванае ці чыншавае ўладаньне, дык, раней чым гугарка можаісьці наконт іх адчужаньня ці зьмене разьмяшчэньня належачых да іх вучасткаў зямлі, трэба перш, каб спынілася моц права ранейшых уладароў, ці будзе гэта ў моц адчужаньня іх у карысьць абшарніцкага маёнтку ці якім-небудзь іншым законным шляхам.

10. Пасьля выданьня гэтага наказу ніякае спадчыннае падданства ня існуе ні ў моц нараджэньня, ні ў моц шлюба, ні ў моц здымкі прыгоньніцкага вучастку, ні ў моц дагавору ці кантракту.

11. Пасьля агалашэньня гэтае пастановы прыгонны стан гэтых сялян, іх жонак і дзяцей, якія ўладаюць сялянскімі вучасткамі спадчынна, паводле права ўласнасьці, арэнды ці чыншы, узаёмна спыняецца.

12. З Мартынава дню 1810 г. спыняецца прыгонны стан сядзіб у нашай уласнай дзяржаве. Пасьля Мартынава дню 1810 г. ёсьць толькі вольныя людзі, але для іх застаюцца ў моцы ўсе павіннасьці, якія ім, як вольным людзям, у моц уладаньня зямлёю ці спэцыяльнага дагавору, забавязаны...

(„Edikt betreffend den erleichterten Besitz und den freien Gebraüch des Grundeigentums, so-wie die persönlichen Werhältnisse der Landbewohner“).

## 11. Бунт сілезскіх ткачоў.

Самае вялікае з галодных паўстаньняў адбылося ў чэрвені 1844 г. у сілезскіх ткацкіх вёсках Петэрсвальдаў і Лангенбілаў, у падножжа Эйленгенбірге. У Петэрсвальдаў асабліва наклікалі на сябе агульную нянавісьць браты Цванцыгер. За 160 локцяў плісу, якія патрабавалі 8 дзён напружанае працы, яны плацілі $12^1/_2$ і 12 зільбэргрошэнаў. Незадаволеныя яшчэ гэтым крывапійствам, яны абвясьцілі, што гатовы прыняць на работу яшчэ новых 300 ткачоў, калі яны згадзяцца выпрацоўваць столькі-ж локцяў за 10 зільбэргрошэнаў. Знайшліся рабочыя рукі, гатовыя на гэтыя ўмовы. На скаргі няшчасных, што яны цяпер ня могуць нават існаваць, ня могуць нават купляць больш бульбы, Цванцыгер, як кажуць, адказаў, што ткачы могуць, калі ў іх няма нічога іншага, жэрці траву, яна вось вельмі добра парасла ў гэтым годзе. Прытым гэтыя бязьлітасныя эксплёататары яшчэ высоўвалі свае багацьце напаказ; яны зьдзекваліся над сваімі ахвярамі, нахабна выхваляючыся тым самым золатам, якое выжалі з крыві і пота саматужнікаў.

З душы гэтых змучаных людзей вырвалася песьня, простыя вершы якой захапляючым чынам паказваюць, як сярод бясконцых пакут у іх прабудзілася дзікае пачуцьцё абурэньня. Маса сама стварыла песьню,

яна прыстаўляла слова да слова, сказ да сказу, покуль тэкст не абарваўся, потым адразу,—зусім так, як паўстаньне ткачоў было адразу прыдушана стральбою салдат. Гэта песьня гучэла, разьдзіраючы душу ў дваццаці з лішкам строфах верша.

Ткачы з Пэтэрсвальдаў, вёскі ў 5 тысяч жыхароў, некалькі разоў прасьпявалі гэту песьню перад домам Цванцыгераў. Адзін з іх быў схоплены, узяты ў дом, зьбіты і аддадзены ў рукі мясцовай паліцыі. Тады, у полудзень, 4-га чэрвеня струмень выйшаў з берагоў. Натоўп ткачоў накіраваўся з Пэтэрсвальдаў на Капеленбэрг, які знаходзіцца недалёка, сталі ў рады і парухаліся на багаты дом сваіх катаў. Яны патрабавалі больш высокай заработнае платы і падарунку. Патрабаваньне было адхілена з кпінамі і зьдзекамі. Тады маса ўзяла прыступам дом, разламала ўсе кладавыя, сутарэньні, скляпы, вышкі, разьбіла ўдрызг дарагую мэблю, люстры, фарфар, разарвала кнігі, вэксалі, паперы, выкінула ўсе запасы і тавары з пакгаўза, сушыльні, павецяў за вакно, дзе іх рвалі на кавалкі, таптaлі нагамі ці раздавалі тым, хто стаяў навокал. Цванцыгер у сьмяротным жаху ўцёк са сваёю сям'ёю з аднаго гораду ў другі, пры чым ні адзін з іх не хацеў даць прытулку няпрыемнаму госьцю, пакуль ён не знайшоў, нарэшце, прытулку ў Брэслаўлі.

(Мэрынг, „История германской социал-демократии", стар. 221—223)

## 12. Патрабаваньні комуністычнае партыі Германіі.

*Эпіграф*:

„Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!"

1. Уся Германія абвяшчаецца адзінаю, непадзельнаю рэспублікаю.
2. Кожны немец, які дасягнуў 21 году, мае права выбіраць і быць выбраным, калі толькі ён не падлягаў крымінальнаму пакараньню.
3. Народныя прадстаўнікі атрымліваюць узнагароду, каб і рабочыя мелі магчымасьць засядаць у парляманце германскага народу.
4. Усеагульнае ўзбраеньне народу. У будучым арміі павінны быць адначасова і рабочымі арміямі, каб войска ня проста спажывала, як было раней, але вытварала-б больш, чым складаюць выдаткі па яго ўтрыманьні. Апроч таго, гэта зьяўляецца сродкам організацыі працы.
5. Бясплатнасьць судавытварэньня.
6. Усе фэўдальныя павіннасьці, усе аброкі, бенэфіцыі, дзесяціны і г. д., якія дагэтуль абцяжарваюць сельскае насельніцтва, скасоўваюцца без усялякага выкупу.
7. Маёнткі гаспадароў і іншыя фэўдальныя маёнткі, усе руднікі, шахты і г. д. робяцца ўласнасьцю дзяржавы. На гэтых землях у інтарэсах усяго грамадзтва вядзецца гаспадарка ў буйным маштабе і пры дапамозе сучасных дапаможных сродкаў, якія даюцца навукай.
8. Іпотэкі на сялянскія землі абвяшчаюцца дзяржаўнай уласнасьцю. Проценты па гэтых іпотэках сяляне ўплачваюць дзяржаве.

9. У тых абласьцях, дзе разьвіта арэнда, зямельная рэнта ці арэндная плата ўплачваецца дзяржаве ў выглядзе падатку.

Усе гэтыя захады, паказаныя пад 6, 7, 8 і 9, праводзяцца з тэй мэтаю, каб зьменшыць грамадзкія і іншыя павіннасьці сялян і дробных арандатараў, не зьмяншаючы сродкаў, неабходных для пакрыцьця дзяржаўных выдаткаў, і не ствараючы небясьпекі для самой вытворчасьці.

Уласна, зямельны ўласьнік, які не зьяўляецца ні селянінам, ні арандатарам, ня прымае ніякага ўдзелу ў вытворчасьці. Таму яго спажываньне—проста злоўжываньне.

10. На месца ўсіх прыватных банкаў выступае дзяржаўны банк, паперы якога маюць узаконены курс.

Гэтая мера робіць магчымым рэгуляваньне ўсяе крэдытнае справы ў інтарэсаў усяго народу і, такім чынам, падрывае панаваньне буйных уласьнікаў грошай. Па крысе, замяняючы золата і срэбра на папяровыя грошы, яна робіць больш таннай неабходную прыладу буржуазнага звароту, усеагульны сродак абмену, і дазваляе накіраваць дзеяньне золата і срэбра на знадворныя адносіны. Гэта мера, нарэшце, неабходна для таго, каб прыкаваць да ўраду інтарэсы консэрватыўных буржуа.

11. Дзяржава бярэ ў свае рукі ўсе сродкі транспорту: чыгункі, каналы, параходы, гужавыя дарогі, пошту і г. д. Яны робяцца дзяржаўнай уласнасьцю і бясплатна аддаюцца ў распараджэньне незаможнае клясы.

12. Ва ўзнагародзе ўсіх дзяржаўных чыноўнікаў ня будзе ніякіх іншых розьніц, апроч таго, што сямейныя, г. зн. асобы з вялікімі патрэбнасьцямі, будуць атрымліваць большую ўзнагароду, чым астатнія.

13. Поўнае аддзяленьне царквы ад дзяржавы. Духавенства ўсіх вер будзе атрымліваць плату выключна ад сваіх добраахвотных грамадзтваў.

14. Абмежаваньне права насьледваньня.

15. Увядзеньне ўзмоцнена прогрэсыўнага падатку і зьнішчэньне падаткаў на рэчы спажываньня.

16. Організацыя нацыянальных майстэрань. Дзяржава гарантуе ўсім рабочым існаваньне і бярэ на сябе клопаты пра няздольных да працы.

17. Усеагульнае і бясплатнае народнае навучаньне.

У інтарэсах германскага пролетарыяту, дробнае буржуазіі і сялянскага стану—з усёй энэргіяй спрыяць правядзеньню ў жыцьцё паказаных вышэй мерапрыемстваў. Бо толькі пры дапамозе іх ажыцьцяўленьня мільёны людзей, якія дагэтуль эксплёатаваліся ў Германіі невялікай колькасьцю асоб і якіх будуць імкнуцца і наперад трымаць у прыгнечаньні, здолеюць дамагчыся свайго права і тэй улады, якая падабае ім, як вытворцам усіх багацьцяў.

Комітэт: К Маркс, К. Шапэр, Г. Баўэр, Ф. Энгельс, І. Моль, В. Вольф".

(Фрыдлянд і Слуцкі, „Хрестоматия по истории революционного движения Зап. Европы", Изд. „Красная Новь" 1923 г. стар. 272—273).

### 13. Патрабаваньні дробнае буржуазіі.

2 чэрвеня ў Гамбургу адкрыўся „Сход паўночна-германскага рамесьніцкага і прамысловага стану“, на які зьявілася 200 дэлегатаў; тут на ўсе лады паўтаралася старая песьня пра адзінавызваляючы цэх і ўсёразбураючай свабодзе прамысловасьці. Адважная заява аднаго бэрлінскага дэлегата, што без свабоды прамысловасьці ніколі не ўдалася-б супаставіць бэрлінцаў супроць іх добрага караля, сустрэла нават шумнае ўхваленьне. Пры такой безнадзейнай блытаніне разуменьняў зьезд разыйшоўся-б, напэўна, бяз усякіх вынікаў, тым больш, што паміж майстрамі і падмайстрамі разгарэліся жорсткія спрэчкі. Але тут умяшаўся з прымірнай мэтай адзін з членаў сходу, які быў туды дапушчаны толькі пасьля доўгага супраціўленьня: ён унёс у гэту цэхавую блытаніну сучасную, так сказаць, зьвязваючую ідэю. Гэта быў профэсар Вінкельблех, якога праслаў дэлегатам адзін народны сход у Касэле.

Вінкельблех чытаў лекцыі па хэміі ў Касэльскай вышэйшай прамысловай школе і дзіўным чынам выкрыў у сябе соцыялістычныя сымпатыі ў часе аднэй паездкі ў Нарвэгію, пад уплывам тых малюнкаў цяжкага становішча пролетарыяту, якія намалявал яму адзін выпадкова спатканы там нямецкі фабрычны рабочы. Пасьля гэтага Вінкельблех, паводле яго ўласных слоў, парашыў займацца ў будучым не адными толькі машынамі і тэхнікай, а чалавекам і яго гаспадарчаю сыстэмаю. Ён накідаў навуковую сыстэму, размазаную пасьля і ў вялікім творы,—сыстэму, якая павінна была памірыць лібэралізм і комунізм пры дапамозе фэдэралізму, зьнішчыць монополізм панпалізмам і наогул дрэнныя „ізмы“ замяніць на добрыя „ізмы“. Па сутнасьці справы гэта быў абмежаваны абыватальскі соцыялізм, які не знайшоў лепшага спосабу выявіць сваю справядлівую нянавісьць да эксплёататарскіх тэндэнцый буржуазіі, як зрабіў мешаніну з хрысьціянска-нямецкага цэхавага ладу, мальтузыянскай тэорыі народазасяленьня—пры гэтым яшчэ з грубым пераўвялічэньнем—і паасобных думак Фур'е і Луі Блана.

Такая мешаніна была, аднак, як раз падыходзячай для сходу рамесьніцкіх майстроў, якія на аснове буржуазнае рэволюцыі жадалі зноў ажывіць цэхавы лад. Паводле прапановы Вінкельблеха гамбурскі зьезд абвясьціў, што толькі пасьлядоўнае правядзеньне цэхавае арганізацыі можа выратаваць Гэрманію ад удзелу Англіі і ад Францыі і ад небясьпекі комунізму. *Для абмеркаваньня такой організацыі* і для перадачы выпрацаванага проэкту германскаму Нацыянальнаму Сойму, зьезд пастанавіў склікаць у Франкфурце на М. усеагульны германскі конгрэс рамесьнікаў. Гэты конгрэс, на які прыехала 116 майстроў з 24 нямецкіх дзяржаў, засядаў ад сярэдзіны ліпеня да сярэдзіны жніўня і выпрацаваў, паводле паказаньняў Вінкельблеха, проэкт рамесьніцкага і прамысловага статуту, перададзены потым Нацыянальнаму Сойму, як „урачысты, падпісаны мільёнамі няшчасных протэст

супроць свабоды прамысловасьці". Але нямецкі парлямант ня ведаў, што яму рабіць з гэтай дзіўнай сумесьсю прогрэсыўных і рэакцыйных прапаноў; з усіх яго грахоў гэта быў, бадай, самы малы.

Проэкт патрабаваў свайго роду цэхавае дзяржавы, іерархічна падзеленага, з агульнанямецкай прамысловай камэрай на чале. Гэта „соцыяльная камэра" павінна была выбірацца ўсімі цэхавымі майстрамі шляхам простых выбараў і зьбірацца адначасова з нямецкім парлямантам у яго рэзыдэнцыі, каб скласьці дарадчую ўстанову пры ім. Унутры цэхаў павінен быў захавацца стары рад ступеняў—вучня падмайстра і майстра; таксама павінны былі застацца рабочыя кніжкі, абавязковасьць вучнёўства і вандраваньне падмайстроў, экзамэн на званьне майстра, абмежаваньне адным рамяством. Сюды дадалі яшчэ патрабаваньне шлюбнага цэнзу, г. зн. прадстаўленьне ўсімі, хто жадае жаніцца, доказу наяўнасьці шлюбнага капіталу. Побач з гэтымі рэакцыйнымі ўтопіямі былі, праўда, высунуты такія практычна-рэформатарскія патрабаваньні: увядзеньне прогрэсыўнага падатку на прыбыткі і маемасьці, законадаўчае рэгуляваньне рабочага часу, карэннае палепшаньне школьнае справы, бясплатнае навучаньне і ўзьняцьце народных школ на ступень агульных адукацыйных устаноў для ўсіх членаў грамадзянскага грамадзтва, каб мастацтва і навука зрабіліся даступнымі для ўсяго народу, а не заставаліся больш монополіяй багацьця.

Тым ня менш цэнтр цяжару рамесьніцкага конгрэсу ляжаў у рэакцыйных цэхавых імкненьнях.

(Мэрынг, „История германской социал-демократии", стар. 73—74).

### 14. Імкненьне да нацыянальнага адзінства.

Ідэя германскага адзінства атрымала сапраўды шырокае распаўсюджаньне, асабліва ў дробных дзяржавах. Пасьля разбурэньня Германскай імпэрыі Напалеонам заклік да аб'яднаньня disjecta membra Германіі зрабіўся самым агульным выяўленьнем нездавальненьня існуючым ладам, асабліва ў дробных дзяржавах, у якіх дарагавізна двара, дзяржаўнага кіраўніцтва, арміі,—наогул увесь цяжар абкладаньня павялічваўся ў простых адносінах да дробнасьці і бясьсільля дзяржавы. Але які выгляд павінна набыць адзінства Германіі, калі яно будзе зьдзейсьнена, па гэтаму пытаньню думкі партый разыходзіліся. Буржуазія, якая не жадала небясьпечных рэволюцыйных страсеньняў, задаволілася-б „практычным" вырашэньнем, з якім мы ўжо пазнаёміліся: іменна саюзам, які-б ахопліваў усю Германію, за выключэньнем Аўстрыі, і стаяў-бы пад гегемоніяй констытуцыйнага ўраду Прусіі; і, бясспрэчна, у той час, паколькі баяліся наклікаць небясьпечную буру, нельга было патрабаваць большага. Дробныя буржуа і сяляне, паколькі апошнія наогул займаліся такімі рэчамі, ніколі не даходзілі да вызначэньня таго германскага адзінства, якое яны патрабавалі з такім шумам; некаторыя фантазэры, галоўным чынам фэўдальныя рэакцыянэры, спадзяваліся на аднаўленьне германскай імпэрыі;

кучка цёмных soi disant радыкалаў, якая схілялася перад установамі Швэйцарыі, з якімі яны яшчэ не пасьпелі пазнаёміцца на практыцы і якія так дзіўна пасьля расчаравалі іх, выказваліся за фэдэрацыйную рэспубліку; і толькі самая крайняя партыя адважылася тады выступіць за адзіную і непадзельную германскую рэспубліку. Такім чынам германскае адзінства было пытаньнем, за якім хаваліся рознагалосьсі, спрэчкі і, у залежнасьці ад акалічнасьцяў, нават грамадзянская вайна.

(Маркс і Энгельс, „Исторические работы", стар. 257—258).

### 15. Рэспубліканская афіша першых дзён сакавіка.

Немцы!

Нашы браты ў Францыі адважна праклалі шлях. Яны скінулі сваё ярмо і пабудавалі бліскучы алтар Свабодзе, так даўно жаданай.

Тая самая Францыя, якая два разы скідала сваіх тыранаў, якая два разы пужала князёў Эўропы і будзіла народы ад сна да новага жыцьця, тая самая Францыя цяпер узьнялася ў трэці раз.

Людзі 1789 г. узьняліся з трунаў. Мы павінны зараз змагацца разам з імі і за іх, а ня супроць іх.

Ва ўсіх народаў адзін цяжар, адна туга, адна пакута—у іх адна мэта, адна надзея, адно збаўленьне. Калі ўсе словы, усе просьбы, усе прамовы аказаліся дарэмнымі, калі нашы князі і іх паразыты парушылі ўсе абяцаньні, усе кляцьбы, даныя ў час нашых вызваленчых войн, калі нашы надзіманыя паны зьдзекуюцца над сваімі цярплівымі падданымі, тады, людзі, наша адзінае збаўленьне ў рашучым, адважным і мужным дзеяньні.

Усюды пад сьцягам волі мы будзем шагаць аб'яднанымі ў шчыльным брацтве і кідаць у твар нашым прыгнятальнікам апошні грозны пакліч:

Дайце нам тое, чаго мы дамагаемся, свабоду, а то мы возьмем яе самі.

Народ пануе, калі ён сам гэтага хоча, калі ён пры гэтым аб'яднаны. Ён зломіць здраду дыплёматаў і надзіманасьць царадворцаў, ён пераможа насупярэкі двудушнасьці папоў і ўсёй опозыцыі эгоістычных плутократаў.

Швэйцарыя нядаўна вызвалілася ад цёмнага панаваньня іезуітаў.

Італія пасьпяхова супраціўляецца на поўначы ўціску Аўстрыі накшталт таго, як на поўдні яна скінула пасаджаных Аўстрыяй тыранаў.

Францыя ў некалькі дзён зламала ланцугі свае, ня гледзячы на 100.000 салдат і 400 гармат.

Дададзім да гэтых перамог вольную Германію. Надыйшоў момант для дзеяньня. Дамо сыгнал для паўстаньня палякам і сілезцам.

Хлеб і волю, якія пакралі ў нас і нашых братоў князі, мы адваюем у бойках.

Пойдзем разам і пакажам сябе годнымі людзьмі. Салдаты, слугі ўлады, пакажуць, што яны нашы браты. Як у Парыжы, яны павернуць сваю зброю супроць сваіх паноў і пададуць руку народу.

Мы бачым, як сьцяг свабоды разьвіваецца над Парыжам, і мы патрабуем правоў народу. Калі нас сустрэне адмова, мы возьмемся за зброю і будзем змагацца за тое, чаго дамагаемся.

(Гордон, „Материалы по истории револ. движения на Западе" стар. 63—64).

## 16. Буржуазія ў рэволюцыі 18 сакавіка.

„Сакавікоўская рэволюцыя зусім не падпарадкавала народнаму сувэрынітэту сувэрэна краіны. Яна прымусіла толькі карону, г. зн. абсолютыцкую дзяржаву ўвайсьці ў згоду з буржуазіяй і злучыцца з сваім старым супраціўнікам.

Карона ахвяравала дваранствам для буржуазіі, буржуазія ахвяравала народам для кароны. На такіх умовах каралеўства абуржуазілася, а буржуазія набыла царскі выгляд.

Пасьля сакавікоўскіх падзей толькі і засталіся гэтыя дзьве сілы. Яны служаць адна аднэй громаадводамі рэволюцыі. Зразумела, на „шырокай дэмократычнай аснове".

У гэтым і зьмяшчалася тайна тэорыі згоды.

Гандлярам маслам і шэрсьцю, якія стварылі першае пасьля сакавікоўскай рэволюцыі міністэрства, спадабалася іх роля—служыць сваімі плебейскімі крыльлямі, прыкрыцьцём для кароны, якая выявіла свае слабыя бакі. Яны замiралі ад захапленьня, цешыліся магчымасьцю быць прынятымі да двара; самі захапляліся сваёй адмовай ад сваёй рымскай суровасьці—рымскай суровасьці часоў злучанага ландтага— і любаваліся сваім імкненьнем запоўніць трупамі ранейшай сваёй популярнасьці прорву, якая пагражала паглынуць карону. Як важнічаў міністар Кампгаўзен у ролі павітухі канстытуцыйнага чыну кіраваньня! Гэты адважны мужчына быў, відавочна, сам глыбока расчулены сваім уласным вялікадушшам.

Карона з сваімі прыхільнікамі з відавочным нездавальненьнем цярпела гэты агідны протэкторат і, чакаючы лепшых дзён, будавала bonne mine au mauvais seu.

Напалову зьнішчаная армія, бюрократыя дрыжэла за свае пасады і за сваё ўтрыманьне, і зьняважаны фэўдальны стан, глава якога знаходзіўся ў канстытуцыйным выхаваўчым падарожжы, некалькімі добрымі словамі і паклонамі лёгка абдурылі пана bourgeois-gontilhomme.

Намінальна панаваньне было ў руках буржуазіі, і яна ні на хвіліну не сумнявалася ў тым, што ўся ўлада ранейшай дзяржавы аддана без усялякай задняй думкі ў яе распараджэньне—і што яна сама цяпер усемагутна. Ня толькі ў міністэрстве, але і ўсюды, па ўсёй дзяржаве, буржуазія супакоіла сябе такімі марамі.

Няўжо-ж адзіныя геройскія дзеяньні прускай буржуазіі пасьля сакавіка, няўжо частыя крывавыя вылазкі міліцыі, грамадзян супроць няўзброенага пролетарыяту не знайшлі сабе спачуваючых людзей у арміі, у бюрократыі і нават сярод саміх фэўдалаў, якія з гатоўнасьцю аддавалі сябе ў яе распараджэньне? Няўжо-ж ня дзівіліся анямеўшыя ўрадавыя прэзыдэнты комунальных саветаў і дывізыйныя генэралы адзіным патугам, да якіх дайшлі мясцовыя прадстаўнікі буржуазіі—комунальныя саветы, прыслужная брыдота якіх пазьней так зьняважліва ганьбілася Віндышгрэцам, Елачычам і Вельдэнам,—няўжо-ж ня дзівіліся яны адзіным геройскім дзеяньнем гэтых комунальных саветаў пасьля сакавікоўскай рэволюцыі, іх патрыярхальна-сур'ёзным словам папярэджваньня, якія зьвярталіся да народу? І ці магла яшчэ пруская буржуазія сумнявацца ў тым, што зьнікла ранейшая нянавісьць да яе арміі, бюрократыі і фэўдалаў і замянілася на адданасьць да вялікадушнага пераможцы—буржуазіі, якая стрымлівае сама сябе і анархію.

Было ясна, што перад прускай буржуазіяй была яшчэ толькі адна задача—добра ўладзіцца, сваёй уладай адхіліць непакойных анархістаў, аднавіць „пакой і парадак“ і нагнаць проценты, якія былі страчаны за час сакавікоўскай буры. Гутарка магла яшчэ ісьці толькі пра тое, каб зрабіць мінімальнымі вытворчыя выдаткі яе панаваньня і абумоўшай гэта панаваньне сакавікоўскай рэволюцыі. Няўжо ня трэба было адабраць у абдуранага народу зброю, якую прымушана была патрабаваць пад фірмай народу для сябе пруская буржуазія ў яе барацьбе з фэўдальным грамадзтвам і каронай,—свабоду асоцыяцый, свабоду друку і г. д. У ёй-жа ня было больш патрэбы для барацьбы за буржуазію, і народ выяўляў падазроныя жаданьні скарыстаць гэтую зброю супроць яе-ж.

Згодзе паміж буржуазіяй і каронай, паміж рынкам буржуазіі і ранейшай дзяржавай, якая была прадастаўлена сама сабе, па думцы буржуазіі, перашкаджаў яшчэ толькі народ—гэты „моцны, але зламысны хлопец“, як кажа Гоббс, народ і рэволюцыя.

Рэволюцыя была прававым тытулам народу; на рэволюцыі грунтаваў ён свае буйныя патрабаваньні. Рэволюцыя была вэксалем, які народ выдаў буржуазіі. Шляхам рэволюцыі буржуазія дамагалася ўлады. Дзень пераходу ўлады да яе быў тэрмінам плацяжа па гэтым вэксалі. Буржуазія павінна была заявіць протэст супроць гэтага вэксаля.

*Рэволюцыя ў вуснах народу азначала:* вы,—буржуа,—вы Комітэт Грамадзкага Збаўеньня, у рукі якога мы аддалі ўладу не для таго, каб вы ўступалі ў згоду з каронай з прычыны вашых інтарэсаў, але для таго, каб вы дамагліся перад каронай ажыцьцяўленьня нашых інтарэсаў, інтарэсаў народу.

Рэволюцыя была протэстам народу супроць згоды паміж буржуазіяй і каронай. Таму буржуазія, якая заключыла згоду з каронай, павінна была протэставаць супроць рэволюцыі.

Гэта і адбылося пры вялікім Кампгаўзэне. Парашылі ня лічыцца з сакавікоўскай рэволюцыяй. Адхіліўшы прапанову пра прызнаньне сакавікоўскае рэволюцыі, бэрлінскі народны ўрад тым самым паказаў сябе ўрадам прускай буржуазіі, сходам асоб, якія заключаюць згоду. Тое, што адбылося, яны прызналі не адбыўшымся. Сход голасна абвясьціў народу, што ён заключае саюз з буржуазіяй не для таго, каб зрабіць рэволюцыю супроць кароны, але наадварот, што ён зрабіў рэволюцыю для таго, каб карона магла заключыць саюз з буржуазіяй супроць яго-ж самога. Так быў зьнішчаны прававы тытул рэволюцыйнага народу і набыта глеба права консэрватыўнай буржуазіі.

Глеба права, да і да таго-ж яшчэ прускага права.

Што служыла глебай права для рыцара вялікіх спрэчак Кампгаўзэна, для зноў паўстаўшае здані Злучанага Ляндтагу і Сойму для выпрацоўкі згоды? Ці гэта быў констытуцыйны закон 1815 г., ці закон пра ландтаг 1820 г., указ 1847 г., ці закон пра выбары і выпрацоўку згоды 8 красавіка 1848 г.?

Ні тое, ні другое, ні трэцяе.

Глеба права проста азначала, што рэволюцыя не набыла пад сабою глебы, а старое грамадзтва ня страціла яе, што сакавікоўская рэволюцыя была толькі „акалічнасьцю, якая дала штуршок" да „аб'яднаньня" кароны з буржуазіяй, якое ўжо даўно было падрыхтавана ўнутры старое прускае дзяржавы, „аб'яднаньня", патрэбнасьць у якім сама карона прызнавала ў сваіх ранейшых усеміласьцівых рэскрыптах і толькі ня лічыла да сакавіка „неабходнай". Словам, „глеба права" азначала, што буржуазія жадае быць з каронай да сакавіка ў тых самых адносінах, што і да сакавіка, быццам рэволюцыі зусім і ня было, а Злучаны Ляндтаг дасягнуў свае мэты і без яе. „Глеба права" азначала, што прававое аснаваньне народу, рэволюцыя, не ўваходзяць у Contract social, заключаны паміж урадам і буржуазіяй. Буржуазія выводзіла свае дамаганьні з старога прускага законадаўства для таго, каб народ не грунтаваў сваіх дамаганьняў на новай прускай рэволюцыі"...

(Фрыдлянд і Слуцкі, „Ук. соч.", стар. 278—279).

### 17. Рабочыя пра пашырэньне выбарчага права.

(Рэзолюцыя рабочага сходу).

„Ваша вялікасьць! Нам здаецца, што народу больш належыць, чым яму дадзена ў проэкце выбарчага закону. Мы хацелі агульнага выбарчага права, атрымалі-ж абмежаванае, такім чынам той, хто асуджаны праклёнам грамадзтва служыць ці атрымліваць міластыню, пазбаўлены выбарчага права. Мы хацелі простых аднаступнёвых выбараў, між тым мы бачым, што паміж намі і нашымі прадстаўнікамі пралезьлі выбаршчыкі; мы, нарэшце, жадаем, каб поўналецьце лічылася тым узростам, калі мы ўжо можам прадстаўляць свае інтарэсы.

Мы мелі надзею, што ў будучым поўнагодзьдзе будзе наступаць разам з 21 годам жыцьця, але нашы надзеі і тут нас ашукалі. Мы прапануем:

1. Служачыя і асобы, якія карыстаюцца грамадзкаю дапамогаю, не павінны быць пазбаўлены палітычных правоў, права выбіраць і быць выбранымі.

2. Першапачатковыя выбаршчыкі павінны самі выбіраць сваіх прадстаўнікоў без сярэдніх выбаршчыкаў.

3. Усякі мужчына, які дасягнуў 21 года, можа выбіраць, а дасягнуўшы 24 год можа быць выбраны.

4. Мы абмяркоўвалі гэты адрас на сходзе „Народнага Саюзу", і маем надзею, што наша права зьбірацца пад адкрытым небам, бяз зброі, але вялікімі масамі, абмежаванае проэктам, і наперад ніякім чынам абмяжоўвацца ня будзе.

Ваша вялікасьць! Мы паказалі сябе мужамі, мы здолелі ўладаць зброяй у барацьбе за волю, думаем, што такім чынам мы сабе заваявалі права і наперад насіць яго пры сабе для ахаваньня і гарантый апошняй.

Па даручэньні „Народнага Саюзу" у „палатах":

Краўзэ, сьлесар; Зігрыст, рабочы; Г. А. Шлефель, студэнт; Монске, студэнт; Гірш, купец; Энгелінг, каваль".

## 18. Паўстаньне ў Бадэне.

*Адозва да нямецкага народу*:

а) „Барацьба народу з яго прыгнятальнікамі пачалася. Нават на вуліцах Франкфурта, дзе пасядае бясьсільны цэнтральны ўрад і лёгкі на словы Ўстаноўчы Нацыянальны Сойм, народ расстрэльваўся з гармат. Калі ў Франкфурце пераможа рэакцыя, Германія будзе зьняволена так званым законным шляхам горш, чым гэта бывае пасьля крывавых войнаў.

Леррах, 21-га верасьня 1848 г. імем Часовага Ўраду: Густав Струвэ. Комэндант Галоўнага Штабу: В. В. Левенфельд. Сакратар: Карл Блінд".

б) „Нямецкая рэспубліка, дабрабыт, адукацыя, воля для ўсіх. Імем нямецкага народу Часовы Ўрад пастанаўляе:

Пар. 1. Усе цяжары сярэднявечча, якія ляжаць на зямлі, як і ўсе павіннасьці, дзесяціны, аброкі, баршчына, сярэднявечча, безадкладна скасоўваюцца, без усякай аплаты. Усялякія адкупныя і выкупныя плацяжы за такія павіннасьці таксама спыняюцца.

Пар. 2. Усе плацяжы дзяржаве, царкве і дваранам—земляўласьнікам з гэтага часу спыняюцца. Прыбытковы прагрэсыўны падатак, які выключае недастатковае насельніцтва, замяняе адгэтуль усялякія падаткі; толькі мытныя зборы на межах Германіі застаюцца яшчэ на некаторы час.

Пар. 3. Уся зямля, якая належыць дзяржаве, царкве і староньнікам князёў, канфіскуецца, пры ўмове больш позьняй узнагароды, і пераходзіць ва ўласнасьць адпаведных грамад.

Пар. 4. Для забесьпячэньня ўсіх вышэйпералічаных ільгот, прызначаецца усеагульнае народнае паўстаньне. Усе мужчыны, здольныя насіць зброю ад 18—40 гадовага ўзросту, бяруцца за зброю для абароны бацькаўшчыны, якая знаходзіцца ў небясьпецы. З сёнешняга дня пануюць законы вайсковага часу, пакуль нямецкі народ не заваюе сабе волю.

Імем нямецкага Часовага Ўраду Густав Струвэ. Сакратар Карл Бліндэ. Галоўны штаб Леррах. У першы дзень нямецкай рэспублікі, 21-га верасьня, 1848 году".

(Фрыдлянд і Слуцкі, „Ук. соч.", стар. 293—294).

**19. К. Маркс і Ленін пра рэволюцыю 1848 г. і рэволюцыю 1789 г.**

„Нямецкая рэволюцыя 1848 году ёсьць толькі пародыя францускае рэволюцыі 1789 г.

4 жніўня 1789 г., тры тыдні пасьля ўзяцьця Бастыліі, францускі народ у адзін дзень перамог усе фэўдальныя павіннасьці.

11 ліпеня 1848 г. чатыры месяцы пасьля сакавікоўскіх барыкад, фэўдальныя павіннасьці перамаглі нямецкі народ.

Францускай буржуазія 1789 году ні на хвіліну ня кідала сваіх хаўрусьнікаў сялян. Яна ведала, што асноваю яе панаваньня было зьнішчэньне фэўдалізму на вёсцы, стварэньне вольнае зямляўласьніцкае сялянскае клясы.

Нямецкая буржуазія 1848 году бяз усякага сораму здраджвае сялянам, сваім самым натуральным хаўрусьнікам, якія зьяўляюцца плоцьцю ад плоці яе, і без якіх яна бясьсільна супроць дваранства.

Захаваньне фэўдальных правоў, санкцыянаваньне іх пад відам— такі вынік нямецкае рэволюцыі 1848 г. Гара нарадзіла мыш". (З артыкулу Маркса ў „Новай Рэйнскай Газэце" ад 21 ліпеня 1848 году). Гэта вельмі навучальнае месца, якое дае нам чатыры важных палажэньні: 1) Нясконченая нямецкая рэволюцыя адрозьніваецца ад скончанай францускай тым, што буржуазія здрадзіла ня толькі дэмократызму наогул, але ў прыватнасьці, і сялянству. 2) Асновай поўнага ажыцьцяўленьня дэмократычнага перавароту зьяўляецца стварэньне вольнае клясы сялянства. 3) Стварэньне такое клясы ёсьць зьнішчэньне фэўдальных павіннасьцяй, разбурэньне фэўдалізму, але зусім яшчэ не соцыялістычны пераварот. 4) Сяляне—„самыя натуральныя хаўрусьнікі буржуазіі, іменна дэмократычнае буржуазіі, без якіх яна „бясьсільна" супроць „рэакцыі".

З адпаведнымі зьменамі конкрэтных нацыянальных асаблівасьцяй, з падстаноўкай прыгоньніцтва на месца фэўдалізму, усе гэтыя палажэньні цалкам можна дапасаваць і да Расіі 1905 году. Бясспрэчна, што, бяручы ўрокі з вопыту Германіі, асьветленага Марксам, мы ня

можам прыйсьці ні да якога іншага лёзунгу рашучае перамогі рэволюцыі, апроч: рэволюцыйна-дэмократычная дыктатура пролетарыяту і сялянства. Бясспрэчна, што галоўнымі складанымі часткамі таго „народу", які Маркс супроцьставіў у 1848 г., які супраціўляўся рэакцыі і здрадніцкай буржуазіі, зьяўляюцца пролетарыят і сялянства. Бясспрэчна, што і ў нас у Расіі лібэральная буржуазія і паны вызваленцы здраджваюць і здрадзяць сялянству, г. зн. абмяжуюцца ілжэрэформай, стануць на бок памешчыкаў у рашучай барацьбе паміж імі і сялянствам. Толькі пролетарыят здольны падтрымаць сялянства да канца ў гэтай барацьбе. Бясспрэчна, што, нарэшце, і ў нас у Расіі посьпех сялянскае барацьбы, г. зн. пераход да сялянства ўсёй зямлі будзе азначаць поўны дэмократычны пераварот, зьяўляючыся соцыяльнай апорай даведзенай да канца рэволюцыі, але зусім не соцыялістычны пераварот. Посьпех сялянскага паўстаньня, перамога дэмократычнае рэволюцыі толькі расчысьціць шлях для сапраўднае і рашучае барацьбы за соцыялізм на аснове дэмократычнае рэспублікі (Ленін „Дзьве тактыкі", збор твораў VI, стар. 397).



**Аддзяленьне дакамвузаўскай падрыхтоўкі.**
*Курс вядуць Т. ЕЗАВІТ і М. ЛОЙКА.*

# ГЕОГРАФІЯ.

## ЗАДАНЬНЕ 6-е.

## ТЭМА: „ДЗЯРЖАВЫ ЗАХОДНЯЕ ЭЎРОПЫ І БЛІЖЭЙ ЎСХОДНІЯ СУСЕДЗІ СССР“.

*(З падачаю пісьмовае працы).*

### УСТУП.

У папярэднім заданьні мы пазнаёміліся з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі СССР. Мэтаю апошніх двух заданьняў нашае праграмы (6 і 7) зьяўляецца: 1) **вывучэньне палітычнай карты капіталістычнага сьвету;** 2) **азнаямленьне з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і галоўнымі рысамі гаспадаркі найбольш буйных капіталістычных краін,** а таксама **краін,** якія знаходзяцца па межы СССР.

Прыступаючы да вывучэньня палітычнай карты капіталістычнага сьвету, трэба памятаць, што ў часы імпэрыялізму далёка ня ўсе, нават, даволі буйныя капіталістычныя дзяржавы зьяўляюцца эканомічна і палітычна самастойнымі.

У. І. Ленін у сваёй працы: „Імпэрыялізм, як вышэйшая стадыя капіталізму“, якая напісана ім яшчэ ў 1916 г., падзяляў усе краіны на дзьве асноўныя групы:

1. **Краіны імпэрыялістычныя.**
2. **Краіны каленіяльныя.**

Блізка да каленіяльных краін Уладзімер Ільліч адносіць краіны паўзалежныя, ці так званыя „паўкалёніі“. Гэтыя краіны хоць формальна лічацца незалежнымі (самастойнымі), але фактычна яны зьяўляюцца ў большай або меншай эканомічнай і палітычнай залежнасьці ад тае ці іншае імпэрыялістычнае дзяржавы. Прыкладамі такіх краін могуць зьявіцца Пэрсія, Кітай, Турцыя.

Сярод імпэрыялістычных краін тав. Ленін выдзяляў для таго часу **шэсьць вялікіх дзяржаў:** Англію, Расію, Францыю, Германію, Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі і Японію.

Рэволюцыя Кастрычніка вырвала Расію з сыстэмы імпэрыялізму і збудавала Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. З астатніх пяці

імпэрыялістычных дзяржаў Германія сама папала ў лапы перамогшых яе „акул“. Большасьць-жа дробных дзяржаў у тым ліку і эўрапэйскіх і нават імпэрыялістычных (якія маюць свае калёніі) у часы імпэрыялізму не зьяўляюцца фактычна самастойнымі. Сваю політычную самастойнасьць яны захоўваюць не таму, што ў іх хапае ўласнае сілы абараніць гэтую самастойнасьць, а таму, што: 1) „Жадаючыя праглынуць іх „акулы імпэрыялізму“ з ліку вялікіх дзяржаў перашкаджаюць адзін аднаму гэта зрабіць“. Найбольш відавочнымі прыкладамі такіх дзяржаў „буфэраў“ могуць зьявіцца Бэльгія або Швэйцарыя. Бэльгія сваёй політычнай самастойнасьцю абавязана тэй супярэчнасьці, якая існуе між Вялікабрытаніяй, Францыяй, Германіяй, сярод якіх яна знаходзіцца. Таксама Швэйцарыя мае політычную самастойнасьць з прычыны супярэчнасьцяў між Францыяй, Германіяй, Італіяй.

Гэта першае, чаго ня трэба забываць, прыступаючы да распрацоўкі апошніх двух заданьняў нашае програмы пра капіталістычныя краіны.

Другое, пры вывучэньні капіталістычных краін мы сустрэнемся з фактамі выгаднага географічнага палажэньня паасобных краін, з фактамі вялікіх прыродных багацьцяў і высока-разьвітое тэхнікі. Разам з тым мы ведаем, што капіталістычныя краіны перажываюць экономічны крызіс, што мільёны рабочых выкінуты на вуліцу і галадаюць, што мільёны сялян, беднякоў і сераднякоў даведзены да жабрацтва. Зьяўляецца пытаньне, дзе прычына гэтага, дзе прычына голаду рабочых і сялян пры наяўнасьці вялізарных прыродных багацьцяў і высока-разьвітое тэхнікі, дзе прычыны таго, што капіталісты скарачаюць вытворчасьць і выкідваюць рабочых мільёнамі на вуліцу? Прычынай гэтаму зьяўляецца сыстэма капіталізму, пры якой магазыны ломяцца ад тавараў, а купляць іх няма каму, бо беспрацоўны рабочы, зьбяднеўшы селянін ня маюць за што купляць.

Тав. Сталін у політычнай справаздачы XVI парт. зьезду гаворыць пра гэта так: „Калі-б капіталізм мог прыстасаваць вытворчасьць не да атрыманьня максымуму прыбытку, а да сыстэматычнага палепшаньня матар'яльнага становішча народных мас, калі-б ён могператвараць прыбытак не на задавальненьне „прыхотей“ паразытычных клясаў, не на ўдасканалеваньне мэтадаў эксплёатацыі, не на вываз капіталу, а на сыстэматычны ўздым матар'яльнага становішча рабочых і сялян, дык тады ня было-б крызісу, але тады і капіталізм ня быў-бы капіталізмам. Каб зьнішчыць крызіс, трэба зьнішчыць капіталізм“.

Такім чынам толькі ў зьнішчэньні капіталізму можа быць адзіны выхад з таго становішча, у якім знаходзіцца капіталістычны сьвет.

Мэта 6-га нашага заданьня пазнаёміцца з **дзяржавамі Заходняй Эўропы і бліжэй ўсходнімі суседзямі СССР.** Пры гэтым больш-менш падрабязна мы пазнаёмімся з географіяй найбольш буйных дзяржаў Заходняй Эўропы, а таксама дзяржаў, якія знаходзяцца па мяжы СССР. У адносінах да астатніх дзяржаў нашай тэмы мы толькі запамятаем іх месца на карце.

## ПЛЯН ТЭМЫ:

**1. Брытанская імпэрыя.**

**2. Буйныя імпэрыялістычныя дзяржавы Цэнтральнай Эўропы.**

**3. Дзяржавы па Заходняй мяжы СССР і бліжэй ўсходнія суседзі СССР.**

*Літаратура і дапаможнікі:*

1. Вучэбна-дапаможны матар'ял у канцы заданьня.
2. „Географический атлас в 16 таблицах под редакцией Шокальского"—карты па стар.: 5, 7, 8, 9, 10, 11.

## Мэтадычныя парады да самастойнай распрацоўкі.

### Да разьдзелу 1-га пляну—Брытанская імпэрыя.

Прыступаючы да вывучэньня Брытанскай імпэрыі, неабходна разабрацца ў назвах: „Англія", „Вялікабрытанія", „Брытанская імпэрыя".

Англіяй у вузкім сэнсе завуць паўднёвую і сярэднюю частку вострава Вялікабрытаніі; паўночную частку гэтага вострава завуць Шотляндыяй, а паўднёва-заходнюю частку—Уэльсам. Пад Вялікабрытаніяй трэба разумець дзяржаву, якая аб'ядноае Англію, Шатляндыю, Уэльс і паўночна-ўсходнюю частку вострава Ірляндыі. Брытанскай-ж імпэрыяй завецца Вялікабрытанія з усімі сваімі калёніямі. Часта ў кніжках, газэтах слова „Англія" ўжываецца ў шырокім сэнсе, абазначаючы гэтым Вялікабрытанію.

Усе ўладаньні Вялікабрытаніі можна разьбіць на 3 групы:

1. **Доміньёны**—уладаньні Вялікабрытаніі, якія карыстаюцца самаўпраўленьнем. Доміньёны маюць сваё войска, флёт, утвараюць самастойна гандлёвыя дагаворы з іншымі краінамі і формальна могуць ня прымаць удзелу ў войнах, якія вядзе Вялікабрытанія. На самай-жа справе доміньёны залежаць ад Вялікабрытаніі, як ад прамысловае краіны і як ад краіны—банкіра. Значная частка прыродных багацьцяў, прамысловых і транспартных прадпрыемстваў належыць ангельскім капіталістам. Ва ўсіх доміньёнах назіраецца імкненьне аслабаніцца ад апекі Вялікабрытаніі. Імкненьне гэта асабліва ўзмацнілася пасьля імпэрыялістычнае вайны ў сувязі з разьвіцьцём у доміньёнах уласнае прамысловасьці. У дадатак да гэтага ў паасобных доміньёнах (прыклад Канада) ангельскі капітал выціскаецца амэрыканскім.

2. **Калёніі**—уладаньні, якія па розных дыплёматычных меркаваньнях, каб прыкрыць *захопніцкую палітыку* імпэрыялістаў, завуцца **мандатнымі тэрыторыямі, протэктаратамі**, ці ўласна калёніямі, а нават і „незалежнымі" дзяржавамі, як Эгіпет у Афрыцы. З калёній для ангельскага імпэрыялізму найбольш важна Індыя, паўвостраў Малакка, Усходняя Афрыка, якія зьяўляюцца крыніцамі галоўнейшых відаў сырцу: каўчуку, бавоўны, волава, а таксама таннай рабочай сілы.

3. **Апорныя базы**—уладаньні, якія важны для Вялікабрытаніі, як стратэгічныя пункты, як базы вайсковага флёту для абароны морскіх

шляхоў, ці для імпэрыялістычнага ўзьдзейнічаньня на формальна незалежныя краіны.

Галоўнейшыя з такіх пунктаў: Гібралтар, Мальта, Кіпр, Суэц, Адэн—аберагаючыя морскі шлях у Індыю; Сінгапур—буйная вайсковая і морская база на выпадак вайны за морскія шляхі на Ціхім акіяне; Ганконг—база для нападу на Кітай і г. д.

Асноўная мэта першага разьдзелу нашага заданьня:

1. *Вывучыць палітычную карту Брытанскай імпэрыі.*

2. *Азнаёміцца з прыродна географічнымі асаблівасьцямі Вялікабрытаніі.*

3. *Засвоіць характэрныя рысы гаспадаркі гэтай краіны.*

Для вывучэньня карты Брытанскай імпэрыі выканайце наступную працу:

а) На палітычных картках (стар. 5, 7, 8, 9, 10, 11) атлясу Шокальскага знайдзеце:

1. *Часткі Вялікабрытаніі:* Англію, Уэльс, Шотляндыю і паўночна-ўсходнюю частку Ірляндыі, а таксама гарады: Лёндан, Брыстоль, Лівэрпуль, Глэзга, Гуль, Манчэстэр (карта: „Эўропа—палітычная"—стар. 5).

2. *) *Доміньёны з іх буйнейшымі гарадамі*: Свабодная дзяржава Ірляндыя (г. Дублін); Канада (Атава, Монрэаль); Ньюфавундлэнд з Лябрадорам; Аўстралія (Сідней, Мельбурн); Новая Зэляндыя, Паўднёва-Афрыканскі Саюз (Капштад). (Карты на стар. 5, 8, 11, 10).

3. *Калёніі і залежныя землі з буйнымі гарадамі ў іх:* Малака, Сінгапур; Індыя (Калькута, Бамбей); Ірак ці Месапатамія (Багдад, Масул); Палестына **); Эгіпет (Каір); Англа-Эгіпецк Судан; Нігерыя. (Карты на стар. 7, 10).

4. *Найдзеце на картах апорныя пункты* (базы вайсковага флёту) *Брытанскага імпэрыялізму на морскіх шляхох з Вялікабрытаніі ў Паўднёвую і Усходнюю Азію:* Гібральтар, Мальта, Суэц, Адан, Сінгапур, Ганконг. (Карта на стар. 5, 7). Апорныя пункты ў берагоў Паўночнае і Паўднёвае Амэрыкі: выстравы Багамскія, Фалклэндзкія. (Карта на стар. 8, 9).

Пажадана для лепшага запамінаньня ўсе назвы, знойдзеныя на карце, падпісаць на контурнай карце ўсіх частак сьвету ў меркатарскай проэкцыі. Калі месца для надпісу на карце ня хопіць, дык можна ўмоўна адзначыць лічбаю, а надпіс зрабіць на палёх карты ці ў сшытку.

Для азнаямленьня з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі Вялікабрытаніі, гэта значыцца з яе географічным палажэньнем, рэльефам,

---

*) Доміньёны трэба шукаць на картах: Ірляндыя—Эўропа; Канада, Ньюфавундлэнд—Паўн. Амэрыка; Новая Зэляндыя—Аўстралія; Паўднёва-Афрыканскі Саюз—Афрыка. Іншыя калёніі шукайце на картах—Азія, Афрыка.

Добра-б было калёніі Англіі прагледзець на паўкулях ці глобусе, каб мець больш сталае ўяўленьне пра іх разьмяшчэньне.

**) Эгіпет—фактычна калёнія Вялікабрытаніі, яго „самастойнасьць"—формальная.

кліматам, выкапнымі багацьцямі, а таксама з характэрнымі рысамі яе гаспадаркі прачытайце па вучэбна-дапаможным матар'яле артыкул: *„Англія“*.

На падставе прапрацоўкі політычнае карты Брытанскае імпэрыі і азнаямленьня з вызначаным матар'ялам адкажэце на пытаньні:

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ:

1. З якіх частак складаецца Брытанская імпэрыя?
2. Якія моры, затокі, пратокі абмываюць Вялікабрытанію?
3. Якія ўмовы спрыялі разьвіцьцю морскіх зносін і гандлю Вялікабрытаніі?
4. Чым тлумачыцца мяккасьць і вільготнасьць клімату Вялікабрытаніі?
5. Якімі выкапнямі багата Вялікабрытанія і чым выгодна географічнае разьмеркаваньне гэтых выкапняў на яе тэрыторыі?
6. У якіх частках Вялікабрытаніі і чаму найбольш пашырана сельская гаспадарка і прамысловасьць?
7. Якія галіны прамысловасьці найбольш пашыраны ў Вялікабрытаніі і якім дзяржавам яна ўступае па здабычы вугалю, жалезнае руды, па выплаўцы чыгуну?
8. Чым тлумачыцца асабліва цяжкае становішча с.-г. рабочых і так званых прамысловых рабочых „нізоў“?
9. Якое значэньне мае Вялікабрытанія для нашага замежнага гандлю?
10. Пералічэце, з якіх сваіх калёній (у тым ліку і доміньёнаў) Вялікабрытанія прывозіць: бавоўну, шэрсьць, каўчук, нафту?
11. Якія дзяржавы сумежныя з СССР і чаму імкнецца Вялікабрытанія падпарадкаваць свайму ўплыву?
12. Што вы ведаеце пра рэволюцыйны рух у Індыі?

### Да разьдзелу II пляну—буйныя імпэрыялістычныя дзяржавы Цэнтральнай Эўропы.

Да буйных імпэрыялістычных дзяржаў Цэнтральнай Эўропы адносяцца Францыя, Гэрманія, Італія. *Вывучыць прыродна-географічныя асаблівасьці і каротка пазнаёміцца з гаспадаркай названых дзяржаў і зьяўляецца асноўнаю мэтаю другога разьдзелу заданьня.*

Перш, чым прыступіць да вывучэньня географіі Францыі, Германіі, Італіі, карысна пазнаёміцца з політычнаю картаю ўсяе Заходняе Эўропы. Для гэтага выканайце такую працу:

I) 1. На карце „Эўропа—політычная“ атлясу Шокальскага знайдзеце наступныя дзяржавы і іх галоўныя гарады (кожная дзяржава на карце афарбавана асобным колерам):

а) Дзяржавы на мяжы з СССР.

б) Дзяржавы, якія знаходзяцца на Балканскім, Апянінскім, Пірэнэйскім, Ютляндзкім і Скандынаўскім паўвастравох.

в) Астатнія дзяржавы Заходняй Эўропы (Вялікабрытанію, Францыю, Бэльгію, Галяндыю, Германію, Літву, Чэха-Славакію, Аўстрыю, Вэнгрыю, Швэйцарыю, „вольны“ горад—Данцыг).

2. *) Назвы дзяржаў і іх галоўных гарадоў надпішэце на контурнай карце, а межы Францыі, Італіі, Германіі абвядзеце каляровым алоўкам.

Для азнаямленьня з прыродна-географічнымі асаблівасьцямі і гаспадаркай Францыі, Італіі, Германіі выканайце з пачатку наступную працу:

На карце „Эўропа—політычная“ атлясу Шакальскага пакажэце:

а) З якімі дзяржавамі мяжуюцца Францыя, Італія, Германія?

б) Пакажэце рэкі: Одэр, Эльбу, Рэйн, Сену, Люару, Гарону, Рону, По і скажэце, якія з гэтых рэк цякуць па Францыі, якія па Італіі і Германіі.

в) Пакажэце партовыя гарады—Францыі: Марсэль, Нант, Гаўр; Італіі: Неаполь, Генуя, Венэцыя; Германіі: Гамбург, Кенігсберг.

г) Якія горы праходзяць па сярэдняй Германіі, усходняй Францыі?

д) Якія горы праходзяць па Італіі (рэкі і горы глядзіце на карце „Эўропа—фізычная“, стар. 4).

е) На карце „Афрыка“ (стар. 10) знайдзеце калёніі Францыі: Марока, Алжыр, Туніс, Францускую Зах. Афрыку, Францускую экватарыяльную Афрыку, востраў Мадагаскар. На гэтай-жа карце знайдзеце калёніі Італіі: Трыпалі, Самалі. На карце „Азія—політычная“ знайдзеце калёніі Францыі—Сірыю, Анам.

Пасьля азнаямленьня з картаю вышэйазначаных дзяржаў прачытайце па вучэбна-дапаможным матар'яле артыкулы: „Францыя“, „Італія“, „Германія“.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ:

1. Якія дзяржавы Эўропы знаходзяцца па цячэньню ракі Дуная?
2. Якая з дзяржаў (Францыя, Італія, Германія) знаходзіцца ў найменш выгодным географічным палажэньні і чаму?
3. Якая з трох пералічаных дзяржаў найбольш багата каменным вугалем, якая жалезнаю рудою, а якая іх амаль зусім ня мае?
4. Якія тэрыторыі багатыя жалезнаю рудою, вугалем страціла Германія пасьля імпэрыялістычнай вайны?
5. Якая з дзяржаў (Францыя, Італія, Германія) зьяўляецца найбольш індустрыяльнай і чым гэта можна даказаць?
6. Характарызуйце прамысловасьць кожнае дзяржавы паасобку?
7. З якою з адзначаных дзяржаў і чаму найбольш пашыран гандаль СССР?
8. Якая імпэрыялістычная сутнасьць так званай „Пан-Эўропы“ Брыяна і супроць каго яна ў першую чаргу накіроўвалася?
9. У чым канкрэтна сутнасьць супярэчнасьцяў між Францыяй і Германіяй, а таксама між Францыяй і Італіяй, між Францыяй і Вялікабрытаніяй?

---

*) Контурную карту можна ўзяць—Эўропы.

## Да разьдзелу III пляну — Дзяржавы па Заходняй мяжы СССР і бліжэй усходнія суседзі: Турцыя, Пэрсія, Аўганістан.

Мэта трэцяга разьдзелу: *пазнаёміцца з географіяй дзяржаў па Заходняй мяжы СССР* (Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Польшча, Румынія), *а таксама з дзяржавамі на паўднёвай нашай мяжы* (Турцыяй, Пэрсіяй, Аўганістанам). Апроч таго, нам прыдзецца каротка пазнаёміцца і з географіяй *Літвы*, якая знаходзіцца на Захад ад СССР, але з намі не мяжуецца.

Для распрацоўкі разьдзелу прачытайце артыкулы па вучэбна-дапаможным матар'яле: *„Фінляндыя", „Прыбальтыцкія краіны", „Польшча", „Румынія". Бліжэй усходнія суседзі СССР: Турцыя, Пэрсія, Аўганістан".*

На падставе азнаямленьня з вызначаным матар'ялам адкажэце на пытаньні.

### ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ:

1. Пералічэце галоўныя партовыя гарады Прыбальтыцкіх дзяржаў?
2. Якія дзяржавы мяжуюцца з БССР?
3. Якія дзьве дзяржавы па Заходняй мяжы з СССР зьяўляюцца большымі па тэрыторыі і па ліку насельніцтва?
4. Якія дзяржавы па Заходняй мяжы найбольш багаты нафтаю, каменным вугалем?
5. Характарызуйце гаспадарку Польшчы і Румыніі?
6. Што перашкаджае прамысловаму разьвіцьцю Польшчы?
7. Чаму Антанта галоўным чынам у Польшчы і Румыніі падрыхтоўвае базу для нападу на СССР?
8. Якую тэрыторыю СССР гвалтоўна захапіла румынская буржуазія?
9. Што вы ведаеце пра рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі і ў Зах. Украіне?
10. Характарызуйце гаспадарку Турцыі, Пэрсіі, Аўганістану?
11. Чым выклікана адсталасьць гаспадаркі гэтых краін?
12. Чаму Вялікабрытанія імкнецца да захопу Пэрсіі?
13. Праз якія моры ляжыць шлях з СССР у Турцыю і Пэрсію?
14. З якіх рэчаў складаецца таваразварот СССР з Турцыяй, Пэрсіяй, Аўганістанам?

### ЗАДАНЬНЕ ДЛЯ ПІСЬМОВАЙ ПРАЦЫ.

Распрацаваць дзьве схэмы па тэмах:

1. **Політычная карта Заходняе Эўропы і калёніі Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі".**
2. **„Характарныя рысы гаспадаркі Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Італіі".**

*Форма для схэмы па тэме I:*

## Палітычная карта Заходняе Эўропы і калёніі Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі.

**Падтэма А. Карта Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Італіі і іх калёніі.**

| Назва дзяржавы | Дзе знаходзіцца дзяржава (на востраве, паўвостраве, беразе такога-то мора) | Групы калёній | Пералічыць паасобныя калёніі, гледзячы на карту | Пералічыць галоўныя рэчы вывозу з калёній |
|---|---|---|---|---|
| 1. Вялікабрытанія | Займае востраў Вялікабрытанію і Паўночную частку вострава Ірляндыі | Калёніі наўкола Індэйскага акіяну | Малака, Індыя і г. д. | Бавоўна, джут, пшаніца і г. д. |
| | | Калёніі наўкола Атлянтычнага акіяну | | |
| | | Апорныя пункты Вялікабрытанскага імпэрыялізму на морскіх шляхох (пералічыць) | | |
| 2. Францыя | | Калёніі ў Афрыцы | | |
| | | Калёніі ў Азіі | | |
| 3. Германія | | Тэрыторыі, якія Германія страціла пасьля імпэрыял. вайны | | |

**Падтэма Б. Карта іншых дзяржаў Заходняе Эўропы.**

| Групы дзяржаў | Пералічыць усе дзяржавы, апроч Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Італіі, паказаў іх галоўныя гарады |
|---|---|
| 1. Дзяржавы ў берагоў Міжземнага мора і яго частак | 1. Румынія (Бухарэшт), Баўгарыя (Сафія) і г. д. |
| 2. Дзяржавы ў берагоў Балтыцкага, Нямецкага мораў і Атлянтычнага акіяну | |
| 3. Дзяржавы, ня маючыя выхаду ў мора | |

*Форма для схэмы па тэме II.*

**Характэрныя рысы гаспадаркі Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Італіі.**

| Назва дзяржаў | Паралічыць галоўныя выкапні | Паралічыць галіны прамысловасьці і сельскае гаспадаркі найбольш пашыраныя | Паралічыць рэчы вывазу і завозу |
|---|---|---|---|
| 1. Вялікабрытанія | Каменны вугаль і г. д. | Прамысловасьць: горная, машынабудаўнічая і г. д. | Вывоз: машыны, тканіна і г. д. |
| 2. Францыя | | | |
| 3. Германія | | | |
| 4. Італія | | | |

Увага: Раім пры запаўненьні схэмаў узяць два, тры лісты паперы, разьлінаваць іх па паказанай форме, пры гэтым графы неабходна пашырыць, кабзьмясьціліся ўсе паралічэньні. Просьба пісаць чыста і разборчыва. Калі якаянебудзь дзяржава (схэма 2) бедна выкапнямі ці мае слаба пашыраную прамысловасьць, ці сельскую гаспадарку, дык у адпаведнай графе коратка напісаць прыкладам: „Выкапнямі бедна. З выкапняў толькі ёсьць..." ці „Сельская гаспадарка пашырана слаба па прычыне..." і г. д.

## ВУЧЭБНА-ДАПАМОЖНЫ МАТАР'ЯЛ ДА ЗАДАНЬНЯ 6.

### АНГЛІЯ*).

**Н. Баранскі. „Кароткі курс экономічнае географіі". Выпуск першы. Дз В. 1930 г.**

Эўрапэйскія ўладаньні—313 тыс. км.², 47 млн. насельніцтва, з іх Вялікабрытанія—244 тыс. км.² і 44 млн. жыхароў і Свабодная дзяржава Ірляндыя—69 тыс. км.² і 3 млн. насельніцтва. Разам з калёніямі—36 млн. км.² (¼ паверхні сухазем'я), 470 млн. насельніцтва (¼ насельніцтва зямное кулі).

Англія—астраўная дзяржава, якую амывае Паўночнае мора, Атлянтычны акіян, Ірляндзкае мора і Ляманш. Ляжыць яна ў паўночнай частці мернага поясу (паміж 50 і 60° паўдн. ш., шырыня на поўдні—Кіева, на поўначы—Ленінграду).

*Характэрныя асаблівасьці.*

Англія зьяўляецца старэйшай капіталістычнаю краінаю з. рэдка аднабаковым разьвіцьцём гаспадаркі ў бок індустрыі. Яе індустрыялізацыя адбывалася, як аб гэтым раней гаварылася, за кошт драпеж-

*) Працы з картамі і пытаньні ў канцы артыкулаў, якія ёсьць у падручніку Н. Баранскага, намі пры перакладзе выпушчаны.

ніцтва яе шматлікіх колёній і ператварэньня іх у „аграрныя дадаткі“ да гаспадаркі самой Англіі. Англія вывозіць пераважна фабрыкаты і завозіць з-за мяжы большую частку прадуктаў, неабходных для харчаваньня насельніцтва і для забесьпячэньня фабрык сыравінай (толькі вугалю ёсьць лішкі). Хлеваробства адсоўваецца на задні плян гародніцтвам і продуктовай жывёлагадоўляй (тонкарунныя авечкі, малочная жывёла, сьвінагадоўля, разьвядзеньне пляменных жывёл). Горад „зьеў“ вёску і прымусіў яе перабудавацца па сваіх патрэбах. Прамысловасьць працуе галоўным чынам на вываз. Англія першая з усіх дзяржаў сьвету зрабілася краінаю прамысловага капіталізму і доўгі час займала монопольнае становішча ў прамысловасьці. З канца XIX ст. яе пачынаюць выціскаць з першага месца ў вытворчасьці масавых продуктаў больш маладыя капіталістычныя краіны, якія ў тэхнічных адносінах лепш абсталявалі сваю вытворчасьць, і Англія, скарыстоўваючы свае перавагі, якія зьмяшчаюцца ў наяўнасьці высокакваліфікаваных рабочых, пераходзіць на больш тонкія вытворчасьці (вышэйшыя гатункі прадзіва і тканіны, тонкае машынабудаўніцтва).

### *Рэльеф, глеба і выкапні.*

Востраў Вялікабрытанія распадаецца на дзьве часткі: Англію з Уэльсам і Шотляндыю. Англія ў сваю чаргу распадаецца на два ляндшафты: нізінны паўднёвы-ўсхад і гарысты захад.

Паўднёва-ўсходняя частка (Лёнданскі басэйн) бедная карыснымі выкапнямі. Толькі на паўвостраве Корнуоле здабываецца каолін, які ідзе на парцалянавую вытворчасьць. Глебы ўраджайныя, клімат даволі спрыяючы для земляробства. Раўнінная паверхня вельмі спрыяла правядзеньню чыгунак і каналаў. Тут самыя доўгія рэкі востраву: Сэвэрн і Тэмза. Палажэньне надта зручнае для зносін з контынэнтам.

Паўночны захад Англіі гарысты і мала прыгодны для земляробства, але горы яго багаты жалезам, а уздоўж гор ёсьць багатыя залежы каменнага вугалю; гэтыя паклады залягаюць на невялікай глыбіні, падзелены на некалькі басэйнаў, у адных мясцох знаходзяцца блізка ад пакладаў жалезных руд, у другіх—разьмешчаны на самым беразе мора, што робіць вельмі зручным вываз вугалю за мяжу (глядзі мал. 1).

Шотляндыя па сваёй паверхні распадаецца на тры часткі, якія ідуць паралельна: на поўначы і поўдні праходзяць суровыя па клімаце плоскія ўзвышшы, пакрытыя верасkам і балотамі і прыгодныя пераважна для разьвядзеньня авечак.

Паміж імі ляжыць Шотляндзкая нізіна, вельмі ўрадлівая і ў той самы час багатая жалезам і каменным вугалем.

Паверхня Ірляндыі зьяўляецца пераважна нізіннай. Карысных выкапняў апроч торфу няма. Клімат мяккі, але вільготны; лета халаднаватае. Краіна больш прыдатная для лугаўніцтва і жывёлагадоўлі, чым для разьвядзеньня збожжа.

*Переважаньне морскіх зносін, іх забесьпячэньне.*

Астраўное разьмяшчэньне — адно з лепшых у сэнсе прыроднай абароны ад нападаў і, пры спрыяючым суседзтве, лепшае для разьвіцьця сусьветных сувязяй. Як гаварылася раней (гл. II, § 5) да вынаходзтва, засяленьня і экономічнага ўздыму Амэрыкі выгоды астраўнога разьмяшчэньня Англіі для зносін былі вельмі абмежаваны.




Мал. 1. Раёны каменнага вугалю і жалезнае руды Англіі.

Яна знаходзілася тады ня ў вузьле сусьветных зносін, як зараз, а на ўскраіне тагочаснага „сьвету". На захад ад Англіі была невядомая вадзяная пустыня. Значна палепшылася становішча Англіі ў сярэднія вякі з разьвіцьцём зносін па Балтыцкаму і Паўночнаму морам і ўстанаўленьнем гандлёвых шляхоў ад Міжземнага мора на поўнач праз Францыю і Германію. Але толькі ў XVI стагодзьдзі, калі пачаліся зносіны праз Атлянтычны акіян з Амэрыкай і іншымі заакіянскімі

краінамі, Англія, апынуўшыся дзякуючы свайму выгоднаму вастраўному палажэньню на пярэднім пасту гэтых зносін, магла скарыстаць усе выгоды свайго становішча. У яе надзвычайна добра зрэзаныя берагі. Мора стварае і невялікія бухты і глыбокія затокі, у якія ўпадаюць паўнаводныя рэкі. Рачная сетка дапоўнена была потым каналамі, якія прарэзваюць востраў ва ўсіх напрамках. Няма ніводнага пункту ў краіне, які быў-бы ад берагу далей за 120 км. Нават унутраныя зносіны падтрымліваюцца галоўным чынам па моры. Бяз правільных і бесьперапынных замежных водных зносін разладзілася-б адразу ўсё экономічнае жыцьцё Англіі. На ўсіх важных сусьветных морскіх шляхох Англія захапіла станцыі для забесьпячэньня сваіх суднаў вугалем, правіянтам, вадою і для рамонту суднаў. Англія захапіла ўваходы і выхады ў Паўночным і Міжземным морах у Эўропе, у Чырвоным моры ў Азіі і гэтым забясьпечыла сабе панаваньне на Атлянтычным і Індыйскім акіянах. Разам з тым яна стварыла вялізарны флёт—і вайсковы і гандлёвы.

Мора зьяўляецца цяпер галоўным шляхам зносін. Дзякуючы панаваньню над морамі Англія робіцца першаю па сваім гандлі дзяржаваю. Гандаль прад'яўляў усё большы і большы попыт на прамысловыя вырабы, і ўжо з XVII ст. Англія для задавальненьня гэтага попыту пачала хутка разьвіваць сваю прамысловасьць. Раней гэта была ручная вытворчасьць, але ў пэрыяд мануфактуры Англія мела перавагу перад іншымі краінамі, дзякуючы таннасьці морскай перавозкі сыравіны. У эпоху пара і жалеза, з пачатку XIX ст., Англія для сваёй прамысловасьці, якая ўжо наладзілася, магла скарыстоўваць свае буйныя багацьці каменным вугалем і жалезам. Вялізарнай перавагай зьяўляецца знаходжаньне таго і іншага разам, а таксама разьмяшчэньне в у г а л ю не ў адным, а ў розных мясцох краіны. Каля іх і разьмясьціліся (усе апроч лёнданскай) прамысловыя вобласьці Англіі.

### *Прамысловасьць.*

П р а м ы с л о в а с ь ц ь і г а н д а л ь адыгрываюць г а л о ў н е й ш у ю р о л ю ў жыцьці ангельскага насельніцтва. У гандлі, прамысловасьці і транспарце занята $^{7}/_{10}$ насельніцтва, у той час як у сельскай гаспадарцы—усяго $^{1}/_{8}$. У сувязі з гандлёва-прамысловым характарам дзяржавы б о л ь ш а я ч а с т к а насельніцтва жыве ў г а р а д о х: у Англіі ўласна (без Шотляндыі і Ірляндыі) у гарадох жыве $^{3}/_{4}$ насельніцтва. Адных вялікіх гарадоў з насельніцтвам звыш 100 тыс. кожны—больш 40.

Да паловы XIX ст. Англія па сваёй прамысловасьці ішла далёка наперадзе іншых дзяржаў, але потым яе пачалі даганяць, а потым пераганяць у некаторых галінах прамысловасьці Злучаныя Штаты і Германія.

З галін прамысловасьці на першым месцы стаіць здабыча ж а л е з а і с т а л і разам з здабычай к а м е н н а г а в у г а л ю і руды,

зсудна і машынабудаўніцтвам. Па здабываньню вугалю Англія ў два разы ўступае Злучаным Штатам (у 1927 г. у Англіі здабыта 260 млн. т., у Злучаных Штатах—546 млн.); па здабываньню жалезнае руды яна ўступае ня толькі Злучаным Штатам, але і Францыі (сваёй руды ў Англіі няма дастаткова, яна ўвозіць яе з Швэцыі і Гішпаніі); па выпрацоўцы жалеза і сталі Англія ўступае Злучаным Штатам і Германіі, але захоўвае першае месца ў галіне суднабудаўніцтва і тонкага машынабудаўніцтва (Англія вывозіць на сотні мільёнаў рублёў лёкомотывы і машыны—сельскагаспадарчыя, швэйныя і тэкстыльныя).

Непасрэдна за цяжкой індустрыяй ідзе тэкстыльная прамысловасьць, якая займае да 5 млн. чалавек. У баваўнянай, суконнай і панчошнай вытворчасьцях Англія захоўвае першае месца.

Цяжкая індустрыя, тэкстыльная прамысловасьць, таксама як і граючая вялікую ролю ў Англіі сэлікатная *) прамысловасьць і піваварэньне, належаць да старадаўных вытворчасьцяй Англіі, якія ў ёй асабліва разьвіты. У больш новых галінах прамысловасьці, як хэмічная і электрычная яна значна ўступае Германіі.

## *Сельская гаспадарка.*

Перавага гарадоў і прамысловасьці адбілася і на знадворным выглядзе краіны. Ня кажучы ўжо аб вялікай колькасьці буйных гарадоў, асабліва на захадзе, дзе яны нярэдка зьліваюцца адзін з адным,— аблічча часткі краіны, якая ня занята гарадамі, таксама сваясаблівае. Англія амаль зусім зьнішчыла свае лясы. Лясы засталіся толькі ў выглядзе паркаў пры гарадох і замках лёндлёрдаў. Апрача паркаў яны раскіданы невялікімі групамі сярод выганаў і лугоў, пераважна на паўднёвым усходзе Англіі. Палей зусім мала (яны займаюць $^1/_8$ паверхні), але апрацоўваюцца яны вельмі добра, урадлівасьць у $1^1/_2$ разы вышэй, чым у Германіі і Францыі, у $2^1/_2$—3 разы вышэй, чым у СССР. Значна большая прастора занята лугамі і выганамі (яны ўсюды агароджаны) са статкамі быдла, якія на іх пасуцца. У горных мясцох (захад і поўнач Англіі і Шотляндыі) ёсьць вялікія пустыры, пакрытыя вераскам і хмызьнякамі. Уласьнікі (лёндлёрды) захоўваюць іх пераважна для паляваньня; больш $^1/_6$ паверхні ў гаспадарчых адносінах нявытворчая.

„Усё большая частка зямлі ў Англіі адбіраецца ад сельска-гаспадарчай вытворчасьці і ідзе пад спорт, пад забаву для багатых“ (Ленін).

## *Зялёная Англія.*

Палі згрупаваліся пераважна на паўднёвым усходзе, дзе цяпла яшчэ зусім дастаткова для высьпяваньня галоўнага збожжа гэтых месц—пшаніцы. Тут трапляюцца сапраўдныя вёскі. Але і тут

*) Гэта ёсьць фарфаравая, фаянсавая, шкляная і іншыя вытворчасьці з пяску і гліны.

пераважае гарадзкое насельніцтва. Тут на р. Тэмзе знаходзіцца і буйнейшы горад краіны, першы порт Англіі—Лёндан (з прадмесьцямі—$7^1/_4$ млн. насельніцтва). Апроч яго яшчэ 4 гарады паўднёва-усходняй Англіі (Брыстоль, Гул, Лейстэр і Портсмут) маюць звыш 200 тыс. кожны (як і Лёндан, усё гэта партовыя гарады, якія вырасьлі, дзякуючы гандлю з прамысловымі гарадамі Эўропы і Амэрыкі). Гэтую гандлёвую і зямляробчую частку Англіі за сакавітую зеляніну яе лугоў і паркаў завуць Зялёнай Англіяй.

Буйная прамысловасьць разьвілася толькі ў Лёндане і ў прыморскіх гарадох. Лёндан—тыповы старапрамысловы раён. Дзякуючы выгодам свайго палажэньня, Лёндан стаў буйнейшым разьмеркаваўчым цэнтрам. Вялізарнае згуртаваньне насельніцтва і сталічны характар гораду накіравалі яго прамысловасьць ў бок вырабу прадмету роскашу, рэчаў шырокага спажываньня, мастацкіх і друкаваных вырабаў.

### *Чорная Англія*).*

Прамысловасьць згрупавалася пераважна ў Заходняй Англіі, дзе знаходзяцца галоўныя паклады каменнага вугалю і жалеза. Гэта так званая Чорная Англія, якая атрымала такую назву за перавагу ў краявідзе чорнага колеру.

Чорнымі кучамі вугалю і адвалаў укрыта зямля, неба чорнае ад дыму, які бязупынна выкідваецца бясконцым лесом чорных камінаў, непранікальна чорны туманы, асабліва ў халодную пору году, чорны сьцены дамоў. Бязупыннае лязгатаньне і шум стаяць у паветры, ліхаманкава кіпіць работа. Насельніцтва надзвычайна густое; ёсьць акругі, дзе насельніцтва больш 400, месцамі больш 800 чал. на квадр. кілёмэтар. Вялікія гарады тут ня толькі на беразе мора (найбольшы Ліверпуль, другі пасьля Лёндану порт Англіі, разам са сваёю прыстаньню звыш 1 млн. насельніцтва), але і ўнутры краіны, дзе каля каменна-вугальных басэйнаў разгарнулася прамысловасьць, якая дае Англіі ня менш багацьцяў, як гандаль яе партовых гарадоў. Асабліва вылучаецца па баваўнянай прамысловасьці Манчэстэр (каля 1 млн. насельніцтва), акружаны цэлым колам вялікіх гарадоў, якія непасрэдна зьліваюцца адзін з адным; па шарсьцяной прамысловасьці—Лідс (500.000), па жалезавыробчай і сталяліцейнай—Шэфільд (500 т.) і Бермінгем (з прыгарадамі звыш 1 млн.).

Палёў у Чорнай Англіі зусім мала, лета занадта халоднае, пшаніца ўступае месца аўсу.

### *Шотляндыя.*

Авёс пераважае і ў паўночнай частцы вострава, дзе знаходзіцца Шотляндыя, якая ўваходзіць у склад Англіі і якая раней, у сярэднія вякі, была незалежнаю дзяржаваю. Гэта—горная краіна з суро-

*) Артыкул пры перакладзе скарочан.

вым кліматам, годная пераважна для выпаснай жывёлагадоўлі. Выключэньнем зьяўляецца сярэдняя нізіна, густа заселеная дзякуючы таму, што праз яе прайшлі галоўныя гандлёвыя шляхі і разьвілася буйная мэталюргічная прамысловасьць (каля каменнавугальнага басэйну нізіны). Тут буйнейшы горад Шотляндыі—Глэзга. Ён мае звыш 1.100 тыс. жыхароў, вызначаецца асабліва па суднабудаўніцтву і гандлю.

### Ірляндыя.

На захад ад Англіі ляжыць вялікі востраў Ірляндыя. Доўга Англія гаспадарыла ў Ірляндыі, як у заваёванай краіне, эксплёатацыя ангельцаў разбурыла краіну і не дала ёй магчымасьці скарыстаць сваячасова ўсе выгоды свайго палажэньня. Зямлі Ірляндыі былі канфіскаваны і даны невялікай кучцы ангельцаў. Шмат ірляндцаў эмігравала, галоўным чынам, у Злучаныя Штаты. Цяпер Ірляндыя дамаглася самакіраваньня: у студзені 1922 г. Ірляндыя (за выключэньнем паўночна-ўсходняй часткі) абвешчана „свабоднай дзяржавай“, з уласным парлямантам і міністэрствам. Але на чале стаіць намесьнік, прызначаемы з Англіі, як прадстаўнік караля. Ірляндыя—бедная сельскагаспадарчая краіна. Клімат морскі, занадта вільготны; зімы мяккія, лугі застаюцца зялёнымі на працягу ўсяго году, але лета занадта халоднае. Найбольш прыдатнымі культурамі зьяўляюцца: авёс, бульба (галоўная страва ірляндцаў), сеянныя травы і лён. Пад полем—$^1/_4$ краіны, ½—пад лугамі. Вельмі многа нявытворчай зямлі (балоты, тарфянікі).

### *Завоз харчовых продуктаў.*

Уласнага хлеба для харчаваньня вельмі густога насельніцтва Англіі, зразумела, не хапае (сваім хлебам яна можа прахарчаваць толькі $^1/_4$ свайго насельніцтва). Асабліва многа ўвозіцца пшаніцы (са Злучаных Штатаў, Індыі, Канады, Аргентыны, Аўстраліі, СССР і Румыніі), многа таксама прывозяць рысу (з Бірмы) і кукурузы (з Аргентыны).

У значна большай ступені Англія харчуе сваё насельніцтва мясам уласнай жывёлы: ім пакрываецца палова патрэбы. Лугі служаць пераважна для мясной жывёлы, якая вызначаецца высокімі мяснымі якасьцямі. Другая палова мяса пастаўляецца пераважна са Злучаных Штатаў і Аргентыны, часткова з Канады, Аўстраліі і Новай Зэляндыі. З трох апошніх краін ідуць таксама ў вялікай колькасьці масла і сыр; яшчэ больш масла ідзе з Даніі і СССР.

### *Зямельныя адносіны.*

Земляробства ў Англіі бясспрэчна было-б разьвіта значна больш, калі былі-б іншыя зямельныя адносіны. Амаль уся зямля (нават зямля пад гарадзкімі пабудовамі) зьяўляецца ўласнасьцю па-

мешчыкаў (лёндлёрдаў). Памешчыкі сваімі сродкамі апрацоўваюць толькі 1/10 сваіх маёнткаў, рэшту здаюць у арэнду буйным фэрмэрам, якія апрацоўваюць зямлю пры дапамозе батрацкай працы. Становішча батракоў вельмі дрэннае, яно значна горшае, чым становішча фабрычных рабочых, таму пры самай малой магчымасьці батракі перасяляюцца з сёл у гарады. Арэндная плата вельмі высокая, шмат якія фэрмэры галеюць і кідаюць арэнду. Палі ўсё больш і больш пусьцеюць.

### *Супроцьлегласьць багацьця і беднасьці.*

Тая самая супроцьлегласьць, якая ёсьць паміж лёндлёрдамі—уласьнікамі вялізарных абшараў зямлі, і безьзямельнымі батракамі, існуе таксама паміж вялізарнымі багацьцямі фабрыкантаў і іншых капіталістаў і жудаснай беднасьцю рабочае клясы. Побач з раскошна абсталяванымі палацамі заходняга Лёндану прытулілася ў жудасных закутках бедната ўсходняга Лёндану.

### *Рабочы рух.*

Профэсыйны рух раней, чым ў якой-бы то ні было іншай краіне, узьнік у Англіі. У рабочыя організацыі і таварыствы ўзаемадапамогі ўвайшло каля 15 мільёнаў чалавек; капітал рабочых саюзаў складае каля 40 млн. руб., таварыстваў ўзаемадапамогі—звыш 400 млн. руб. Але дагэтуль профэсыйны рух забясьпечыў у Англіі бязьбеднае існаваньне толькі верхавіне рабочае клясы.

### *Беспрацоўе.*

Шырокія-ж масы ангельскіх рабочых знаходзяцца ў цяжкім становішчы, асабліва пакутуючы ад беспрацоўя, якое рэзка ўзрастае ў пэрыоды крызісаў, як гэта мае месца і ў сучасны момант. У пачатку 1930 г. колькасьць беспрацоўных дайшла да паўтара мільёнаў, да пачатка лета—да 1.770 тыс., а да восені—да 2 мільёнаў. Апроч поўных беспрацоўных палова астатніх рабочых, занятых у большай частцы галін прамысловасьці, зьяўляюцца часткова беспрацоўнымі. Яны недаатрымліваюць прыблізна 1/4 заробнае платы, якая і раней была ня звыш пражыцьцёвага мінімуму.

Найбольшую колькасьць прыхільнікаў сярод ангельскіх рабочых мае пакуль што „незалежная рабочая партыя“, партыя згодніцкая. Пасьля сусьветнай вайны вочы рабочае клясы Англіі пачалі ўсё больш расчыняцца на поўнае бясьсільле згодніцкай політыкі ў справе сапраўднага палепшаньня становішча рабочае клясы. Клясавыя супярэчнасьці ў пасьляваенных абставінах рэзка абвастрыліся. Найбольш буйныя і ўпартыя стачкі адбываліся ў горнай прамысловасьці (у 1920 і 1926 гг.). Комуністычная партыя, якая склалася ў барацьбе са згоднікамі, хоць яшчэ не вялікая, але карыстаецца вялікім політычным уплывам.

*Замежны гандаль.*

Апрача прамысловасьці ангельскі капітал нажывае вялізарныя грошы на гандлі. Да вайны (у 1913 г.) зварот замежнага гандлю складаў 14 млрд. руб. (завоз перавышаў вываз на $1^1/_3$ млрд. руб.). За апошнія гады зварот звыш 18 млрд. (павышэньне прывозу амаль на 4 млрд. руб.). Павялічэньне звароту толькі зданьнёвае, у сапраўднасьці ён зьменшыўся, бо цэны на ўсе тавары павялічыліся супроць даваенных амаль у два разы.

Вываз Англіі складаецца з фабрыкатаў, паўфабрыкатаў каменнага вугалю і рыбы. Прывоз складаецца з харчовых продуктаў, сыравіны (бавоўна, шэрсьць, каляровае дрэва, лес, каўчук, нафта, руды) і часткова фабрыкатаў (танныя нямецкія тавары: жалеза і сталь, карункі і дываны, фарбы і лякарствы, панчохі з Германіі, Амэрыкі і Японіі). Прывоз неабходнай сыравіны Англія імкнецца праводзіць, галоўным чынам, з сваіх колёній (ад амэрыканскае бавоўны Англія ўсё больш і больш пераходзіць да індыйскае і эгіпецкае, прывозіць каўчук з сваіх колёній, захоплівае нафтаносныя землі. Але для вывазу Англія ўжо ня можа абмежавацца толькі сваімі колёніямі, тым больш, што за апошні час у яе колёніях, асабліва ў Індыі, Канадзе і Аўстраліі, пачынае разьвівацца свая індустрыя, а ў Канадзе, апроч таго, Англія моцна адчувае конкурэнцыю Злучаных Штатаў. Конкурэнцыя як гэтай, так і іншых прамысловых дзяржаў, надта высокія цэны на тавары, а таксама неналаджанасьць адносін з СССР цяжка адбіваюцца на вывазе, а таму і на прамысловасьці Англіі, якая заўсёды пераходзіць ад некаторага палепшаньня ў прыгнечанае становішча.

*Мытная палітыка.*

Консэрватыўная партыя, якая выяўляе інтарэсы буйных аграрыяў, некаторай часткі прамыслоўцаў і зацікаўленых у калёніях пластоў фінансавага капіталу, ужо даўно прызывае да звароту к сыстэме протэкцыянізму. Ангельскія протэкцыяністы думаюць, што калі выгарадзіць Англію разам з яе калёніямі высокімі мытамі ад астатняга сьвету, дык яны змогуць захаваць за сабою ўвесь рынак Брытанскай імпэрыі. Да гэтага часу гэтыя мары разьбіваліся ад супроцьдзейнічаньня рабочых масаў, якія баяцца павышэньня цэн на харчовыя продукты. Да гэтага далучаецца значная частка буржуазіі (прадстаўнікі тэкстыльнай прамысловасьці і судабудаўніцтва), якая апасваецца павышэньня заработнае платы. Апрача таго і калёніі неахвотна ідуць на вудачку консэрватараў. „Рабочая“ партыя, да апошняга часу ідучая ў пытаньні мытнае палітыкі разам з лібераламі (прыхільнікамі вольнага гандлю), зараз схіляецца на бок консэрватараў.

*Таваразварот Англіі з СССР.*

Да вайны Англія стаяла на другім месцы ў замежным таваразвароце Расіі, аддаючы першае месца Германіі. Пасьля вайны, дзякуючы

гандлёвай згодзе 1921 г., Англія ў таваразвароце з СССР высунулася на першае месца; потым яна ўступіла першае месца Германіі. Разрыў з Саюзам (1927 г.) пагоршыў наладжаны таваразварот. Другое прызнаньне Саюзу (1929 г.) спрыяла палепшаньню таварапамену між Англіяй і СССР.

Таварапамен Англіі з СССР зьяўляецца рэзка дэфіцытным для Англіі (у 1928-29 г. прывоз з Саюзу пěравысіў вываз у яго *больш*, чым у 4 разы).

Галоўнымі таварамі, якія вывозяцца з СССР у Англію, зьяўляюцца сыравіна, асабліва лесаматар'ялы, нафтапродукты, пушніна, а потым харчовыя продукты, пераважна такія, якія хутка псуюцца, жывёліннага паходжаньня (каровінае масла, бэкон, бітая птушка, яйцы), але таксама консэрвы і расьлінныя маслы; з вырабаў ідуць з СССР дываны.

У вывазе з Англіі ў СССР першае месца належыць розным машынам і апаратам, потым ідуць мэталі і мэталёвыя вырабы, шэрсьць і, у значна меншай колькасьці, выробленыя скуры і чай.

### *Вываз капіталаў.*

Ангельскі капітал „працуе“ ня толькі ў сваёй, але і ў чужых краінах. Англія трымае у залежнасьці ад сябе рад больш бедных дзяржаў (напрыклад, Португалію, некаторыя з паўднёва-амэрыканскіх рэспублік), даючы ім крэдыт. Занят ангельскі капітал за межамі і ў прадпрыемствах (чыгункі, газ, электрычнасьць, горная справа, плянтацыі, банкі і г. д.).

Да вайны, як мы ведаем, Англія займала па вывазе капіталу першае месца ў сьвеце. Сума капіталаў, „працуючы“ за межамі, дасягала вялізарнае лічбы ў 40 мільярдаў руб. Зараз роля Англіі, як экспарцёра капіталу, звузілася. Рэкорд вывазу капіталу быў пастаўлен Англіяй у 1913 г. (1.900 млн. руб.). За апошнія часы ён складае 1 мільярд руб. у год (у 1928 г.—1.400 млн. руб.). Адліў капітала павінен быў скараціцца ўжо з тае прычыны, што ў сучасны момант у самай Англіі ёсьць вялікая патрэба ў капітале для рацыяналізацыі прамысловасьці. Ангельская прамысловасьць за апошнюю 5-цігодку ўвабрала ў двое больш сродкаў, чым за 5-цігодзьдзе, перад вайной (680 млн. руб. замест 330 млн. руб.).

Вываз капіталаў з Англіі накіроўваецца цяпер пераважна ў яе колёніі і, апроч таго, у такія краіны, як Лятынская Амэрыка (Мэксыка, Цэнтральная і Паўднёвая Амэрыка), Грэцыя, Португалія, Норвэгія, Эстонія, Латвія. Пры гэтым вельмі скараціўся вываз капіталу ў Канаду і Лятынскую Амэрыку, дзе з ангельскім капіталам змагаецца амэрыканскі, але вырас завоз у Індыю (450 млн. руб. у 1927 г.) і Афрыку (340 млн. руб.).

Значэньне Англіі ў міжнароднай політыцы ў вялікай ступені *абапіраецца на вываз капіталу*. Інтарэсы экспарцёраў капіталу маюць вельмі вялікую ўдзельную вагу і ва ўнутранай політыцы Англіі.

Вялікая колькасьць назьбіраных здаўна капіталаў знаходзіць сваё выяўленьне і ў профэсыйным складзе насельніцтва. Процант раньце, г. зн. асоб, якія жывуць на проценты з капіталу, ні ў аднэй краіне не дасягае такой вышыні, як у Англіі. Тое самае трэба сказаць і пра катэгорыю асабовых паслуг (11,9 проц. ад агульнага ліку самадзейных у 1921 г.).

Згрупаваньне капіталаў у адных руках вялізарнае. Паводле статыстыкі памаемаснага падатку за 1920-21 г. у руках 1/8 проц. усіх уласьнікаў згрупавалася 38 проц. усёй брытанскай уласнасьці; менш 2 проц. уладала 64 проц. усяго нацыянальнага багацьця.

*Брытанская імпэрыя.*

Па сваёй тэрыторыі і насельніцтву Англія — толькі невялікая частачка вялізарнай Брытанскай імпэрыі (на долю ўласна Англіі прыпадае менш 1 проц. тэрыторыі і 10 проц. насельніцтва). Але ў гэтай сусьветнай імпэрыі, якая раскінулася па ўсіх матэрыках і морах, Англіі належыць камандуючая роля. Эксплёатацыя колёній стварыла аснову сусьветнага пяршынства, якое Англія захоўвала за сабой амаль да самай сусьветнай вайны.

*Захоп Англіяй колёній пачаўся* з канца XVI ст. і імкнуўся пераважна да гандлёвых мэт. Ангельскія гандляры рабавалі Вэст-індскія выспы і берагі Афрыкі (дзе здабываліся нявольнікі), узьбярэжжы Ост-Індыі. Нажыты рабаваньнем капітал даў сродкі для прамысловай рэволюцыі XVIII ст. У далейшым колёніальныя захопы Англіі пераносяцца з выспаў і ўзьбярэжжаў на матэрыкі (Індыя, Канада, Аўстралія, Паўднёвая Афрыка, паступовае ўкараненьне ў Кітаі). Захопленыя землі робяцца дастаўшчыкамі фабрычнае і харчовае сыравіны і спажыўцамі фабрычных вырабаў Англіі.

Сваю імпэрыю Англія збудавала ў процэсе шматвяковай барацьбы з сваімі супярэчнікамі па захопе і рабаваньню колёній. У XVI—XVIII ст. Англія адхіліла ад панаваньня на моры спачатку П о р т у г а л і ю і Г і ш п а н і ю, а потым Г о л я н д ы ю і Ф р а н ц ы ю. Яна ўдзельнічала ва ўсіх эўрапэйскіх войнах і выходзіла з кожнай з павялічэньнем сваіх колёніяльных уладаньняў. Скарыстаўшы сусьветную вайну, Англія раздавіла Г е р м а н і ю, конкурэнцыя якой пачала яе вельмі непакоіць. З Германіяй яна сутыкалася і на моры і ў барацьбе за падзел „чорнага матэрыка“—Афрыкі. Пасьля вайны амаль усе колёніі Германіі перайшлі да Англіі. Ужо да вайны Англія набыла вялізарныя землі за акіянам; у склад Брытанскай імпэрыі ўваходзілі: цэлы м а т э р ы к А ў с т р а л і я і выспы Новая Зэляндыя, 2/5 П а ў н о ч н а й А м э р ы к і (Канада), багатыя ўладаньні ў Азіі, дзе Англіі належыць І н д ы я. Вайна папоўніла афрыканскія ўладаньні, аб'яднаўшы іх у адно цэлае. У А ф р ы ц ы Англіі належыць поўдзень матэрыка (Паўднёва-афрыканскі саюз) і палоса, якая ідзе з поўдня па ўсходзе Афрыкі на поўнач да Эгіпту, а таксама на Гвінэйскім беразе Афрыкі Нігерыя і іншыя землі—усяго 1/5 м а т э р ы к а.

*У колёніях, якія ляжаць у мерным поясе,* пераважаюць у складзе насельніцтва эўрапэйцы ці іх патомкі (Канада, Аўстралія, Новая Зэляндыя, Паўднёва-афрыканскі саюз). Колёніі гэтыя ствараюць краіны з самакіраваньнем, так званыя доміньёны. Да доміньёнаў належыць і „свабодная" дзяржава Ірляндыя. Доміньёны — капіталістычныя сельска-гаспадарчыя краіны; у іх хутка разьвіваецца гандлёвае земляробства, і доміньёны маюць вялікія лішкі галоўнага свайго збожжа—пшаніцы, асабліва Канада. Яна высунулася за апошні час на першае месца па забесьпячэньні пшаніцаю сусьветнага рынку наогул і Англіі асабліва. Ня меншае, а ў Аўстраліі і Паўднёва-афрыканскім саюзе большае, значэньне мае і жывёлагадоўля. Гэтыя краіны вывозяць вялікую колькасьць шэрсьці (асабліва Аўстралія і Новая Зэляндыя), мяса (ахаладжанага і замарожанага), мясных вырабаў, масла, сыра, яек. Канада і Аўстралія вывозяць шмат лесу; Аўстралія і асабліва Паўднёвая Афрыка — золата. Аўстралія і Канада паступова робяцца прамыслова-аграрнымі краінамі. Прыкметна ў іх разьвіваецца харчовая, тэкстыльная, мэталюргічная і дрэваапрацоўчая прамысловасьць, а ў Канадзе і папяровая. Галоўнае экономічнае значэньне доміньёнаў для Англіі—гэта тое, што яны зьяўляюцца важнейшымі пакупнікамі ангельскіх фабрычных вырабаў і дастаўшчыкамі продуктаў харчаваньня і фабрычнае сыравіны.

У час сусьветнай вайны доміньёны старанна дапамагалі Англіі і грашыма і войскам.

Ня гледзячы на гэта, ва ўсіх доміньёнах наглядаецца імкненьне да вызваленьня ад апекі Англіі. Імкненьне гэта ў пасьляваенныя гады, у сувязі з разьвіцьцём у доміньёнах уласнай прамысловасьці, значна ўзмацнілася, так што Англіі даводзіцца вельмі манэўраваць, каб унікнуць распаду сваёй імпэрыі.

Колёніі, якія знаходзяцца ў трапічным поясе, асабліва Індыя з паўвостравам Малакка і прылягаючымі вастравамі і афрыканскія ўладаньні, даюць вялікую колькасьць харчовых продуктаў (пшаніца, рыс, масланасеньне, цукар, чай) і фабрычную сыравіну (бавоўна, каўчук, волава, каляровае дрэва). Індыі быццам дадзена права самакіраваньня, але зроблена гэта толькі для палягчэньня выдаткаў па кіраваньню. З гэтай мэтай захаваны ў шмат якіх мясцовасьцях тубыльныя гаспадары, але яны дзейнічаюць паводле ўказаньняў прыстаўленых да іх ангельскіх чыноўнікаў. Тая самая сыстэма праводзіцца і ў Эгіпце. Ён даўно ўжо быў заняты ангельскім войскам, а ў час сусьветнай вайны канчаткова далучаны да Англіі. У той самы час ён лічыцца самастойным каралеўствам, але кароль Эгіпту—стаўленьнік Англіі. Эгіпт важны для Англіі і сваімі багацьцямі (бавоўна, пшаніца), а асабліва сваім палажэньнем ля Суэцкага каналу. Страта Эгіпту была-б роўнай страце морскага злучэньня з Індыяй. Таму, пакуль моцны ангельскі імпэрыялізм, ангельцы, ня гледзячы на ўсе свае абяцаньні, ня вывядуць сваіх войскаў з Эгіпту.

Ангельцы вельмі ўмела праводзяць абкружэньне сваімі ўладаньнямі Індыйскага акіяну. Амаль усе афрыканскія берагі, якія падыходзяць да акіяну, належаць цяпер Англіі. Тое самае і ў Азіі. Англія падпарадкавала сабе берагі Арабіі, стварыўшы там быццам бы вольнае каралеўства Геджас, якое знаходзіцца пад яе пратэктаратам. Усё больш падпарадкуе сабе ангельскі капітал Пэрсію. Па-за яго ўзьдзейнічаньнем не застаецца і прымежны да Індыі Аўганістан. Ангельцы ўсяляк імкнуцца пашырыць і на яго свой уплыў і змагаюцца з магчымасьцю ўплыву СССР. Да Аўганістану яны прасунулі нядаўна праз Кабульскі (Хайбэрскі) перавал Хайбэрскую чыгунку. Разам з іншымі імпэрыялістамі яны імкнуцца ператварыць у колёнію і Кітай. Ангельцы заўсёды падкрэсьліваюць сваю „культурную“ працу ў Індыі і Эгіпце: адваёва ў пустыні земляў пры дапамозе правядзеньня штучнага абваднeньня, увядзеньне новых тэхнічных культур, правядзеньне чыгунак, арганізацыя школ, выданьне газэт і г. д. Але тубыльнае насельніцтва правільна расцэньвае іх політыку, і вынікі атрымліваюцца адваротныя тым, якіх чакалі ангельцы.

У Індыі сваім процідзеяньнем яе індустрыяльнаму разьвіцьцю ангельскі імпэрыялізм узбудзіў супроць сябе і нацыянальную буржуазію. На кароткі час буржуазія гэта стала на чале барацьбы за вызваленьне Індыі ад імпэрыялістычнага прыгнечаньня, але потым хутка пайшла на ганебную згоду з імпэрыялістамі, напалохаўшыся рэволюцыйнага руху пролетарыяту і сялянства, які там распачаўся.

Становішча рабочых, асабліва ў джутавай прамысловасьці, якая знаходзіцца ў руках ангельскага капіталу, проста жудаснае. Вельмі дрэннае і становішча індусаў—служачых, асабліва чыгуначнікаў. У 1929 г. адбылася ўсеагульная забастоўка ў джутавай прамысловасьці, якую падтрымалі стачкай салідарнасьці чыгуначныя рабочыя і рабочыя нафтавых промыслаў у Бірме. Для барацьбы з забастаўшымі індыйская буржуазія аб'ядналася з імпэрыялістамі.

У рэволюцыйны рух уцягнуты і сяляне. Становішча іхняе яшчэ горшае, чым фабрычных рабочых. Яны пакутуюць ад вялікага безьзямельля, ад нязьлічоных падаткаў і пабораў, якія ім не пад сілу і з-за якіх яны трапляюць у нявольніцкую залежнасьць ад ростаўшчыкаў. Пры ангельскім гаспадараньні падаткавы ціск яшчэ ўзмацніўся, а перавод падаткаў у грашовую форму павялічыў зьняволеньне сялянства ростаўшчыкамі.

За апошнія гады Індыя перажывае і прамысловы, і гандлёвы, і сельскагаспадарчы крызісы. Продукцыя бавоўны за два апошнія гады зьменшылася на 20 проц. Моцна таксама скарацілася продукцыя джута, рысу, пшаніцы. А ў той самы час на сусьветным рынку адбылася рэзкае зьніжэньне цэн на сельска-гаспадарчую сыравіну. Жабрацкія прыбыткі сялянства падпалі далейшаму скарачэньню. Уплата падаткаў зрабілася зусім не пад сілу, а няўплата іх вядзе да высяленьня з апрацоўваемага вучастку і да продажу з таргоў усяе маемасьці сялянства. Сялянскія хваляваньні ня спыняюцца ва ўсіх

частках Індыі з 1928 г. Асабліва вострыя формы рэволюцыйная барацьба ў Індыі набыла з вясны 1930 г. Справа не абмяжоўваецца байкотам ангельскіх тавараў і адмаўленьнем ад уплаты падаткаў, а пераходзіць у шмат якіх частках Індыі ва ўзброенае паўстаньне.

## ФРАНЦЫЯ.

**Эўрапэйскія ўладаньні—565 тыс. км², насельніцтва каля 40 млн., колёній — 12 млн. км², насельніцтва 59 млн. (разам з колёніямі 1/12 сухазем'я і 1/18 насельніцтва зямное кулі).**

### *Палажэньне.*

Францыя ляжыць значна больш на поўдзень, чым Англія. Паўднёвая мяжа Англіі—50-я паралель—зьяўляецца паўночнай мяжой Францыі. На поўдні Францыя заходзіць за 43° (шырыня паўночнага Закаўказьзя). За выключэньнем самае поўначы Францыі ўсюды ў краіне можа разводзіцца вінаград, а на поўдні растуць нават аліўкавыя дрэвы. Паводле клімату і глебы Францыя знаходзіцца ў значна лепшых умовах, чым Англія. Палажэньне Францыі ня ў такой ступені выгоднае, як у Англіі, бо Францыя не вастраўная, а матэрыковая дзяржава, але ўсё-такі палажэньне яе вельмі выгоднае. Францыя амаль паўвастраўная дзяржава, яна абмываецца двума морамі — Атлянтычным акіянам і яго часткамі (Ляманш, Біскайская затока) і Міжземным морам. Склад берагоў значна ўступае складу берагоў Англіі—у Францыі мала добрых натуральных гаваняў (важнейшыя гавані—Гаўр, Марсэль, Бордо).

Матэрыковае палажэньне спрыяла ўцягненьню Францыі амаль ва ўсе эўрапэйскія войны, і разьвіцьцё яе адбывалася ў бок стварэньня ваеннай магутнасьці і цэнтралізаванае дзяржавы. Нават зрабіўшыся рэспублікай, Францыя засталася строга цэнтралізаванай дзяржавай; паасобныя часткі краіны ня маюць нават і ценю самакіраваньня.

### *Тып гаспадаркі.*

Матэрыковыя інтарэсы і багацьці глебы Францыі замарудзілі разьвіцьцё яе морскай магутнасьці і зрабілі Францыю пераважна сухаземнаю аграрнаю дзяржаваю. *Мануфактура* (асабліва па вырабу дываноў і дывановых шпалераў, т. зв., гобэленаў, тонкіх сукон, шаўковых вырабаў, карункаў і люстраў) дасягнула бліскучага разьвіцьця ўжо ў канцы XVII ст., але фабрычная прамысловасьць у XIX ст. разьвівалася значна павольней, чым у Англіі і Германіі. Перашкаджала таму беднасьць Францыі насельніцтвам, вялікі інтарэс насельніцтва да зямлі, якая добра харчавала яго, і беднасьць краіны *каменным вугалем.*

У сучасны момант Францыя зьяўляецца адн礼часова і аграрнай і прамысловай дзяржавай з некаторай перавагаю сельскае гаспадаркі. З агульнага даходу краіны на долю сельскае гаспадаркі прыпадае звыш $^3/_5$. Пад палямі занята 55 проц. зямлі ды звыш таго 4 проц.—пад вінаграднікамі, а разам каля $^3/_5$ усёй плошчы; пад сенажацямі—10 проц. і пад лясамі—18 проц. Угодзьдзі такім чынам разьмяркованы зусім інакш, чым у Англіі. Інакш разьмяркована і зямельная ўласнасьць. Рэволюцыя яшчэ ў канцы XVIII ст. пакончыла з буйнымі маёнткамі, і з тае пары ў Францыі пераважаюць дробныя і сярэднія ўласьнікі, лік іх дасягае 8 млн. чалавек.

*Рэльеф.*

Паверхня Францыі адзначаецца вялікай рознастайнасьцю. Ёсьць вельмі высокія горы, але з горных масываў толькі адзін, так званы




Мал. 2. Рэльеф Францыі.

Цэнтральны масыў, знаходзіцца ўнутры Францыі, усе астатнія горы, у тым ліку Альпы і Пірынейскія горы, разьмешчаны па краёх. Больш паловы Францыі занята нізінамі; адна з іх завецца Парыскім басэйнам, займае ўсю поўнач Францыі; дзьве іншых

(па рэках Роне і Гароне) знаходзяцца на поўдні і аддзяляюцца адна ад аднэй і ад Парыскага басэйну Цэнтральным масывам (гл. мал. 2). Горы, якія знаходзяцца на акраінах, надаюць Францыі закончаныя абрысы. Перавага раўнін ва ўнутраных вобласьцях вельмі палягчыла правядзеньне каналаў і чыгунак.

З карысных выкапняў Францыя асабліва багата на жалезную руду, якая знаходзіцца на ўскрайкавых узгорках поўначы і паўночнага ўсходу і па ўсходняму краю Цэнтральнага масыву. Каменнага вугалю мала. У Эльзасе, які пасьля вайны перайшоў ад Германіі да Францыі, ёсьць багатыя паклады калійных соляў. Альпы і Пірынэі, а таксама Цэнтральны масыў багаты на белы вугаль (стромкія спады рэк і ручаеў скарыстаны для электрыфікацыі).

Большая частка Францыі пакрыта ўрадлівай глебай. Найвялікшыя прасторы неўрадлівых ад прыроды земляў, якія знаходзяцца ў трыкутніку паміж Гаронай і Біскайскай затокай і носяць назву лянд, у сучасны момант засаджаны сасновым лесам, а на поўначы—вінаграднікамі.

### *Клімат і расьліннасьць.*

Клімат Францыі мерна-цёплы, пры чым захад краіны мае морскі мерны клімат, усход—матэрыковы, поўдзень—міжземнаморскі. Захад найбольш прыдатны для лугаўніцтва, разьвядзеньня цукровых буракоў і лёну, а таксама для малочнае і мясное жывёлагадоўлі. Далей, у глыбіню краіны, дзе клімат пераходзіць у матэрыковы, летняя гарачыня дае магчымасьць разводзіць пшаніцу, кукурузу і вінаград. Поўдзень зьяўляецца галоўнай вобласьцю садоўніцтва, гародніцтва і вінаградніцтва. У Францыі шмат аліўкавых дрэў. Ва ўсходняй прыморскай паласе, каля Ніцы, у вялікіх памерах разьвіта разьвядзеньне кветак.

У горах, асабліва ў больш вільготных Альпах, ніжэй мяжы адвечнага сьнегу, ідуць альпійскія лугі, ніжэй лугоў — лясы, у падножжа—тая самая расьліннасьць, што і ў прылягаючых раўнінах.

Рэкі паўночнай Францыі паўнаводныя і служаць важнымі шляхамі зносін, асабліва р. Сена з сваімі прытокамі. Горшыя суднаходныя ўмовы р. Люары. Мала здатныя для суднаходзтва таксама рэкі поўдню, нават найбольш буйныя, з іх—Гарона і Рона. Яны ўздуваюцца ў часе раставаньня сьнегу ў горах, а потым перасыхаюць. Малыя паўднёвыя рэкі годныя толькі для штучнага абвадненьня і скарыстаньня іх у якасьці белага вугалю.

### *Сельская гаспадарка.*

Галоўны хлеб—пшаніца. Па зборы яго Францыя ўступае толькі Злучаным Штатам, Канадзе і СССР. У добрыя гады патрэба краіны ў пшаніцы амаль поўнасьцю пакрываецца ўласным зборам. На поўдні Францыі ў вялікай колькасьці разводзіцца кукуруза. Шмат яшчэ вы-

рошчваецца бульбы, вытворчасьць якое перавышае патрэбу. Важную ролю адыгрывае **вінаград**; віна вытвараецца амаль на 1 млрд. руб., але большая частка яго спажываецца самімі французамі (віно зрабілася абавязковай часткай абеду нават у малазабясьпечаных), даволі многа вывозіцца і за мяжу. Шмат вывозіцца за мяжу **фруктаў, гародніны і кветак**; садоўніцтва і гародніцтва займаюць важнае месца ў французскай гаспадарцы. З тэхнічных расьлін важнейшыя— цукровыя буракі; **цукар** вытвараецца з лішкам.

У галіне жывёлагадоўлі Францыя асабліва выдзяляецца **па буйной рагатай жывёле**. У сувязі з гэтым Францыя дасягнула вялікай дасканаласьці ў вырабе **сыроў**. На поўдні Францыі значных памераў дасягае шаўкоўніцтва.

### *Індустрыя і гандаль.*

Пасьля вайны становішча з вугалем крыху палепшылася: Францыя *адняла ў Германіі Саарскі басэйн, які* дае прыблізна 1/3 вугалю, які здабываецца ў Францыі. Беднасьць вугалем штурхнула Францыю на ўзмоцненае скарыстаньне энэргіі рэк, якія выцякаюць з высокіх гор, што знаходзяцца навокал Францыі на ўсходзе і паўднёвым захадзе: Альп і Пірынэяў, а таксама тых, якія сьцякаюць з Цэнтральнага масыву. Скарыстаньне **воднай энэргіі** дае Францыі да 3 млн. конскіх сіл. Электрычнасьць ужываецца галоўным чынам індустрыяй і транспартам. З вялікіх чыгуначных ліній электрыфікавана лінія, якая падходзіць да Парыжу з боку Арлеана, і частка паўднёвых чыгунак.

Да ранейшых **жалезарудных** багацьцяў пасьля вайны былі дададзены багацьці Эльзас-Лётарынгіі, якая перайшла да Францыі паводле Вэрсальскай згоды, і цяпер Францыя—**самая багатая па жалезнай рудзе краіна Эўропы**. З другіх мэталяў, апроч жалеза, у Францыі ў вялікай колькасьці здабываецца алюміні; нядаўна яшчэ Францыя займала першае месца па здабываньні гэтага мэталю, зараз яно перайшло да Злучаных Штатаў. У французскай мэталюргічнай прамысловасьці і машынабудаўніцтве занята 600 тыс. чалавек. Яшчэ больш (да 2 млн.) занята ў **тэкстыльнай прамысловасьці** (разам з шыцьцём бялізны і плацьцяў).

Асабліва вызначаецца Францыя па вырабу цюлю, карункаў вышывак, **шаўковых тканін** і па **вырабу гатовага адзеньня і бялізны**.

Пасьля вайны французская прамысловасьць значна перабудавалася. Замест лёгкай прамысловасьці на першае месца высунулася цяжкая—мэталюргія, машынабудаўніцтва і хэмія. Ва ўсіх гэтых галінах вельмі ўзрасьлі монополістычныя аб'яднаньні ў выглядзе міжнародных і нацыянальных трэстаў і сындыкатаў. Тэхнічнае абсталяваньне, капіталістычная рацыяналізацыя працы, якая выціскае значную частку рабочых і даводзіць да крайняй ступені эксплёатацыю сіл,

якія засталіся ў вытворчасьці, праведзена таксама шырока, як і ў Германіі. Вытворчасьць сталі ўзрасла ў $1^1/_2$ разы ў параўнаньні з даваеннай. Буйнейшых памераў дасягнула аўтамабільная прамысловасьць, па якой Францыя ідзе побач з Англіяй, уступаючы толькі (але ў шмат разоў) Злучаным Штатам. У хэмічнай прамысловасьці асабліва хутка расьце электрахэмічная, якая скарыстоўвае для электрычных пячэй белы вугаль Альп, Пірынэяў і Цэнтральнага масыву.

Паводле сваёй структуры народная гаспадарка Францыі значна больш рознабаковая, чым народная гаспадарка Англіі. Таму Францыя адчувае патрэбу ў замежным рынку ў значна меншай ступені, чым Англія. Замежны гандаль Францыі і па сваіх абсолютных памерах і па адносінах вывазу да продукцыі і прывозу да спажываньня значна ўступае замежнаму гандлю Англіі. Ад апошняй ён адрозьніваецца таксама і па складзе прывозу і вывазу. Харчовыя продукты Францыя ня толькі прывозіць, але і вывозіць (віно, сыры, кансэрвы). Галоўным прадметам прывозу зьяўляецца фабрычная сыравіна (каля $^3/_5$ прывозу, асабліва бавоўна, шэрсьць, шоўк, вугаль), на вырабы прыпадае $^1/_5$ прывозу. У вывазе больш $^3/_5$ складаюць вырабы (асабліва прадметы раскошы і жаночыя ўбраньні, а таксама адзеньне), на сыравіну (асабліва жалезная руда) прыпадае крыху больш $^1/_4$ вывазу.

### *Тавараабмен з СССР.*

Тавараабмен Францыі з СССР хутка разьвіваецца, але покуль прыкметна ўступае тавараабмену з СССР Англіі і Германіі. Францыя купляе ў СССР галоўным чынам сыравіну (нафтапродукты, лясныя матар'ялы, пушніну, марганцавую руду), часткова і продукты харчаваньня (фасоль, бабы), а прадае СССР шэрсьць, каляровыя і чорныя мэталі, мэталёвыя вырабы, сельска-гаспадарчыя машыны.

### *Гарады.*

У сувязі з структурай гаспадаркі краіны ў Францыі пераважае сельскае насельніцтва (каля $^3/_5$ жыве па вёсках, крыху больш $^2/_5$—у гарадох). Буйных гарадоў усяго 17, з іх толькі 5 маюць звыш 200 тыс. кожны, у тым ліку Парыж—каля 3 млн., з прадмесьцямі—4,5 млн., Ліён і Марсэль—больш чым па $^1/_2$ млн. кожны.

### *Малы прырост насельніцтва.*

Насельніцтва ўзрастае вельмі павольна, у выніку мізэрнай нараджальнасьці: у 1926 г. на 1000 чалавек у Францыі нарадзілася 18,8, памёрла—17,5; прырост 1,3 чалавека на тысячу. Для параўнаньня пакажам, што ў РСФСР у тым-жа годзе на тысячу чалавек нарадзілася 44, памёрла—21; прырост 23 на тысячу.

### *Клясы.*

Найбольш шматлікай клясай у Францыі зьяўляецца дробная буржуазія; найбольшы ўплыў мае буйная буржуазія, асабліва прадстаўнікі цяжкой індустрыі і фінансавага капіталу.

Да дробнай і сярэдняй буржуазіі, апроч дробных і сярэдніх прамыслоўцаў і гандляроў, розных спэкулянтаў, чыноўнікаў і асоб вольных профэсый, павінна быць аднесена і заможнае сялянства. Яно вызначаецца вялікай скупасьцю. Раней заможныя сяляне хавалі свае грошы ў збаночак (у „шарсьцяную панчоху“, кажуць у Францыі), потым пачалі ўкладаць іх у розныя процантныя паперы, галоўным чынам, у замежныя пазыкі, якія даюць вялікі процант. Асобна трэба вылучыць сярод францускай буржуазіі групу раньцье, гэтых звышпаразытаў, якія нажылі сабе добры капітал і жывуць на процанты з яго, не выцяўшы палец аб палец.

Концэнтрацыя прадпрыемстваў усё больш яднае фабрычны пролетарыят і робіць яго значнай сілай. Пад кіраўніцтвам рэволюцыйнае профарганізацыі і комуністычнае партыі, якая за апошнія гады ўсё ўзмацняецца, пролетарыят усё больш рашуча (асабліва ў прамысловых раёнах) пераходзіць да клясавае барацьбы.

### *Імпэрыялізм і колёніі.*

Палітычнае значэньне Францыі ў Эўропе пасьля разгрому Германіі значна ўзрасло. Польшча і Румынія зьяўляюцца яе агентамі. Вельмі вялікі ўплыў мае Францыя таксама ў Бэльгіі, Чэха-Славакіі, Паўднёвай Славіі.

Перамогшы Германію, Францыя імкнецца да гегемоніі на матэрыку Заходняй Эўропы. Выяўленьнем гэтых жаданьняў зьявілася прапанова Брыяна аб так званай „Пан-Эўропе“ (г. зн. Усе-Эўропе) ці „Злучаных Штатах Эўропы“. Само сабою разумелася, што на чале гэтых „Злучаных Штатаў“ павінна быць Францыя. За гучнымі фразамі проэкту Брыяна ясна выступала мэта прапануемага аб'яднаньня: барацьба ў бліжэйшы час з комуністычным рухам і з СССР, а ў больш далёкай будучыне—з Злучанымі Штатамі.

Проект атрымаўся мёртванароджаным. Апроч Францыі ў Лізе Нацый, дзе ён сустрэў рэзкі адпор з боку Англіі, ніхто яго не падтрымаў.

У замежнай палітыцы француская буржуазія настроена вельмі імпэрыялістычна: яна стаіць за захоп новых земляў, за выжыманьне з Германіі плацяжоў па абавязацельствах, якія нельга выканаць і якія наложаны на Германію Вэрсальскай згодаю, і за рэпрэсыйныя захады ў адносінах да Германіі, за патрабаваньне ад СССР выплаты царскіх даўгоў. Францыя, на вялікую шкоду для народнае гаспадаркі, каб угадзіць капіталістам, якія хочуць нажыцца на вайне, траціць свае грошы на падтрыманьне Польшчы і Румыніі, з якіх стварае заслону супроць СССР, а таксама на барацьбу ў Марокко і Сырыі, дзе яна

доўгі час бяз посьпеху, але з вялікай жорсткасьцю змагалася з народам, які адстойвае сваю самастойнасьць. Цяпер асабліва жорсткая барацьба ідзе ў Інда-Кітаі. Тут ужо ў мінулым было праліта шмат чалавечай крыві і затрачана многа грошай для ўтрыманьня гэтай колёніі. Францускія капіталісты, якія ўклалі свае капіталы ў плянтацыі, руднікі і фабрычна-заводкія прадпрыемствы Інда-Кітаю, выклікалі там сваёй жорсткай эксплёатацыяй рэволюцыйнае паўстаньне пролетарыяту і сялянства.

Францыя, як сказаў Сталін, ёсьць „самая агрэсыўная і мілітарысцкая краіна з усіх агрэсыўных і мілітарысцкіх краін сьвету“.

Найвялікшыя колёніяльныя ўладаньні належаць Францыі ў Афрыцы—11 млн. км.$^2$, больш $1/3$ матэрыка, але з гэтае колькасьці толькі $1/20$, якая прыпадае на Алжыр, Туніс і Марокко, зьяўляецца сапраўдны каштоўнымі землямі, якія прыносяць сваімі земляробскімі продуктамі значныя выгоды. Усе астатнія колёніі патрабуюць значна больш выдаткаў, чым прыносяць прыбыткаў. У Францыі ёсьць колёніі, якія прыгодны для земляробчай колёнізацыі, але Францыя ніколі ня мела даволі земляробчага насельніцтва, якое можна было-б паслаць туды. Колёнізацыя вытваралася галоўным чынам італьянцамі, а не французамі. Зваротнікавыя колёніі даюць каўчук, каляровае дрэва, расьліннае масла і матар'ялы для яго. Але ва ўсім прывозе ў Францыю, прывоз колёній складае толькі $1/10$. Большае значэньне колёніі маюць для збыту францускіх вырабаў: з францускага вывазу больш $1/4$ разьмяшчаецца ў францускіх колёніях. Пры недахопе ўласнага насельніцтва і хутка ўзрастаючым насельніцтве дзяржаў, з якімі Францыя знаходзіцца ў супярэчнасьці, яна цэніць свае афрыканскія колёніі і за значную колькасьць у іх насельніцтва. У час сусьветнай вайны Францыя прывозіла адсюль свае чорныя войскі, якія змагаліся за перамогу сваіх прыгнятальнікаў. Дзеля выкачваньня людзей з густазаселенага Судана намечана правядзеньне чыгункі праз Сахару.

## ІТАЛІЯ.

### *Структура гаспадаркі.*

**(У Эўропе—$3^1/_2$ тыс км$^2$, каля 41 мільёну насельніцтва; Унеэўрапэйскія уладаньні (галоўным чынам у Афрыцы)—2 млн. км$^2$, каля млн. насельніцтва).**

Італія—тыповая міжземнаморская краіна з багацейшымі прыроднымі магчымасьцямі для адначасовага разьвіцьця земляробства і садоўніцтва, а таксама для гандлёвых морскіх зносін. У сучасны момант гэта краіна земляробства і садоўніцтва са значным прамысловым ухілам на поўначы, дзе магчыма было скарыстаць белы вугаль.

### *Палажэньне.*

Італія ляжыць яшчэ больш на поўдзень, чым Францыя: на поўначы яе праходзіць 45-я паралель, на поўдні (на вастравох)—35-я; паў-

днёвая частка знаходзіцца ўжо ў падзваротнікавым клімаце і ня ведае зімы. Італія—паўвастраўная дзяржава: толькі паўночная частка яе разьмяшчаецца на матэрыку, астатняя—на Апэнінскім паўвостраве і вастравох, якія ляжаць навокал (найбольшы з іх — Сыцылія).

Становішча Італіі было асабліва выгодна ў часы Рымскай імпэрыі, калі сусьветны гандаль групаваўся вакол Міжземнага мора, у цэнтры якога ляжыць Італія. У пэрыод росквіту гандлю на Атлянтычным акіяне Італія адсунулася на задні плян. Толькі прарыцьцё Суэцкага каналу зноў палепшыла яе палажэньне. Але і зараз Італія, як і Францыя, зьяўляецца пераважна сухаземнаю, а ня морскаю дзяржаваю і яшчэ ў большай ступені, як Францыя, аграрнаю дзяржаваю. Як і Францыя, Італія мае досыць значны флёт і рад ажыўлёных гаваняў (важнейшыя—Генуя і Нэаполь).

*Рэльеф і натуральныя раёны.*

Па прыродзе Італія распадаецца на: 1) матэрыковую частку, занятую паўднёвымі схіламі Альп і нізінаю р. По (Лёмбардзкая нізіна), і 2) паўвастраўную частку з вастравамі, якія ляжаць навокал. Паўвастраўная частка амаль скрозь занята Апэнінамі, толькі невялікія прасторы прыпадаюць на ўзьбярэжныя нізіны. Астравы гарыстыя, найвялікшая верхавіна на востраве Сыцыліі—Этна—уяўляе сабой дзейнічаючы вулькан. Другі дзейнічаючы вулькан—Вэзуві знаходзіцца на паўвостраве, блізка ад Нэаполю.

Альпы вельмі высокія горы. У межах Італіі некалькі верхавін узьнімаецца да 4 тыс. *м*, у тым ліку гора Монблян на мяжы з Францыяй ўздымаецца да 4808 *м* вышыні. Але ў той самы час праз Альпы ёсьць шмат выгодных праходаў, праз якія цяпер пракладзены чыгункі. Іх тонэлі ляжаць ніжэй за пераралы (найбольш даўгія тонэлі Сімплонскі—20 *км* і Сэн-Готардзкі—15 *км*).

Да Альп далучаецца пояс вазёр, які добра абаронены ад халодных паўночных вятроў. Па берагох вазёр—багатая расьліннасьць (аліўкавае і лімоннае дрэвы, вінаград, шаўкавічнае дрэва). З гор сьцякаюць бурлівыя рэкі, сіла іх ператворана ў электрычную энэргію, якая насычае фабрыкі гэтага поясу, а таксама Лёмбардзкай нізіны, якая ляжыць на поўдзень.

Лёмбардзкая нізіна мае вельмі ўрадлівую глебу (нанесеную рэкамі). Клімат яе матэрыковы (вельмі гарачае лета, даволі халодныя зімы), чаму аліўкавае і лімоннае дрэвы ў ёй расьці ня могуць. Тут разводзяцца пшаніца, кукуруза, каноплі, шаўкавічнае дрэва. Вельмі гарачае лета дае магчымасьць разводзіць рыс. Выгоды палажэньня (каля Альпійскіх праходаў да Міжземнага мора) і роўнасьць мясцовасьці дазволілі стварыць густую сетку дарог і каналаў. Зручнасьць зносін і скарыстаньне воднай энэргіі альпійскіх рэк дапамаглі разьвіцца тут прамысловасьці. Гэта найбольш багатая і заселеная частка Італіі.

Паўвастраўная частка занята вапняковымі скаламі Апэнінскіх гор. Толькі па заходнім краі, па рэках Арно, Тыбру і каля Нэаполю ёсьць больш вялікія раўнінныя прасторы (Тасканская раўніна, Рымская компанья і Нэаполітанская компанья). Праз вапняковы камень вада праходзіць углыб, дзякуючы чаму ў вобласьці Апенін адчуваецца вялікая сухасьць клімату. Наадварот, узьбярэжныя раўніны (асабліва Рымская) затапляюцца вадою, якая выбіваецца з-пад скал. На раўнінах вада застойваецца, чаму ствараюцца балоты, прытулкі маляры.

Зямлі прыгоднай для апрацоўкі мала. Лепшая палявая зямля — у Тасканскай і Нэаполітанскай раўнінах. Каб павялічыць плошчу прыгоднай для апрацоўкі зямлі, схілы гор разроблены тэрасамі. На раўнінах сеюць пшаніцу, кукурузу і рыс. На тэрасах займаюцца садоўніцтвам (апельсінныя, лімонныя і аліўкавыя дрэвы) і вінаграднiцтвам.

Асабліва багатая расьліннасьць на востраве Сыцыліі.

### *Ральніцтва і садоўніцтва.*

Спагадны паўднёвы клімат дае магчымасьць у аднолькавай ступені разводзіць і збожжавыя расьліны і пладовыя дрэвы. Жытніцай Італіі зьяўляецца яе поўнач—Лёмбардская нізіна. З зернёвых культур тут сеюцца пшаніца, кукуруза, рыс; з тэхнічных культур для разьвядзеньня шаўкавічніка чарвяка—шаўкавічнае дрэва; на схілах гор—вінаград. Поўдзень Італіі—краіна садоў, гаёў апэльсынавых і лімонавых дрэў, вінаграду; у Сыцыліі растуць цукровы чарот і бавоўна. У Сыцыліі ўвесь год зьбіраюць плады: ад студзеня да красавіка — апэльсыны і лімоны; у красавіку трускалкі, вішні; у маі—міндаль, фігі, абрыкосы, пэрсікі; у чэрвені і ліпені—яблыкі і грушы; ад жніўня да кастрычніка—вінаград і дыні; у лістападзе і сьнежні—мандарыны.

Але на гэтым квітнеючым поўдні селянін апрацоўвае чужую зямлю: тут пераважаюць буйныя маёнткі, і селянін зьяўляецца толькі арандатарам. На поўначы мае перавагу дробная сялянская ўласнасьць, але такая дробная, што селянін ня можа харчавацца ад зямлі, ня гледзячы на ўсю яе ўрадлівасьць і павінен шукаць іншых заробкаў. Усё гэта, з аднаго боку, стварае рэволюцыйныя настроі сярод італьянскага сялянства, а з другога — прымушае італьянцаў масамі перасяляцца ў чужыя землі, асабліва ў Злучаныя Штаты, Бразылію і Аргентыну. Да вайны з Італіі высялялася па 500 тыс. і больш у год. За час вайны эміграцыя значна скарацілася, але потым зноў пачала хутка расьці. У мэтах забесьпячэньня фабрык і палёў рабочаю сілаю ўрад Італіі зараз затрымлівае эміграцыю.

Высяленьне ідзе пераважна з Паўднёвай Італіі, якая дагэтуль застаецца выключна аграрнаю краінаю. Поўнач-жа Італіі за апошні час у значнай ступені індустрыялізавалася, і лішак насельніцтва вёскі можна знайсьці заработак на фабрыцы.

*Індустрыя і гандаль.*

У Італіі няма вугалю, які неабходзен для прамысловасьці (яго даводзіцца завозіць пераважна з Англіі), і гэта прымушала зьвярнуць асаблівую ўвагу на пабудову гідраэлектрычных станцый. Ужо зараз Італія атрымала такім чынам 1.300 тыс. конскіх сіл. Гарады Мілан, Турын, Гэнуя зрабіліся буйнымі прамысловымі цэнтрамі. Асабліва разьвілася тэкстыльная прамысловасьць (галоўным чынам шаўковая, потым баваўняная і шарсьцяная), у ёй занята цяпер 650 тыс. рабочых. Значнае месца займае харчовая прамысловасьць (мучныя вырабы — для сваіх макарон італьянцы купляюць савецкую пшаніцу).

За час вайны хутка разьвілася цяжкая індустрыя, асабліва аўтомобільная прамысловасьць. У мэталёвай і хэмічнай прамысловасьці занята каля 900 тыс., у харчовай—каля 300 тыс., ва ўсіх відах прамысловасьці разам—2300 тыс. Дзякуючы разьвіцьцю прамысловасьці, Італія пачынае вывозіць ня толькі віно, паўднёвыя фрукты і шоўк, як гэта было раней, але таксама шаўковыя, папяровыя вырабы, прадзіва і нават машыны. Прадметамі ўвозу зьяўляюцца галоўным чынам фабрычная сыравіна і поўфабрыкаты (каменны вугаль і кокс, бавоўна, шэрсьць, жалеза і сталь, лес).

Гандаль Італіі з СССР не вялікі, прычым прывоз з СССР (1928-29 г. на 30 млн. руб.) амаль у чатыры разы перавышае вываз з Італіі. Прывозіцца з СССР галоўным чынам сыравіна (нафта-продукты і шоўк-сырэц). Вывозяцца ў СССР пераважна аўтомобілі.

*Становішча народных мас.*

Становішча народных мас у Італіі зьяўляецца вельмі цяжкім. Утрыманьне непамерна буйных арміі і флёту даўно ўцягнулі Італію ў вялікія даўгі. Для аплаты іх, насельніцтва абкладзена падаткамі не пад сілу. Пасьля вайны залежнасьць ад чужаземнага капіталу, асабліва амэрыканскага, павялічылася, клясавыя супярэчнасьці абвастрыліся, рэволюцыйны настрой узрастае. Перамога фашыстаў—гэтай баявой організацыі буржуазіі, якая ўзьнікла пасьля імпэрыялістычнай вайны і накіравана супроць комунізму і супроць усяго наогул рабочага руху,—зьяўляецца часовай. Фашыстам даводзіцца абапірацца выключна на ўзброеную сілу. Комуністычная партыя, хоць і працуе нелегальна, узрастае.

*Гарады.*

У старадаўнія і сярэднія вякі Італія выдзялялася па сваёй культуры. Помнікі яе культурнай старыны ня менш, чым хараство яе прыроды, прыцягваюць вялікую колькасьць турыстаў. Буйны міжнародны гандаль зрабіў здаўна Італію краінаю гарадоў і густога на-

сельніцтва (124 чалавека на 1 км.²). У Італіі 18 буйных (звыш 100 тыс. кожны) гарадоў; з іх 5 (сталіца Рым, Мілан, Нэаполь, Генуя і Турын) маюць звыш 500 тыс. кожны, 6 іншых (Балонья, Венэцыя, Флёрэнцыя, Катанья, Палермо і Трыест)— звыш 200 тыс. кожны.

Італія—констытуцыйная манархія; выканаўчая ўлада паводле конституцыі належыць каралю, але сапраўдным кіраўнікам зьяўляецца галава фашызму—Мусоліні.

### *„Нэорымскі" імпэрыялізм. Саперніцтва з Францыяй.*

У часе вайны ў выніку неабходнасьці перайці на самазабесьпячэньне вельмі разьвілася прамысловасьць Італіі. Пасьля 2—3 год пасьляваеннай затрымкі рост індустрыі зноў аднавіўся. Калі прыняць гадавую продукцыю пэрыоду 1910—14 г. г. за 100, дык для 1927 г. атрымаем такія паказальнікі: вытворчасьць чыгуна—132, сталі—177, устаноўленая магутнасьць электрастанцый—314, спажываньне вугалю—150, спажываньне бавоўны—108 (у 1926 г.—123), спажываньне шэрсьці 194 (у 1926 г.—216). Таксама значна ўзрос і замежны гандаль. Асабліва ўзрос вываз штучнага шоўку, паводле якога Італія займае першае месца ў Эўропе, і аўтомобіляў.

Адпаведна з ростам прамысловасьці і гандлю ўзрос і тонаж гандлёвага флёту—ён павялічыўся ў два разы.

Посьпехі куплены крайнім націскам на рабочую клясу і абцяжарваньнем краіны даўгамі, па якіх даводзіцца расплачвацца рабочым і сялянам. Рост прамысловасьці патрабуе пашырэньня замежнага рынку і для збыту продукцыі і для забесьпячэньня сыравінай, у сувязі з гэтым імпэрыялістычныя імкненьні, якія і раней былі вельмі разьвіты ў Італіі, узрасьлі да жудасных памераў. Мусоліні паставіў сабе задачаю абкружыць італьянскімі ці землямі, залежнымі ад Італіі, раней Адрыятычнае мора, зрабіўшы яго „італьянскім возерам", а потым і ўсё Міжземнае мора, аднавіўшы ў новым выглядзе ранейшую Рымскую імпэрыю (адгэтуль назва—„нэорымскі" імпэрыялізм).

Але дыплёматычныя крокі Мусоліні, якія маюць на мэце скалаціць балканскі блёк з Італіяй на чале, а потым і міжземнаморскі, натыкаюцца на перашкоды з боку Францыі. Яна ня можа дапусьціць узмацненьня Італіі на Міжземным моры, якое для яе ня менш неабходна, чым для Італіі, бо праз гэта мора адбываецца сувязь Францыі з яе афрыканскімі і азіяцкімі коленіямі.

Адносіны паміж Францыяй і Італіяй застаюцца вельмі напружанымі. Магчымасьць узброенай сутычкі робіцца ўсё больш і больш няўхільнай.

Абедзьве краіны, спаборнічаючы адна з аднэй, узмацняюць сваё морскае і паветранае ўзбраеньне.

## ГЕРМАНІЯ.

**(Да сусьветнай вайны ў Эўропе—540 тыс. км.$^2$ і 65 млн. насельніцтва, коленіі—3 млн. км.$^2$ і 12 млн. насельніцтва. Пасьля вайны—472 тыс. км$^2$ і 60 млн. насельніцтва. Усе колёніі па Вэрсальскім дагавору страчаны).**

### *Характарыстыка.*

Германія—самая буйная з ліку сярэдня-эўрапэйскіх дзяржаў. Палажэньне і прыродныя асаблівасьці яе менш спагадныя, чым у трох вышэй разгледжаных намі дзяржавах. Прыродная сувязь з акіянам нязначная. Горныя хрыбты разьмяшчаюцца папярочнай паласою ў Сярэдняй Германіі, што у ранейшыя часы, як ня было чыгунак, перашкаджала зносінам і спрыяла ўнутраному раздрабленьню краіны. Германія вельмі багата на выкапні (вугаль, жалеза, цынк, сьвінец, калійныя солі), але разьмяшчэньне вугалю і жалеза, адносна адзін да аднаго і адносна водных шляхоў, не такое выгоднае, як у Вялікабрытаніі. Раздрабленьне краіны і нязручнасьць у разьмяшчэньні выкапняў былі пераможаны толькі з правядзеньнем чыгунак і рачных каналаў; морскія сувязі былі палепшаны пабудовай вельмі добрых партоў і морскага (Кільскага) канала. Перамогшы сваё ўнутранае раздрабленьне, Германія хутка пайшла па шляху экономічнага разьвіцьця і дамаглася таго, што зрабілася перад вайною моцнаю морскаю дзяржаваю і разьвіла да высокай ступені адначасова сваю сельскую гаспадарку і індустрыю.

### *Дзяржаўны лад.*

Германія склалася не ў адзіную, а ў с а ю з н у ю  д з я р ж а в у. Раней гэта была саюзная імпэрыя, якая складалася з паасобных дзяржаў—каралеўстваў, княстваў і г. д., а цяпер пасьля рэволюцыі 1918 г. Германія зрабілася рэспублікай, пры чым паасобныя дзяржавы зьмянілі назву на „землі“. Кожная з іх (Прусія, Бавbooарыя, Саксонія, Вюртэмбэрг, Бадэн, Цюрынгія і інш.) карыстаюцца самакіраваньнем, але падпарадкуюцца агульна-дзяржаўнаму кантролю. На чале ўсёй саюзнай дзяржавы стаіць прэзыдэнт, які выбіраецца ўсенародным галасаваньнем, і агульнадзяржаўны парлямант—рэйхстаг. Паасобныя „землі“ маюць свае парляманты—ляндтагі і свае міністэрствы.

### *Моры і парты.*

Моры—Паўночнае і Балтыцкае—амываюць Германію толькі з аднаго боку—паўночнага, пры гэтым адкрытае мора, якое непасрэдна злучаецца з акіянам (Паўночнае), амывае Германію толькі на кароткай адлегласьці. Але гэта кароткая берагавая лінія злучана з унутранага боку суднаходнымі рэкамі, блізка ад вусьцяў якіх выраслі буйныя партовыя гарады—Гамбург (першы порт на контынэнце Эўропы) і Брэмэн. Гандлёвы флёт Германіі, амаль зьнішчаны ў выніку сусьветнай вайны, цяпер хутка аднаўляецца.

*Рэльеф.*

Асаблівасьцю пабудовы паверхні Германіі зьяўляецца яе трохчленны падзел: нізіна, сярэднія горы і Альпы. Ступені гэтыя ідуць, паступова ўзвышаючыся, на поўдзень.

Паўночная ступень занята нізінаю, якая займае $^4/_7$ Германіі. Гэта—аднастайная хвалістая раўніна, пакрытая то лясамі (хваевымі—на ўсходзе, букавымі на захадзе), то палямі. Па далінах рэк—Рэйна, Эльбы, Одэра—нізіна ўдаецца нібы бухтамі ў пояс сярэдня-германскіх гор. У палосу ўзвышшаў, якія маюць і горшую глебу і даволі суровы клімат, гэтыя бухты нясуць вельмі ўрадлівую глебу і больш мяккі клімат, чаму расьліннасьць там вельмі багатая (бурачна-цукровая вобласьць на Эльбе, вінаград па Рэйне. Разам з тым гэтыя бухты вельмі зручны для зносін, бо тут, карыстаючыся западзінамі, лягчэй за ўсё было пракласьці дарогі ў глыбіню ўзвышшаў. Усе тры западзіны—вобласьці вельмі густога насельніцтва і буйных гандлёвых гарадоў.

Сярэдня-германскія горы складаюцца з раду нявысокіх раскіданых хрыбтоў, якія падходзяць адзін да аднаго пад простым кутом. Вышыня іх убывае з усходу (дзе вяршыня Шнэакопэ ў Судэцкіх горах дасягае 1600 м.) на захад (дзе вышэйшы пункт усяго 700 м.).

Горы багаты рудамі (жалеза, медзь, сьвінец, цынк), а прылягаючыя да іх западзіны багаты—каменным вугалем, і солямі—павараной і калійнымі.

Альпы заходзяць у Германію толькі сваім паніжаным паўночным краем (вышэйшы пункт 3 км.). У германскіх Альпах шмат выгодных праходаў, якія вядуць у Італію. На поўнач ад Альп ляжыць Паўднёва-германскае плоскаўзвышша, малаўрадлівае, пазбаўленае выкапняў, але вельмі багатае белым вугалем. Баварыя, якая займае гэтае плоскаўзвышша,—найболь электрыфікаваная частка Германіі.

На поўнач ад гор, якія ахапляюць Паўднёва-германскае ўзвышша, разьмяшчаецца больш нізкае ўзвышша (Швабафранконская лагчына), а на захад ад яе, за Шварцвальдам—Верхнярэйнская нізіна. Сярэдняя Германія, занятая сярэдня-германскімі горамі і рачнымі далінамі, якія прарэзваюць гэтыя горы, па басэйнах сваіх трох галоўных рэк падзяляецца на тры вобласьці; Рурскую па р. Рэйну і яго прытоку, Руру, Турынгію і Саксонію, якія займаюць басэйн р. Эльбы, і Сылезію ў басэйне Одэра.

*Рэкі і каналы.*

Рэкі Германіі зьяўляюцца яе важнымі шляхамі зносін, асабліва р. Рэйн,ператвораная працаю па паляпшэньню рэчышча ў адзін з лепшых рачных шляхоў Эўропы. Транспортнае значэньне Рэйна абумоўлена галоўным чынам тым, што ён зьвязвае Рурскі раён цяжкой прамысловасьці з морскімі шляхамі сусьветнага значэньня. Важны для

суднаходзтва таксама Эльба, Одэр, Бэзэр. Усе гэтыя рэкі плывуць на поўнач, злучаючы Сярэднюю (а Рэйн Паўднёвую) Германію з паўночным морскім узьбярэжжам. У шыротным напрамку плывуць прыток Рэйна Майн і р. Дунай. Абедзьве ракі зьяўляюцца важнымі сродкамі сувязі паміж захадам і ўсходам.

Рэкі папаўняюцца каналамі. Асабліва важны Дортмундэмскі канал, які злучае Рурскую вобласьць з Паўночным морам. Усе рэкі Ўсходняй Германіі злучаны паміж сабой каналамі: з Віслы і Одэра можна па каналах праехаць у Эльбу. Зараз хутка набліжаецца да сканчэньня цэнтральны канал ад Эльбы да Рэйна.

*Клімат і расьліннасьць.*

Клімат Германіі матэрыковы, асабліва на ўсходзе і ў вобласьці гор і плоскаўзвышшаў. На паўночным захадзе ён пераходзіць у морскі. Тут пераважаюць лугі, а ў сувязі з гэтым земляробства злучаецца з малочнай і мясной жывёлагадоўляй. Усход—вобласьць зернявае гаспадаркі. Паўднёва-германскае плоскаўзвышша—пераважна земляробская вобласьць, пры чым разводзіцца тое самое збожжа, што і на поўначы—жыта і авёс, бо на Паўднёва-германскім плоскаўзвышшы, у выніку яго вышыні, не цяплей, чым на паўночна-германскай нізіне. Адзінай мясцовасьцю Германіі з цёплым кліматам зьяўляецца Верхнярэйнская нізіна. Тут апроч земляробства вельмі разьвіты гародніцтва, садоўніцтва і вінаградніцтва. Горы Германіі, а таксама пескавыя вобласьці Паўночнай і Паўднёва-германскай нізін пакрыты лясамі. Яны займаюць $^1/_4$ усей плошчы краіны.

*Тып гаспадаркі і мытная палітыка.*

У Германіі разьвіты і сельская гаспадарка і індустрыя, але індустрыя некалькі пераважае. Таксама некалькі пераважае гарадзкое насельніцтва над сельскім. Як і ў Англіі, у Германіі 45 гарадоў маюць звыш 100 тыс. чалавек насельніцтва кожны, у тым ліку: Бэрлін—4 млн., Гамбург—1 млн.; Кельн, Мюнхен, Лейпцыг і Дрэздэн—звыш 600 тыс. кожны; Брэслаўль—звыш 500 тыс.; Эсэн і Франкфурт-на-Майне каля 500 тыс. Найвялікшыя масы насельніцтва згрупаваліся ў сярэдняй Германіі і ў прырэйнскай палосе, як у найбольш індустрыялізаваных раёнах.

У процілегласьць вастраўному палажэньню Англіі, Германія вызначаецца матэрыковым унутраным палажэньнем. Яна з усіх бакоў была сьціснута моцнымі суседзямі. Яна імкнулася рассунуцца, каб ня быць раздушанай. Гэта высоўвала на першае месца пытаньні нападу і абароны краіны, узмацняла значэньне фэўдальна-памешчыцкае клясы. Імкненьне ўраду забясьпечыць краіну ўласным хлебам, а разам з тым і памешчыкаў вялікімі прыбыткамі, прывяло да ўстанаўленьня, у процілегласьць Англіі, вельмі высокіх мытных ставак на прывозныя сельска-гаспадарчыя продукты.

Пад абаронай высокага мытнага „збору“, які дазваляў нямецкім памешчыкам і сялянскай буржуазіі зьбіраць багатую даніну з усяго іншага насельніцтва, сельская гаспадарка Германіі захавала магчымасьць задавальняць патрэбы насельніцтва ў харчаваньні не на 20—40 проц., як у Англіі, але на 80—90 проц. Апроч мыта гэтаму дапамаглі і больш спрыяючыя ў параўнаньні з Англіяй для сельскае гаспадаркі прыродныя ўмовы, а таксама і высокі ўзровень сельска-гаспадарчай тэхнікі ў Германіі. Політыка высокіх мыт на хлеб і мяса захавалася і ў „рэспубліканскай“ Германіі. Пры садзейнічаньні соцыялфашыстаў, ня гледзячы на рэзкае супроцьдзеяньне компартыі, праведзены мытныя стаўкі, якія ў два разы перавышаюць даваенныя.

### *Сельская гаспадарка.*

Германія ляжыць крыху далей на поўнач, чым Францыя. Паўночны пункт яе знаходзіцца пад 55°—крыху паўднёвей за Маскву, паўднёвая—пад 47°, на шырыні Днепрапятроўску. У сувязі з больш паўночным палажэньнем знаходзіцца і больш „паўночны“ характар сельскае гаспадаркі. Галоўнае збожжа—ж ы т а і а в ё с, у вялікай колькасьці разводзіцца і б у л ь б а; у больш цёплых частках Германіі разводзіцца пераважна п ш а н і ц а і я ч м е н ь, з тэхнічных расьлін—ц у к р о в ы я б у р а к і.

Пад полем знаходзіцца каля паловы ўсяе плошчы Германіі. Палі апрацоўваюцца добра; глебы ў большай частцы дзярнова-падзольныя, але дзякуючы добраму ўгнаеньню (галоўным чынам хэмічнаму) родзяць вельмі добра. Побач з паляводзтвам разьвіта гароднііцтва і садоўніцтва, а на паўднёвым захадзе Германіі—і вінаградніцтва.

Свайго хлеба ў Германіі хапае месяцаў на 9—10; да вайны прывозілася пшаніца, кукуруза і ячмень, цяпер пачало прывозіцца і жыта (шмат палявой зямлі адыйшло да Польшчы). Прывозіцца таксама расьліннае валакно і масланасеньне.

Умовы зямляўладаньня розныя на захадзе Германіі, дзе пераважае дробная сялянская ўласнасьць, і на ўсходзе, дзе згрупавалася большасьць буйных памешчыцкіх уладаньняў. На ўсходзе і сялянскія ўладаньні вызначаюцца больш буйнымі памерамі, тут-жа шмат безьзямельнага, батрацкага насельніцтва.

Таксама як у паляводзтве і гародніцтве Германія дасягнула вялікае дасканаласьці і ў ж ы в ё л а г а д о ў л і; найбольшае значэньне мае разьвядзеньне буйное рагатае жывёлы (мясное і малочнае) і сьвіней. Добра пастаўлена і гадоўля лесу (пераважаюць хваёвыя лясы). У сувязі з лесагадоўлей шырока разьвілася д р э в а а п р а ц о ў ч а я і п а п я р о в а я п р а м ы с л о в а с ь ц ь. Важную ролю адыгрывае рыбацтва рачное, а асабліва морскае.

### *Выкапні.*

Да вайны Германія была аднэй з самых багатых краін Эўропы па вугалю, жалезе і каляровых мэталях, але паводле Вэрсальскага дога-

вару яна страціла Эльзас-Лётарынгію і большую частку Верхняй Сылезіі, а разам з імі $^3/_4$ сваіх жалезных і цынкавых руд, звыш $^1/_4$ запасаў каменнага вугалю, значную частку сваіх сьвінцовых руд і пакладаў калійных соляў. Але і цяпер Германія стаіць на бачным месцы па здабываньню каменнага і асабліва бурага вугалю, па здабываньню жалезных і медных руд, а асабліва калійных соляў, якія зьяўляюцца каштоўным угнаеньнем. Па разнастайнасьці і багацьцю мінэральнае сыравіны для хэмічнае прамысловасьці Германія займае адно з першых месц ў сьвеце.

### *Індустрыя.*

Год 50 назад Германія была амаль выключна аграрнаю краінаю. Зараз індустрыя займае ў ёй больш буйное месца, чым сельская гаспадарка. Па дасканаласьці тэхнікі нямецкая прамысловасьць стаіць вышэй, чым прамысловасьць іншых эўропэйскіх краін і не ўступае амэрыканскай. Сувязь чыстай навукі з тэхнікай організавана ў Германіі лепш, чым ў любой іншай краіне; ад гэтай акалічнасьці вельмі залежаць посьпехі Германіі ў галіне прамысловасьці, асабліва хэмічнай, мэталёвай і электратэхнічнай. Нямецкі рабочы і па агульным сваім разьвіцьці і па спэцыяльнай падрыхтоўцы зьяўляецца адным з лепшых. У рабочай арміі звыш 8 млн. чалавек. Вялізарны і капіталы, якія ўкладзены ў прадпрыемствы. Яны аб'яднаны звычайна ў руках буйных акцыянэрных таварыстваў—трэстау ці канцэрнаў, якія ўяўляюць сабою найбольш буйную концэнтрацыю капіталаў у Эўропе і ўступаюць у гэтых адносінах толькі амэрыканскім трэстам. Усе гэтыя ўмовы разам з вялікімі пакладамі каменнага вугалю і жалеза дазволілі немцам хутка заваяваць рынак для сваіх добрых і танных тавараў. Нямецкая прамысловасьць разьвівалася з надзвычайнай хуткасьцю; у канцы XIX ст. яна пачала даганяць, а ў галіне жалезнай індустрыі і хэмічнай прамысловасьці—пераганяць ангельскую. Па колькасьці рабочых на першым месцы стаіць мэталёвая прамысловасьць (разам з машынабудаўніцтвам $2^1/_2$ млн.), потым ідзе горная справа ($1^1/_4$ млн.), тэкстыльная прамысловасьць (каля 1 млн.) і харчовая (700 тыс. рабочых).

Перад вайной нямецкія заводы давалі ў 2 разы больш чыгуна і ў $2^1/_2$ разы больш сталі, чым ангельскія. Цэнтрам цяжкой індустрыі зьяўляецца Рурская вобласьць. Па тэкстыльнай прамысловасьці Германія да вайны ўступала толькі Англіі і Злучаным Штатам; пасьля вайны ў выніку пераходу да Францыі Эльзаскага тэкстыльнага раёну Германія ўступае і Францыі. Першае месца ў сьвеце Германія займае па хэмічнай прамысловасьці, асабліва па вырабу фарбаў і лякарстваў, а таксама па друкарскай справе. У харчовай прамысловасьці Германія асабліва выдзяляецца па мукамольнай справе, цукраварэньню і піварэньню.

Вайна і Вэрсальская згода, якая пасьледвала за ёй, нанесьлі цяжкі ўдар нямецкай прамысловасьці. На працягу некаторага часу Германія

рабіла спробы ўтрымаць сваё месца на сусьветным рынку шляхам вялікага патаненьня сваіх тавараў за кошт паніжэньня заработнай платы. Але доўга гэта пратрымацца не магло. Нямецкія тавары пачалі хутка даражэць і попыт на іх затрымаўся. Фінансы былі падарваны вялізарнымі плацяжамі ў карысьць Францыі. Пасьледваў даўгі рад буйных банкруцтваў, вельмі павялічылася беспрацоўе.




Ц. Цяжкая індустрыя М. Металюргія Мш. Машынабудаўніцтва Суднабудаўніцтва
Эл. Электра-тэх. прам. Ш. Шаўковая прам. Шс. Шарсьцяная прам. Бв Бавоўняная прам.
Др. Друкарская прам. Цук. Цукровая прам. Хэм. Хэмічная прам. Каменны вугаль
Жалезныя руды

Мал. 3.

Пры дапамозе капіталістычнай „рацыяналізацыі“, якая значна панізіла сабекошт за кош падвышанай экспләатацыі працы рабочых, германскаму капіталу ўдалося ў 1927 г. узьняць вытворчасьць вышэй даваеннага ўзроўню, але яна значна ніжэй сучаснай вытворчай здольнасьці фабрык, якая ўзьнялася ў тры разы супроць даваеннага часу, дзякуючы праведзенаму пераабсталяваньню.

Але фабрыкам даводзіцца працаваць з недагрузкай, масавае беспрацоўе зрабілася хранічным. Пры гэтым беспрацоўі ўнутраны рынак усё сьціскаецца, бо пакупная здольнасьць насельніцтва ўсё падае. На замежным рынку германскім таварам даводзіцца змагацца з моцнай конкурэнцыяй сапернічаючых індустрыяльных дзяржаў. Гаспадарчы

крызіс Амэрыкі, якая ўлажыла вялікія капіталы ў германскія прадпрыемствы, яшчэ больш пагоршвае гаспадарчае становішча Германіі. Да сярэдзіны 1930 г. лік беспрацоўных у Германіі дасягнуў 4 млн. чалавек. Апроч поўных беспрацоўных ёсьць вельмі шмаг паўбеспрацоўных, якія атрымліваюць за скарочаную колькасьць гадзін работы скарочаную плату.

Паказанае ужо раней рабаваньне Германіі пры дапамозе плянаў Даўэса і Юнга адбілася зразумела на гаспадарчым становішчы Германіі наогул, але асабліва цяжка ўдарыла яно па пролетарыяту. Пасьля прыняцьця пляну Даўэса масавыя падаткі былі значна павышаны і дайшлі да 73,6 проц. замест 49,6 проц. агульнай сумы дзяржаўных прыбыткаў; доля-ж падаткаў на ўласнасьць, якая выплачваецца галоўным чынам буржуазіяй, зьменшылася з 50,4 да 26,4 проц.

Пасьля прыняцьця пляну Юнга, які расклаў уплату рэпарацый на 58 год, германская буржуазія ўсю цяжкасьць гэтага пляну імкнецца перакласьці на плечы рабочае клясы. У абставінах экономічнага крызісу, які ўсё абвастраецца, гэта павінна прывесьці да рашаючых боек германскага пролетарыяту за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне, за савецкую Германію.

### *Замежны гандаль* *).

Перад вайною хуткія посьпехі нямецкае прамысловасьці ішлі рука аб руку з хуткімі посьпехамі яе замежнага гандлю, ён разьвіваўся хутчэй за ангельскі, але ўсё яшчэ ўступаў ангельскаму па сваіх памерах: у 1913 г. на долю Англіі прыпадала 18 проц. сусьветнага гандлю, на долю Германіі—каля 13 проц. У першы год пасьля вайны зварот замежнага гандлю Германіі быў у тры разы меншым, чым перад вайной, потым ён пачаў паступова выраўняцца, але далёка яшчэ не дасягнуў даваеннага ўзроўню. У прывозе першае месца займае сыравіна і поўфабрыкаты (55 проц.), потым ідуць харчовыя продукты і фураж для жывёлы (30 проц. прывозу). Вываз на 2/3 складаецца з фабрыкатаў, на 1/4—сыравіны і поўфабрыкатаў, 10 проц. прыпадае на харчовыя продукты.

### *Таварапамен Германіі з СССР.*

Да вайны Германія захапіла ў сваё рукі львіную долю таварапамену з Расіяй. Яна купляла ў яе збожжа, асабліва ячмень, потым лес і іншую сыравіну і забясьпечвала яе вырабамі. Ранейшага выключнага месца, як гэта было ў старой Расіі, у гандлі з Саюзам Германія цяпер ужо не займае, але таварапамен хутка ўзрастае, і з 1927-28 г. Германія зноў заняла ў ім першае месца.

Галоўная доля ў прывозе з СССР належыць харчовым продуктам (асабліва фасоль і бабы, яйкі, масла, ікра) і пушніне, потым ідуць нафтапродукты, лес, жмыхі, шчаціна і волас, пух і пяро.

*) Разьдзел: „Экономічныя раёны" выпушчаны.

У вывазе з Германіі асабліва выдзяляюцца машыны і часткі да іх, электрапрылады, точныя прыборы і струманты, мэталёвыя вырабы, потым ідуць хэмічныя продукты, фарбы, угнаеньне, каляровыя мэталі, шэрсьць.

*Цяжкія вынікі вайны.*

Перад вайною нямецкія капіталісты цешылі сябе чароўнымі імпэрыялістычнымі замерамі. Яны хацелі, зьліўшы з сабою Аўстра-Вэнгрыю, якая была перад вайною буйною дзяржаваю, стварыць „Сярэднюю Эўропу“ з тым, каб павялічыць яе, ператварыўшы ў свае колёніі Балканскі паўвостраў, Малую Азію і Мэсапатамію, да Пэрсыцкае затокі (на нямецкія грошы будавалася Багдадзкая чыгунка ў Мэсапатаміі), у Афрыцы з паасобных нямецкіх колёній з далучанымі да іх часткамі францускіх і ангельскіх колёній яны марылі стварыць сярэднюю нямецкую Афрыку. Вайна разбурыла гэтыя мары. Германія не павялічылася, а скарацілася ў сваіх памерах; яна ня толькі не акруглiла сваіх уладаньняў, а страціла іх цэльнасьць: ад астатняй Германіі так званым польскім колідорам аддзелена яе паўночна-ўсходняя частка—Усходняя Прусія з горадам Кенігсбэргам. Немцы павінны выплачваць кантрыбуцыю, якая ім не пад сілу. Яны страцілі $^{9}/_{10}$ свайго гандлёвага флёту, павінны былі выдаць пераможцам значную частку абсталяваньня сваіх гаваняў і значную колькасьць вагонаў і паравозаў. На працягу пяці год яны павінны будаваць для краін згоды (согласія) па 200 тыс. тон гандлёвых суднаў, галоўны канал Германіі (Кільскі) і суднаходзтва па галоўных рэках перададзены ў веданьне міжнародных камісій, дзе немцы ў меншасьці, і г. д. і г. д. Але ня гледзячы на ўсё гэта, разбураная гаспадарка за апошні час аднаўляецца. Немцы пераабсталёўваюць сваю прамысловасьць з мэтай значнага зьніжэньня вытворчых выдаткаў. Яны хутка аднаўляюць свой флёт,—умяшчальнасьць яго ўжо перавысіла палову даваеннага флёту. Усё гэта дасягаецца, аднак, цаною наймацнейшага націску на рабочую клясу. Націск выклікае супроцьдзеяньне. Клясавая барацьба разгараецца.

Комуністычная партыя Германіі бязупынна расьце. Яна адна з мацнейшых сэкцый Комінтэрну. Колькасьць членаў яе ўзьнялася да 125 тыс. (у 1927 г.). Пры выбары ў рэйхстаг у верасьні 1930 г. за кандыдатаў компартыі было пададзена 4.509 тыс. галасоў, што дало комуністам 76 мандатаў.

## ФІНЛЯНДЫЯ.

(343 тыс. км$^2$, насельніцтва—3,5 мільёнаў).

Фінляндыя з 1810 да 1917 г. уваходзіла ў склад старой Расіі, але, ня гледзячы на ўсе патугі царскага ўраду „абрусіць“ Фінляндыю, яна заўсёды вяла адасобленае жыцьцё. І па прыродзе і па характару сваёй гаспадаркі яна вельмі нагадвае Швэцыю. Амаль $^{3}/_{5}$ яе паверхні займаюць лясы. Яны зьяўляюцца галоўнаю крыніцаю нацыянальнага

прыбытку Фінляндыі. Усюды распаўсюджана сячэньне і пілоўка лесу, гонка смалы і дзёгцю, а таксама выраб з драўніннай масы кардону і паперы; пашырана таксама запалкавая, мэблявая і іншыя дрэваапрацоўчыя вытворчасьці. Галоўным таварам для вывазу зьяўляецца лес.

Палі займаюць менш $^1/_{16}$ паверхні. Палі апрацоўваюцца вельмі ўважліва. Шмат працы ўкладаецца на ачыстку палёў ад каменьня і на палепшаньне глебы. Галоўнае збожжа—авёс і жыта. Свайго хлеба не хапае. Асабліва шмат прывозіцца пшаніцы (яна амаль не разводзіцца ў Фінляндыі).

Пад сенажацямі больш зямлі, чым пад палямі. Вельмі добра пастаўлена малочная справа, у прыватнасьці вытворчасьць масла. Жывёлагадоўля выдзяляецца ня так колькасьцю, як якасьцю жывёлы. Сялянства на $^2/_5$ зьяўляецца безьзямельным і на $^1/_5$ з драбнюткімі надзеламі зямлі.

Каменнага вугалю няма, але досыць белага, якім шырока карыстаюцца. Так дзякуючы выкарыстаньню вадаспаду Тампэрэ вырас галоўны прамысловы цэнтр краіны—Тамэрфорс (баваўняныя і шэрсьцяныя *фабрыкі, папяровыя, гуты і фаянсавыя, запалкавыя*, бровары, пільні і інш.). Асабліва моцна разьвіўся ў Фінляндыі выраб пісчай паперы і цэлюлёзы, а таксама суконная вытворчасьць.

Гандлёвы флёт Фінляндыі значны, але гандлёвыя парты краіны належаць да ліку другарадных.

Сярод тавараў, якія ўвозяцца ў Фінляндыю, на першым месцы стаіць хлеб ($^1/_4$ прывозу); у вывазе 70 проц. прыпадае на лес, вырабы з лесу і пісальную паперу і 20 проц. на масла.

Як і ў Даніі, вялікую ролю ў разьвіцьці народнае гаспадаркі Фінляндыі адыграла коопэрацыя (спажывецкія таварыствы, малочныя саюзы, крэдытныя і закупачныя таварыствы па абсталяваньні сельскагаспадарчым інвэнтаром). Як і ў Даніі, пад коопэрацыйным сьцягам працуе і нажываецца буйны капітал.

Буйнейшы горад Фінляндыі—яе сталіца Гельсынгфорс (200 тыс. жыхароў).

Фінляндыя на $^3/_4$ заселена фінамі. Побач з фінскай вельмі распаўсюджана і швэдзкая мова.

### *Таварапамен з СССР.*

Швэцыя, Фінляндыя і Данія, часткова і Норвэгія як паўночныя сельска-гаспадарчыя краіны вытвараюць шмат тых самых продуктаў, што і СССР у яго паўночнай паласе і зьяўляюцца нашымі канкурэнтамі ў забесьпячэньні гэтымі продуктамі сусьветнага рынку. Швэцыя, Фінляндыя і Норвэгія канкуруюць з Саюзам па вывазе лесу, Фінляндыя і асабліва Данія—па вывазе масла. У той самы час усе гэтыя краіны зацікаўлены ў прывозе да сябе нашага збожжа. Саюз атрымлівае з Норвэгіі рыбу, з Швэцыі і асабліва ад больш блізкай да яго Фінляндыі—паперу; з Швэцыі—таксама прадметы абсталяваньня фабрык, электрастанцый, транспорту.

## ПРЫБАЛТЫЦКІЯ КРАІНЫ.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Эстонія . . . . | плошча 48 тыс. км.$^2$ | насельніцтва | 1,1 | мільёнаў. |
| Латвія . . . . | „ 66 „ „ | „ | 1,8 | „ |
| Літва . . . . | „ 56 „ „ | „ | 2,2 | „ |

### *Склад.*

З прыбальтыцкіх і літоўскіх губэрань ранейшай Расійскай імпэрыі (Эстляндзкая, Курляндзкая, Ліфляндзкая і Ковенская) Лігай Нацый былі выкраены тры „самастойных“ прыбальтыцкіх рэспублікі—Эстонія, Латвія і Літва. Гэтым Ліга Нацый імкнулася дамагчыся адразу трох мэт: 1) адрэзаць СССР ад Балтыцкага мора, 2) стварыць буфэр супроць „бальшавіцкай заразы“ і 3) стварыць слушную ёй сілу для цкаваньня СССР і ў той самы час забясьпечыць сабе плацдарм для нападу ў выпадку вайны. У экономічных і ў політычных адносінах рэспублікі гэтыя вельмі несамастойныя. Кожная з гэтых рэспублік заселена аднэй пераважаючай народнасьцю: Эстонія—эстамі, народам фінскага племені, Літва—літоўцамі, Латвія—латышамі.

### *Тып гаспадаркі.*

Усе тры прыбальтыцкіх дзяржавы жывуць галоўным чынам сельскай гаспадаркай. Зямляробства, жывёлагадоўля і лесагадоўля носяць даволі інтэнсыўны характар больш усяго у Эстоніі, менш усяго—у Літве. У Эстоніі і Латвіі прыкметна разьвіліся таксама прамысловасьць і гандаль.

Інтэнсыўны характар сельскай гаспадаркі выяўляецца ў плодазьмене і шматпольлі, а гэта зьвязана з ўзмоцненым угнаеньнем палёў. Эстонія і Латвія ня маюць урадлівай глебы, але ўраджайнасьць збожжа ў іх вышэйшая, чым у стэпох Украіны. Лясная гаспадарка Эстоніі вядзецца ўзорна. Вельмі добра пастаўлена малочная гаспадарка. Губэрні, якія ўвайшлі ў склад прыбальтыцкіх дзяржаў, былі вобласьцю буйнае памешчыцкае гаспадаркі. Пасьля аграрнае рэволюцыі ў суседнім Саюзе захоўваць гэтую гаспадарку ў поўнай недатыкальнасьці было-б небясьпечна, і ў 1919 г. у Эстоніі і Латвіі, а ў 1920 г. у Літве былі праведзены аграрныя законы, якія насілі аднак палавінчаты характар, як і ўсякая рэформа, якую праводзяць з-за баязьні перад рэволюцыяй.

Да сусьветнай вайны прамысловасьць, асабліва ў Латвіі, была даволі значнай. Таксама быў разьвіты і гандаль. Гавані партовых гарадоў, злучаныя з буйнымі расійскімі гарадамі і хлебароднай палосаю былі паўны суднамі, якія прыходзілі і выходзілі. Але прамысловасьць і гандаль жылі галоўным чынам сувязьзю з Расіяй. Цяпер усё замерла.

Асабліва пала прамысловасьць Латвіі (фабрыкі баваўняных і шарсьцяных матэрый машына — і вагонабудаўнічыя заводы, папяровыя і гумовыя фабрыкі, хэмічныя заводы). Фабрычная сыравіна, замест пера-

працоўкі на сваіх фабрыках, пачала вывозіцца за мяжу. Колькі-небудзь значна працавала ўвесь час толькі дрэваапрацоўчая і ільняная прамысловасьць.

Лепш захавалася буйная прамысловасьць Эстоніі (суконныя фабрыкі Штыгліца, Крэнгольмская мануфактура, цэлюлёзныя і папяровыя заводы і інш.). Значная частка эстонскіх заводаў трапіла ў рукі чужаземцаў.

Фабрычныя гарады былых літоўскіх губэрань адайшлі да Польшчы, і Літва ня мае буйнае фабрычнае прамысловасьці. Гэта сялянская краіна. Гарадзкога насельніцтва ў ёй усяго 14 проц.

### *Парты і гандаль.*

Латвія мае 3 добра абсталяваных парты—Рыгу (сталіца Латвіі; 340 тыс. насельніцтва), Віндаву (цяпер Вентсьпілс) і Лібаву (Лепая). У Эстоніі лепшы порт—яе сталіца—Рэвель (цяпер Талін) 130 тыс. насельніцтва. Літве прадастаўлена нязначная гавань—Мэмэль. Сталіца Літвы—Коўна (92 тыс. насельніцтва). Літоўцы лічаць Коўну часовай сталіцай да звароту ім захопленай палякамі Вільні.

Гандлёвыя звароты ўсіх трох краін нязначныя. Галоўныя прадметы вывазу—сыравіна і поўфабрыкаты (лес, лён) і харчовыя продукты (масла, авёс, жывёльныя продукты з Латвіі; хлеб з Літвы; бульба, рыба і малочныя продукты з Эстоніі). З Эстоніі вывозяцца і фабрыкаты: сьпірытус, папера, цэмэнт.

Галоўныя прадметы прывозу: фабрычныя вырабы; з сыравіны—вугаль, бавоўна, нафта; з харчовых—хлеб.

## ПОЛЬШЧА.

(Плошча—338 тыс. км.$^2$, насельніцтва 29 млн.).

Як самастойная дзяржава Польшча ўзьнікла ў часы сусьветнай вайны. Яе незалежнасьць была абвешчана пасьля акупацыі яе Германіяй і Аўстрыяй у 1915 г. і потым пацьверджана Вэрсальскай згодай 1918 г. Польшча атрымала землі, якія знаходзіліся з канца XVIII ст. у руках Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Апроч таго, яна захапіла былыя Віленскую і Горадзенскую губэрні з пераважна літоўскім насельніцтвам. Усходняя Галіцыя заселена пераважна украінцамі.

Ва ўсёй Польшчы ў цэлым нацыянальны склад насельніцтва наступны: палякаў—69 проц., украінцаў—14 проц., беларусоў—4 проц., немцаў—4 проц., яўрэяў 8 проц., астатніх—1 проц. Украінцаў асабліва многа ва ўсходняй і паўднёвай частках Польшчы (ва ўсходняй украінцаў 28 проц., у паўднёвай—36 проц.).

Польшча ўяўляе сабою раўнінную краіну. Па паўднёва-заходняй мяжы праходзяць Карпацкія горы. Недалёка ад іх знаходзяцца саляныя капальні (на захадзе) і крыніцы нафты (на ўсходзе). У Верхняй Сілезіі, якая часткова перайшла да яе ад Германіі, Польшча падыхо-

дзіць да Судэцкіх гор. Тут яна мае багатыя каменнавугальныя капальні.

У мінулым росквіт Польшчы прыпадае на XV—XVI ст., калі яе ўладаньні працягваліся ад Балтыцкага да Чорнага мора. XVIII ст. было часам падзелаў Польшчы (паміж Расіяй, Аўстрыяй, Прусіяй) і канчатковага яе заняпаду. Народ зьбяднеў з прычыны прыгоннага права, але і пасьля падзеньня яго, аж да самага апошняга часу, працягваецца надзвычайная эксплёатацыя сялян буйнымі памешчыкамі. Многія (ня толькі ў вёсках, але і ў гарадох) ня вытрымлівалі цяжкасьці жыцьця і эміґравалі ў Амэрыку. З гарадоў эміґравала галоўным чынам яўрэйская бедната, з сёл—палякі і літоўцы. Штогод выяжджала ў Амэрыку да вайны па 290 тыс. з лішкам. Цяпер Злучаныя Штаты значна скарацілі колькасьць палякаў, якая дапушчаецца да перасяленьня (да 6 тыс. у год), і галоўны паток польскай эміґрацыі накіраваўся ў Францыю, якая адчувае патрэбу ў рабочых для сваёй прамысловасьці, а асабліва для сельскае гаспадаркі...

У Польшчы пераважае буйное зямляўладаньне. У 1919 г. была праведзена палавінчатая аграрная рэформа. На долю дробнага зямляўладаньня прыпадае зараз палова зямляў Польшчы. Але падзеленая на кавалкі зямля хутка скуплялася спэкулянтамі, а ў пагранічнай палосе з СССР засялялася адданым ураду афіцэрствам, так званымі „асаднікамі“. Зямельнае пытаньне ў Польшчы застаецца ня вырашаным.

Чвэртка плошчы знаходзіцца пад лясамі. Астатняя зямля падзяляецца на палову паміж пашамі і лугамі.

На палёх пераважаюць жыта, авёс, бульба.

Тып народнае гаспадаркі Польшчы зьяўляецца зьмешаным: яна ня толькі сельска-гаспадарчая, але і прамысловая краіна.

Польшча ўладае значнымі мінэральнымі багацьцямі—у Дамброўскім і Кракаўскім басэйнах, а асабліва Верхняй Сылезіі. Галоўнае багацьце Польшчы—каменны вугаль, паводле якога яна займае цяпер трэцяе месца ў Заходняй Эўропе. У Галіцыі здабываецца нафта (Барыслаўль, Дарагабыш). У апалавай прамысловасьці арудуе галоўным чынам замежны капітал (францускі і швэйцарскі). З руд дабываецца даволі шмат цынка (Дамброўскі басэйн). Заходняя Галіцыя багата каменнай сольлю. Паклады жалезнае руды недастатковы. Раней Польшча атрымлівала руду для сваёй прамысловасьці з Крывога Рогу; цяпер яна павінна купляць руду ў Германіі.

Фабрычная прамысловасьць разьвілася асабліва ў былой расійскай Польшчы. Тут асабліва выдзялілася Лодзь з тэкстыльнай прамысловасьцю. Потым ідзе апрацоўка харчовых продуктаў (цукровыя і браварныя заводы) і мэталюргічная прамысловасьць. Вайна паклала вельмі цяжкі адбітак на польскай прамысловасьці, апошняя толькі з вялікім спазьненьнем пачала выходзіць з разбурэньня, створанага вайной.

Раней заходняя і паўднёва-заходняя Расія была наводнена лодзінскай мануфактурай. Шмат збывалася ў Расію і вырабаў мэталюргічных і машынабудаўнічых, цэмэнтных і іншых заводаў. Цяпер расій-

скага рынку для польскіх тавараў няма. Прыбальтыцкія дзяржавы па малалюднасьці і беднасьці сваёй такім рынкам быць ня могуць, Заходняя Эўропа ня мае патрэбы ў польскіх вырабах.

У таварапамене з Польшчай на першым месцы па прывозе і вывозе зьяўляецца Германія; па прывозе за Германіяй ідуць: Злучаныя Штаты (бавоўна, зерня), Вялікабрытанія і Аўстралія па вывазе—тыя самыя дзяржавы, але бяз Злучаных Штатаў. Найбольшыя сумы прывозу прыпадаюць на бавоўну, шэрсьць, машыны, хэмічныя вырабы і хлеб; па кошту вывозу выдзяляюцца асабліва лес і вугаль; потым ідуць: цынк, нафта, тканіны (папяровыя і шэрсьцяныя), жыта, цукер, яйкі, мяса і сьвіньні.

Буйнейшы горад Польшчы—яе сталіца—**Варшава** мае звыш 1 млн. насельніцтва; больш 200 тыс. мае **Лодзь** (600 тыс.), **Львоў**, **Познань** і **Вільня** маюць каля 200 тыс.; Кракаў і яшчэ 3 гарады—менш 200, але больш 100 тыс.

Польшча знаходзіцца на ўтрыманьні Антанты, якая разглядае Польшчу як аванпост у барацьбе з СССР. Польшча атрымала буйныя пазыкі і ад Антанты і ад Амэрыкі на аднаўленьне сваёй гаспадаркі, але пасьля кароткага ўздыму ўвайшла ў паласу жорсткага экономічнага крызісу з-за недахопу як унутранага, так і замежнага збыту. Фабрыка адна за аднэй закрываюцца, беспрацоўных—сотні тысяч. Выйсьцем з цяжкога становішча ў кіруючых колах лічыцца вайна. Польшча рыхтуецца да яе ў саюзе з Румыніяй, пад кіраўніцтвам француськага генэральнага штабу.

Атрымаўшы ў 1928 г. буйную амэрыканскую пазыку, польскі ўрад улажыў яе галоўным чынам у прадпрыемствы, якія працуюць на вайну. За апошні час пабудавана каля 15 новых ваенных заводаў, у тым ліку хэмічная фабрыка ў Тарнове. Выдаткі на армію ў Польшчы паглынаюць звыш 2/5 усіх дзяржаўных выдаткаў. Але ўсе гэтыя ліхаманкавыя падрыхтаваньні да вайны падрываюцца хуткім палявеньнем рабочае клясы і сялянскіх мас. Усё часьцей адбываюцца рэволюцыйныя выступленьні пролетарыяту супроць фашыцкай дыктатуры Пілсудзкага. Асабліва моцны рэволюцыйны рух у Лодзі і ў Варшаве; ён ясна выяўляецца ў выглядзе забастовак і ў радзе іншых гарадоў (у Львове, Беластоку, Горадні, у прамысловых пунктах Верхняй Сылезіі). Рэволюцыйнае бражэньне сярод сялян выліваецца ва ўзброеныя сутычкі з паліцыяй і войскам. Асабліва шмат бывае такіх сутычак у частках Беларусі і Украіны, якія ўвайшлі ў склад Польшчы.

## РУМЫНІЯ.

Да сусьветнай вайны:
Плошча 138 тыс. км.$^2$, насельніцтва—8 млн.
Пасьля сусьветнай вайны:
Плошча—294 км.$^2$, насельніцтва $16^1/_4$ млн.
Далучаны: былая Аўстрыйская Букавіна, былыя венгэрскія землі—Трансыльванія, Марамурэш, Крышана, Банат.
Захоплена, бяз згоды СССР, Бэсарабія.

Даваенная Румынія і Бэсарабія па прыродзе сваёй нагадвае Паўднёвую Украіну. За выключэньнем каймы Карпацкіх гор уся астатняя краіна—р а ў н і н а з урадлівай чарназемнай глебай і матэрыковым кліматам (вельмі горача ўлетку, досыць холадна ўзімку), са стэповай расьліннасьцю. Зноў далучаныя землі гарыстыя, багатыя лесам.

Нацыянальны склад, паводле румынскіх даных, вельмі недакладны (перапавялічаны процант румын), у Румыніі гэтакі: румын—66 проц., вэнграў—11,5 проц., украінцаў—6 проц., баўгар і сэрбаў—5,5 проц., немцаў—5 проц., яўрэяў—3 проц., іншых—3 проц.

Старая Румынія была амаль выключна землеробчаю краінаю. У зноў далучаных землях значна разьвіта прамысловасьць, асабліва лясная і мэталёвая.

У мінулым Румынія была зямлёй буйнога зямляўладаньня (амаль 55 проц. апрацаванай зямлі належала памешчыкам. Жабрацтва даводзіла безьзямельных сялян да абурэньня, бязупынна выбухалі аграрныя паўстаньні. Для заспакаеньня сялян праведзена частковая зямельная рэформа, якая, аднак, зусім ня вырашыла аграрнага пытаньня.

Збожжа зьбіраецца з л і ш к а м, асабліва кукурузы і пшаніцы.

Галоўныя віды прамысловасьці—х а р ч о в а я (мукамольныя, цукровыя, броварныя, піваварныя і дражджавыя заводы) і л я с н а я разам з дрэваапрацоўчай (у тым ліку мэблёвая вытворчасьць). Каменнага вугалю мала. Амаль няма жалезнае руды. З гэтае прычыны не магла шырока разьвівацца мэталюргічная прамысловасьць (ёсьць адзін паравозабудаўнічы завод у Рэшыцы). Галоўнае мінэральнае багацьце краіны—н а ф т а.

З шляхоў зносін адным з важнейшых зьяўляецца Д у н а й. Румыніі належыць усё ніжэйшае цячэньне яго. Для замежных морскіх зносін ёсьць порт на Чорным моры—К а н с т а н ц а.

Замежны таварапамен невялікі. Палова вывазу прыпадае на збожжа, $^1/_5$—на л е с, $^1/_8$—на н а ф т у, амаль столькі-ж на вываз жывёлы. Галоўныя прадметы прывозу—бавоўна, шэрсьць і вырабы з іх, мэталы, мэталёвыя вырабы і машыны.

Румынская прамысловасьць і сродкі зносін у значнай ступені эксплёатуюцца замежным капіталам: нафтавая прамысловасьць—ангельскім, дрэваапрацоўчая—італьянскім, дунайскае суднаходзтва—ангельскім, партовыя пабудовы—францускім капіталам.

Сталіца Румыніі—Б у к а р э ш т (Букурэшты); каля 900 тыс. насельніцтва; звыш 100 тыс.—6 гарадоў, у тым ліку галоўны горад Бэсарабіі—К і ш а н ё ў.

Эканомічная залежнасьць Румыніі ад замежнага капіталу, галоўным чынам ангельскага і францускага, зрабіла яе такім самым а г е н т а м А н т а н т ы ва ўсіх пошуках апошняй супроць СССР, якім зрабілася і Польшча, аб'яднаная з ёю саюзам.

Як і ў Польшчы, у разьвіцьці ваеннае прамысловасьці Румыніі вялікую ролю адыгрывае замежны капітал, асабліва францускі і ангельскі. Ваенныя заводы забясьпечваюцца кваліфікаванымі францу-

скімі рабочымі. На ангельскіх і італьянскіх верфях для Румыніі будуюцца мінаноскі і падводныя лодкі. Недалёка ад Адэсы, у вусьці Дуная, пабудована новая ваенная база. Для магчымасьці простай перадачы войска з Польшчы ў Румынію, а адтуль—да савецкай мяжы, пабудаваны новы мост праз Днестр па лініі Львоў—Чарнавіцы—Галац. Ідзе ўзмоцненае дарожнае будаўніцтва на вучастках стратэгічнага значэньня. Прыладжваецца да вайны цяжкая індустрыя і г. д.

І Польшча і Румынія перажываюць цяжкі экономічны крызіс. Беспрацоўных палова рабочага насельніцтва. З-за надзвычайнага падзеньня цэн на збожжа на сусьветным рынку сялянскае насельніцтва, асабліва беднота, да якой належыць пераважная большасьць, зусім зруйнавана.

## БЛІЖЭЙ УСХОДНІЯ СУСЕДЗІ СССР: ТУРЦЫЯ, ПЭРСІЯ, АЎГАНІСТАН.

| Турцыя: | | |
|---|---|---|
| Да сусьветнай вайны | 3.000 тыс. км², насельніцтва | 24 млн. |
| Пасьля вайны | 1.250 „ „ „ | 13 „ |
| Пэрсія | 1.645 „ „ „ | 9,5 „ |
| Аўганістан | 634 „ „ „ | 6,4 „ |

Усе тры дзяржавы—краіны прымітыўнага земляробства, садоўніцтва ў горных далінах і на абвадняемых землях, вандроўнае жывёлагадоўлі на вялікіх сухіх prасторах. Мінэральныя багацьці значныя, але мала распрацоўваюцца. Прамысловасьць носіць саматужны характар.

Азіяцкая Турцыя, Пэрсія і Аўганістан ляжаць у падзваротнікавым поясе, але большая частка гэтых краін занята высокімі ўзвышшамі, якія перасякаюцца і абкружаны высокімі хрыбтамі. На ўзвышшах клімат мернага поясу, вельмі сухі. Тут насельніцтва займаецца вандроўнай жывёлагадоўляй. Але на горных схілах і ў далінах тэмпэратура значна вышэй, і пры ўмовах абвадненьня тут можа разьвівацца багатая расьліннасьць. На горных схілах растуць фруктовыя дрэвы і вінаград, у далінах, апроч таго—бавоўна і рыс.

З прылад для апрацоўкі пераважаюць матыка і саха. Зямля, напалову і больш знаходзіцца ў руках буйных памешчыкаў. Сяляне ў Пэрсыі і асабліва ў Аўганістане бяспраўны і падаўлены шматлікімі падаткамі ў карысьць дзяржавы і памешчыкаў-фэўдалаў. Селянін плаціць і падушны падатак і падатак за права апрацоўкі зямлі, за карыстаньне паліўнымі водамі, за збор зярнёвых расьлін і гародніны, за кожную галаву жывёлы і г. д. і г. д. Апроч таго, ён адбывае паншчыну і падносіць памешчыку розныя падарункі. Сяляне пры такіх умовах закідваюць палі. Вельмі шмат пустуючай зямлі.

## ТУРЦЫЯ.

Яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя Турцыя займала вялізарныя prасторы ў Эўропе, Азіі і Афрыцы. Цяпер амаль уся Турцыя зьмяшчаецца ў Малой Азіі. У Афрыцы няма турэцкіх земляў. У Эўропе

застаўся невялікі кавалак з гарадамі Канстантынопаль (турэцкая назва—Стамбул) і Адрыянопаль.

Пакуль галоўнымі багацьцямі Турцыі зьяўляюцца продукты яе палёў і жывёлагадоўлі. Галоўнае збожжа—пшаніца. Пад ёй занята 70 проц. палёў. Каля 15 проц. занята бавоўнай. З горных багацьцяў важнейшымі зьяўляюцца каменны вугаль і нафта Мосульскага раёну.

Фабрычнай прамысловасьці амаль няма (ёсьць толькі некалькі дробных мануфактурных, харчовых, скураных прадпрыемстваў). Саматужную прамысловасьць падарвалі танныя замежныя вырабы, якія прывозяцца ў краіну. Галоўныя віды саматужнае прамысловасьці—кавальская, цясьлярная, ткацкая і дывановая прамысловасьць.

Усе патугі, якія за апошнія гады рабіла кіруючая Турцыяй нацыянальна-буржуазная партыя, на чале з Кемаль-пашой для таго, каб індустрыялізаваць краіну і тым вызваліцца ад замежнага капіталу, ня мелі посьпеху, бо перамагчы фінансавую залежнасьць, якая стварылася па даўгох старой даваеннай Турцыі, застаючыся ў рамках буржуазнае політыкі, выявілася немагчымым. Сапернічаючымі ў эксплёатацыі Турцыі краінамі зьяўляюцца Францыя, Англія і часткова Германія і Італія.

Праз Турцыю праходзіць чыгунка сусьветнага значэньня, якая вядзе з Бэрліну ў Малую Азію. Па эўрапэйскай частцы Турцыі праз Адрыянопаль—Канстантынопаль ідзе канчатковая частка Усходняй дарогі—Будапэшт—Канстантынопаль. У Азіі працягам яе служыць дарога ад прадмесьця Скутары да гораду Коніі (Анаталійская дарога), якая далей пераходзіць у Багдадзкую дарогу (да Пэрсыцкае затокі). Апошняя дарога ідзе праз Мэсапатамію, захопленую ангельцамі. Наогул у Турцыі чыгунак мала; для перавозкі грузаў шырока выкарыстоўваюцца вярблюды і мулы.

Ранейшая сталіца Турцыі—Канстантынопаль (800 тыс. насельніцтва)—горад, які мае па сваім палажэньні ля пратокі сусьветнае значэньне. Яго гавань мае буйны грузазварот, але большая частка суднаў проста праходзіць праз Канстантынопаль (ня грузіцца і ня выгружаецца ў ім). Уласны гандлёвы флёт нязначны. Замежны гандаль нязначны. Галоўны вывазны порт—Сьмірна. Галоўныя прадметы вывазу: паўднёвыя фрукты (разынкі, апэльсыны, лімоны, вінныя ягады, фінікі), арэхі, гароднiна, віно опіум, тутун, дываны, шэрсьць, бавоўна, губкі, асфальт. Тыя самыя рэчы вывозяцца і ў СССР. Галоўныя рэчы прывозу з СССР: пшаніца, цукар, нафта і газа, дываны.

Сучасная сталіца—Анкара, невялікі горад у глыбіне Малой Азіі, які здаўна служыў цэнтрам дробнабуржуазнага нацыянальнага руху і ў процілегласьць Канстантынопалю вольны ў моц самога свайго палажэньня ад замежнага ўплыву. Сталіца была перанесена сюды ў 1920 г., калі Турцыя пасьля Сэврскага дагавору рабіла „адчаяныя“—і скончыўшыяся посьпехам—патугі да захаваньня свайго дзяржаўнага быцьця.

## Пэрсія.

Пэрсія ўладае вялікімі мінэральнымі багацьцямі, у тым ліку перш за ўсё **нафтай**. Нафта ёсьць і на поўначы і на поўдні Пэрсіі: покуль распрацоўваецца толькі паўднёва-пэрсыцкі раён у прадгор'ях Бахтыарскага горнага ланцугу (раён завецца Майдан-Нафтун). Нафтаносныя землі Пэрсіі захоплены замежным капіталам (галоўным чынам ангельскім і часткова амэрыканскім). Распрацоўка вядзецца вельмі энэргічна, пабудаваны нафтаправод працягам 220 км. ад месца распрацоўкі да нафтаперагоннага заводу (на востраве Абадан ля вусьця Шат-Эль-Араба). Яшчэ ў 1910 г. у Пэрсіі не здабывалася нафта, а цяпер Пэрсія стала на **пятае месца** сярод нафтаздабываючых дзяржаў (Злучаныя Штаты, СССР, Венэцуэлла, Мэксыка, Пэрсія).

На апрацоўчай прамысловасьці вельмі цяжка адбіваецца канкурэнцыя прывозных эўрапэйскіх тавараў. Фабрык і заводаў, якія-б працавалі з ужываньнем паравой ці электрычнай сілы, амаль няма. Раней у Тэгеране, Таврызе ды Ісфагані існавалі заводы зброі, цукровыя заводы, гуты, запалкавыя фабрыкі. Цяпер яны бязьдзейнічаюць. Засталася невялікая колькасьць бавоўнаачышчальных заводаў, ткацкіх і шаўковых фабрык, вярней, буйных майстэрань з 50—150 рабочымі. У вялікім заняпадзе і саматужная вытворчасьць, якою славіліся некаторыя пэрсыцкія гарады (вытворчасьць сталёвых вырабаў, ювэлірная справа, шаўковая, шарсьцяная, папяровая і дывановая, фаянсавая і шкляная вытворчасьці).

Шляхі зносін яшчэ нядаўна амаль адсутнічалі. Паміж шмат якімі буйнымі гандлёвымі цэнтрамі яшчэ і зараз ня існуе нават калеснага шляху (перавозка тавараў ідзе на паковачных жывёлах—вярблюдах, конях і мулах).

Але ў сучасны момант адбываецца хуткая заваёва Пэрсіі аўтомобілем, які вытварае тут такі самы пераварот, які ў іншых краінах вытварыла чыгунка. Для патрэб аўтомобільнага руху ў Тэгеране, Таврызе, Рэшце і іншых гарадох зьнішчаны цэлыя кварталы з іх вузкімі завулкамі, мячэцямі, могілкамі. Замест іх зьявіліся шырокія бульвары з пабудовамі эўрапэйскага тыпу. Узмоцнена будуюцца шашы. У той самы час ідзе чыгуначнае будаўніцтва. Намечана транспэрсыцкая дарога—ад Касьпійскага мора да Пэрсыцкае затокі праз Тэгеран. На поўдні скончаны вучастак да Дыфуле.

Ператварэньне транспорту адбываецца пры дапамозе пазык у Англіі. Англія прыбірае да сваіх рук Пэрсію, з аднаго боку, каб выкачаць з яе нафту, з другога,—каб стварыць тут плацдарм для барацьбы з СССР у Азіі.

Замежны гандаль Пэрсіі нязначны. Галоўны прадмет вывазу—шэрсьць і дываны, скуры, каракуль і іншая пушніна, сухія фрукты, опіум, бавоўна, рыс, нафта. Прывозяцца пераважна папяровыя тканіны, а з абсталяваньня—аўтомобілі. У СССР з Пэрсіі вывозяцца галоўным чынам бавоўна, шэрсьць, пушніна, рыс, сушаныя фрукты,

апэльсыны і лімоны, арэхі. У прывозе на першым месцы стаіць цукар і тканіны, потым ідуць нафтапродукты (газа), збожжа і мука, мэталёвыя вырабы, шкло, фарфар, галёшы.

Сталіца Пэрсіі—Тэгеран (350 тыс. насельніцтва).

## Аўганістан.

Аўганістан—высокагорная краіна, якая займае паўночна-ўсходнюю частку Іранскага плоскаўзвышша. На поўначы Аўганістан мяжуецца з СССР (Кушка, амаль 35° паўн. шыр. на мяжы Аўганістану—самы паўднёвы пункт СССР). На захадзе Аўганістан мяжуецца з Пэрсыяй, на поўдні—з Белуджыстанам. На ўсходзе Аўганістан падыходзіць да Індыі, уладаючы важным праходам у яе (Хайбэрскі—па даліне р. Кабула). У моц сваёй малапрыступнасьці (аддалёнасьць ад мора, адрэзанасьць горамі і пустынямі, адсутнасьць суднаходных рэк), Аўганістан мала зьвязаны з сусьветнай гаспадаркай. Гэтым абумоўліваецца і захаваньне ім палітычнае незалежнасьці і прымітыўнасьць яго экономікі. Яго міжнароднае палітычнае значэньне абумоўлена яго палажэньнем паміж СССР і ўладаньнямі Англіі ў Індыі.

Большая частка краіны скарыстоўваецца для жывёлагадоўлі, галоўным чынам, для гадоўлі авечак (курдзючныя авечкі). Шэрсьць, аўчыны і скуры — галоўныя прадметы вывазу. Галоўнае збожжа—пшаніца, у горах—жыта, ячмень. Шмат садоў з яблычнымі, абрыкосавымі, масьлічнымі, міндальнымі дрэвамі. Разводзяцца таксама і фарбуючыя расьліны (індыго, крап, шафран) і лекавыя (ассафетыда). Стэповыя хмызьнякі даюць пахучыя смолы і гуммі-арабік. Ёсьць жалеза, золата, каштоўныя каменьні, але ўсё гэта мала распрацоўваецца.

Прамысловасьць існуе ў выглядзе рамесьніцкае і саматужнае вытворчасьці. Перапрацоўваюцца пераважна шэрсьць і шоўк (войлак, вырабы з вярблюджае і казінае шэрсьці, хусткі, дываны, шаўковыя тканіны). У Кабуле пабудавана першая і адзіная пакуль у краіне фабрыка з машыннай перапрацоўкай шэрсьці.

Чыгунак у краіне няма, суднаходных рэк таксама. Галоўныя шляхі зносін—гэта караванныя шляхі з Герату на Кандагар, з Кандагару—у Кабул і з Кабулу—у Пешавар (у Індыі). Замежны гандаль вядзецца галоўным чынам з Індыяй, потым з СССР. З Індыі прывозяцца: чай, прыправы, цукар, маскацельныя тавары; прывозяцца ў яе: шоўк, шэрсьць, тутун, лекавыя і фарбуючыя расьліны, сьвінец, цынк, квасцы; у СССР—жывёлу, шэрсьць, скуры і арэхі; прывозяцца з СССР у Аўганістан тыя самыя тавары, што і ў Пэрсію.

Сталіца Аўганістана—Кабул (каля 100 тыс. жыхароў).

Таварапамен СССР з бліжэй ўсходнімі краінамі. Бліжэйшыя ўсходнія краіны, якія могуць быць нашымі саюзьнікамі ў барацьбе з імпэрыялістамі, карыстаюцца прывілеямі па за-

межным гандлі з СССР. У адносінах да замежнага гандлю з чужаземнымі дзяржавамі (у тым ліку з Японіяй і Кітаем) у СССР для прывозу і вывазу тавараў патрабуюцца асаблівыя дазволы (ліцэнзіі). Усходнія купцы з Пэрсіі, Турцыі і Аўганістану могуць вольна і бяз мыта прывозіць галоўнейшыя тавары сваіх краін. Цяпер заключаны гандлёвыя дагавары з Турцыяй, Пэрсіяй і Аўганістанам. Гэта ўзмоцніць таварапамен СССР з Блізкім Усходам. Пакуль з бліжэй усходніх суседзяў больш за ўсё гандлёвы зварот з СССР у Пэрсіі.

# Русский язык

**Отдел докомвузовской подготовки.**

*Курс ведет И. М. БОБЧЕНОК.*

## ЗАДАНИЕ № 5
## ПО РУССКОМУ ЯЗЫКУ
(*рассчитанное на 15 часов*).

ПОСОБИЕ:

*С. Бархударов* и *В. Птицын.*—„Русский язык".

В это задание входит весь материал пятого урока с контрольной работой № 5 (стр. 125—150).

Все три отдела урока предлагаются для проработки с выполнением в меру необходимости письменных упражнений (задач) в рабочих тетрадях, которые для проверки в Комвуз не присылаются.

Для проверки необходимо прислать контрольную работу № 5.

### УРОК ПЯТЫЙ.

1. Прочитать внимательно „Вступительные замечания" (стр. 125-126).
2. Сначала выполнить работы, относящиеся к 1-му отделу, затем ко 2-му и 3-му.
3. Только после этого приступить к выполнению контрольной работы.

Отдел I.

Синтаксис.

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 59. Бессоюзное связывание предложений и запятая на письме.<br>Задача № 163.<br>§ 60. Бессоюзное связывание предложений и тире на письме.<br>Задачи: 164, 165.<br>§ 61. Бессоюзное связывание предложений и пояснительное двоеточие на письме.<br>Задача № 166. | Материал, относящийся ко всем параграфам задания, проработав так, как это требуется пособием.<br>Если окажется, что изложенное в том или другом параграфе уже известно товарищу, проходящему заочное обучение, то рекомендуется задач такого параграфа письменно не выполнять, а проработать их устно. |

## Отдел II.
## Морфология.

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 62. Склонение существительных на ия, ий, ие.<br>Задачи: 167, 168, 169 и 170. | |
| § 63. Склонение существительных на мя.<br>Задачи: 171, 172. | |
| § 64. Суффиксы имен существительных.<br>Задачи: 173, 174, 175, 176, 177, 178 и 179. | |
| § 65. Имена прилагательные.<br>Задачи: 180, 181 и 182. | |
| § 66. Женский род имен прилагательных.<br>Задачи: 183 и 184. | |
| § 67. Множественное число имен прилагательных.<br>Задачи: 185, 186, 187, 188, 189. | |
| § 68. Краткие формы имен прилагательных.<br>Склонение отчеств и фамилий.<br>Задачи: 190 и 191. | |
| § 69. Прилагательные на ий, ья, ье.<br>Задачи: 192 и 193. | |
| § 70. Сравнительная форма.<br>Задачи: 194 и 195. | |
| § 71. Суффиксы прилагательных.<br>Задачи: 196, 197 и 198. | |

## Отдел III.
## Работа над книгой.

| | |
|---|---|
| § 72. Извлечение из текста материала на данный вопрос.<br>Выписки и цитаты.<br>Задача № 199. | Выполнить задачи, относящиеся к этому отделу. |
| § 73. Ответы на вопросы своими словами по данному тексту.<br>Задачи: 200, 201. | |

**Повторительные вопросы.**

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| 1. О бессоюзном связывании предложений.<br>2. Об именах существительных.<br>3. Об именах прилагательных.<br>4. О цитировании и ответах на вопросы. | Продумать и устно сформулировать ответы на все вопросы. |
| **Контрольная работа № 5.** | |
| Задачи: 1, 2, 3, 4, 5, 6. | Выполнить контрольную работу и прислать ее в Комвуз для проверки. |

*Курс ведет И. М. Бобченок.*

# ЗАДАНИЕ № 6
## ПО РУССКОМУ ЯЗЫКУ

(*рассчитанное на 15 часов*).

ПОСОБИЕ:

*С. Бархударов и В. Птицын*—„Русский язык".

В это задание входит весь материал шестого урока с контрольной работой № 6 (стр. 151—176).

Все три отдела этого урока предлагаются для проработки с выполнением в меру необходимости письменных упражнений (задач) в рабочих тетрадях, которые для проверки в Комвуз не присылаются.

Для проверки необходимо прислать контрольную работу № 6.

## УРОК ШЕСТОЙ.

1. Прочитать внимательно „Вступительные замечания" (стр. 151-152).

2. Сначала выполнить работы, относящиеся к 1-му отделу, затем ко 2-му и 3-му.

3. Только после этого приступить к выполнению контрольной работы.

### Отдел I.
### Синтаксис

| Темы и материалы к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 74. Формальное построение предложений.<br>Задача № 202.<br>§ 75. Прямая речь.<br>Задачи: 203 и 204. | Материал, относящийся ко *всем параграфам задания*, проработать так, как это требуется пособием. |

## Отдел II.
## Морфология.

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 76. Причастия.<br>Задачи: 205, 206, 207, 208, 209.<br>§ 77. Местоименные слова. Местоимения личные и возвратные.<br>Задача № 210.<br>§ 78. Местоимения вопросительные и отрицательные.<br>Задачи: 211, 212, 213.<br>§ 79. Счетные слова (имя числительное).<br>Задачи: 214, 215, 216. | Если окажется, что изложенное в том или другом параграфе уже известно товарищу, проходящему заочное обучение, то рекомендуется задач такого параграфа письменно не выполнять, а проработать их устно. |
| **Отдел III.**<br>**Работа над книгой.** | |
| § 80. Логический анализ текста.<br>Задача № 217.<br>§ 81. Составление конспекта.<br>Задачи: 218, 219, 220. | Выполнить одну из этих задач по своему выбору. |
| **Повторительные вопросы.** | |
| 1. О формальном построении предложения.<br>2. О прямой речи.<br>3. О причастии.<br>4. О местоименных словах.<br>5. О счетных словах (числительных).<br>6. О логическом анализе текста.<br>7. О составлении конспекта. | Продумать и устно сформулировать ответы на все вопросы. |
| **Контрольная работа № 6.** | |
| Задачи: 1, 2, 3, 4 и 5. | Выполнить контрольную работу и прислать ее в Комвуз для проверки. |

Адказны рэдактар—С. Рычкоў.
Намесьнік адказнага рэдактара—А. Л. Макоўскі.

## ЗЬМЕСТ

